# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 (92) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2020 г.

## *Дворышчу - 500 гадоў*



**Пісьменніца графіня Сафія Шуазёль-Гуф'е, з дому - Тызенгаўз (1790-1878)**

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 92) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2020 г.


## У НУМАРЫ:





























На першай старонцы вокладкі:
Праваслаўная капліца ў Дворышчы.


Пасведчанне аб рэгістрацыі
№ 907
ад 18.12.2009 г. выдадзена
Міністэрствам інфармацыі
Рэспублікі Беларусь

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік
Лідскага гістарычна-мастацкага
музея, кандыдат геаграфічных
навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231293, Лідскі р-н, в. Даліна
АДРАС САЙТА:
http// nslowa.by

Наклад 200 асобнікаў
9 друк. аркушаў
Газета надрукавана ў Лідскай
друкарні. 231300, г. Ліда,
вул. Ленінская, 23.
Замова № 2720.
Часопіс падпісаны да друку
30.12.2020 г.
Часопіс надрукаваны
30.05.2021 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес. - 3,11 руб.
індывід. 6 мес. - 6,22 руб.
Кошт у розніцу: вольны.

ISSN 2218 - 1792










Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# Як Ліда раскрыла статус “Культурнай сталіцы - 2020”

*Ліда годна пранесла статус “Культурнай сталіцы-2020”, спаўна раскрыла свой культурны і творчы патэнцыял, падарыла незабыўныя ўражанні гасцям і турыстам.*



Рэспубліканская акцыя "Культурная сталіца года" праводзіцца Міністэрствам культуры і зацікаўленымі асобамі з 2010 года. У кожным з гарадоў, якія мелі гэты статус, рэалізаваліся інавацыйныя праекты па прэзентацыі самабытнасці гэтых месцаў, па развіцці і папулярызацыі традыцый і дасягненняў нацыянальнай культуры, актывізацыі творчай ініцыятывы, падвышэнні турыстычнай прывабнасці рэгіёнаў. Культурнай сталіцай Беларусі ў 2021 годзе стане Барысаў.



**Афлайн і анлайн**

За год у рамках рэспубліканскай культурнай акцыі тут адбылося больш за 350 асноўных культурна-масавых мерапрыемстваў парадку 35 розных фармаў, у тым ліку новых.

Феерычна і ярка акцыя стартавала на сцэне Палаца культуры Ліды. Лідзяне і госці Культурнай сталіцы паглядзелі грандыёзны канцэрт, здзейснілі інтэрактыўную вандроўку па адной з яе найстарэйшых вуліц і пазнаёміліся з выставай культурных асаблівасцяў і дасягненняў Ліды, якая з’яднала мінулае і сучаснае, прысутнічалі пры гашэнні паштовай маркі ў гонар падзеі.

У сакавіку на гэтай жа сцэне прайшоў заключны этап нацыянальнага адбору ў рамках XXIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Гала-канцэрты ўжывую трансляваліся па беларускім тэлебачанні.



XV міжепархіяльны фэст-конкурс праваслаўных спеваў "Слава ў вышніх Богу", I адкрыты рэгіянальны конкурс выканаўцаў на класічнай гітары "Гітарны Алімп - 2020", Провады зімы ля сцен Лідскага замка, IV адкрыты рэгіянальны літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям", абласны дзіцячы плянэр-конкурс імя Фердынанда Рушчыца, а таксама дыстанцыйныя конкурсы: абласны адкрыты джазава-эстрадны фэст-конкурс "Птушка" і рэгіянальны фэст-конкурс дзіцячай вакальна-эстраднай творчасці "Зорны дождж" - усё гэта засталося ў сэрцах і памяці.




- На "Зорны дождж" сваю вакальную творчасць прадставілі больш за 80 удзельнікаў з розных куткоў Беларусі, - распавяла начальнік аддзела культуры Лідскага райвыканкама Наталля Леўшунова. - Фэст-конкурс "Птушка" праводзіцца ў Лідзе з 2013 года і не мае аналагаў на Гарадзеншчыне. За гады правядзення колькасць яго ўдзельнікаў павялічылася ўдвая.

**Адкрыццё вежы Гедыміна**

3 ліпеня ў адрэстаўраванай паўднёва-заходняй вежы Лідскага замка - вежы Гедыміна - адкрылася новая музейная экспазіцыя "Старонкі гісторыі. Ад XIV стагоддзя…".





- Экспазіцыя размяшчаецца на чатырох ярусах, кожны з якіх прысвечаны вызначанай тэматыцы і распавядае пра станаўленне Вялікага Княства Літоўскага, - паведаміла захавальнік фондаў музея Наталля Хоцяновіч. - Кожны ярус не толькі пазнавальны і цікавы для разумення гісторыі, але і прывабны як фотазона.

Першы ярус прысвечаны вялікаму князю Гедыміну, заснавальніку замка, другі апавядае пра само Вялікае Княства Літоўскам. На трэцім ярусе можна даведацца, як будавалася цытадэль, на чацвёртым - азнаёміцца з падрабязнасцямі жыцця вялікага князя і ўбачыць прадметы побыту той эпохі, сярод якіх выдзяляецца шахматная фігурка - ладдзя з косці, якой Лідскі



замак асабліва ганарыцца. Пяты і шосты ярусы задзейнічаны ў якасці выставачных плошчаў.

Таксама для лідзян, гасцей і турыстаў адкрыта паўночна-ўсходняя вежа, якая распавядае пра падзеі, што адбываліся ў Лідскім замку ў розныя эпохі.

Увосень замак стаў пляцоўкай для навукова-практычнай канферэнцыі "Гістарычна-культурная спадчына Лідчыны", прымеркаванай да 430-годдзя атрымання Лідай Магдэбургскага права. Звыш за 50 беларускіх навукоўцаў прадставілі і абмеркавалі шэраг навуковых дакладаў, прысвечаных гістарычнаму развіццю Лідскай зямлі.



**З лета да восені**

З чэрвеня да глыбокай восені па суботах і нядзелях Лідскі замак запрашаў лідзян і гасцей горада Ліды на брэндавы культурна-турыстычны праект "Замкавы гасцінец". Па традыцыі на тэрыторыі вакол замка праходзілі культурна-забаўляльныя і анімацыйныя мерапрыемствы, выступалі музыкі, праводзіліся вулічныя вернісажы. Працаваў "Горад майстроў", ахвотнікі змаглі набыць сувеніры, прыняць удзел у майстар-класах, наведаць музычныя праграмы і культурна-масавыя мерапрыемствы ў замку.



Адной з самых зыркіх падзей мінулага лета стаў фэст моладзевых субкультур "Моладзевая хваля".

- На мностве інтэрактыўных пляцовак кожны змог раскрыць свой патэнцыял, заявіць пра сябе і падзяліцца досведам, - успамінае дырэктар Палаца культуры Ліды Ірына Тур.



**Дзень горада - разам**

Інтэрактыўныя пляцоўкі, выставы, кірмашы, майстар-класы, акцыі - кожны ў Дзень горада знайшоў сабе забаўку па інтарэсах. У святочных мерапрыемствах прынялі ўдзел прафесійныя артысты: заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь ансамбль танцу, музыкі і песні "Белыя росы", Аляксандр Саладуха і іншыя.



У рамках свята горада прайшлі традыцыйныя лідскія фэсты: рыцарскі турнір "Меч Лідскага замка" і сямейны фэст "Тата-Fest". Уладзімір Ліхадзедаў прэзентаваў альбом "Ліда - падарожжа ў часе". А Лідская дзіцячая школа мастацтваў сабрала на VII адкрыты пленэр "Прыгажосць Божага свету" мастакоў-педагогаў з розных куткоў Гарадзеншчыны, якія за два дні творчасці змаглі стварыць узрушальныя працы. Вынік плянэру - творчая выстава ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.



**Культура праз інтэрнэт**

З-за эпідэміялагічнай сітуацыі шэраг запланаваных і праанансаваных масавых мерапрыемстваў перайшоў у новыя формы ўзаемадзеяння з аўдыторыяй: у сацыяльных сетках.

Палац культуры Ліды адным з першых у вобласці прапанаваў на сваім сайце, YouTube-канале і ў сацыяльных сетках відэарубрыку "Не ўстаючы з канапы", дзе рэгулярна размяшчаюцца відэазапісы спектакляў, канцэртных і гульнявых праграм, літаратурна-музычных гасцёўняў.

"Творчы АРТ-прамоўшэн", віртуальныя экскурсіі Лідскага гістарычна-мастацкага музея і многае іншае палюбілася лідзянам і знайшло сваю сталую аўдыторыю. Дарэчы, сёлета Лідскі гістарычна-мастацкі музей быў неверагодна запатрабаваны, яго аб'екты наведалі больш за 38 тысяч чалавек. Арганізавана 25 выставачных праектаў.

У Лідскім раённым цэнтры культуры і народнай творчасці стварылі велізарны спектр майстар-класаў па традыцыйных рамёствах, у тым ліку відэаўрокі, відэамайстар-класы па стварэнні выцінанкі, маляванкі, вырабаў з саломкі, лялек-абярэгаў, свістулек. Ткацтва - адна з фішак аддзела рамёстваў і традыцыйнай культуры. Элемент нематэрыяльнай культурнай спадчыны "Традыцыйнае белаўзорыстае ткацтва Панёмання" ўключаны ў Дзяржаўны спіс гістарычна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.



Гэты год быў юбілейным для некалькіх устаноў культуры Лідчыны. 65-годдзе адсвяткавала Лідская дзіцячая музычная школа мастацтваў, 80-годдзе - Лідская гарадская дзіцячая бібліятэка, 10-годдзе - Лідская дзіцячая школа мастацтваў.



***Гродзенская праўда.***

# IV адкрыты рэгіянальны літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай

У мінулую пятніцу ў канферэнц-зале Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы адбылася ўрачыстая цырымонія падвядзення вынікаў і ўзнагароджання пераможцаў **IV адкрытага рэгіянальнага літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям"**. Конкурс праводзіцца адзін раз на два гады Лідскай бібліятэкай пры падтрымцы газеты"Наша слова", пачынаючы з 2014 года.

Арганізатары конкурсу імя Веры Навіцкай імкнуцца вярнуць у беларускую літаратуру згаданае імя і заахвоціць лідскіх паэтаў і пісьменнікаў да напісання твораў для дзяцей.




Некалькі слоў пра дзіцячую пісьменніцу Веру Сяргееўну Навіцкую, чыё імя носіць конкурс. Вядома, што яна некалькі гадоў - з 1908 па 1915 год - жыла ў Лідзе, з'яўлялася начальніцай мясцовай прыватнай жаночай гімназіі. Аўтар кніг "Добра жыць на свеце", "Вясёлыя будні", "Ціхамірныя гады", "Першыя мроі" (тэтралогія аб жыцці Марусі Старабельскай), "Галя", "Наташа Славіна" (аповесці для юнацтва, у якіх дамінуе любоўная лінія), "Басурманка" (аб жыцці прыёмнай сіраты-француржанкі ў рускай сям'і). Апошнія пяць кніг напісаны ў Лідзе, і, магчыма, апісаныя ў іх падзеі звязаны з нашай лідскай зямлёй.

Сёлетні літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям" праходзіў у дзвюх намінацыях - "Паэзія" і "Проза". Удзел у ім прынялі 11 лідскіх літаратараў, сярод якіх як вопытныя аўтары, якія маюць свае зборнікі, так і тыя, хто займаецца літаратур-



най творчасцю з нядаўняга часу. Асабліва шмат было даслана на конкурс вершаў - каля 200. Празаічных твораў значна меней - 9 апавяданняў. Тэматыка дасланых твораў самая разнастайная.

Журы нялёгка было вызначыць трох пераможцаў конкурсу. У выніку дыпломам III ступені (у намінацыі "Паэзія") узнагароджана Людміла Русь, дыпломам II ступені (у гэтай жа намінацыі) - Міхась Мельнік, дыпломам I ступені (у намінацыі "Проза") - Таццяна Сямёнава, найстарэйшая з удзельнікаў конкурсу. Пераможцы таксама атрымалі грашовыя ўзнагароды. Усе астатнія ўдзельнікі конкурсу атрымалі заахвочвальныя прызы. Пералічым і іх імёны - гэта Уладзімір Васько, Станіслаў Суднік, Наталля Хейфец, Ларыса Кавалеўская, Людміла Краснадубская, Станіслава Белагаловая, Ганна Лазоўская, Канстанцін Якубчык.

Усе дасланыя на конкурс творы ўвайшлі ў падрыхтаваны бібліятэкай зборнік "Дарослыя - дзецям-2020".

Была захавана традыцыя прадстаўляць на гэтым мерапрыемстве рэдкую кнігу. У 2016 годзе гэта была 1-я кніга тэтралогіі Веры Навіцкай на беларускай мове "Добра жыць на свеце", у 2018 годзе - дзіцячая кніга Марыі Канапніцкай "Ад зімы да лета", сёлета гэта "Я сумавала па вучобе. Дзіцячыя і школьныя гады Альжбеты Табенскай з-пад Васілішак. Успаміны". Тут






змешчаны першыя два раздзелы кнігі "З долі і няволі. Успаміны выгнанкі", выдадзенай у Кракаве ў 1897 годзе.

Прадстаўляючы кніжачку рэдактар "Нашага слова" Станіслаў Суднік звярнуў увагу прысутных на адну фразу: *"... Шануйце час, як рэч найдаражэйшую, бо за кожную хвілю маем здаць справаздачу перад Богам, і з кожнай хвіляй жыццё наша праходзіць, а чалавек ёсць панам толькі гэтай хвілі. Хвіля, якая прыйдзе, - няпэўная, а якая прайшла - не вернецца".* Што зроблена сёння, тое і зроблена. Дарэчы, на 32 старонках кніжачкі шмат цікавай інфармацыі. Да прыкладу, згадана кніга Камілы Нарбут "Мечыслаў і Стэфанія". Кнігі гэтай няма ў Інтэрнэце, нават згадкі пра яе няма. А гэта твор беларускай польскамоўнай літаратуры часоў Міцкевіча. Сама Альжбета Табенская - удзельніца паўстання 1863 года, старэйшая сястра знакамітай Антаніны Табенскай.

На заканчэнне імпрэзы быў абвешчаны чарговы пяты конкурс, на які запрашаюцца ўсе ахвотныя.. Конкурс жа міжрэгіянальны.

***Наш кар.***

# КРОНІКА ЛІДЫ

У пачатку кастрычніка ў Лідзе ўпершыню ў краіне зрабілі аперацыю па пратазаванні нагі ў сабакі. Унікальны эксперымент правялі ветэрынарныя лекары з Ліды Павел Жульпа і з Гародні Андрэй Елісееў. Аперацыя цягнулася больш за тры гадзіны і прайшла паспяхова.





20 кастрычніка былога дырэктара "Лакафарбы" Андрэя Сайко прызначылі генеральным дырэктарам ААТ "Нафтан".

28 кастрычніка Андрэй Гурчын зацверджданы на пасадзе дырэктара ААТ "Лакафарба".





На пасаду дырэктара філіяла "Лідскія электрычныя сеткі" РУП "Гроднаэнерга" прызначаны Андрэй Конан.
Конан Андрэй нарадзіўся ў 1972 годзе ў г.п. Радунь Воранаўскага раёна Гарадзенскай вобласці.



У 2020 годзе канчаткова высахла возера каля вёскі Воўкаўцы Лідскага раёна.

Пад Новы год за нараджэнне і выхаванне пяці і больш дзяцей Ордэнам Маці ўганараваны трэнер Лідскай комплекснай дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы № 4 Надея Высоцкая, памочнік начальніка групы аддзела вайсковай часткі 1234 прапаршчык Аксана Фаміна, музычны кіраўнік дашкольнага цэнтра развіцця дзіцяці № 2 горада Ліды Вікторыя Ліхарад, музычны кіраўнік яслей-сада № 40 Вера Тэжык, Лізавета Мія і Ганна Шыбайла з Ліды, а таксама Ванда Базылевіч з аграгарадка Ходараўцы.
Узнагароды ім уручыў старшыня райвыканкама Сергей Ложачнік.



# Цяжкі час пандэміі

## Пайшоў у лепшы свет лідскі краязнавец Анатоль Крупа



Калі мяне спытаюць, што для мяне Бердаўка, то я адкажу: "Гэта наша школа". І не важна, як называлася або называецца гэтая ўстанова адукацыі - сямігодка, сярэдняя школа ці дзіцячы садсярэдняя школа. Галоўнае іншае - яна была, ёсць і будзе. Але ж наша школа - гэта не толькі трохпавярховы будынак, не толькі светлыя з вялізнымі вокнамі класы і шырокія калідоры. Школа - гэта людзі! Людзі, якія кожную старонку гісторыі пісалі сваім лёсам! І самая багатая, самая непаўторная старонка належыць Анатолю Леанідавічу Крупе, які 34 (!) гады кіраваў штурвалам школьнага карабля ў Бердаўцы. Але, на жаль, ужо былому ветэрану педагагічнай працы, былому дырэктару Бердаўскага дзіцячага сада-сярэдняй школы, былому настаўніку гісторыі, былому заснавальніку і кіраўніку Бердаўскага гістарычна-краязнаўчага народнага музея. Гэта страшнае слова *былому*...

8 кастрычніка 2020 года сэрца Анатоля Леанідавіча Крупы перастала біцца. Сёння многія і многія людзі - родныя і сябры, былыя калегі і выпускнікі, аднавяскоўцы і таварышы, знаёмыя блізкія і далёкія - прамаўляюць ва ўнісон: такога не можа быць!

Не верыцца... Не ўсведамляецца... Не прымаецца ні розумам, ні сэрцам...

Ніводзін яго дзень на пасадзе дырэктара школы і ў якасці настаўніка гісторыі не прайшоў дарма. Адзін толькі школьны музей склаў бы славу кіраўніку любой школы! А кожны з бердаўчан ведае, што без Анатоля Леанідавіча Бердаўскі гістарычна-краязнаўчы народны музей не стаў бы тым, чым ён сёння ёсць.

На розных узроўнях годная праца настаўніка і кіраўніка Бердаўскай школы адзначалася шматлікімі ўзнагародамі. З 1996 года Анатоль Леанідавіч Крупа - Выдатнік асветы Рэспублікі Беларусь. Любові да роднага краю, да Беларусі і роднай мовы мясцовыя хлопчыкі і дзяўчынкі вучыліся найперш у свайго настаўніка гісторыі. Маладыя калегі захапляліся энтузіязмам і вытрымкай дырэктара, бралі за прыклад асноўнае яго правіла як настаўніка: урок - гэта святое! За арганізаванасць і тактоўнасць, за чуласць і дабразычлівасць паважалі кіраўніцтва і калегі, педагогі і работнікі ўстановы адукацыі, былыя вучні і іх бацькі, аднавяскоўцы...

Будучы дырэктарам Бердаўскай школы, ён не толькі падтрымаў стварэнне суполкі ТБМ у Бердаўскай школе, але і даў юрыдычны адрас у школе для рэгістрацыі суполкі. Такіх школ у Лідскім раёне аказалася ўсяго дзве.

Анатоль Крупа ўзначаліў Лідскую раённую арганізацыю Таварыства беларускай школы і рабіў усё, каб лідскія школы былі беларускімі па духу і форме, прынамсі Бердаўская школа была адной з самых беларускіх, апорнай для любых мерапрыемстваў ТБМ.

Так, немагчыма словамі выказаць тыя роспач і смутак, якія сёння ахінаюць усіх, хто ведаў Анатоля Леанідавіча Крупу. Але няхай жа добрыя словы і ўспаміны пра гэтага светлага і чулага Чалавека і Педагога дапамогуць вылечыць душу і сэрца тых, у каго яны разбітыя непапраўным горам - яго родным і блізкім.

***Галіна Альшэўская.***

## Памёр дырэктар і рэдактар газеты "Принеманские вести"



1 снежня памёр кіраўнік газеты "Принеманские вести" Дзмітрый Ёрш. Дзмітрый Ёрш - зяць Анатоля Крупы.

У Дзмітрыя Міхайлавіча засталіся два сыны і жонка. Яму было ўсяго 40 гадоў. Разам са сваёй сям’ёй Дзмітрый стаяў ля вытокаў стварэння "ПВ" у далёкім 1999 годзе.

Вечная памяць рэдактару выдатнай лідскай газеты.

# Адышоў у вечнасць ксёндз канонік Юзаф Ганьчыц



Курыя Гарадзенскай дыяцэзіі са смуткам паведаміла, што 13 кастрычніка адышоў па ўзнагароду да Пана кс. канонік Юзаф Ганьчыц, пробашч парафіі Святой Сям'і ў Лідзе.

Развітальныя абрады адбываліся 15-16 кастрычніка ў касцёле Святой Сям'і ў Лідзе. У касцёле, пабудаваным намаганнямі душпастыра, развітацца з ім 16 кастрычніка сабраліся шматлікія святары, манахіні і вернікі. Узначаліў развітальныя абрады і пахавальную святую імшу Генеральны вікарый Гарадзенскай дыяцэзіі біскуп Юзаф Станеўскі, які вучыўся са спачылым на адным курсе ў духоўнай семінарыі, разам з ім прыняў святарскае пасвячэнне і ведаў яго на працягу 30 гадоў.

Таксама на развітанне прыбылі генеральны вікарый Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі і біскупскі вікарый для горада Магілёва і Магілёўскай вобласці біскуп Аляксандр Яшэўскі. У пахаванні ўзялі ўдзел каля сарака каталіцкіх святароў, прадстаўнікі праваслаўнай і ўніяцкай цэркваў з Ліды.

Пахавалі спачылага святара каля касцёла, які ён сам і пабудаваў ад пачатку да канца. Магіла была заткана жывымі кветкамі ў бел-чырвона-белай гаме, але пасля паверх чырвонай паласы былі расстаўлены белыя ружы.

Па паведамленні супрацоўнікаў Лідскай ЦРБ, ксёндз Юзаф Ганьчыц паступіў у пульманалагічнае аддзяленне з пнеўманіяй, пасля атрымання станоўчага тэсту на COVID-19 быў пераведзены ў каронавіруснае аддзяленне, дзе яго самадчуванне стала цяжкім.

Ксёндз канонік Юзаф Ганьчыц нарадзіўся 3 ліпеня 1960 г. Паходзіў з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата ў Сапоцкіне.

Атрымаў сакрамант пасвячэння ў ступені празбітарату 17 чэрвеня 1995 года з рук біскупа Гарадзенскага Аляксандра Кашкевіча ў кафедры св. Францішка Ксаверыя ў Гародні. Стаў разам з сённяшнім дапаможным біскупам Гарадзенскай дыяцэзіі Юзафам Станеўскім адным з першых выпускнікоў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гародні.

Пасля пасвячэння быў прызначаны вікарыем парафіі св. Міхала Арханёла ў Ашмянах. З 10 ліпеня 1996 г. да смерці быў пробашчам новаўтворанай парафіі Святой Сям'і ў Лідзе. Дзякуючы яго старанням была пабудавана новая парафіяльная святыня.

За час яго служэння ў лідскай парафіі было створана шмат малітоўных груп. Шмат увагі і часу ён прысвячаў выхаванню дзяцей і моладзі, фармацыі сем'яў. Таксама пры парафіі актыўна дзейнічае каталіцкая харызматычна-евангелізацыйная супольнасць "Gloriosa Trinita", духоўным праваднiком якой быў кс. Юзаф Ганьчыц.

У 2003 г. ён скончыў вывучэнне тэалогіі сужэнства ва ўніверсітэце кардынала Стэфана Вышынскага, а ў 2007 г. прайшоў катэхетычна-пастаральнае паслядыпломнае навучанне ў Люблінскім каталіцкім універсітэце ў Польшчы.

Ад часу яго прыезду ў Ліду ксёндз Юзаф меў цесныя стасункі з самымі рознымі грамадскімі арганізацыямі, у тым ліку з БНФ і ТБМ.

Гэта ён служыў імшу на месцы пахавання паўстанцаў 1863 г. у былым фальварку Шчытнікі ў 1996 годзе, калі мерапрыемства было забаронена ўладамі.

Гэта ён асвячаў крыж, які быў устаноўлены ў 1998 г. на месцы расстрэлу героя паўстання 1863 г. ксяндза Адама Фалькоўскага ў Лідзе.

Гэта яму прысвечана кніжка Станіслава Судніка “Пілігрымка дадому” (2018 г.). На тытульнай старонцы кніжкі напісана:

*“Гэты аповед пісаўся з пачуццём глыбокай падзякі да ксендза Юзафа, пробашча парафіі Святой Сям’і ў горадзе Лідзе, чыя святая малітва цудоўным чынам засланіла аўтара ад вялікай бяды”.*

Малітва гэтая мела месца гадоў 10 назад і сапраўды мела вялікую сілу. І не толькі гэтая. Пра сілу малітвы ксяндза Юзафа ведала ўся Ліда.

Сёлета кс. Ганьчыц адзначыў 60-годдзе і 25-годдзе прыняцця празбітарскага пасвячэння.

Вечны супакой дай яму, Пане...

# У беларускае неба пайшоў Валер Санько



22 лістапада ў беларускае неба - не ў чарнобыльскае, а лідскае, але ўсяроўна ў беларускае - пайшоў таленавіты пісьменнік **Валер Санько.**

Валерый (Валер) Аляксеевіч Санько (нар. 29 жніўня 1939, в. Вялікая Сліва, Слуцкі раён) - беларускі пісьменнік, журналіст, краязнавец, кнігавыдавец, доктар народнай медыцыны, магістр нетрадыцыйнай медыцыны, член-кар. МА энергаінфармацыйных навук. Аўтар і суаўтар каля 20 кніг. Бацька трох сыноў.

Пасля заканчэння Вяліка-Сліўскай СШ з адзнакаю закончыў Баранавіцкае медвучылішча (1958). Загадваў (адкрываў) Лосіцкім ФАП-ам у Пінскім раёне. З арміі (1958-1961) прыйшоў сяржантам. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ (завочна, 1961-1967, стараста курса), Менскую ВПШ (1976-1978). Вучыўся ў мединстытуце (1964-1965). Закончыў аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (1968-1971). Здаў кандыдацкія экзамены, але дысертацыю на тэму "Беларуская чарадзейная казка" не абараніў. Некаторыя яго запісы беларускага фальклору надрукаваны ў газетах, часопісах, у трох тамах акадэмічнага 50-томнага выдання беларускага фальклору.

Працаваў памочнікам санітарнага ўрача ў Менску, журналістам у газетах "Чырвоная змена" (1963-1965) і "Звязда" (1965-1972). Загадваў рэдакцыяй медыцынскай і фізкультурна-спартыўнай літаратуры выдавецтва "Беларусь" (1972-1975). Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Здравоохранение Белоруссии" (1975-1976), намеснікам галоўнага рэдактара выдавецтва "Народная асвета" (1978-1982), загадчыкам рэдакцыі краязнаўства, турызму, фізкультурна-спартыўнай літаратуры выдавецтва "Полымя" (1982-1990), намеснікам рэдактара чарнобыльскай газеты "Набат" (1990-1991), дырэктарам заснаванага Беларускім дзіцячым фондам Беларускага выдавецкага Таварыства "Хата" (1992-2006). За сваё жыццё падтрыхтаваў да друку 1089 кніг іншых аўтараў.

З 1960 года з'яўляўся членам КПСС, адкуль у 1989 годзе выйшаў дабраахвотна. Быў намеснікам старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай Сялянскай партыі, ад яе тройчы вылучаўся кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі (Слуцк, 1995; Салігорск, 1996; Салігорск, 1996). Удзельнік шасці (1993-2013) з'ездаў Беларусаў свету (на апошніх чатырох выступаў з прамовамі).

Першае апавяданне надрукавала ў студзені 1958 года Баранавіцкая раённая газета, першую аповесць - "Чырвоная Змена" (жнівень - верасень, 1964). Надрукаваў шэсцьдзесят восем апавяданняў. З шаснаццаці надрукаваных аповесцей - восем у газетах, "Пакуль не зайшло сонца" - у часопісе "Маладосць" (1977, № 6), адна ў кнізе прозы трох аўтараў "Знаёмства" (1982). Аўтар і суаўтар каля дваццаці кніг, у тым ліку дзевяць уласных празаічных, тры - пра лячэнне травамі, дзве - прыкметы, абярэжніцтва. Найбольш значныя кнігі прозы: "Жыватворныя крыніцы" (1979), "Знаёмства" (1982), "Усё скончана: мы прайшлі па Маскве" (1993), "Не плач, маці" (1995), "Дахаты пойдуць усе" (1999), "Ненадрукаванае. У белдзяржлітструктурах" (2009), "Грэх на іх нязмыўны" (2013). У суаўтарстве - "З вудай і стрэльбай" (1974), "Беларускія спартсмены ў баях за Радзіму" (1985).

У кнізе "Згарэў у Слуцку суд народны" падрабязна апісаў і даследаваў храналогію стыхійнага бунту случчакоў у кастрычніку 1967 года.

Даследаванні чарнобыльскай тэматыкі выліліся ў дакументальны раман "Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе" (612 стар., 2013), над матэрыялам кнігі аўтар працаваў 19 гадоў. У рамане апавядаецца пра прычыны выбуху на ЧАЭС, даюцца біяграфіі ліквідатараў, перасяленцаў. Дзевятнаццаць фрагментаў з рамана "Звіняць жаўрукі ў Чарнобыльскім небе" друкаваліся ў газеце "Наша слова" (23.11.2011 - 08.05.2013).

У лістападзе 2016 выдаў кнігу "Карыды вогненныя іскры". На беларускай, рускай, іспанскай мовах. У ёй апісвае пра сувязь карыдных феерыяў і спектакляў з беларускімі Купаллем і Калядамі.

Апошняя кніга - “Прыкмета і прырода - сябры назаўсёды” (2019).

Прыняла парэшткі пісьменніка вялікасліўская зямля.

Вечная памяць і цёплы ўспамін.

# Дзе музыка бярэ пачатак

## У Лідскай дзіцячай музычнай школы юбілей

65 год - узрост сталы і прыгожы. За гэты час музычная школа дала пуцёўку ў жыццё больш як тром з паловай тысячам юных лідзян, прывіла пачуццё прыгожага, адкрыла таленты, дала штуршок да паспяховай самарэалізацыі. І сёння, у век камп'ютарных тэхналогій, музычнае выхаванне не губляе актуальнасці. А на музычным небасхіле Лідчыны зззяе ўсё больш зорачак. Іх столькі, што сапраўды, нібыта зор у небе.

**Рэтраспектыва**



***Алена Жылінская***

Дырэктар музычнай школы Алена Жылінская паказвае першую кнігу загадаў музычнай школы, у якой ёсць і самы першы загад, ад 7 жніўня 1955 года, - залічыць дырэктарам школы Васіля Іосіфавіча Цупрыняка. Тады ж былі прыняты на работу і чацвёра педагогаў: Георгій Міхайлавіч Жукаў (цёзка легендарнага маршала!), Самуіл Мендзялеевіч Ліберман, Клара Паўлаўна Мар'ясіна і Сяргей Паўлавіч Штундар. Былі адкрыты класы фартэпіяна, баяна, домры і скрыпкі. Вядома, што першы набор складаўся з 69 вучняў. А сама школа ў той час размяшчалася на вуліцы Камсамольскай, побач з будынкам, дзе зараз знаходзіцца ўпраўленне па працы, занятасці і сацыяльнай абароне. Потым яна пераехала на скрыжаванне вуліц Кірава і Перамогі. І толькі ў пачатку 90-х - у будынак па вуліцы Савецкай (дзе знаходзіцца і зараз), калі ўзначаліў школу Уладзімір Піліпавіч Калодка.



***Лідская дзіцячая музычная школа***

У 60-я гады ў музычнай школе былі створаны і першыя творчыя калектывы, узначальвалі якія такія выкладчыкі, як Віктар Янкоў, Леанід Хальпукоў, Зоя Кражава, Галіна Картаўцава, Марына Ваўрух і інш. Дарэчы, некаторыя калектывы дзейнічаюць і па сённяшні дзень. Гэты год юбілейны для двух з іх: народнага камернага аркестра (кіраўнік - Ірына Васілік), якому 35 гадоў, і народнага аркестра рускіх народных інструментаў (кіраўнік - Галіна Агарак), якому 50. Увогуле ж у школе дзейнічаюць 5 узорных і 2 народныя калектывы.

- Сёння мы з пачуццём падзякі звяртаемся да настаўнікаў, якія знаходзяцца на заслужаным адпачынку, - гаворыць Алена Іванаўна. - Помнім тых, каго няма з намі. Вітаем усіх выпускнікоў розных гадоў, чый шлях пачынаўся ў нашай школе.

Школа выпусціла 3800 выпускнікоў. З іх 880 звязалі сваё далейшае жыццё з музыкай. Хтосьці стаў настаўнікам гэтай жа школы, іншыя працуюць у Лідскім дзяржаўным музычным каледжы, выкладаюць у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, выступаюць у складах вядомых калектываў і сольна. Сярод выбітных выпускнікоў - піяністка і кампазітар Дзінара Мазітава, спявачка Вольга Уронская, джазмузыкант Ігар Гіро, дацэнт БДПУ імя М. Танка Уладзімір Бубен, выкладчык Акадэміі музыкі Аляксандр Антановіч, выкладчыкі Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа Міхаіл і Бэла Дзвілянскія, Станіслаў Мішкель, Людміла Будай, Ала Догілева, Ала Салуянава і інш. А многія знайшлі сябе ў іншых сферах і, дзякуючы сваім творчым здольнасцям, змаглі дабіцца высокіх вынікаў.



***Выпускнікі школы***

**Колькі ў небе зор!**

Высокі прафесіяналізм педагогаў (а часта вучні ідуць менавіта на імя знакамітага выкладчыка), іх самааддача і пастаянны творчы пошук прыцягваюць у школу юных лідзян і мэтанакіравана вядуць іх да творчых вяршынь.

- Зараз у нашай школе займаюцца 635 навучэн-



***Першакласнікі***

цаў, - расказвае намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Вольга Пчыцкая. - Адкрыта 23 музычныя спецыяльнасці. Толькі за апошнія два гады ў Лідскай дзіцячай музычнай школе мастацтваў адкрыты адзіныя ў вобласці аддзяленні эстраднага і лічбавага фартэпіяна. Сваіх прыхільнікаў знайшоў факультатыўны курс па ўкулеле (гавайскай гітары). Адным словам, цікавасць да музычнай адукацыі ёсць. Найбольшы попыт існуе на спецыяльнасці "Гітара", "Электрагітара", "Фартэпіяна", "Скрыпка", "Харавыя спевы".



***Выпускнікі школы***

Дзіцячую музычную школу не выпадкова называюць кузняй талентаў.

- Мяркуйце самі, толькі па выніках мінулага навучальнага года нашы навучэнцы прынялі ўдзел у 157 міжнародных, 9 рэспубліканскіх і 46 абласных конкурсах, - адзначае Вольга Мікалаеўна. - Гэта больш за дзвесце лаўрэатаў і дыпламантаў першай, другой і трэцяй ступеняў. Сярод нашых навучэнцаў - трыццаць адзін стыпендыят Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Імёны многіх на слыху ў лідзян. Гэта Дзінара Мазітава, Уладзіслаў Трубееў, Аляксандр Маркевіч, Дар'я Пажарыцкая, Ніна Бакуновіч, Аляксандра Бялова, Мікіта Янковіч, Валерыя Аляновіч, Мацвей Чуча, Паліна Хіляжава і іншыя.

**Укулеле, "Гітарны Алімп" і #МузыкалкаЛіда#**

- У знамянальны для нашага горада год правядзення рэспубліканскай акцыі "Ліда - культурная сталіца Беларусі" ў музычнай школе праходзіў шэраг брэндавых мерапрыемстваў, - расказвае дырэктар Алена Жылінская. - Сёлета быў дадзены старт новаму праекту - першаму адкрытаму рэгіянальнаму конкурсу выканаўцаў на класічнай гітары "Гітарны Алімп". У дыстанцыйнай форме прайшоў абласны адкрыты джазава-эстрадны фестываль-конкурс "Птушка". І вось літаральна на днях стартаваў новы адкрыты конкурс #МузыкалкаЛіда#.

Летась педагогі школы актыўна ўключыліся ў работу праекта Трансгранічнага супрацоўніцтва з Шальчынінскай школай мастацтваў імя С. Манюшкі "Музычны мост дружбы". Галоўнымі задачамі яго з'яўляюцца абмен і трансляцыя педагагічнага вопыту, вывучэнне музычнай спадчыны дзвюх краін і абмен творчымі дасягненнямі.

І ў перспектыве школа накіравана на развіццё.

- Хочам і далей развіваць эстрадны накірунак. Ёсць задумкі па развіцці фальклорнага напрамку, - гаворыць Алена Іванаўна.

- Джаз-фестываль "Птушка", які ўжо набыў статус абласнога, хацелася б вывесці на ўзровень рэспубліканскага. Асвойваем паслугі для дарослых, займаемся і з самымі маленькімі: адкрываем групы ранняга эстэтычнага развіцця, зазіраем у будучыню.



***Джаз-фестываль***

**Жыццё ў гармоніі з музыкай**

"Мы імкнёмся калі і не зрабіць з дзіцяці прафесійнага музыканта, то прывіць яму любоў да музыкі", - аб гэтым скажа вам любы выкладчык музычнай школы.

Дарэчы, калектыў тут падабраўся сапраўды моцны і нават унікальны. Больш за восемдзесят працэнтаў яго - педагогі з першай і вышэйшай катэгорыямі. Ёсць і такія, як ужо гаварылася вышэй, на чыё імя ідуць у музыку вучні. Акрамя таго, склаліся тут і дынастыі.

Прадстаўнікі адной з іх - выкладчыкі фартэпіяна, родныя сёстры Нона Вішнеўская і Дыяна Коўзель. У іх з музычнай школай звязана літаральна ўсё жыццё. Тут калісьці працавала (у ліку першых педагогаў) іх



***Аркестр духавых інструментаў***

зычнай школы). "Я да гэтай пары памятаю, што яны казалі мне на занятках, і тое ж самае зараз кажу сваім вучням, - гаворыць Ксенія Васілевіч. - Болей за ўсё мне падабаецца працаваць з дзецьмі. Кожнае з іх індывідуальнае, мне цікава шукаць падыходы да іх. Ну, а скрыпка - каралева музыкі. І хаця сёння модна займацца гітарай, але скрыпка ўсё ж не губляе сваёй прыцягальнасці. У мяне ёсць вучні, якія мэтанакіравана прыйшлі ў школу з жаданнем займацца скрыпкай.

Магчыма, у будучым мы ўбачым юную лідзянку Арыну Хрышчановіч на вялікай сцэне і будзем ганарыцца, што яна родам з нашага горада. Прынамсі, думаць так ёсць усе падставы, бо сёння яна, 10-гадовая дзяўчынка, вельмі смела пакарае музычны Алімп і заяўляе аб сваім таленце



***Удзел у праекце трансгранічнага супрацоўніцтва***

мама Ларыса Піліпаўна Вішнеўская. І нават крыху - тата Андрэй Віктаравіч. Мама з татам і пазнаёміліся тут, у музычнай школе.

- Я была маленькая, і мама часта брала мяне з сабой на работу, - расказвае Нона Андрэеўна. - Я назірала за ўрокамі, і любоў да музыкі міжволі з'явілася ўва мне з ранняга дзяцінства. Дзесьці ў 7 класе я задумалася: быць урачом ці музыкантам? І прыйшла да высновы, што без музыкі не змагу жыць. Вось і адданая ёй усё жыццё.

- У Лідзе нямала таленавітых дзяцей, - адзначае Нона Вішнеўская. - Праўда, апошнім часам іх увагу больш адцягваюць камп'ютары, гаджаты. Бывае, што і бацькі ў сем'ях спрачаюцца, ці патрэбна дзіцяці музыка, лічаць, што яна будзе перашкаджаць вучобе ў школе. На самай справе гэта не так. Многімі вучонымі даказана, што музыка развівае мозг чалавека, абодва яго паўшар'і. Многія выбітныя вучоныя займаліся музыкай. Раю ўсім бацькам: не вагайцеся, прыводзьце дзяцей займацца музыкай. Магчыма, адразу ў дзіцяці і не ўсё атрымаецца, але з часам яно зможа дасягнуць поспехаў.

Традыцыі імянітых педагогаў працягваюць маладыя выкладчыкі. Ксенія Васілевіч працуе ў музычнай школе трэці год. Яна выпускніца Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа. Калісьці добра вучылася ў школе і доўга выбірала прафесійны шлях. Але гэтак жа, як і Нона Андрэеўна Вішнеўская, зразумела, што без музыкі не ўяўляе свайго жыцця. У музычным каледжы яе настаўнікамі былі Святлана Антончык і Міхаіл Дзвілянскі (дарэчы, выпускнік дзіцячай музычнай школы).

на прэстыжных конкурсах.

- Вакальныя здольнасці ў мяне заўважылі яшчэ ў дзіцячым садку, а ў 6 год я заняла другое месца на міжнародным конкурсе "ЛьВенок", - расказвае Арына. - Гэта і падштурхнула займацца вакалам. У 6 гадоў я сама прыйшла ў музычную школу.

Арына займаецца ў выкладчыка Анжалікі Бірук і прызнаецца, што заняткі прыносяць ёй вялікае задавальненне. Ужо сёння дзяўчынка ведае, што хоча звязаць з музыкай сваё жыццё.

Колькі яшчэ вучняў пагадзілася б са словамі Арыны Хрышчановіч? Упэўнена: вельмі шмат.

Юбілей дзіцячай музычнай школы сёлета праходзіў без шырокага размаху, але са святочным настроем у сэрцах як вучняў, так і педагогаў. Бо музыка і ёсць свята, шчасце і радасць творчасці.

***Вольга Яхантава.***

# Калі спявае ўся сям'я

### *35 гадоў Народнаму сямейнаму ансамблю Парфенчыкаў*

Трыццаць пяць гадоў крочыць з песняй па жыцці Народны сямейны ансамбль Парфенчыкаў "Мы з вёсачкі-калыскі" з аграгарадка Бердаўка Лідскага раёна, прапагандуючы нацыянальную песенную культуру і беларускае слова, дорачы землякам радасць, выхоўваючы гонар за нашу Бацькаўшчыну.




Ансамбль, у якім спяваюць тры пакаленні сям'і, - першы ўладальнік наймення "Народны" сярод сямейных творчых калектываў у Рэспубліцы Беларусь, уладальнік Ганаровай граматы прадстаўніцтва ААН у Беларусі за распаўсюджванне ідэі сямейнай творчасці, ганаровай граматы Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, неаднаразовы дыпламант і лаўрэат міжнародных і рэспубліканскіх фестываляў сямейнай творчасці, удзельнік I Фестывалю нацыянальных культур у Гародні. За час існавання калектыў даў на розных пляцоўках больш за 800 канцэртаў.

Пра стварэнне калектыву, любоў да песні і Радзімы гутарым з кіраўніком ансамбля Аляксандрам Парфенчыкам - загадчыкам Бердаўскага культурна-дасугавага цэнтра.

**Спачатку была… песня**

***- Як узнік ваш калектыў? З чаго ўсё пачалося?***

- Усё пачалося з Бердаўкі і роду, дзе ўсе спявалі, - успамінае мой суразмоўца. - Праўда, на некаторы час мы пераязджалі ў Дзітву. Там, у мясцовым Доме культуры, я сустрэў сваё каханне - пазнаёміўся з будучай жонкай Інэсай, якая прыехала на практыку. Сустрэча была лёсавызначальнай: абодва культработнікі, абодва ўлюбёныя ў песню і прафесію… Хутка пажаніліся і перабраліся ў Бердаўку, якая на той час стала сучасным мястэчкам, там атрымалі жыллё.

Напачатку васьмідзесятых, дарэчы, калгас "Бердаўка" быў моцнай гаспадаркай: тут правялі газіфікацыю вёсак, заасфальтавалі дарогі. Кіраўнік аграпрадпрыемства Аляксандр Каранюк - зараз ганаровы жыхар Лідчыны - надаваў увагу не толькі развіццю сельскай гаспадаркі, але і сацыяльна-культурнай сферы.

На базе Бердаўскага Дома культуры дзейнічаў вялікі хор, кіраўніком і хармайстрам якога была мая стрыечная сястра Зінаіда Унучко (Парфенчык). У мастацкай самадзейнасці ўдзельнічалі яшчэ дзве стрыечныя сястры - Тацяна Бяляўская (медык па адукацыі), Сафія Маркевіч (цырульнік) і мой родны дзядзька Іван Парфенчык - шафёр мясцовага калгаса, найстарэйшы ўдзельнік ансамбля (на жаль, сёлета ва ўзросце 87 гадоў яго не стала). Праз некаторы час мы паспрабавалі выступаць радзінай. Да ансамбля далучыліся муж Зінаіды, іх дачка, муж Сафіі. Пад уласны акампанемент - баян, кантрабас, ударныя, ражкі, шумавыя інструменты, спявалі перад землякамі ў калгасе і раёне.

Напэўна, у нас гэта неблага атрымлівалася, бо ў 1985 годзе тагачасны загадчык аддзела культуры Лідскага райвыканкама Мікалай Грэбень прапанаваў нам ад раёна паехаць у Менск на свята горада. На канцэртнай пляцоўцы ля Палаца спорту нас так цёпла прымалі мянчане! Гэта быў першы вялікі, значны і





вельмі запамінальны канцэрт. Ён матываваў на далейшую творчую працу. З тае пары, нягледзячы на тое, што кожны з нас працаваў у розных сферах і арганізацыях, па вечарах і выходных мы збіраліся разам і рэпетыравалі, рэпетыравалі… А потым паспяхова выступалі ў роднай вёсцы, на раённай сцэне, у Гародні, сталіцы, перад рознымі аўдыторыямі.

З лёгкай рукі раённай улады нас пачалі папулярызаваць. Нам пашылі прыгожыя сцэнічныя касцюмы. У студзені 1994 года наш сямейны ансамбль удзельнічаў у Рэспубліканскім фестывалі сямейных ансамбляў у Слоніме, дзе стаў дыпламантам, а 20 красавіка 1994 года мы адны з першых у краіне за плённую працу па папулярызацыі беларускага музычнага мастацтва атрымалі званне "Народны аматарскі калектыў". Гэта была ашаламляльная падзея для ўсіх нас! У гэтым жа годзе мы атрымалі Ганаровую грамату Прадстаўніцтва ААН у Рэспубліцы Беларусь за распаўсюджванне ідэі сямейнай творчасці.

У наступныя два гады прынялі ўдзел у Міжнародным фестывалі сямейнай творчасці ў польскім горадзе Добра Мяста. На тэлевізійным фестывалі "Залатыя ключы" ў горадзе Клецку сталі дыпламантамі, а ў заключным туры, што праходзіў у Салігорску, - лаўрэатамі. Бралі ўдзел у канцэртных праграмах на рэспубліканскім свяце "Дажынкі" ў Мастах, Лідзе, Маладзечне, IV абласным фестывалі нацыянальных культур у Гародні, удзельнічалі ў шэрагу перадач на беларускім тэлебачанні. У 2017 годзе сталі лаўрэатамі I ступені ў V Рэспубліканскім фестывалі сямейнай творчасці "Жывіце ў радасці" ў г. Слонім у намінацыі "Вакальна-харавы жанр".

Мы пастаянна адчувалі і адчуваем падтрымку дзяржавы, за што вельмі ўдзячны. Да 20-годдзя калектыву нам падарылі яшчэ адзін камплект сцэнічных касцюмаў, абнавілі гукавую апаратуру, частку інструментаў.

**Сваякі і аднадумцы**

***- Хто сёння спявае ў народным калектыве ды падтрымлівае брэнд "Парфенчыкі"?***

- Жыццё імчыцца на дзіва хутка. Неўзабаве падраслі і далучыліся да нашай творчай суполкі наш сын Дзяніс і дачка Ганначка, сын Зінаіды - Ігар з жонкай Алай і іх дачка Ілона, дачка Зінаіды - Юлія, сын Сафіі - Арцём. На пачатку 2000 -х гадоў наш ансамбль налічваў ажно 12 чалавек.

Сёння ў калектыве спяваюць ды граюць дзевяць чалавек: я і мая любімая паплечніца жонка Інэса, наша дачка Ганна, мае сёстры Зінаіда, Сафія і Таццяна са сваімі ўнукамі Дзіянай, Вікторыяй і Ягорам. Старэйшаму ўдзельніку сямейнага ансамбля - 63, малодшаму - восем. Усім Парфенчыкам падабаецца дарыць людзям радасць, ствараць настрой, праслаўляць малую радзіму праз песню.

Дарэчы, спецыяльную музыкальную адукацыю маю толькі я, Інэса і Зінаіда. Астатнія члены нашай творчай суполкі сумяшчаюць заняткі музыкай са сваімі прафесіянальнымі заняткамі.

Наша дачушка Ганна хаця і не стала прафесійным музыкантам (эканаміст), але … працуе акампаніятарам у сямейным калектыве. Сын - аўтамеханік, жыве ў Менску, але на святы заўжды прыязджае, каб пабачыцца ды паспяваць разам.

Мы, старэйшае пакаленне Парфенчыкаў, з задавальненнем назіраем, як нашы дзеці і ўнукі паступова захапляюцца беларускім песенным мастацтвам, далучаюцца да творчасці і становяцца актыўнымі ўдзельнікамі ансамбля. Ансамбль - жывы арганізм, які развіваецца, жартуе, сумуе, расце і не старэе душой. Дарэчы, дэвіз нашага ансамбля "Без песні хоць трэсні!".

Што адрознівае нас ад іншых калектываў? Магчыма, каларытнасць гучання. Наша спеўная манера абапіраецца на спалучэнне арыгінальнай мелодыі і паэтычнага зместу, нацыянальныя традыцыі, уменне перадаць фальклорныя песенныя інтанацыі сучаснымі сродкамі. І працуем мы на базе дзяржаўнай установы - Бердаўскага культурна-дасугавага цэнтра - у цудоўным былым маёнтку Дамбавецкіх, які ў 2013-2015 гадах быў капітальна адрамантаваны за кошт абласнога і раённага бюджэтаў, уключаны ў турыстычны маршрут. Адразу значна палепшыліся ўмовы працы культработнікаў і ўмовы для адпачынку працаўнікоў сяла.

**Пра Бацькаўшчыну, вёску, сям'ю і каханне**

***- Пра што спявае народны сямейны ансамбль? І як нараджаюцца песні? Якія каштоўнасці вы нясеце праз жыццё і перадаеце новым пакаленням?***

- Рэпертуар ансамбля складаецца пераважна з аўтарскіх песень, якія сачыняю я ды Зінаіда Унучко - Парфенчык. Сямейны ансамбль выконвае таксама беларускія народныя і сучасныя песні, рускія, украінскія, польскія песні ў арыгінальным гучанні. Усе яны - пра Бацькаўшчыну, вёску, сям'ю і каханне. Вечныя тэмы, на якіх трымаецца жыццё.

Візітоўка ансамбля - "Прывітальная", "Беларусь мая", "Успаміны мае аб былым", "Мы ўсе радня", "Стары ўхажор", "Песня родная", "Поле маё, полюшка", "А зязюленька куе" і іншыя.

Кожны твор нараджаюцца па-рознаму. Бывае, натхнішся нейкай ідэяй ды сядзіш думку думаеш, а, бывае, прысніцца песня, нібы нехта прадыктаваў табе яе. Так было з песняй "Мы з вёсачкі - калыскі", якая і дала назву ансамблю. Прачнуўся раніцой і кажу каханай: "Хутчэй запісвай!"

Сваёй творчасцю мы паказваем, як трэба любіць краіну, шанаваць мір і спакой, бо гэта нашы галоўныя здабыткі, трансліруем думку, што песня можа аб'ядноўваць людзей розных прафесій, ўзростаў і падарыць шмат радасці людзям. Праз музыку і паэтычнае слова выказваем любоў да сваёй сям'і і малой Радзімы, Беларусі.

Дарэчы, з маёй любай жонкай Інэсай мы разам амаль сорак гадоў. Навучыліся разумець адзін другога з паўслова, з адной ноты. Гэта той выпадак, калі супалі чалавечыя, творчыя і сардэчныя інтарэсы.

**У спадчыну - землякам і нашчадкам**

***- У Музеі сям'і, які некалькі год назад з'явіўся ў Бердаўскім культурна-дасугавым цэнтры, ёсць цэлы пакой, прысвечаны Вашаму сямейнаму калектыву. Якія экспанаты для Вас самыя дарагія?***



- У снежні 2017 года на базе філіяла "Бердаўскі культурна-дасугавы цэнтр" па ініцыятыве аддзела культуры Лідскага райвыканкама, Лідскай раённай арганізацыі "Беларускі саюз жанчын" быў створаны Музей сям'і. Адна зала ў ім прысвечана творчасці народнага сямейнага ансамбля Парфенчыкаў "Мы з вёсачкі-калыскі". Гэта вялікі гонар. Тут сабрана і прадстаўлена вялікая калекцыя экспанатаў з творчай дзейнасці ансамбля, гісторыя калектыва.

Самыя дарагія для нас экспанаты - гэта "Радаслоўнае дрэва" Парфенчыкаў з фотаздымкамі ад прапрадзедаў да нашых унукаў, першыя канцэртныя касцюмы і інструменты калектыва. Усё гэта сёння ўспрымаецца, як гісторыя, мае каштоўнасць для нашага радаводу і, думаю, для ўсіх наведвальнікаў, якія шукаюць сэнс жыцця і сябе.

Дзяржава, абласная і раённая ўлады падтрымліваюць наш ансамбль, а мы ў сваю чаргу падтрымліваем дзяржаву. Я - дэпутат Бердаўскага сельскага Савета на працягу 15 год, актыўна ўдзельнічаю ў жыцці сельсавета, працую з моладдзю, праводжу экскурсіі па старажытным маёнтку Дамбавецкіх і пейзажным парку. Быў памочнікам дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь 6-га склікання па Наваградскай акрузе Вольгі Папко, дапамагаў вырашаць праблемныя пытанні землякоў, арганізоўваў сустрэчы.

У 2017 мы адзначылі 495-годдзе Бердаўкі, зладзілі вялікую імпрэзу. Пад час урачыстасцяў успомнілі этапы развіцця нашага аграгарадка, ушанавалі самых сталых і маладых жыхароў, ветэранаў. Нельга не заўважыць, як расцвітае наша малая радзіма, як дзяржава клапоціцца пра людзей, якія ўмовы створаны для працы, адпачынку і творчага развіцця кожнага з нас. Важна захаваць усё гэта.

Мы, вяскоўцы, прагнем, каб на зямлі нашых прашчураў заўжды былі мір і спакой, а людзі сябравалі і паважалі адзін другога. Каб над нашай Радзімай лунала толькі добрыя спевы пра нашу вялікую спадчыну і добразычлівы працавіты народ.

Юбілей - магчымасць азірнуцца назад і ўспомніць старэйшае пакаленне роду, якое перадала нам у спадчыну талент, расказаць пра сваю любоў да Бацькаўшчыны і мовы, свае карані і месца сілы, што трывала трымаюць нас на зямлі, і падзякаваць дзяржаве, уладзе і ўсім, хто нас шануе і падтрымлівае.

Верым, што наперадзе - шмат новых сустрэч з гледачамі і доўгае творчае жыццё сямейнага ансамбля. Імпэту хопіць надоўга. За намі - новыя пакаленні Парфенчыкаў: праз некалькі год, спадзяёмся, у сямейны ансамбль прыйдуць нашы ўнукі...

***Ала БІБІКАВА.***

*Фота з сямейнага архіва сям'і Парфенчыкаў.*

# Лідскія юбіляры

## Графіня Сафія Шуазёль-Гуф’е

### *Да 230-х угодкаў з дня нараджэння*



**Графіня Сафія Шуазёль-Гуф’е**, народжаная Тызенгаўз (1790-1878) - фрэйліна рускай імператрыцы, аўтарка шэрагу гістарычных раманаў і мемуарыстка. Пакінула каштоўныя ўспаміны пра часы царавання Аляксандра I, вайну 1812 года і замежныя паходы рускай арміі ў 1813-1814 гг.

Сафія Тызенгаўз нарадзілася на Лідчыне ў маёнтку Жалудок, які тады ўваходзіў у склад Рэчы Паспалітай. Праз пяць гадоў пасля яе нараджэння праз трэці падзел Рэчы Паспалітай наш горад быў далучаны да Расійскай імперыі. Сафія з'яўлялася дачкой апошняга шэфа літоўскай гвардыі графа Ігната Тызенгаўза (1760-1822) ад яго шлюбу з Мар'янай Пшаздзецкай (1763-1843). Па маці была ўнучкай літоўскага падканцлера Тадэвуша Антонія Пшаздзецкага і пляменніцай княгіні Алены Радзівіл (з Пшаздзецкіх) - жонкі віленскага ваяводы Міхала Ераніма Радзівіла.

Бацькі развяліся, калі Сафія была яшчэ дзіцём, і таму яна вырасла ў маёнтку сваіх сваякоў недалёка ад Вільні. Атрымала добрую хатнюю адукацыю, якая адпавядала яе арыстакратычнаму статусу, акрамя стандартных агульнаадукацыйных прадметаў, вывучала музыку і маляванне. Хатнім настаўнікам малявання юнай Сафіі быў вядомы мастак, будучы прафесар жывапісу Віленскага ўніверсітэта Ян Рустэм. У доме Сафіі гаварылі па-французску, і гэтая мова для яе была роднай.

Вясной 1812 г. маладая графіня пазнаёмілася з расійскім імператарам Аляксандрам I. Паміж імі скла-ліся сяброўскія адносіны, якія падтрымліваліся да канца жыцця расійскага манарха. Адна з нешматлікіх прадстаўнікоў нашай арыстакратыі Сафія Тызенгаўз атрымала прыдворнае жаночага званне фрэйліны світы расійскіх імператрыц Лізаветы Аляксееўны (жонкі Аляксандра I) і Марыі Фёдараўны (маці Аляксандра I) і атрымала права нашэння адпаведнага фрэйлінскага шыфра (дыяментавай заколкі ў выглядзе манаграмы імператрыц), пра што пісала ў сваіх успамінах.

Калі прыйшлі французы, маладая жанчына разам з іншымі прадстаўнікамі шляхты, сустракалася з Напалеонам. Потым графіня пісала, як яна адкрыта дэманстравала свае сімпатыі да расійскага двара - на сустрэчу з Напалеонам прынцыпова прыйшла ў сукенцы з брыльянтавым фрэйлінскім шыфрам з манаграмамі расійскіх імператрыц. Імператар Францыі быў цывілізаваным чалавека і публічна адобрыў гэты жэст Сафіі. Нягледзячы на адабрэнне Напалеонам, гэты учынак чамусьці зрабіў Сафію вельмі папулярнай у рускім грамадстве і арміі.

Пасля вяртання рускай арміі, галоўнакамандуючы фельдмаршал Міхаіл Кутузаў наведаў графіню Сафію Тызенгаўз, з якой быў знаёмы раней. Ён ухваліў паводзіны маладой графіні і даў у яе гонар вечар у Вільні, на якім усяму расійскаму генералітэту прадставіў Сафію такімі словамі: "Вось маладая графіня, якая надзела шыфр на сустрэчу з Напалеонам".

Кажучы сучаснай мовай, графіня Сафія Тызенгаўз добра валодала высокім мастацтвам піяру. Вядома, што ў той час пры рускім штабе ў Вільні было шмат маладых жанчын авантурнага складу. Дастаткова толькі ўзгадаць другую нашу зямлячку Юлію Лабаржэўскую з Нарбутаў, якая потым стала жонкай адмірала і міністра Шышкова. Каб зразумець атмасферу баляў Кутузава ў Вільні 1812 г., працытую вядомага віленскага мемуарыста Станіслава Мараўскага пра Юлію з Нарбутаў: *"Прайшла яна ўсе каляіны жыцця і скончыла яго на высокай грамадскай прыступцы, на якой усе яе памылкі адышлі ў нябыт ... Была гэта жанчына qui a fait tout, mais tout у сваім жыцці, аж да выдзірання з шпагі герцага Вюртэмбергскага вялізнага дыямента падчас балю ў Кутузава ў Вільні. Князь Кутузаў-Смаленскі, які быў закаханы ў яе тады да смерці, на самой справе выпрасіў у яе на раніцу гэты дыямент і вярнуў яго герцагу, аднак, нягледзячы на сакрэт, уся Вільня пра тое ведала". Мараўскі таксама ўспамінаў, што, перш чым зрабіцца жонкай Шышкова, "сп. Лабаржэўская з дому Нарбутаў прайшла праз рукі, сэрца і кішэню князя Кутузава-Смаленскага, у той час генерал-губернатара Вільні, і некалькіх яшчэ спадароў у Пецярбургу, а пры канцы выйшла замуж за міністра асветы, адмірала Шышкова"* .

Трэба ведаць тагачасныя настроі нашай шляхты, а для гэтага дастаткова нагадаць лёсы родных братоў Сафіі - Канстанціна і Рудольфа Тызенгаўзаў, якія са зброяй у руках ваявалі на баку Напалеона. 19-ы пяхотны полк арміі ВКЛ сфармаваў і ўзначаліў 26-гадовы палкоўнік граф Канстанцін Тызенгаўз, а яго

брат граф Рудольф Тызенгаўз на свае грошы сфармаваў конна-артылерыйскую роту. Канстанцін Тызенгаўз разам са сваім палком мужна змагаўся пад Вільняй, Кёнігсбергам, прымаў удзел у знакамітай абароне цвердзі Модлін, а потым і ў бітвах у Германіі. У 1813 г. ён быў узнагароджаны французскім Крыжам Ганаровага Легіёна. Вайна для яго скончылася толькі вясною 1814 г. Канстанцін Тызенгаўз спачатку застаўся ўгарадку Клярмон, а пасля ўказу аб амністыі Аляксандра I ад 30 жніўня 1814 г. вярнуўся ў Паставы, якія атрымаў у спадкі. Дадам, што Канстанцін Тызенгаўз - заснавальнік айчыннай арніталогіі. Другі брат, Рудольф Тызенгаўз, атрымаў у спадчыну Жалудок.

Не дзіва, што яшчэ да 1812 г. у адным са сваіх першых аповедаў "Ванда і Радыгер" Сафія Тызенгаўз выказвала надзею на адраджэнне Напалеонам яе радзімы - Рэчы Паспалітай. Пазнейшыя паводзіны і мемуары Сафіі дазволілі захаваць сямейную маёмасць, і трэба адзначыць, што гэтая жанчына была прыроджаным дыпламатам.

Але пойдзем далей.

Пасля вайны, ва ўзросце 28 гадоў, Сафія выйшла замуж за графа Антонія Людвіга Актавія дэ Шуазёль-Гуф'е (1773-1840). Бацька Антонія Людвіга, французскі дыпламат, член французскай акадэміі навук Агюст дэ Шуазёль-Гуф'е (1752-1817), падчас французскай рэвалюцыі быў амбасадарам у Канстанцінопалі і, не прызнаўшы новыя ўлады, атрымаў запрашэнне жыць у Пецярбургу. На пачатку імператрыца Кацярына II абяцала французскаму навукоўцу пасаду прэзідэнта Акадэміі навук, але потым з-за прыдворных інтрыг, страціла да яго цікавасць. Пасля смерці імператрыцы, новы імператар Павел I палічыў, што Агюст дэ Шуазёль-Гуф'е быў пакрыўджаны яго маці і надаў французу вялікі маёнтак у Літве.

Шлюб адбыўся 3 лютага 1818 г. ў касцёле св. Мацея каля маёнтка Рокішкі (зараз - Рокішкіс у Літве). Хрышчоным бацькам адзінага сына графіні Аляксандра (1821-1896) быў расійскі імператар Аляксандр I.

Графіня разам з мужам жыла ў Францыі, дзе яе прадставілі двару караля Людовіка XVIII. Была асабіста знаёма з Аляксандрам Дзюма-бацькам і многімі іншымі віднымі еўрапейскімі пісьменнікамі свайго часу. У 1829 г. атрымала французскае грамадзянства.

Шлюб яе быў не вельмі шчаслівым, і, аўдавеўшы, кожную зіму графіня Сафія Шуазёль-Гуф'е шмат падарожнічала па Еўропе, а летам і вясной яна жыла ў сваім маёнтку Плацеляй, дзе перабудавала цэнтральны дом маёнтка. Яшчэ ў 1816 г. па загаду графа Шуазёль-Гуф'е тут было створана адно з самых вялікіх у сучаснай Літве вадасховішчаў, т. зв. Плацеляйскае возера.

Вядомы віленскі доктар медыцыны Юльян Цітыюс пісаў пра графіню Шуазёль-Гуф'е ў Вільні. Ішоў апошні год перад паўстаннем 1863 г., баль з удзелам цара быў праігнараваны, і на яго прыйшлі толькі некалькі мясцовых арыстакратаў: *"Дайшло да таго, што Назімаў быў прымушаны папярэдзіць Аляксандра II ... Назімаў жадаў зрабіць баль для высокага госця і прыбыўшага з ім вялікага князя Саксен-Веймарскага (стрыечнага брата цара), князя Гесэн-Касельскага (швагер цара) і двух прускіх князёў у памяшканні цывільнага губернатара, бо свой палац ён уступіў цару. Я быў на тым бале і бачыў толькі некалькі мясцовых дам. Цар танцаваў з імі паланезы і доўга размаўляў са старой сяброўкай Аляксандра I, знакамітай пісьменніцай, графіняй Шуазёль-Гуф'е (з Тызенгаўзаў)".*

У апошнія гады жыцця графіня Сафія Шуазёль-Гуф'е жыла ў Ніцы, дзе і памерла 28 траўня 1878 г.

Нарадзіўшаяся на Лідчыне Сафія Шуазёль-Гуф'е, лічыцца адной з першых жанчын-пісьменніц у гістарычнай Літве. Мы без сумнення можам лічыць яе і часткай нашай культуры, бо была яна сапраўднай еўрапейкай, наўрад ці сама сябе прывязвала да нейкай часткі Еўропы і пісала на французскай мове. Большая частка зробленага ёй - гістарычныя раманы, якія заснаваны на рэальных падзеях і прысвечаны жыццю сучасных ёй жанчын.

Цікавай гістарычнай крыніцай з'яўляецца кніга "Успаміны графіні Шуазёль-Гуф'е пра імператара Аляксандра I і імператара Напалеона" (1-е выданне - 1829 г., гэтая кніга ёсць у інтэрнэце). Значная ўвага ў мемуарах графіні нададзена імператарам Аляксандру I і Напалеону I, а таксама фельдмаршалу Міхаілу Кутузаву, з якімі графіня была асабіста знаёмая. Таксама расказана пра лёс Вільні падчас вайны 1812 г.

**Няпоўная бібліяграфія Сафіі Шуазёль-Гуф'е:**

1. Reminiscences sur l'empereur Alexandre Ier et sur l'empereur Napoleon Ier (1862)

2. Шуазель-Гуфье София. Исторические мемуары об Императоре Александре и его дворе. С.-Петербург, 1829.

3. Воспоминания об императоре Александре I и императоре Наполеоне I графини Шуазель-Гуфье. С.-Петербург, 1879.

4. Воспоминания об императоре Александре I и императоре Наполеоне I графини Шуазель-Гуфье. Москва, 2007.

5. Reminiscencijos apie imperatoriu Aleksandra I ir apie imperatoriu Napoleona I (2004)

6. София Шуазель-Гуфье: Исторические мемуары об императоре Александре и его дворе. Библиотека проекта Б. Акунина ИРГ. Москва, 2020.

7. Barbe Radziwil, roman historique (par la Ctesse de Choiseul-Gouffier). Paris, 1820.

8. Vladislas Jagellon et Hedwige, ou la Reunion de la Lithuanie a la Pologne, nouvelle historique (1382), par Mme la Ctesse de Choiseul-Gouffier. Paris , 1824.

9. Le Nain politique, roman historique, par Mme la Ctesse de Choiseul-Gouffier, nee Ctesse de Tisenhaus., 1826.

10. Memoires historiques sur l'empereur Alexandre et la cour de Russie, publies par Mme la Ctesse de Choiseul-Gouffier, nee Ctesse de Tisenhaus. Paris, 1829.

11. Halina Oginska, ou les Suedois en Pologne, par la Csse de Choiseul-Gouffier, nee Csse de Tisenhauz. Paris, 1839.

***Леанід Лаўрэш.***

# Другі Вацлаў Ластоўскі

## *140 гадоў з дня нараджэння*

**Вацлаў Ластоўскі** (1880-1954) - батанік, фенолаг і спецыяліст у галіне сельскагаспадарчых навук нарадзіўся ў Леляканцах Віленскага павета. Ягоны бацька працаваў лекарам у ваколіцах Вільні.

Вацлаў Ластоўскі скончыў Віленскую гімназію, і ўжо з гадоў навучання ў ёй цікавіўся флорай і фаўнай Віленшчыны. У шостым класе гімназіі стаў феналагічным карэспандэнтам прафесара Кайгародава[1]. Атэстат гімназіі атрымаў у 1901 г., а ў 1905 г. скончыў сельскагаспадарчы факультэт Пулаўскага інстытута і атрымаў званне агранома 1-й ступені. Пасля гэтага працаваў у старэйшага брата ў вёсцы Казакоўшчына, паглыбляў веды пра сельскую гаспадарку і селекцыю раслін. Займаўся даследаваннямі ў галіне феналогіі і экалогіі, паглыбляў свае веды з аграметэаралогіі. Уступіў у Віленскае сельскагаспадарчае таварыства, дзе плённа працаваў - у 1906-1909 гг. арганізаваў метэастанцыю, праводзіў палявыя эксперыменты, займаўся селекцыяй. У 1910 г. па яго ініцыятыве было створана Віленскае таварыства сельскагаспадарчых даследаванняў, якое адкрыла эксперыментальную станцыю ў Беняконях[2].

Па рэкамендацыі Эдуарда і Рамана Рымшаў у верасні 1910 г. Вацлаў Ластоўскі абследаваў поле паблізу мястэчка Беняконі і ў выніку выбраў тэрыторыю, ахвяраваную графам Путкамерам (15 га палеткаў). 15 кастрычніка 1910 г. на сходзе Таварыства сельскагаспадарчых даследаванняў было прынята канчатковае рашэнне аб стварэнні станцыі. Путкамер перадаў на двухгадовае карыстанне станцыі 10-гектарную сядзібу былой сельскагаспадарчай суполкі з грамадскімі будынкамі, што дало магчымасць размясціць рабочых і інвентар, закласці першыя доследы. Механічны аналіз глебаў выканаў прафесар Славамір Міклашэўскі. Вясной 1911 г. па ініцыятыве і паводле планаў інжынера А. Панікоўскага (пазней - прэм'ер Польшчы) доследнае поле было дрэнажавана. У траўні на галоўным полі закладзены першыя доследы з рознымі гатункамі бульбы. Летам усталяваны метэаралагічныя прыборы (дажджамер функцыянаваў са студзеня 1911 г.). Восенню былі закладзены доследы з жытам, набыты патрэбныя прылады працы[3].

Газета "Наша Ніва" пісала ў 1911 г.: *"У Беняконях ... аткрылася пробнае поле (станцыя) Віленскага таварыства сельскай гаспадаркі на 15 дзесяцінах. Пабудавалі гожае мураванае гумно, хату для чэлядзі, кожнаму па пакою і пякарню. Пакуль што жывець там і дырэктар пробнай станцыі аграном Ластоўскі, а на вясну будуць будаваць мураваны дом. Памешчыкі далі на станцыю 20 тысяч, і казна 20 тысяч рублёў дасць, калі зацвердзіць Дума, і штогод будзе казна 20 тысяч рублёў даваць па 3 тысячы руб.*

*У гэтым гаду пасадзілі на пробу 26 гатункаў бульбы, поле ўсё дрэнавалі. Увосень жыта сеялі і садзілі розных гатункаў.*

*Адну дзесяціну бульбы, касілі бульбяннік, як толькі кончыў красаваць, а другую пакінулі. Някошаная бульба дала на 320 пудоў больш бульбы, як кошаная. На вясну станцыя будзе шырока рабіць розныя пробы, каб ведалі гаспадары, як гаспадарыць. Каля пробнага поля дырэктар Ластоўскі засеяў сам ... жыта двом гаспадаром Войшніцы і Развадоўскаму. Паглядзім, што будзе!"* [4].

Станцыя была пабудавана за 1 год, дзякуючы намаганням сяброў Віленскага таварыства сельскагаспадарчых даследаванняў. Будаўніцтва галоўнага будынка пачалося ў 1912 г. і было закончана ў 1914 г. у час 1-й сусветнай вайны.

Доследнае поле арганізавана паводле плана В. Ластоўскага, план быў ухвалены Сельскагаспадарчым дэпартаментам Расіі. Методыка і тэхніка доследаў, прынятая ў Беняконях, адрознівалася ў пэўных падрабязнасцях ад методык, прынятых у іншых станцыях. Для асобных доследаў існавалі малыя дзялянкі. Праводзіліся доследы па ўздзеянні ўгнаенняў на розныя гатункі раслін, а таксама даследаваліся севазвароты. Станцыя займалася акліматызацыяй раслін. У 1911 г. В. Ластоўскі пачаў селекцыю жыта, якое потым было названа Беняконскім, а пазней - ячменю і аўсу.

Хімічная лабараторыя была яшчэ ў стадыі камплектавання, аднак ужо ў 1914 г. умовы дазвалялі выконваць хімічны аналіз на ўласныя патрэбы станцыі. З дапамогай апарата Шэна праводзіўся аналіз механічнага складу тыпаў глебаў Віленшчыны. Праводзіліся доследы па распазнаванні хвароб раслін і шкодных насякомых. У Беняконях упершыню на Віленшчыне пачалі пратручваць пасяўное жыта супраць шкоднікаў.

Метэаралагічная станцыя, акрамя абавязковых

---

[1] Кайгародаў Аляксей Іванавіч (1881 - 1951) - фізік, геафізік, географ і кліматолаг, рэктар Горацкага сельскагаспадарчага інстытута, прафесар. Стварыў Беларускую навукова-даследчую геафізічную абсерваторыю.

[2] Witold Staniewicz, Waclaw Lastowski. Sprawozdania Poznanskiego Towarzystwa Przyjaciol Nauk, nr 44/45/ 1955. S. 135-136.

[3] Фясенка І.І. З гісторыі Віленскай доследнай сельскагаспадарчай станцыі ў Беняконях // Гісторыка-дакументальная хроніка Воранаўскага раёна. Мінск, 2004. С. 117.

[4] Наша Ніва № 50, 15 (28) лістапада 1911.

прылад, мела геліёграф для вымярэння сонечнай радыяцыі, у 14 пунктах Віленшчыны арганізавана вымярэнне колькасці ападкаў з дапамогай дажджамера Гельмана. Штомесячныя справаздачы высылаліся ў абсерваторыю ў Санкт-Пецярбург і Цэнтральнае метэаралагічнае бюро ў Варшаве. Выконваліся таксама феналагічныя назіранні. Персанал Беняконскай доследнай станцыі складаўся з дырэктарата В. Ластоўскага, старшага асістэнта Стэфана Змігродскага, трох практыкантаў, двух тэхнічных даглядчыкаў і пяці сезонных супрацоўнікаў для доследаў па зборы ўраджаю[5].

У 1915 г. Ластоўскі стаў бежанцам і пасяліўся ў Менску. Лідскі абшарнік Андрэй Растваровскі ў сваіх успамінах пісаў, што Ластоўскі ў Менску, у *"1917-18 гг. лічыў сябе беларусам"*[6]. У якой ступені навуковец далучыўся да беларускага руху покуль не вядома, але гэты факт дазваляе лічыць яго ў тым ліку і беларускім навукоўцам.

На пачатку 1920-х гг. Віленская сельскагаспадарчая доследная станцыя ў Беняконях аднавіла сваю працу. Падчас вайны станцыя страціла жывы інвентар, пабудовы і абсталяванне, а таксама частку селекцыйнага матэрыялу. Часткова захавалася толькі бібліятэка. Віленская газета "Слова" пісала ў 1925 г.: *"Аднавіў працу станцыі яе дырэктар В. Ластоўскі. Перад Першай сусветнай вайной, акрамя дырэктара, на станцыі працавалі 2 асістэнты і 3 практыканты. З 1923 г. дырэктар меў толькі аднаго практыканта. Справа ў тым, што калі ў 1915 г. на працу станцыі было асігнавана 15 008 рублёў, дык у 1922 г., у пераліку на царскія грошы, на працу станцыі было выдаткавана толькі 1 200 руб. Тым не менш з сярэдзіны 1920-х гг. станцыя вяла неабходныя для сельскай гаспадаркі навуковыя даследаванні. Дырэктар станцыі В. Ластоўскі яшчэ да Першай сусветнай вайны напісаў шэраг кніг па сельскай гаспадарцы: "Опыты с картофелем", "Опыт с рожью", "Опыты с азотистыми удобрениями", у 1920-х гг. ён выдаў "Dobor odmian zboz dla Wilenszczyzny", "Wyniki doswiadczen z odmianami ziemniakow" і інш. Працы станцыі атрымалі належнае прызнанне ў навуковым свеце"*[7].

25 верасня 1929 г. прэзідэнт Польшчы Масціцкі наведаў Ліду, пасля чаго выехаў ў Беняконі. У Беняконях прэзідэнт прыняў удзел ва ўрачыстым асвячэнні і адкрыцці новай школы і дазволіў, каб гэтая школа насіла назву "Школа імя прэзідэнта Масціцкага". Тут жа прэзідэнт наведаў даследчую агранамічную станцыю і ўдзельнічаў у паседжанні ваяводскай сельскагаспадарчай камісіі. Увечары Масціцкі накіраваўся ў Вільню[8].

Ластоўскі кіраваў станцыяй на працягу 35 гадоў. Сярод іншых прац, вывеў адаптаванае да прыродных умоў Віленшчыны беняконскае жыта, тыбецкі авёс, авёс Лонгінус, бульбу Альмарыя і раннія гатункі лубіну. У 1924 г. ён быў абраны сябрам Фізіяграфічнай камісіі Польскай акадэміі навук. У 1929 г. быў прызначаны на кафедру глебы і раслін універсітэта Стэфана Баторыя. Ён быў першым дэканам факультэта сельскай гаспадаркі ўніверсітэта (1939 г.). Падчас другой нямецкай акупацыі, арганізаваў падпольныя курсы па агранаміі. У 1945 г. ён пакінуў Беняконі і пераехаў у Познань, працаваў на кафедры глебазнаўства факультэта сельскай і лясной гаспадаркі ўніверсітэта горада Познань. Напісаў каля 60 навуковых прац і некалькі сотняў артыкулаў у прафесійныя часопісы[9].

***Леанід Лаўрэш.***

---

[5] Фясенка І.І. З гісторыі Віленскай доследнай сельскагаспадарчай станцыі ў Беняконях // Гісторыка-дакументальная хроніка Воранаўскага раёна. Мінск, 2004. С. 117.

[6] Rostworowski Andrzej. Ziemia, ktorej juz nie zobaczysz. Warszawa, 2001. С. 468.

[7] Slowo № 236 (949) 16 pazdziernika 1925.

[8] Kurjer Wilenski № 220 (1565) 26 wrzesnia 1929.

[9] Witold Staniewicz, Waclaw Lastowski, w: Sprawozdania Poznanskiego Towarzystwa Przyjaciol Nauk, nr 44/45/1955. S. 136-137.

# Іосіф Нікадзімавіч Кардаш

**Іосіф Нікадзімавіч Кардаш** нарадзіўся 29.09.1924 г. У яго бацькоў было 4 дзяцей: старэйшы Іосіф, Станіслава 1927 г.н., Мар'ян 1931 г.н., Алёна 1935 г.н..

Дзяцінства Іосіфа прайшло на гаспадарцы сваіх бацькоў у невялікай вёсачцы Колышкі што з паўтары вярсты ад горада.. Як старэйшаму прыходзілася працаваць і за плугам і па догляду жывёлы.Як здатнаму да вучобы, бацькі далі яму магчымасць вучыцца ў Лідскай польскай гімназіі. Пад час ваеннага ліхалецця многа перажыў, зведаў цяжкую долю селяніна і пасля вызвалення цвёрда вырашыў вучыцца на настаўніка. Паспяхова здаўшы іспыты Іосіф паступіў у Лідскае педагагічнае вучылішча і закончыў яго ў 1949 годзе. У час вучобы ён ажаніўся. Узяў дзяўчыну са сваёй вёскі - Шот Люцыну. У яго было 4 дзяцей: Вальдэмар, Аня, Генадзь і Зося. Трое дзяцей нарадзілася тут, на радзіме, а апошняя, Зося, нарадзілася ўжо ў Польшчы. Пасля педвучылішча адразу быў накіраваны дырэктарам Гярвенікскай сямігадовай школы, тутака быў і сельскі Савет. Школа размяшчалася на хутары Ільянова ў драўляным будынку былога асадніка. Гэта быў жнівень 1949 года і Іосіф Нікадзімавіч актыўна ўзяўся за падрыхтоўку будынка і класных пакояў да навучальнага года: адрамантавалі дах, падлогу, печкі, уцяплілі вокны. З дапамогай бацькоў нарыхтавалі дроў на зіму.



*І. Н. Кардаш*

1 верасня, у святочны дзень для усёй школьнай дзетвары з навакольных вёсак і хутароў, сустракаў дзяцей малады, сімпатычны новы дырэктар. Ён адразу спадабаўся і вучням, і бацькам, як ветлівы і добразыч-



*Вяселле*







*Сям'я І. Н. Кардаша*

ліві чалавек. Іосіф Нікадзімавіч на ўроках зацікаўлена выкладаў прадмет, тлумачыў усё так дасканала, каб веды даходзілі да кожнага. Да настаўнікаў адносіўся з павагаю, ветліва патрабаваў, каб добра выкладалі свае прадметы.

У настўніцкім калектыве існавалі паразуменне і ўзаемападтрымка. З вучнямі хадзілі ў паходы, на экскурсіі ў Ліду. Таленавітыя вучні паспяхова ўдзельнічалі ў раённых конкурсах. Па заканчэнні сямігодкі ў 1953 годзе ўсе сем выпускнікоў школы здалі ўступныя экзамены ў Лідскае педвучылішча і, нягледзячы на конкус 12 кандыдатаў на месца, паступілі!



*Гярвенікі, 1952 г.*

Сам Іосіф Нікадзімавіч іграў на скрыпцы, меў прыгожы голас, цудоўна выконваў беларускія песні “Зорка Венера”, "Бывайце здаровы, жывіце багата", што надта падабалася вяскоўцам…

Усе пяць год да 1954 года Іосіф Нікадзімавіч з сям’ёй дружна жыў у нашай хаце на кватэры. І ўсе далейшыя годы мы падтрымлівалі з імі сяброўскія стасункі.

У жніўні 1954 года быў пераведзены працаваць загадчыкам Аўсядаўскай пачатковай школы. Там ён адпрацаваў таксама 5 гадоў, да лета 1959 года.

Летам 1959 года Іосіф Нікадзімавіч з сям’ёй выехаў у Польшчу. Там ён паступіў у педагагічны інстытут і пасля заканчэння быў прызначаны дырэктарам школы ў вёсцы Флёрчакі. У гэтай адной школе ён адпрацаваў 25 год і заслужыў вялікую павагу ў вучняў, бацькоў і кіраўніцтва адукацыі гміны, меў шэраг узнагарод за значныя поспехі ў настаўніцкай працы.



*Гярвенікі, 1953 г.*

Усе гады Іосіф Нікадзімавіч актыўна збіраў матэрыял аб Лідчыне, некалькі разоў наведваў родныя мясціны, дзе прайшло дзяцінства, вучоба і вясковае настаўніцтва. Па ўспамінах і матэрыялах, у 1997 годзе выйшла яго кніга "Ліда праўдзівая" (Lida Prawdziwa), дзе апісаны падзеі вайны і пасляваеннае сялянскае жыццё з трагедыямі і бандытызмам …

Апісаны факты праўдзіва, так, як было: прозвішчы людзей, назвы вёсак і г.д.

З 1984 года, калі выйшаў на пенсію, пражываў увесь час у горадзе Ольштын (Olsztyn), вуліца Барча (Barcza), 9\22.

Іосіф Нікадзімавіч Кардаш, адсвяткаваўшы 91-годзе з дня нараджэння ў коле сваіх родных і сяброў (дарэчы і мы, былыя вучні Гярвенікскай сямігадовай школы, даслалі яму віншаванне), памёр 13.10.2015 г.

Пахаваны на могілках у той жа вёсцы Флёрчакі. Там ужо быў склеп, дзе пахаваны яго дачка Аня і сын Вальдэмар.

***Яніна Пятроўна Сняжко,***
*былая вучаніца Гярвенікскай школы.*
*Вёска Крупава.*

## Дворышчу - 500 гадоў

# Повязь пяці стагоддзяў

На месцы, дзе зараз знаходзіцца аграгарадок Дворышча, пяць стагоддзяў таму існавала паселішча. На аснове сабраных архіўных матэрыялаў у Віленскім дзяржаўным архіве ў "Лідскім летапісцы" № 35 у 2006 годзе быў апублікаваны артыкул "Дворышча." Там знайшліся звесткі, што ў судовым рашэнні ад 18 лістапада 1520 г. абазначылася першае ўпамінане Дворышча. Такім чынам, Дворышча мае права адзначыць свой 500-гадовы юбілей.

Вельмі прыемна і цікава было сустрэцца дварышчанам на святочнай праграме " Цярніца ўспамінаў" у Доме культуры ў гонар 500-годдзя Дворышча. З вялікім захапленнем і цікавасцю ўсе прагледзелі захаваўшыяся колішнія фатаграфіі - гэта змястоўны летапіс працоўнай біяграфіі дварышчан. Яшчэ з большым натхненнем праглядзелі абрэзкі відэафільма "Дварышчане ў васьмідзесятых гадах" (шкада, што поўны кароткаметражны фільм прапаў)…



***За святочным сталом у гонар юбілею Дворышча.***
*На першым плане злева направа: Смолка М.К., Банцавіч Т.І., Буяк В.Б., Каратай І.В., Арэхва М.Н., Брэйва Г.В., Альшэўская Я.П. З вялікай цікавасцю прагарталі летапісны артыкул "Дворышча". Асабліва зацікавіліся гаспадарамі і насельнікамі Дварышчанскага краю*

У першай палове XV стагоддзя гэтыя землі ў басейне ракі Жыжмы былі ўласнасцю вялікіх князёў літоўскіх, у другой палове XV ст. перайшлі баярам вялікакняскага атачэння. У 1520-м годзе маёнтак Дворышча аказаўся ў Юрыя Ільініча. З 1549 года Дворышчам валодаў магнат Вялікага Княства Літоўскага - Мікалай Крыстафор Радзівіл (Сіротка), а з 1578 года і да канца XVIII стагоддзя - манахі-езуіты. Дворышча змяніла нямала гаспадароў: Вольскія, Пятуховы, Пуслоўскія, Лівены, Філіпавы, Карышаў…

Фальварак - сядзіба, дзе самастойна вялася панская гаспадарка, якая складалася з двара і зямельнага ўчастка. У двор - комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў - уваходзлі жылы панскі драўляны дом на мураваным фундаменце з дзвюма вежамі 3-х і 4-х павярховымі, некалькі невялікіх хат для працоўных. Вытворчыя і гаспадарчыя пабудовы: свіран з сутарэннямі, стайня для коней, хлявы для валоў і кароў, аўчарнік, адрына для складвання сена, гумно для збажыны. На рацэ Жыжме быў пабудаваны з бутавага абчэсанага каменю вадзяны млын і непадалёку хата для мельніка.

Акрамя гэтага, на тэрыторыі сядзібы былі: ляднік, печ для абпалу вапны, мураваны бровар са свіранам пад гарэлку, піваварaны бровар. Для продажу гарэлкі і піва ў маёнтку працавалаа мураваная карчма.

А вось цікавыя факты пра жыццё, працу і побыт мясцовых жыхароў:

У 1847 годзе ў вёсцы Дворышча было 15 двароў, у якіх жылі пораўну 54 душы мужчынскага полу і 54 жаночага, гэта значыць у сярэднім у сям'і было па 7-8 душ. На ўсе 15 гаспадарак прыпадала 11 коней, 40 валоў, 26 кароў, 36 галоў дробнай рагатай жывёлы, 48 авечак, 34 свінні.

Вось як 150 год таму сяляне апрацоўвалі зямліцу. Запрагалі пару валоў і сахою ўзорвалі, а потым канём па некалькі разоў баранавалі раллю. Мужыкі сеялі зерне з сявенькі, навешанай на шыю, і забараноўвалі. Збажыну жанчыны жалі сярпамі, вязалі ў снапы і ставілі ў дзясяткі…

Цяжка здагадацца, чаму, але праз 12 гадоў новы ўладальнік Аляксандр Вольскі ліквідаваў насельнікаў вёскі Дворышча і перасяліў у іншыя вёскі. Так, у вёску Пашунцы - Блажэя, Барылу, Кавальчука, Лукаша (звярніце ўвагу на прозвішчы - многія з іх і сёння вядомыя - *аўт.*). У вёску Гурыны перасяліў Лайціса, Сарэлу, Ясінскага, Ендзу, Некраша, Дзянкевіча, у Кабыльнікі (цяпер Крыніцы) - Залогу, Жука, Казака, а ў вёску Мергінцы перасяліў Аўсейку, Часновіча, Гуселя (цяпер празвішча - Усель)… Для цяперашніх нашчадкаў гэта добры покліч устанавіць свой радавод.

У 1911 годзе фальварак з плошчай у 302 дзесянціны набыў Аўгуст Амберг і валодаў " за польскім часам". У 1939 годзе з прыходам "першых саветаў" абшарнік Амберг з сям'ёй з'ехаў за мяжу, і сяляне сумелі падзяліць абшарніцкую зямлю і маёмасць. Ад панскага палаца засталася адна вежа.

З гэтай вежай звязана сумная быль. Падчас вайны ў Дворышча вярнуліся дачка Яна Амберга з мужам Вазняком і чатырма дзецьмі з надзеяй зноў гаспадарыць на бацькоўскіх уладаннях. Падзеленую

зямлю і маёмасць сялянам давялося вярнуць абшарніку і ісці зноў працаваць на млын, бровар, у поле. Але ў акаўцаў з'явіліся нейкія прэтэнзіі да Вазнякоў, і ў вежы іх расстралялі. Потым чырвоныя партызаны, выкурваючы немцаў з вёскі спалілі вежу. На хутары ў Жук Клемантыны пасяліўся ваеннапалонны чырвонаармеец капітан Грыгор'еў Аляксандр. Ён з іншымі чырвонаармейцамі стварыў партызанскі атрад "Іскра", які потым дыслакаваўся за Нёманам.

Савецкая ўлада вярнулася ў Дворышча ў ліпені 1944 года, але вайна не закончылася. Прадоўжыліся бандыцкія дзеянні "акаўцаў" супраць савецкіх актывістаў.

Ноччу 21 снежня 1944 года наздзекаваліся і забілі старшыню Тракельскага сельсавета Гівайну А.К. (На той час Дворышча было пад Тракельскім сельсаветам). А праз чатыры месяцы - 21 красавіка 1945 года зверскі збілі новага старшыню Ляўкова А.П.

Праз месяц - 23 траўня 1945 года на млыне забілі зноў старшыню сельсавета Сафонава І.С., прыбіральшчыцу Смірнову, міліцыянера Дубніка. Цяжка паранены былі ваенкаматчык Варабей І.І., мельнік Тумялевіч С.А., вагарка Сушынская А.

**Успаміны дварышчанскіх старажылаў - паважаных працаўнікоў экс /базы "Ніва"**

**Тумілевіч Станіслаў Станіслававіч** (сёння яму 86 гадоў) шмат распавёў аб ваенных падзеях і пасляваенным жыцці:

*"Бацька працаваў у абшарніка Амберга, за нешта пасварыўся, выехалі ў "Бярдуўку" (так называлі пры Польшчы). Потым пан прыехаў і забраў назад. Пасяліліся на беразе Жыжмы ў хаце мельніка, якой гадоў сто. Там мы жылі аж да 85 года.*

*Працавалі ў пана і жылі ў шэцярыку: Белагрывыя, Кодзісы, Пенда, Сельскі, Бурак і нехта шосты. Сёй-той з іх выехаў у Польшчу. Чысцяковы жылі на горцы.* (Барыс Антонавіч доўга ў васьмідзесятых гадах быў начальнікам раённай міліцыі). *Памятаю старыя могілкі, старую капліцу, была невысокая. Уваход быў ад дарогі. У покуце вісеў абраз у срэбным акладзе... Маці мая была верніцай, цягала і мяне памаліцца. Капліца згарэла ў вайну.*

*Піўзавод з дрэва. Млын пабудаваны на палях. Каля млына жыў другі мельнік, адзін канец для абагрэву людзей. Муку малолі, крупы рабілі.*

*З боку תракель... дынама, пас накідвалі... Святло асвятляла двор.*

*Свінарнік аж да сажалкі, там і пад жыллё адзін канец абсталяваны.*

*Крахмальны завод працаваў на бульбе. (На сцяне з каменчыкаў дата - 1898).*

*У карчме пры немцах і пасля вайны жылі людзі. Мігдасева, Захарачкіна, дзяўчаты прыгожыя. Ладзілі танцы. Потым пры саўгасе там была кузня, а потым склад ядахімікатаў.*

*Міліцыянераў памятаю: Коля Лапата, Валодзя Косач, Лісоўлаў - былыя партызаны будавалі сапраўдную Савецкую ўладу. Забіла (16 лютага 1946 года) белая банда. Былі і мясцовыя - з Гімбут- Борыс Вітольд, мянушка"Грозны". Яго потым злавілі і застукалі".*



***Хата мельніка***



***Каля хаты мельніка : малады Станіслаў, бацька-Станіслаў Антонавіч, маці - Соф'я Антонаўна і другі мельнік - Бальцэвіч***

**Віктар Кудла:**

*"Дарэчы, у 1970 годзе мяне накіравалі ў саўгас галоўным заатэхнікам. Жылля, безумоўна, у тыя гады не было, і я кватараваў у Тумілевічаў. Хаціна была старая, ды так, што прадувалася і ўзімку нават замярзала ў пакоі вада. Харчаваліся: раніцай перад працай на стале кубак малака і акрайчык хлеба. Вячэра - які-небудзь крупнік і бульба "ў мундзірах".*

*Пра ваеннае і пасляваеннае жыццё многа расказвалі, нешта мне ўдалося запісаць і зберагчы фатакарткі. Сёе-тое з пабудоў фальварка ў пасляваенныя гады выкарыстоўвалася мясцовым саўгасам, але многа і растрыбучана".*

**Брэйва (Драб) Ганна Віктараўна** нарадзілася ў 1941 годзе і жыла з бацькамі ў вёсцы Юравічы, (напэўна названая ў гонар уладальніка Дворышча - Юрыя Ільініча) распавяла:

*"Восенню 1943 года тата Віктар з суседам Каралём ішлі з лесу і па ім нейкія ўзброеныя стрэлілі і бацьку забілі. Зімою 1943 года немцы расстралялі аднавяскоўцаў: Жук Паўліну і траіх дачок - Станіславу, Марыю, Ядвігу толькі за тое, што ў іх жылі і працавалі два рускія акружэнцы. Адна з сясцёр, каб не мучылі, кінулася на акупанта з нажом.*

*У 1949 годзе пачалася ўсеагульная калектывізацыя, у Дворышчы ўтвораны калгас "Новы шлях". Старшынём абраны мясцовы жыхар Людвік Іванавіч Догель. У вёсцы было не больш за дзесяць гаспадароў.*

*Ва ўсіх навакольных вёсках было створана 16 калгасаў, якія затым у 1952 годзе былі аб'яднаны ў чатыры калгасы і праіснавалі да 1959 года,пасля іх аб'ядналі ў саўгас "Дворышча". Дырэктарам стаў Сербуноў Міхаіл Максімавіч - строгі і патрабавальны кіраўнік. Тэхнікі было мала: тракавыя трактары з прычапнымі плугамі аралі, колавыя баранавалі, сеялі. Для ўборкі збожжавых з МТС-а запрашалі камбайны. Але шмат транспартных і палявых работ выконвалі коньмі, запрэжанымі ў калёсы, а зімой у сані. Мужчынам даводзілася на забалочаных лугах касіць сенакос, а на жаночыя плечы клалася праца па зграбанні сена і ўкладцы ў копы. А яшчэ пад восень - церабленне лёну, расціл, затым сушка і на церніцах трапанне".*

**Янза Франц Іванавіч** нарадзіўся ў вёсцы Мігуны ў 1947 годзе.

*"У 1964 годзе ад саўгаса аддзялілі Тракелі і Пераганцы, а Дварышчанскі край прышпілілі да Лідскага раёна. Дырэктарам прызначылі маладога з вышэйшай адукацыяй агранома Іванова Аляксандра Нікіціча. Праз год аддзялілі Крыніцы і там стварылі саўгас "Савецкі", і дырэктарам прыслалі Антоніка Анатолія Міхайлавіча. За тыя гады многа змянілася ў Дворышчы: пабудавалі Дом культуры, сталовую і магазін, рамонтную майстэрню. Павысілася ўраджайнасць збожжавых, гародніны...*

*Пасля арміі мяне выбралі старшынём сельсавета. У тыя гады ўсе вёскі былі напоўнены жыхарамі, і ні адной пустой хаты. А ўсяго было 3200 насельнікаў. Працавалі тры пачатковыя школы, адна сярэдняя і дзве сямігодкі, дзетсадзік, тры ФАП-ы,тры клубы, восем магазінаў. Дэпутатаў было 32. Добра памятаю іх як актыўных працаўнікоў і адказных дэпутатаў.*

*Вось яны на захаванай фатакартцы: (справа налева) - Бабуль Віктар Арцёмавіч - дырэктар школы, Місюра Генадзь Антонавіч - участковы, я - Янза Ф.І., Залога Аляксандр Аляксандравіч - удзельнік ВАВ, Шапель Міхаіл Барысавіч - парторг саўгаса "Савецкі", Несцяровіч Анатоль Антонавіч - эканаміст саўгаса "Дворышча", Якубоўскі Станіслаў Станіслававіч - брыгадзір МТФ Гурыны, Міхайловіч Іван Станіслававіч - дырэктар Крыніцкай школы,Слюсараў Алег Сямёнавіч - старшыня прафкама саўгаса "Дворышча", Бічэль Іван Вацлававіч - брыгадзір у Сліжах, Іваноў Аляксандр Нікіціч - дырэктар саўгаса "Дворышча", Раманоўскі Павел Іванавіч - шафёр, Антонік Анатоль Міхайлавіч - дырэктар саўгаса "Савецкі",*



***Дэпутаты Дварышчанскага сельсавета з двух саўгасаў пасля сессіі зафіксаваліся на фатакартцы***

*Капачэль Алена Уладзіславаўна - цялятніца,Сарока Канстанцін - камуніст, Жамойда Зыгмунд Станіслававіч - кладаўшчык, Рамук Станіслаў Мацвеевіч-трактарыст. У першым радзе з васьмёркі жанчын толькі ўстанавілі: Каваленка Святлана Пятроўна - сакратар сельсавета, Шавель Вера Міхайлаўна - даярка, Дудзіч Леакадзія Віктароўна - палявод, загадчыца Сліжоўскага клуба Ядзя?...”*

**Альшэўская Яніна Пятроўна:**



*“Дворышча для мяне - мая радзіма. Мама, Яніна Здончык, тут у вёсцы нарадзілася .Яе бацька Уладзіслаў Міхайлавіч, 1920 г.н,. пад канец вайны загінуў на фронце 15 красавіка 1945 года і пахаваны ў Германіі. Маці, Яніна, доўгі час працавала на ферме, выхавала мяне і брата Антона, які працаваў шафёрам і механікам. Мой бацька Грыцай Пётр пасля вайны па ілжывым даносе акаўца Лашакевіча быў асуджаны. Я з братам Антонам наведвалі яго ў лідскай турме. Затым яго саслалі дзесьці далёка. Пісем не было. Потым мы даведаліся, што яго віна не пацвердзілася і яго адпусцілі. Ён выехаў спачатку ў Польшчу да брата Казючака, а потым да Антона ў Англію. Больш звестак не ўдалося ўстанавіць.*

*Мой муж Франак быў здатным гаспадаром у бацькоўскай гаспадарцы на хутары (збудаванні яшчэ захаваліся). У саўгасе працаваў шафёрам і камбайнёрам. Выгадавалі двух сыноў, яны добра закончылі школу. Па слядах бацькі сталі шафёрамі: Віктар у міліцыі, а Лёнік застаўся ў саўгасе механізатарам і камбайнёрам і кожны год займае першыя месцы па намалоце".*



**_Сямідзясятыя гады. Саўгас "Дворышча" - Зажынкі. Дырэктар саўгаса Іваноў А.Н., сакратар парткама Клімовіч С.І., старшыня прафкама Слюсараў А.С. у коле механізатараў: Енза Вацлаў, Ірчыц Стась, Сухоцкі Віктар, Мікавоз Адась, Альшэўскі Франак, Борыс Мечак і многа іншых па-за аб’ектывам_**

**Хутны Франц Уладзіміравіч**, усебаковы механізатар, і камбайнёр, і шафёр. Выгадавалі дачку - настаўніцу і сына (галоўны інжынер АА "Лідахлебапрадукт"):

*“Добра памятаю, як у старым панскім парку-клуба яшчэ не было - праводзілася Свята працы, святочныя мерапрыемствы і масавае гулянне вяскоўцаў. (Цяпер тут выгул для коней). З усяго наваколля збіраліся працаўнікі гаспадаркі. На збудаванай эстакадзе масціўся прэзідыум з кіраўнікоў і перадавікоў.*

*Дырэктар Іваноў А.Н. парторг Каральчук і старшыня прафкама Слюсараў А.С. уручалі грошы, падарункі. Потым на сцэне праходзіў цікавы захапляльны канцэрт мастацкай самадзейнасці, а потым доўга моладзь вясялілася на танцах”.*



**Хутная Генрыета Станіславаўна**, настаўніца-гісторык:

*"У чатырохпавярховай вежы быў створаны гістарычна-этнаграфічны музей "Зямля і людзі". Першы паверх - экспазіцыя каменнага веку. Тут жа адлюстраваны перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі: сярод экспанатаў - шынель мясцовага жыхара Іосіфа Бічаля, які бачыў самога Леніна. Падымаемся на другі паверх - "Вялікая Айчынная вайна" і яе ўдзельнікі. Трэці - "Першыя калгасы". Чацвёрты - "Эксперыментальная база "Ніва", перадавікі, сямейныя дынастыі. Дах - аглядная пляцоўка, з якой адкрываліся краявіды Дворышча. За некалькі гадоў за сродкі саўгаса комплекс быў амаль адроджаны. Сюды ўжо прыязджалі экскурсіі. Але... Віктара Кудлу па здароўі запрасілі на працу ў раён. У гаспадарцы змянілася кіраўніцтва, і аднаўленчыя працы спыніліся.*

*Потым пры няўвазе старшыні сельсавета, пры бяздзейнасці часта мяняўшыхся кіраўнікоў гаспадаркі,*



***Свята працы***

*пры папушчальніцтве ўчастковых міліцыянераў усё, што было зроблена па стварэнні гістарычна-этнаграфічнага турыстычнага комплекса, за апошнія дзесяцігоддзі развалена".*

**Каратай Ірына Васільеўна** распавядала, як 60 гадоў таму пасля заканчэння Гарадзенскага сельгастэхнікума была накіравана ў саўгас "Дворышча" ў той час Воранаўскага раёна.

*"Я працавала бухгалтарам, муж Яўген -трактарыстам, сын закончыў тэхнікум і працаваў механікам.*

*У сакавіку1979 года дзве гаспадаркі ("Дворышча" і "Савецкая") былі зноў аб'яднаны ў адну, названую эксперыментальнай базай "Ніва". Дырэктарам яе стаў Віктар Кудла. Пры яго кіраўніцтве гаспадарка дасягнула добрых паказчыкаў па вытворчасці і продажы. Для аматараў парыбачыць на забалочаных і хмызняковых нізінах сваім эскаватарам і за сродкі гаспадаркі былі выкапаныя сажалкі ў вёсках Мігуны, Мяргінцы, Крыніцы, Дворышча, Гурыны*

*Знаю, Віктару Іванавічу неаднаразова прапаноўвалі ісці на павышэнне, а ён цвёрда вырашыў усе сілы і намаганні аддаць Дварышчанскаму краю. Але гэта не прайшло бясследна для здароўя. І калі дактары цвёрда сказалі, што яго сэрца больш можа не вытрымаць дырэктарскай нагрузкі, яму прапанавалі працу, як думалася, больш спакойную - старшынём райкама прафсаюза работнікаў АПК".*

**Пранюк Іван Іванавіч** у студзені 1979 года быў прызначаны дырэктарам саўгаса "Дворышча", але праз тры месяцы саўгас далучылі да эксбазы "Савецкая", і ён стаў парторгам, потым - галоўным аграномам:

*"З гэтага часу пачынаецца развіццё матэрыяльна-тэхнічнай базы, навядзенне парадку на зямлі, упарадкаванне палявых дарог, будаўніцтва і рэканструкцыя з поўнай механізацыяй працаёмкіх працэсаў на жывёлагадоўчых фермах.*



*У эксперыментальнай базе "Ніва" кожны год праходзілі раённыя і часцяком абласныя семінары з удзелам кіраўніцтва вобласці і раёнаў.*

*"Ніве" было прысвоена званне "Гаспадарка высокай культуры земляробства і жывёлагадоўлі". Гаспадарка выйшла на перадавыя пазіцыі ў раёне па продажы бульбы (4-5 тыс. тон штогод), па вытворчасці кармоў і малака".*

**Пранюк Леакадзія Францаўна** працавала галоўным эканамістам, старшынёй прафкама.

*"На маіх вачах і з маім удзелам харашэла*



***1982 год. Мітынг у Дзень Перамогі з удзелам ветэранаў ВАВ: Хутны Ян, Шмайла Міхаіл, Кузьма Аляксандр, Заяц Максім, Касцюшка, першы сакратар райкама камсамолу Пішчукевіч Іван, старшыня сельсавета Буяк Фёдар, дырэктар эксбазы "Ніва" Кудла Віктар, сакратар камсамольскай арганізацыі Бурак Алена***



*Дворышча,* - успамінае яна. *- На цэнтральнай вуліцы пракладзены асфальт, ліўневая каналізацыя, падземны кабель вулічнага асвятлення з таршэрамі, пакладзены тратуары, газоны і кветнікі. У падва-*

*льным памяшканні пад канторай функцыянаваў санвузел, працаваў цір для стральбы з малакалібернай вінтоўкі і трэнажоры.*

*Часта на эксбазе праводзіліся раённыя спартакіяды.*

*Жыхары Дворышча і спецыялісты гаспадаркі штотыдзень выходзілі на суботнікі і працавалі на добраўпарадкаванні вёскі. Шанавалі і ганарыліся зробленым.*

*Уздоўж рэчкі Жыжма каля клуба быў пасаджаны новы парк імя 40-годдзя вызвалення Беларусі, аднак усе гады там пасвіліся каровы шмат дрэў засохла, знішчаныя дзіцячая пляцоўка і альтанка. Функцыянавалі дзве лазні ў вёсках Дворышча і Крыніцы, а для жыхароў астатніх вёсак душавыя на ўсіх фермах Гурыны, Сліжы, Мігуны, Мяргінцы, Гімбуты, а ў рэммайстэрні "Дворышча" - саўна з мінібасейнам".* (На сёння ні ў адной вёсцы, нават у Дворышчы, лазні не працуюць).



**Перадавыя механізатары з парторгам Іванам Ганевічам**

*Барыс Яўген, Горбач Уладзімір, Фурман Стась, Станкуць Эдзік, Бутрым Валодзя здатна выконвалі тэхналогіі,за што атры-млівалі добрую зарплату і прэміі".*

**Марыя Арэхва** - больш за 40 год у Дворышчы. Доўгі час узначальвала бухгалтэрыю базы "Ніва", узнагароджана дзяржаўнай узнагародай - ордэнам "Знак Пашаны". У 1976 годзе была дэлегатам 28 з'езда КПБ. На пачэсным месцы і сёння захоўвае фота з Першым сакратаром ЦК КПБ Пятром Машэравым:

*"Мне як бугалтару прыходзілася граматна кантраляваць не толькі даходы, але і расходы. Эканоміка гаспадаркі была стабільнай. Прыбытак складаў больш за два мільёны рублёў, рэн-табельнасць - 45%, а сярэдняя зар-плата работнікаў была самая вы-сокая ў раёне і большая за сярэдне-рэспубліканскую. Пенсіянеры тых часоў сёння атрымліваюць пенсію ў два разы большую за цяперашніх".*

**Марыя Казіміраўна Смолка** за актыўную працу і высокія вынікі была ўнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, Граматай ВС БССР. Была дэлегатам Усесаюзнага з'езда калгаснікаў. Вялікім уражаннем засталіся ўспаміны аб выступленнях удзельнікаў форуму, і пра гэта нагадвае фотаздымак дэлегатаў з Леанідам Брэжневым. Працавала загадчыцай участка “Дворышча”, які займаў першыя месцы па ўраджайнасці збожжа. Цяпер бадзёрая, падцягнутая, актыўная на ўладкаванні старых магілак:

*"Пад кіраўніцтвам агранома - бульбавода Бучынскай Яніны вырошчвалі многа розных гатункаў, атрымлівалі добры ўраджай і прадавалі па ўсёй рэспубліцы і нават на Літву, Украіну, Латвію, Расію. Звеннявыя-механізатары*

**Капачэль Ніна Іосіфаўна**, заатэхнік свінагадоўчай ферма "Мергінцы":

*"Пасля аб'яднання гаспадарак Віктар Іванавіч па сваім праекце правёў рэканструкцыю памяшканняў і мадэрнізацыю па навейшай тэхналогіі з поўнай механізацыяй прыгатавання і раздачы кармоў. Там за год вырошчвалі 2 тысячы парсючкоў і прадавалі 200 тон свініны. Праводзіліся раённыя і нават рэспубліканскія семінары.* (Была прызнана лепшым нават у вобласці міні-комплексам замкнёнага цыклу. Сёння там разваліны).

*Нягледзячы на значныя дасягненні па сацыя-*



**Ударнікі камуністычнай працы мінікомплекса "Мяргінцы" (справа налева): Капачэль Эдуард, Пакшыс Казік, Бурбліс Галя, Пашнік Яніна, Кароль Ванда, Капачэль Ніна - заатэхнік, БурблісВера, Пакшыс Станіслава, Улас Гэля, Батура Люба, Пашнік Чэся (Грышкевіч Рэгіна, Кароль Леакадзія, Гурская Яня былі на выхадным.) Брыгадзірам быў Хвайніцкі Іосіф, трактарыстамі - Лукша Адольф, Кароль Уладзік**

*льна- эканамічным развіцці гаспадаркі, кіраўніцтву раёна не падабалася самастойна-прынцыповая пазіцыя дырэктара Кудлы Віктара Іванавіча, а падчас і крытыка ў іх адрас. І, мажліва, таму ў раённых кіраўнікоў не знайшлося сумлення, каб па справядлівасці адзначыць яго сямігадовую працу ў эксбазе "Ніва" ўрадавай узнагародай. І толькі пасля пераходу ў прафсаюз "у дагонку кінулі" Ганаровую грамату ВС БССР*



*У красавіку 1982 года гаспадарку наведалі кіраўнікі рэспублікі і вобласці: першы сакратар ЦК КПБ КісялёўЦ.Я. Старшыня Прэзідыума ВС БССР Палякаў І. Я, Першы сакратар абкама КПБ Кляцкоў Л. Г., старшыня аблвыканкама Арцыменя Д. К.*

*Далі высокую ацэнку стану спраў у гаспадарцы, і была прапанова Віктару Іванавічу на павышэнне, але адмовіўся, каб не абрываць пачатае і запланаванае".*

**Іван Ганевіч** - незменны старшыня Дварышчанскага сельскага Савета на працягу 28 (!) гадоў. У 1982 годзе, адразу пасля службы ў арміі, ён прыехаў сюды па накіраванні райкама - сакратаром парткама.

"*Дворышча для мяне - другая радзіма,* - расказвае Іван Феліксавіч. - *Усё свядомае жыццё прайшло тут. І мне падабаецца гэты куток Лідчыны. Тут жывуць добрыя, зацікаўленыя, граматныя, старанныя, працалюбівыя людзі, патрыёты свайго роднага краю. Сярод іх з асаблівай павагай хачу назваць Івана і Леакадзію Пранюкоў, Пятра і Галіну Ліхарадаў, Генрыету і Франца Хутных, Дзяніса і Яніну Капачэль, Уладзіміра і Святлану Юркевічаў.*

*Па ініцыятыве і пры актыўным удзеле Віктара Іванавіча ў будаўнічай справе, дзякуючы кіраўніцтву Лабецкага Уладзіміра (цяпер дырэктар Будтрэста -19), прараба Юхно Віктара, Бялана Адама, Пятуховай Валянціны і суладнай працы будаўнічых брыгад Пашніка Станіслава, Кібыша Фэляка, Белавокага Бярнарда ў складзе паўсотні будаўнікоў, а ў летні перыяд студэнцкіх будатрадаў "Маладосць" і "Граніт", былі аднаўлены былыя будынкі панскага фальварка: вежа, млын. Пабудаваны: аграхімцэнтр, збожжасховішча вежавага тыпу з зернесушылкамі, сенасховішча і бульбасховішча і карняплодасховішчы з кармацэхам, склады для будматэрыялаў, новыя гаражы і навесы для сельгастэхнікі. Паралельна забудоўвалася і вёска Дворышча: пабудавана больш за сто кватэр, адміністрацыйны буды-нак, сярэдняя школа, ФАП, быткамбінат."*





***Кудла В.І., Лабецкі В. Ю., Юхно В. Г. абмяркоўваюць планы добраўпарадкавання сядзібна-этнаграфічнага комплекса***

**Кацярына Ёрш** пры акупацыі немцамі з маці была ў канцэнтрацыйным лагеры. Пасля інстытута сумесна з мужам былі накіраваны сюды ў саўгас "Дворышча". Сямён Раманавіч быў галоўным аграномам гаспадаркі, многа зрабіў па паляпшэнні культуры земляробства, укараненні навуковых метадаў раслінаводства. На жаль рана пайшоў з жыцця. Кацярына працавала аграномам-гароднінаводам, доўгі час узначальвала прафсаюзны камітэт:

*"Пасля сустрэчы кіраўніцтва гаспадаркі з алімпійскім чэмпіёнам па конным спорце Віктарам Угрумавым і зацікаўленай размовай, у 1985 годзе былі закуплены першыя спартыўныя коні і арганізавана коннаспартыўная секцыя з трэнерам Батурам Аляксандрам. Першымі коннікамі былі мая дачка Ала, Ліхарад Дзіма, Іваноў Вася, Кудла Вадзім. Дзякуючы*



*адказнай працы Юркевічаў Уладзіміра і Святланы коннаспартыўная школа і сёння працуе.*

*Не толькі праца аб'ядноўвала сельгаскалектыў, але і вандроўкі за кошт гаспадаркі па былым Са-*




**Эстонская ССР. Горад Талін. Вялікая група дварышчан на экскурсіі**

*вецкім Саюзе, спартыўная жыццё, суботнікі і святы, на якіх з любоўю ўшаноўвалі людзей працы".*

**Марцінкевіч Людміла**, загадчыца Дварышчанскай бібліятэкі лічыць:



*"Малая радзіма там, дзе пражыла большую частку свайго жыцця. Пасля вучобы я выбрала Дворышча і ўбачыла тут вялікі і моцны калектывізм і была вельмі ўражаная. Усе: спецыялісты, працаўнікі, настаўнікі і вучні школы былі адно цэлае. Разам выходзілі на суботнікі, працавалі па добраўпарадкаванні вёскі. І ніхто не казаў: не хачу, не магу. А якія былі дабразычлівыя адносіны да людзей працы: добрая зар-*



**Каля помніка- манумента " Зберажом памяць на стагоддзі" настаўніца Буяк В.Б. з вучнямі**



**Дэлегаты ад эксбазы "Ніва" на Лідскай раённай партканферэнцыі: Ганевіч І.Ф., Пранюк Л.Ф., Кудла В.І., Арэхва М.Н., Іванова М. І., Прэсны Б.Н., Чагараў А.Н., Каратай Я.А., Шмаркоў В.Т., Хвайніцкі Я.І., Буяк Ф.А., Лабецкі В.Ю.**

*плата і прэміі, праводзіліся ўрачыстыя сходы і вечары сустрэч, дзе перадавікоў віншавалі, узнагароджвалі. У 80-дзесятых гадах былі запрошаны архітэктары, якія распрацавалі праект сядзібна-этнаграфічнага турыстычнага комплекса. Пачыналася ўсё з дарогі, дзе знарок быў пакінуты брук, як прыклад будаўніцтва старых дарог. Злева ад яе адкрываўся былы крухмальны завод, справа - карчма. Далей - возера, лядоўня. Млын быў поўнасцю рэканструяваны пад гасцініцу. На першым паверсе - зала ўрачыстых грамадзянскіх абрадаў, на другім у адпаведным інтэр'еры прадугледжаны пакоі нявесты, жаніха, сватоў, мельніка. На трэцім - банкетная зала, там жа кухня (яна павінна была працаваць на ўласных прадук-тах гаспадаркі). На кожным паверсе ўладкаваны каміны, працаваў грузавы ліфт, малая*

*банкетная зала. На сённяшні дзень усе гэтыя аб'екты аграэкатурызму давалі б працу дзясятку дворышчан і прыносілі б значны прыбытак гаспадарцы.*

*По творчай прапанове і эскізе Віктара Іванавіча менскімі скульптарамі Батвінёнкам А.В., Патапавым Н.Ф. быў выраблены і ўсталяваны перад школай помнік-манумент у памяць пра землякоў-змагароў за народнае шчасце і дабрабыт. Нездарма ў "Лідскай газеце", на той час "Уперад "(1985 г.), была падборка матэрыялаў пра "дырэктара-архітэктара", а вёска Дворышча ўпершыню названа "аграгарадком". За планамерную і ўмелую забудову цэнтральнай сядзібы Дворышча гаспадарка была ўзнагароджана дыпломам ВДНГ, а дырэктар Кудла В.І. - бронзавым медалём".*

**Пашнік Іван Іванавіч:**

*"Я нарадзіўся ў Мяргінцах, вучыўся ў школе яшчэ ў старых збудаваннях. Школьныя класы размяшчаліся ў чатырох будынках, забраных у "кулакоў". Першая хата - Федаровічыхі, багатай уладаркі зямельнага надзела, другая - Бічэль Яніны, ведалі яе як рухавую, працалюбівую гаспадыню: мела многа пчол, добры сад. Пасля вайны рэпрэсіравалі іх як кулакоў і з сем'ямі вывезлі ў Сібір.*

*Пасля сямігодкі закончыў курсы кіроўцаў і ўсе гады працаваў шафёрам.*

*Выгадаваў з жонкай трох сыноў, якія закончылі сярэднюю школу, набылі спецыяльнасці, маглі прадоўжыць працу ў саўгасе. Але апошнія дзесяцігоддзі, нізкая зарплата, адсутнасць турыстычных паездак, спартыўных заняткаў вымусіла сыноў рынуцца на гарадскія работы.*

*Добра памятаю сваіх настаўнікаў".*



***Настаўнікі (злева направа): Акулава Е.А., Шамрэй А.В., Годзь С.М., Баярына Л.К., Кісялёва В.М., Банцэвіч Т.І., Пехцерава Т.П., Здановіч Я.С., Ліхарад Г.Н., Ракуць М.Л.***

**Гураль Галіна Мікалаяўна,** член савета ветэранскай арганізацыі, больш за 30 год працавала настаўнікам. З мужам - дырэктарам школы - Уладзімірам Мікалаевічам (на жаль ужо пайшоў з жыцця) выгадавалі дваіх сыноў, якія атрымалі вышэйшую адукацыю, працуюць у сталічнай прэстыжнай сферы:



*"Значную дапамогу эксбаза "Ніва" аказала школе па ўнутраным аздабленні класаў, вестыбюля. Каля школы былі пабудаваны стадыён і арыгінальная дзіцячая пляцоўка з малымі архітэктурнымі формамі (ад іх мала што захавалася), перададзены ў выкарыстанне фруктовы сад. Для заняцця спортам набылі картынгі, лыжы, спартыўную форму. Гаспадарка выдзяляла сродкі для турыс-тычных паездак школьнікаў і настаўнікаў у Ленін-град, Вільню, Рыгу, Кіеў, Берасце, Белавежскую пушчу і іншыя мясціны...*

*Многія выпускнікі заставаліся працаваць у гаспадарцы і часта за кошт гаспадаркі паступалі ў сельскагаспадарчыя інстытуты і тэхнікумы.*

*Нашы паважаныя настаўнікі: Банцэвіч Тарэза Іванаўна, Буяк Вера Браніславаўна, Баярына Людміла Канстанцінаўна, Кудла Яніна Станіславаўна, Ліхарад Галіна Мікалаеўна, Хутная Генрыета Станіславаўна добра і адказна выкладалі свае прадметы. Так што многія выпускнікі паступалі ў вышэйшыя ўстановы. Ветэраны знаходзяць сілы на працу ў агародзе, актыўна наведваюць бібліятэку, прымаюць удзел у свецкім жыцці. Мы ганарымся і ставім іх ў прыклад пад-растаючаму пакаленню".*

**Ніна Зуенка** каля 20 год была намеснікам часта змяняемых дырэктараў саўгаса. Тады падала працоўная і тэхналагічная дысыпліна, вытворчасць і продаж сельгаспрадукцыі, убытачнасць эканомікі, нізкая заработная плата. Як вынік за гэты перыяд ні адзін з выпускнікоў школы не застаўся ў гаспадарцы, ды і многія працаўнікі перабраліся на гарадскія прадпрыемствы. Тры гады як прызначылі яе старшынёй сельсавета:

*"У Дворышчы пражывае 570 жыхароў, з якіх большасць - 391 чалавек - маладыя, працаздольнага ўзросту. На жаль, меншасць з іх працуе ў мясцовай гаспадарцы, большасць шыбуе ў горад. Ва ўсіх вёсках засталося каля тысячы жыхароў, за 40 гадоў пайшлі з жыцця больш за дзве тысячы. Па ўсіх вёсках многа пустых хатаў. У 450-ці гаспадарках трымаюць толькі каля 90 кароў, 76 свіней і 15 коней...*

*Так катастафічна ўпала сялянскае жыццё! Вёска выміра...е"*



**Антон Марцінкевіч** у гэтых мясцінах нарадзіўся. Ад саўгаса атрымаў накіраванне ў сельгасінстытут і пасля вучобы вярнуўся ў родную вёс-ку. Шэсць год адпраца-ваў механікам, восем - загадчыкам майстэрні і вось ужо дваццаць год працуе галоўным інжы-нерам.



Сёння ён ганарыцца, што працаваў поплеч з такімі дварыш-чанскімі механізатарамі-асамі як Яўген Борыс, Франц Альшэўскі, Яўген Каратай, Адам Запаснік, Франц Мушчынка, Вацлаў Енза, Антон Клімовіч, Станіслаў Рамук.



Механізатарскую справу добра падтрымлівалі галоўны інжынер Ліхарад Пётр, механікі Люцыян Борыс, Часлаў Рубель (на фота), электразваршчыкі Станіслаў Тумілевіч, Казімір Мікавоз, токар Станіслаў Юхневіч,электрык Лявон Ірчыц.

Антон Антонавіч расказаў:

*"У тыя гады выпускнікі па 14-17 чалавек з класа заставаліся ў саўгасе, набывалі спецыяльнась і працавалі з задавальненнем. І цяпер яны яшчэ складаюць надзейны касцяк механізатарскіх кадраў. Але ў апошнія дзесяцігоддзі рэзка ўпала эфектыўнасць гаспадарання, знізілася заработная плата, і, як вынік, многія пакінулі саўгас, і цяпер востра не хапае механізатараў, шафяроў".*

Цікава, калі запыталі ў саміх жыхароў пра Дварышча, яны прызналіся ў любові да паселішча з багатым гістарычным мінулым і светлым поглядам у будучыню.



***На машынным двары перад выездам на працу (злева направа) Кахновіч Уладзімір - заг. участка, Іванцэвіч Віктар, Пазняк Лёня, Хутны Лёня, Штэмпель Руслан, Антон Марцінкевіч, Каналош Альберт, Ясінскі Аляксей - на той час дырэктар, Махнач Віктар- заг. майстэрні***

**Альфрэда Шанціла** на заслужаным адпачынку, але працуе дыспетчарам ў РСУП "Саўгас "Лідскі" (аб'яднаны з эксбазай "Ніва" ў 2010 годзе).



*"Запрасілі дапамагчы на тры дні, а засталася яшчэ на тры гады,* - жартуе Альфрэда Іосіфаўна. - *Мы з мужам прыехалі ў Дворышча ў 1974 годзе. Я - аграном, муж - ветэрынарны ўрач. Першае, што ўразіла, - вялікая павага, з якой да нас, маладых,*

*адносіўся калектыў. І мы імкнуліся працаваць адпаведна. Былі там, куды накіроўвалі. Камсамольцаў было больш за 100. Шмат год я была членам санітарнай дружыны прадпрыемства. З камандай занялі першае месяца ў раёне і вобласці".*



***Санітарная дружына на раённым парадзе***

Загадчык склада **Аляксандр Сямашка** скончыў Наваградскі сельгастэхнікум і ў 1976 годзе быў накіраваны ў саўгас "Тракельскі". Там жа пазнаёміўся і ажаніўся з Янінай, якая працавала бухгалтарам.



*"Калі аб'ядналі два саўгасы, кіраўніком стаў Віктар Кудла,* - расказвае Аляксандр Сямашка. - *На той час я працаваў механікам аддзялення Гурыны. А ў гаспадарцы патрэбен быў загадчык складам. Віктар Іванавіч думаў-думаў і паказаў на мяне. Некаторыя кпілі: "Куды гэты юнец лезе?" А я, той юнец, вось ужо больш за 40 год і па сённяшні дзень працую.*

*Ні разу не меў ніякай правіннасці, пра-цаваў добрасумленна. І цяпер мне - 66 год, а яшчэ давяраюць склады запчастак, мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў".*

У Аляксандра Аляксандравіча двое дзяцей і трое ўнукаў. Усе жывуць у Дворышчы.

*"Калісьці жонка вельмі сумавала па Тракелях,* - кажа ён. - *Цяпер лічыць: няма лепей, як у Дворышчы. Віктар Кудла - у той час кіраўнік гаспадаркі, не мог застацца абыякавым да спадчыны. Але глядзеў на яе не толькі сэрцам, як улюбёны ва ўсё роднае чалавек, але і як гаспадар. З яго падачы вырашылі аднавіць у Дворышчы ансамбль панскага фальварка. На жаль, большасць з гэтага ўжо ў мінулым, разбурана і зні-шчана..."*

Галоўны аграном гаспадаркі **Андрэй Бартош** - прадстаўнік маладога пакалення Дворышча. Пры тым, гэта чалавек, які моцна стаіць на зямлі. З сялянскай сям'і: дзед, бацька і яго браты - усе працавалі і працуюць у сельскай гаспадарцы. У Андрэя шматдзетная сям'я - трое дзетак - будучыня Дворышча:



*"Дворышча - цікавае гістарычнае месца. Гэта скажа кожны, хто пабывае тут хаця аднойчы. Мы спадзяёмся, што летапіс жыцця Дварышчанскага краю, які збірае і піша Віктар Іванавіч працягне весці маладое пакаленне.*

*А ўспаміны пра выдатных людзей будуць не толькі ў архівах, але і ў сэрцах".*

**Падарунак Дворышчу**

У аграгарадку мірна пражываюць прадстаўнікі розных канфесій. Па праекце Кудлы В.І. у 80-дзесятыя гады пад старыну быў пабудаваны з бутавага камення васьмівугольны будынак для дыспетчарскага пункта, у якім цяпер размясцілася царква імя святой Сафіі Слуцкай. У 2014 годзе ён здолеў сустрэцца з архі-



епіскапам Гурыем, адстаяць святара Георгія Муху ад пераводу ў іншую грамаду і абрысаваць планы па абсталяванні царквы…

Пад кіраўніцтвам пратаіерэя Георгія вось ужо каля дзесяці гадоў рэканструюецца праваслаўная царква ...

На працягу стагоддзяў упрыгожаннем паселішча быў драўляны касцёл Святой Марыі Ружанцовай, збудаваны пры езуітах у 1591 г. Падчас адной з войнаў ён згарэў. Аляксандр Вольскі на яго месцы пабудаваў капліцу і ахвяраваў абраз у срэбным акладзе. У склепе пад капліцай ён быў пахаваны разам з жонкай.

Каталікаў цяпер духоўна акармляе ксёндз Ежы Бяганскі з Тракельскай парафіі. Менавіта ксёндз Ежы натхніў дварышчанцаў на агульную добрую справу, якую па праву можна назваць свайго роду падарункам Дворышчу ад яго жыхароў на 500-годдзе.

Гэта добраўпарадкаванне старых закрытых могілак і пляцоўкі са скульптурнай кампазіцыяй Езуса Хрыстуса, так званай "Гары пакаяння". Усе разам людзі збіралі сродкі, выходзілі на суботнікі - хто як можа ўносіць сваю лепту. Вынік, хаця і не канчатковы, можна бачыць ужо сёння. Пляцоўка каля скульптуры абнавілася і стала прывабнай: пракладзены дарожкі, з бутавага каменю аднаўлена агарожа, уладкаваны бардзюры, пасажаны туі. Праведзены работы па ўладкаванні асвятлення. Зроблена вельмі шмат. Працавалі і жанчыны, і мужчыны, маладыя і пажылыя. Актыўную дапамогу тэхнікай аказвалі мясцовыя фермеры Валянцін Капачэль, Вадзім Кудла, прадпрымальнікі Вацлаў Вейкуць, Уладзімір Бічэль. На кожным суботніку працавалі дварышчанцы Марыя Смолка, Святлана Драб, Лілея Жукоўская, Адам Белан, Генрых Брэйва, Галіна Бічэль, Іван Ганевіч, Іосіф Фурман і іншыя.



**Віктар Кудла:**

*"Стогадовыя пабудовы фальварка вытрымалі ўздзеянне стыхіі, гады ваеннага ліхалецця, але ў апошнія два дзесяцігоддзі паддаліся безгаспадарнасці і чалавечай бяздушнасці... На дровы былі разабраны вялікае гумно, унікальны свіран, курная хата, завалены склеп, разваліўся дах былой карчмы, выдзіралі камяні са сцен былога крухмальнага завода… Вузкая паласа старадаўняй бруканкі на ўездзе ў гістарычную частку фальварк, была пакінута для нашчадкаў. Але чамусьці помнік дарожнага будаўніцтва закаталі…*

*Мы ветэраны, якія аддалі лепшыя маладыя гады Дварышчанскаму краю, што стаў нам Малой і Мілай радзімай, усе гэтыя гады ўздымалі пытанне аб варварстве да народнай уласнасці перад кіраўнікамі гаспадаркі і сельсавета, праз "Лідскую газету" і "Гродзенскую праўду", пісьмова звярталіся да кіраўніцтва раёна, да рэспубліканскіх дэпутатаў. Але ні: гу-гу - хто пайшоў на павышэнне, хто на "заслужаную пенсію"…*

*Няўжо, вось так, пры дапамозе сякеры, бульдозера і безадказных "руко-разводителей", якія звykліся беспакарана ўсё ламаць, будзе разбураны ўнікальны гістарычны комплекс у Дворышчы?*

*Неабыякавыя дварышчане спадзяюцца, што цяпер, у год народнага яднання, калі так шмат увагі кіраўніцтвам краіны надаецца захаванню народнай уласнасці і аказваецца падтрымка сельскаму турызму, гэтага ўсё ж не здарыцца, будуць прыняты адэкватныя меры. Лічым, што Дварышчанскі фальварак цалкам рэальна аднавіць і ператварыць у сядзібна-этнаграфічны турыстычны комплекс.*

*Мой святы абавязак - пастарацца зрабіць як магчыма больш, каб гісторыя засталася ў памяці нашчадкаў".*

**Віктар Юхно:**

*"Віктар Кудла актыўна займаецца краязнаўствам малой радзімы, рупліва збірае і захоўвае багацце гістарычнай спадчыны. Ён жа рыхтуе працяг летапісу краю, шукае экспанаты, запісвае ўспаміны старажылаў, каб стварыць музей рарытэтнай сельскагаспадарчай тэхнікі і сялянскага побыту. Аб'яднаў вакол сябе аднадумцаў, былых калег па працы. Разам яны распрацавалі маштабны план падрыхтоўкі да знакавай даты. Сярод яго пунктаў - добраўпарадкаванне пляцоўкі перад недабудаваным памяшканнем спартыўнага комплекса, высадка алеі і ўстаноўка валуна ў гонар 500-годдзя Дворышча, добраўпарадкаванне вуліц, тратуараў, газонаў, кансервацыя гістарычных аб'ектаў і многае іншае. Шкада, што ў сувязі з эпідэміялагічнай сітуацыяй ды абыякавасцю раённай і мясцовай улады ўсе намечаныя мерапрыемствы тармозяцца. Мажліва, юбілейная дата будзе святкавацца і ў наступныя гады. А пакуль ёсць час і надзея для выканання намечанага!"*

*Тэкст рыхтавалі:*
***Людміла Марцінкевіч,***
***Віктар Кудла.***

**Дварышчу - 500 гадоў**

***Валерый Сліўкін***

# Маёнтак Дварышча

## Частка 2. 1850-1870 гг.

У 1848-49 гг. Вандалін Пуслоўскі прадаў ГераНёны Самуэлю Ланеўскому Ваўку, Ліпнішкі - былому старшыні Навагрудскага межавага апеляцыйнага суда Аляксандру Антонавічу Вольскаму, а маёнтак Дварышча здаў А.А. Вольскаму ў арэнду. На той момант маёнтак Дварышча складалася з мызы Дварышча, фальваркаў Тракелі і Гураў, хутароў Уладзіславава і Божы Дар і 18 вёсак. Да 1855 г. маёнтак Дварышча лічыўся за Вандалінам Пуслоўскім, *"…са згоды Палаты перайшоў у валоданне абшарніка Вольскага па купчай крэпасці аформленай 3 лютага 1855 г з перанясеннем на Вольскага тых самых правоў і абавязкаў, якія ляжалі на Пуслоўскіх"* (3. Л.6 аб.), у тым ліку штогадовай выплаты ў скарб 5250 рублёў.

**Аляксандр Антонавіч Вольскі** (1800-1862?) герба Яліта гаспадарыў у Дварышчы 13 гадоў. Гэта былі не лепшыя для дварышчанскіх сялян гады. У 1859 г. Вольскі ліквідаваў вёску Дварышча з 15 двароў. Гаспадаркі Блажэя Барылы, Станіслава Драба, Марціна Кавальчука перасяліў на пусташы ў в. Пашунцы, гаспадаркі Юзафа Лайціса, Карла Сарэлы, Пятра Ясінскага, Яна Ендзы - у в. Гурыны, Якуба Гуселя, Сямёна Дзянкевіча - у в. Кабыльнікі, Мацвея Аўсейку - у в. Ёчавічы, Казіміра Часновіча - у в. Міргінцы. Вызваленыя прысядзібныя дзесяціны далучыў да дваровых палёў. На месцы вёскі ў 1860 г. пабудаваў капліцу Маці Божай Ружанцовай, падарыў у капліцу абраз у срэбным акладзе і неўзабаве памёр. Яго жонка Станіслава Вольская са Святаполк-Мірскіх (1810-1864) герба Бялыня пайшла ўслед за ім 7 траўня 1864 г.



***Яліта - герб Вольскіх***

Пасля смерці бацькоў абодва маёнткі Дварышча і Ліпнішкі перайшлі адстаўному паручніку Станіславу Аляксандравічу Вольскаму (1828-1906). Станіслаў Аляксандравіч па прычынах фінансавых цяжкасцяў, прадвызначаных "Всемилостивейшим дарованием крепостным людям прав состояния свободных сельских обывателей" у 1861 г., сялянскімі хваляваннямі ў маёнтку Ліпнішкі ў 1862 г., паўстаннем 1863г., грошы, належныя скарбу, не выплаціў, з 1 траўня 1863 г. на ім павісла нядоімка ў 5250 р.

*"Пра прымус яго да выплаты такой з боку Палаты было распараджэнне, але нядоімка заставалася нявыплачанай, таму Палата ў кастрычніку 1864 года паведаміла ў Губернскае Кіраванне пра ўзяцце маёнтка ў секвестр, з перадачай яго ўчастковаму службоўцу. Абшарнік Вольскі азначаную нядоімку на працягу палёгкавага тэрміну, які скончыўся 8 снежня 1865 г, не аплаціў, і прытым, па данясенні службоўца, сама гаспадарка ў маёнтку вялася Вольскім вельмі блага, хлеб на корані быў прададзены, з накладаннем секвестру не знойдзена ніякага збожжавага хлеба для пракармлення прыслугі і жывёлы, то Палата па журнале 31 снежня 1865 г., адбыўшымся, вызначыла … прыняць азначаны маёнтак у скарб, пра што данеслі Другому Дэпартаменту 10 студзеня 1866 г., які прадпісаннем ад 11 лютага даў знаць, што Палата на падставе прыведзенага вышэй закона мае права сама канфіскаваць паезуіцкія маёнткі за пратэрмінаваны плацёж налічаных з іх прцэнтаў. Таму Палата Дзяржаўных маёмасцяў прадпісала ўчастковаму службоўцу Петухову прыняць маёнтак у скарбовае ведамства"* (3. Лл. 7 аб - 8 аб).

### Надзяленне зямлёй сялянскіх гаспадарак маёнтка

У 1861 г. сяляне Расійскай імперыі былі вызвалены ад шарваркаў, вартаўніцтва, начной варты і натуральных падаткаў, за сялянскімі гаспадаркамі замацавалі навечна зямельныя надзелы, …але надзелы падлягалі абавязковаму выкупу ў растэрміноўку, на працягу 49 гадоў. Кошт зямлі, падлеглай выкупу, вызначаўся так, што быццам бы часова-абавязаныя сяляне ўзялі яе ў крэдыт і павінны былі адплачваць штогадовымі плацяжамі. Поўны кошт выкупу складаў да 30 рублёў за дзесяціну. Захоўваліся адпрацоўчыя павіннасці ў выглядзе паншчыны, згонаў і падарожчыны.

Студзеньскае паўстанне 1863 г. у Паўночна-заходнім краі падштурхнула Аляксандра II да больш энергічных мер. 1 сакавіка ён падпісаў Высачайшы Указ "Пра меры па палягчэнні і паскарэнні спынення абавязковых адносін паміж абшарнікамі і паселенымі на іх землях часова-абавязанымі сялянамі, пасродкам выкупу гэтымі апошнімі земляў іх надзелу з садзейнічаннем Урада, па губернях Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай і Менскай…" (Высочайший Указ "О мерах по облегчению и ускорению прекращения обязатель-

ных отношений между помещиками и поселенными на их землях временно-обязанными крестьянами, посредством выкупа сими последними земель их надела с содействием Правительства, по губерниям Виленской, Гродненской, Ковенской и Минской…").

Сяляне Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай і Менскай губерняў былі прызнаны ўласнікамі надзельных земляў: *"Усе абавязковыя пазямельныя адносіны паміж абшарнікамі і паселенымі на іх землях часова-абавязанымі сялянамі спыняюцца з 1 траўня гэтага 1863 г. З таго ж 1 траўня часова-абавязаныя сяляне… прылічаюцца да разраду сялян уласнікаў…, але надалей да складання выкупных актаў і вызначэння выкупных плацяжоў, яны абавязаны за землі, якія ўывахо-дзяць у іх надзелы несці грашовую павіннасць… Усе часова-абавязаныя сяляне, што знаходзяцца цяпер на тыднёвай павіннасці (паншчыне) пераводзяцца з 1 траўня гэтага года на павіннасць грашовую (чынш)… грашовыя плацяжы ўносяцца сялянамі наўпрост у Павятовыя Казначэйствы…"* (4. С.196-197).

Сяляне атрымалі права карыстацца пашамі. Сума чыншу была зніжана на 20% у параўнанні са статутнымі граматамі. У сярэдзіне траўня генерал-губернатар М.Н. Мураўёў у адмысловым цыркуляры растлумачыў сялянам: *"Вы не абавязаны ўжо вашым ранейшым абшарнікам ніякімі павіннасцямі; вы зусім вольныя ад іх залежнасці і калі яшчэ зараз некаторыя абшарнікі польскага паходжання, карыстаючыся сучаснымі смутамі ў краі, прымушаюць вас адбываць паншчыну і абкладаюць на сваю карысць павіннасцямі, то гэта ёсць злоўжыванне, для спынення якога будуць прыняты строгія і хуткія меры"* (5. С.23).

Указ ад 1 сакавіка 1863 г. і актыўныя дзеянні М.Н. Мураўёва знішчылі Студзеньскае паўстанне.

У лістападзе 1863 г. былі створаны павятовыя праверачныя камісіі, якія пачалі складаць выкупныя акты. У 1864 г. былі створаны сельскія грамады. 1 лютага 1865 г. сялянскія гаспадаркі Дварышчанскай і Тракельскай сельскіх грамадаў сталі ўласнікамі зямлі і перайшлі на выкупныя плацяжы. Канчатковы тэрмін пагашэння выкупной пазыкі быў аднесены да 1 лютага 1914 г.

У Дварышчанскай сельскай грамадзе зямельныя ўчасткі атрымалі 68 гаспадарак:

**В. Бянейкі.** Іосіф Балін - 58 гадоў, Матэвуш Барыла - 53, Іван Вяршыла - 48 гадоў, Андрэй Лыскаўка - 41, Сцяпан Некраш - 21, Мацвей Стасюкевіч - 44, Казімір Яскель - 48, Мацвей Яскель - 68, Юры Яскель - 57. Кожная гаспадарка атрымала па 20 дзесяцін 140 кв. сажняў, штогадовая плата 16 р. 4 кап. У сукупнасці атрымалі 180 дзесяцін 1260 кв. сажняў зямлі.

**В. Гурыны.** Іосіф Вяршыла - 41, Іван Ендза - 68, Варвара Заложына, Іосіф Лайціс - 43, Мацвей Лукашэвіч, Пётр Лук'ян - 63, Андрэй Маліца (?), Іосіф Пашнік, Карл Сарэла - 56, Казімір Томшыс, Пётр Ясінскі - 38. 6 гаспадарак Ендзы, Лукашэвіча, Лук'яна, Пашніка,Томшыса і Ясінскага атрымалі па 17 дзесяцін 246 кв. сажняў, са штогадовай платай 12 р. 31 кап., астатнія атрымалі па 3 дзесяціны са штогадовай платай па 2 р. 16 кап. Агульны надзел 117 дзесяцін 476 кв. сажняў.

**В. Кабыльнікі.** Іосіф Барыла - 48, Мацвей Бычынскі - 68, Іван Бычынскі - 48, Юры Вайтовіч - 48, Якаў Гусель, Іван Дзянкевіч, Франц Дудзіс, Іосіф Жук - 48, Лаўрын Залога - 73, Міхаіл Залога, Мацвей Казак - 43, Сямён Лыскаўка - 48, Іван Стасюкевіч - 36, Юры Яскель. Кожная гаспадарка атрымала па 20 дзесяцін 1357 кв. сажняў, штогадовая плата 16 р. 23 кап.

**В. Ёчавічы.** Іван Матулевіч - 48, Франц Некраш - 64, Мацвей Аўсейка - 43, Тамаш Пакшыс. Гаспадаркі атрымалі па 17 дзесяцін 1211 кв. сажняў, штогадовая плата 12 р. 91 кап.

**В. Міргінцы.** Станіслаў Бабнік - 26, Іосіф Грышкевіч - 48, Міхаіл Драб - 38, Іван Кароль - 37, Франц Кароль - 58, Аляксандр Кібіш - 23, Іван Аўсейка

***Фрагмент карты 1865 г.***

- 43, Іосіф Пакшыс, Дамінік Улас - 48, Мацвей Улас - 31, Міхаіл Улас - 38, Казімір Часновіч - 48. Кожная гаспадарка атрымала па 13 дзесяцін 230 кв. сажняў, штогадовая плата 10 р. 31 кап.

**В. Пашунцы.** Блажэй Барыла - 48, Адам Буй - 31, Станіслаў Драб - 40, Іван Казак - 53, Марцін Кавальчук - 70, Адам Лукаш, Рыгор Лукашэвіч - 26, Мацвей Лук'ян - 48, Мацвей Улас - 20, Тамаш Якімовіч. Кожная гаспадарка атрымала па 20 дзесяцін 2290 кв. сажняў, штогадовая плата 14 р. 41 кап.

**В. Суцькі.** Іван Вяршыла, Мацвей Майсей - 58, Пётр Некраш, Тамаш (?) Томшыс - 48. Кожная гаспадарка атрымала па 17 дзесяцін 2310 кв. сажняў, штогадовая плата 11 р. 58 кап.

**В. Юрэвічы.** Міхаіл Бей - 32, Сямён Дзяркач - 49, Адам Драб - 78, Іван Жыдзіс - 48. Атрымалі па 17 дзесяцін 1155 кв. сажняў. Штогадовая плата 13 р. 84 кап.

Агульная плошча атрыманай сялянамі зямлі - 1130 дзесяцін 718 кв. сажняў (1. Л. 23-24 аб).

У Тракельскай сельскай грамадзе зямельныя ўчасткі атрымалі 69 гаспадарак:

**В. Граблі.** Павел Грабліс - 68, Іосіф Грабліс - 66, Сямён Ендза - 63, Франц Собаль - 23. Кожная гаспадарка атрымала па 17 дзесяцін 1373 кв. сажняў, штогадовая плата 10 р. 71 кап.

**В. Вайтовічы.** Станіслаў Аляксеевіч - 65, Матэвуш Бурак - 67, Матэвуш Вейкуць - 41, Адам Драб - 40, Матэвуш Драб, Матэвуш 2-гі Драб, Матэвуш Радзевіч - 75, Якаў Радзевіч - 87. Кожная гаспадарка атрымала па 16 дзесяцін 846 кв. сажняў, штогадовая плата 12 р. 5 кап.

**В. Дайнава.** Іосіф Барташэвіч - 53, Міхаіл Грабліс - 67, Венедыкт Жук - 32, Карл Жыдзіс - 67, Войцах Курман - 53, Матэвуш Курман, Карл Мушынскі - 58, Іосіф Нос - 72, Франц Пілінка - 78, Ігнат Сарэла - 46. Кожная гаспадарка атрымала па 20 дзесяцін 43 кв. сажні, штогадовая плата 11 р. 32 кап.

**В. Мігуны.** Іосіф Більдзь - 63, Мацвей Більдзь - 77, Юры Бурак, Іван Вейкуць - 58, Станіслаў Дзвонік (Звонік) - 48, Аляксандр Ендза - 55, Антон Ендза - 38, Вікенцій Ендза, Казімір Ендза, Юры Курман - 63, Андрэй Лукаш - 45, Мікалай Лукаш - 53, Антон Нос - 28, Карл Шарэла, Антон Тарэнць, Блажэй Шляхта атрымалі па 17 дзесяцін 747 кв. сажняў, плата 13 р. 84 кап. Антон, Іосіф - 63 і Блажэй Лукашы атрымалі па 3 дзесяціны, са штогадовай платай 2 р. 16 кап.

**В. Папашаны.** Якаў Буй - 63, Марцін Бурак - 67, Марцін Вяршыла - 66. Атрымалі самыя вялікія ўчасткі - па 25 дзесяцін 398 кв. сажняў. Штогадовая плата 19 р. 32 кап.

**В. Шнуровічы.** Іван Вейкуць - 38, Іван Дзвонік, Франц Жыдзіс - 77, Якаў Жыдзіс - 41. Атрымалі па 16 дзесяцін 1006 кв. сажняў, штогадовая плата 10 р. 69 кап.

**В. Эйтуны.** Матэвуш Вейкуць - 53, Карл Вайтовіч - 58, Антон Жук - 48, Іван Жук - 49, Міхаіл Жук, Іосіф Кайлевіч - 76, Станіслаў Кайлевіч - 65, Тамаш Кайлевіч - 78, Карл Кузюк - 78, Мацвей Курман - 56, Міхаіл Курман - 45, Пётр Мікавоз - 44, Тамаш Мікавоз - 36, Карл Сарэла - 48, Мацвей Сарэла - 68, Сільвестр Сарэла, Франц Сарэла - 66, Адам Стасюковіч - 50, Казімір Трайгіс - 38, Казімір Шмайла - 58, Міхась Юхневіч - 27 атрымалі па 17 дзесяцін 696 кв. саж. Штогадовая плата 12 р. 96 кап.

Агульная плошча зямлі, атрыманай сялянамі Тракельскай грамады - 1177 десяцін 1317 кв. сажняў (1. Л.24 аб 26).

Усяго з маёнтка Дворышча сялянам было перададзена 2307 дзесяцін 2035 кв. сажняў зямлі (2515 гектараў). Пашы былі ўключаны ў агульную плошчу выкуплянай зямлі. Сярэдні штогадовы гадавы выкупны плацёж за адну дзесяціну ўдобнай зямлі складаў 74 кап.




***Фрагмент карты 1856 г.***

Астатняя частка казённага маёнтка Дворышча была аддадзена ў арэнду нейкаму Стосу за 1980 рублёў. Ранейшы землеўладальнік Станіслаў Вольскі праз свайго прысяжнага паверанага 22 лістапада 1866 г. звярнуўся ў Сенат з прашэннем на няправільнасць адабрання маёнтка. Віленская Палата дзяржаўных маёмасцяў 27 снежня выказала Міністэрству акалічнасці, па якіх было прынята рашэнне. Міністэрскія службоўцы адправілі справу ў Сенат, а маёнтак вырашылі здаць у арэнду. 15 сакавіка 1867 г. у Лідскім паліцэйскім кіраванні былі праведзены гандалі на арэнду, маёнтак быў прыгандлёваны губернскім сакратаром Віктарам Міхайлавічам Петуховым за 3200 рублёў гадавой арэнднай платы. Праз год, 8 траўня 1868 г. арэнднае ўтрыманне В.М. Петухову было падоўжана за 4300 рублёў срэбрам.

Мукамольны млын з валюшняю і крупадзёркаю В.М. Петухоў аддаў у субарэнду селяніну Ліпнішскай воласці Вікенцію Жылевічу і аднадворцу Лідскаай аднадворскай грамады Станіславу Струкоўскаму за 400 рублёў у год, *"з якіх 100 руб арандатары ўносяць пры заключэнні кантракту, 150 руб - да 1 красавіка, а астатнія 150 руб - да 1 верасня. Арандатары павінны старанна глядзець за захаванасцю млына і камянёў і па заканчэнні тэрміну арэнды здаць усё ў парадку. Калі разбурэнне млына адбудзецца ад іх недагляду і няўвагі, то абавязаны выпраўляць сваім коштам, ... у пазбяганне гэтага яны павінны штодня раніцай і ўвечар падрабязна аглядаць і пры самым малым пашкоджанні даносіць мне.... Папраўка ўнутранага механізма млына, будынка, папраўка камянёў, устаноўка новых камянёў і іншае - усё гэта ляжыць у абавязках арандатараў. Памол хлебу, пытляванне, таксама памол ардынарны для маёй эканамічнай прыслугі і працоўных павінны рабіць безграшова, беспярашкодна, а ардынар парабкаў па нядзелях"*.

Петухоў абавязаўся прадставіць арандатарам *"памяшканне для жылля, дровы на апал і лес на папраўку з іх вывазкаю, хлеў для жывёлы, гарод, морг раллі пад бульбу, сенажаць за ракой, дзе ўродзіць, а таксама дазвол даваць, што трэба да млына з жалеза ў маёй кузні, але толькі са свайго жалеза і сваімі вуглямі. Дазваляецца мець пры маіх пастухах дзвюх кароў і каня, за што павінны адпрацаваць пры праполцы маіх гародаў. За ўсякую патраву, зробленую іх жывёлай, свіннямі ці птушкамі, павінны выплачваць штраф беспярашкодна, пры незахаванні чаго-небудзь з гэтага кантракту, такі разрываецца без усякіх да мяне прэтэнзій, выдаткі і страты не вяртаюцца. Кантракт гэты з абодвух бакоў выконваць свята і непарушна"* (3. Л. 28).

Корчмы Дварышчаўскую, Тракельскую і Крупеніцу, а таксама піваварны бровар Петухоў перадаў у арэнду габрэю Лейбу Сейзіну з м. Дзевянішкі з 23 красавіка 1869 г. па 23 красавіка 1870 г. за 330 руб., з якіх атрымаў у задатак 50 р., а астатнія павінен быў атрымліваць па частках - 100 р. да 1 студзеня 1869 г., а астатнія штомесяц па 30 руб. з 1 красавіка да 1 кастрычніка. Петухоў у сваю чаргу павінен быў даць Л. Сейзіну: *"у Дворышчы 0,5 дзесяціны гароду і 2 моргі для пакосу; у Крупеніцы - гарод, які ёсць пры карчме; да Тракельскай карчмы - 1 морг поля і на сенакос дзве кудры ва ўрочышчы Сквернях. Дровы на апал з самавывазам"*. Патэнты на корчмы і піўзавод Л. Сейзін павінен браць за свой кошт, а таксама аплачваць усе мыты. *"За ўсякае адступленне ад закона і за ўсе няспраўнасці арандатар адказвае сваёй маёмасцю, без усякіх прэтэнзій. Гэтак жа за парушэнне гэтых умоў і захаванасць піваварнага посуду, адказвае перада мною, за парушэнні я магу яго выдаліць ад арэнды, і ён за гэта не павінен мець ніякай прэтэнзіі"* (3. Лл. 29-29 а).

16 чэрвеня 1868 г. Урадавы Сенат канчаткова адмовіў С. Вольскаму ў вяртанні маёнтка Дворышча (3.Л.22). 7 траўня 1869 г. начальнік здымачнага аддзялення казённых земляў Віленскай губерні Якаў Андрэевіч Андрэеў даручыў вытворцу люстрацыйных работ Васілю Мікалаевічу Захараву, тапографам М.Г. Карпаву і А.М. Нікіціну, старэйшаму межавіку Е.І. Шышкіну, межавіку М.А. Ялфімаву *"з атрыманнем падарожнай і адкрытага ліста неадкладна адправіцца на месца правядзення работ і ўтварыць два продажныя ўчасткі з казённага маёнтка Дворышча"*. Адзначыў пры гэтым, што *"на ўтварэнне ўчасткаў звернута адмысловая ўвага Спадара Міністра Дзяржаўных маёмасцяў"* (1. Л.1-1а).

З 27 траўня па 2 ліпеня 1869 г. былі апісаны і ацэнены 87 будынкаў, мэбля, броварны і піваварны посуд, кавальскія прылады, сродкі перамяшчэння і перавозкі, конская вупраж і жывёла ў фальварках Дворышча і Тракелі, у хутарах Уладзіслававa, Гураў, Божы Дар і ў розных пустэчах і ўрочышчах былога паезуіцкага, вернутага ў скарб, маёнтка Дворышча. На мясцовасці былі ўсталяваны межавыя слупы, на планах зафіксаваны межы.

**Маёнтак Дворышча ў 1869 годзе**
(1. Лл. 76-93)

Усе драўляныя пабудовы маёнтка былі пастаўлены з хваёвага дрэва. Памеры будынкаў і збудаванняў дадзены ў сажнях, сажань = 213,36 см. Вага - у фунтах і пудах, 1 фунт=0,453592 кг, 1 пуд =16,3807 кг.

Фальварак Дворышча быў шчыльна забудаваны шматлікімі жылымі хатамі і гаспадарчымі пабудовамі. Фрагмент карты 1865 г. не дае яснага ўяўлення пра характар размяшчэння пабудоў, відаць толькі, што ўсе яны размяшчаліся на правабярэжжы Жыжмы.

Панскі жылы дом (25.5х6.5 саж) з часанага хваёвага дрэва, трывалы, знадворку абабіты дошкамі, на мураваным фундаменце, пакрыты дранкай (гонтай), дах выфарбаваны цёмна-чырвонай фарбай. *"Дом падзяляецца на тры флігелі, сярэдні чатырохпавярховы, два крайнія - двухпавярховыя з 4 ганкамі, з іх два зашклёныя. У доме - некалькі калідораў, 30 пакояў, 8 камор, 49 вокнаў, 28 печаў і камінаў, 49 дзвярэй. У пакоях, выключаючы пакоі ніжняга паверха, падлога фарбаваная, сцены абтынкованы і выбелены; дзверы*

*двухстворкавыя на жалезных завесах і круках з унутранымі замкамі, у вокнах - рамы венецыянскія падвойныя; печы з кафлі герметычныя з чыгуннымі дзверцамі. У ніжнім паверсе ўладкаванне простае, вокны невялікія з кратамі. Маецца кухня, у ёй студня з меднаю помпаю ці трубою з кранамі, якая праходзіць у пральню, у ёй уладкована печка з цэглы, у яе змешчаны медны кацёл ці апарат для награвання вады для мыцця бялізны. Па абодва бакі хаты - дзве мураваныя вежы, паўднёвая чатырохпавярховая з усходамі ўсярэдзіне, у ёй - 4 пакоі абтынкованыя, без падлог, 24 акны, 4 печы, 4 дзвярэй. Паўночная вежа трохпавярховая, у ёй усходы, 7 вокнаў з трох бакоў. Наверсе вежаў галярэі, сцены іх выфарбаваны знадворку жоўтаю фарбай. Абнесены кратамі, падлога пакрыта бляхай, з бляшанымі трубамі для сцёку вады, выфарбавана фарбай цёмна-чырвонага колеру. Пад паўночнай вежай уладкаваны ляднік".*



***Паўднёвая вежа панскага жылога дома. Здымак 2016 г.***



***Рэшткі мураванага фундамента***

Хатняя мэбля галоўным чынам з хвоі: бюро, 13 сталоў рознай велічыні, стол круглы з бярозы паліраваны, 7 столікаў фарбаваных, 9 крэслаў з бярозы, пафарбаваных, 24 крэслы з пляцёнкамі, лава (софка); 3 лаўкі, 2 шафы, шафа маленькая, люстэрка невялікае ў драўлянай рамцы, крэсла (фатэль) паліраванае на спружынах з зялёным паўаксамітам, канапа паліраваная на спружынах, пакрытая зялёным паўаксамітам, 12 ложкаў, 5 пафарбаваных, адно паліраванае.

Посуд у кухні: медны дуршляк (друшляк) вагой 2,5 фунта, рондаль медны вагой 5 фунтаў, 2 рондалі медныя вагой 8 ф., такі ж вагой 7,5 ф. стары, такі ж з адламанай ручкай вагой 2,25 ф. стары, саган медны вагой 7 ф. стары, медная лыжка з жалезнай ручкай вагой 2 ф., лыжка друшляковая з жалезнай ручкай вагой 1 ф., саган чыгунны, саган медны вагой 8 ф., 4 чыгунныя саганы, адзін з іх трохі пабіты, кацёл медны, стары вагой у 21,5 ф., ванна медная вагой у 1 пуд 34 ф., самавар жоўтай медзі вагой 8,5 ф., ступка з мялам з жоўтай медзі вагой 6,5 ф., старая, 3 кадушкі невялікія, з іх дзве дубовыя, скрыні - 6 шт, 5 кадушак для абсыпкі, ванна старая для мукі, 2 цэбры, шафа драўляная невялікая, у выглядзе камоды з 6 скрынямі, скрыня з перагародкамі ці скрынкамі для ссыпкі, дзве балеі вялікія і дзве меншыя, адна з іх акавана жалезнымі абручамі, кадушка невялікая дубовая, даёнак для малака - 3 шт, дзежка, кадушка на 3-х ножках прос-

тая, кацёл для бялізны з дубу, стары, 5 сталоў, 2 лавы, 3 ложкі. Усе драўляныя вырабы, акрамя кадушак, зроблены з хвоі.

Панскі дом з вежамі мэбляй і посудам ацэнены ў 2000 р.

Паблізу два эканамічныя дамы (15х4,5 і 5,5х3,5), дзве хаты для работнікаў (8х2,5 і 8х3), хлебная адрына (39,25х7,5) з невялікім свіранам, шопа (6х5 м) для малатарні, свіран (10,5х4.5) са склепам, тры хлявы (32,5х5,32,5х5, 11х5), хлеў для свінняў (5,5х2,5), хлеў для свінняў і птушак (11,5х3.5), хлеў для авечак (20х3,5), стайня (16х3,5), вышкі (27х7,5), да вышак прыбудавана шопа для сячкарні, вяндлярня (2х2), двухпавярховы склад (3х3) для малочных харчовых прадуктаў, ляднік (4,5х4), кузня (3х3). Дзейсны піваварны бровар (11,5х5.5) з саладоўняй, каморы для захоўвання піва. Піваварны посуд: кацёл медны ўмазаны ў цагляную печ; чан для затору драўляны акаваны; чан для мыцця бочак акаваны; кільшток з дошак на жалезных шрубах; студня з драўлянай помпай; чан для спускання піва з кільштока, два драўляныя карыты; чан для рашчэння соладу, печ цагляная для сушэння соладу. Бровар вінакурны без дзеяння (10х6) мураваны, 2-ух павярховы з памяшканнем для рашчэння соладу, чапарняй, заторнай, складам прадуктаў для вінакурэння, памяшканнем вінакура. Да бровара прыбудаваны мураваны хлеў (14х5,5) для валоў. Усе гаспадарчыя і жылыя пабудовы драўляныя, на мураваных фундаментах, крытыя саломай, радзей дранкай.

Хлебная адрына (39,25х7,5) з дрэва, на мураваным фундаменце, крытая саломай, з 6 варотамі двухстворкавымі на бегунах. Тутака ж невялікі свіран, у якім падлога з гліны, столь з дошак, 1 дзверы. Трывалы, дах стары, ацэнены ў 110 р.

На паўднёвым баку моста цераз Жыжму мукамольны вадзяны млын (5.5х3,5) з двума вонкавымі вадзянымі коламі, над імі сторня. Тутака ж валюшня з трох ступак. Да млына прыбудаваны свіран (3х2), крыты дранкай. На процілеглым паўночным баку моста крупадзёрка (4.5х3.5), крытая дранкаю, з адным колам. Перад мостам жылая хата мельніка (8х3), крытая саломай, цяпер карчма. Усе будынкі драўляныя.

На блізкай адлегласці ад панскага будынка - пяць жылых хат для работнікаў: драўляная хата (9,5х4) і чатыры цагляныя (7х5). Тутака ж былая мураваная карчма (12,5х5,5), пры ёй хлеў і студня; ляднік (3х2,5), разбураны і былая кузня (2,5х2,5).

У **в. Дворышча** сем жылых драўляных хат з сенцамі, каморы і хатай, або пакоем з глінянымі падлогамі, дашчанымі столямі, пакрытыя саломай, усе вельмі трухлявыя. Пры гэтых хатах - невялікая студня. Свіран драўляны з 16 засекамі (7,5х3,5), запоўненымі збожжам Дворышчаўскай сельскай грамады. Капліца драўляная круглая, абабітая і пакрытая дошкамі, у ёй - касцельныя рэчы і званы, якія належаць вернікам. Пры капліцы - драўляная званіца (2х2), крытая дошкамі.

На **хутары Уладзіслававa** (на карце ф. Радзіслава) - людская хата (9,5х3,5); хлебная адрына са свіранам і камора (22х9,5), два аўчарнікі (16х4,5 і 21,5х4,5) і студня глыбінёй у 2 саж.

У **в. Дашкелі** на 5 пустэчах - пяць жылых хат (4х3, 6х2,5, 8,5х2,5, 7,5х2,5, 6х2,5) самая вялікая з сенцамі, каморамі, пакоем, 2 печкамі з гліны, 3 дзвярамі і 5 вокнамі; 6 хлебных адрын (7х4, 7,5х2,5, 7,5х6, 6,5х3,5, 5х4, 6х4); тры свіраны (2,5х1,5, 2х2, 1,5х1,5), 2 хлявы (4,5х3,5, 10х1,5), два хляўчукі для свінняў. Усе будынкі драўляныя, старыя, трухлявыя і зусім трухлявыя.

У **в. Кабыльнікі** - жылая хата (7,5х2,5), хлебная адрына, у якой змяшчаецца жывёла, былая карчма (6х2,5) займаная лесніком, сцены былой кузні (2х2). Будынкі драўляныя, зусім трухлявыя.

У **в. Ёчавічы** - жылая хата (5,5х2,5) для лесніка, зусім трухлявая.

У **в. Міргінцы** (на карце Мершицы) на зямлі сялян уласнікаў - былая карчма (5,5х2), трухлявая.

У **в. Пашунцы** на трох пустэчах - тры жылыя хаты (6,5х2,5, 7,5х2,5, 7х3), тры хлебныя адрыны (8,5х5,5, 7,5х5,5, 6,5х5,5), хлеў (5,5х3,5). Усе пабудовы драўляныя, крытыя саломай, старыя, хлеў зусім трухлявы.

У **в. Эйтуны** на трох пустэчах - тры жылыя хаты (6х2,4х2.5,7х3), тры хлебныя адрыны (8х4,5, 9,5х5, 8х5), свіран (1,5х1), тры



*Хлебная адрына ў Дворышчы, здымак 1990-х гадоў са збораў В.І. Кудлы*

вялікія хлявы, хлеў. Усе пабудовы старыя і трухлявыя.

Ва **ўрочышчы Гурын** - рэшткі разбуранай цагельні.

Агульны кошт будынкаў па фальварку Дворышча вызначаны ў 3125 руб. 30 кап. Кошт чыншавых артыкулаў: млын, валюшня, крупадзёрка, бровар, 2 карчмы - 2300 р. Увесь кошт участка Дворышча з зямлёй і будынкамі вызначаны ў 35 222 р.

У **фальварку Тракелі** (на карце 1856 г. ф. Трокеле) - жылая эканамічная драўляная хата (7,5х3,5), на дзве паловы з сенцамі, 3 пакоямі, 2 каморамі і кухняй, 2 печамі шведскімі, з кафлі, печчу ангельскай і простай печчу, 6 вокнамі, 6 дзвярамі. Падлога і столь з дошак, у каморах і кухні падлогі з цэглы. Людская хата (7,5х4), у ёй шата і паабапал па 2 пакоі і камора, 2 печы з цэглы, 9 вокнаў, 7 дзвярэй, падлога з гліны, столь з дошак, сенцы без столі. 5 цагляных жылых хат, крытых гонтай, з 2 сенцамі, 4 каморамі, 4 пакоямі, 8 дзвярамі, 8 вокнамі, 2 печамі, старыя, адна разбураная. Два драўляныя свіраны (7,5х3,5, 3х2,5) на мураваным фундаменце, большы - са склепам, у ім захоўвалася віно, меншы - двухпавярховы. Дзве хлебныя адрыны (37х8 і 37х8), адна з гліны, змяшанай з верасам, другая драўляная на мураваным фундаменце і мураваных слупах. Пры глінянай адрыне - невялікая шопа для прускай малатарні. Два хлявы (23х4,5 і 25х5,5) з дрэва, на мураваным фундаменце. У канцы другой адрыны невялікая стайня. Каля хлявоў - студня глыбінёй 6 сажняў з вядром. Два леднікі (5,5х3, 4,5х3,5) каменны і драўляны. Бровар нядзейны драўляны 2-ух павярховы (11х5) з заторнай, складам прадуктаў і прылад. Посуд: броварная машына паравая, бражны куб, апарат медны са змеявіком і халадзільнікам, 4 квасільныя чаны, чан заторны, чан для дражджэй, чан для абварвання бульбы, запасныя драўляныя кадушкі, студня з помпай драўлянай, кільшток вялікі, млын для расцірання бульбы, у склепе 21 бочка для віна, вядро меднае на 13 літраў, гарнец медны, помпа медная, лімер (?) бляшаны, палівачка медная, балея драўляная, палівачка драўляная, цэбар драўляны. Пры бровары валоўня (11х5). На касцельнай зямлі карчма з адрынай. Усе драўляныя пабудовы маюць саламяныя сірэхі, цагляныя хаты крыты гонтай.

За вярсту ад фальварка - закінутая цагельня. Пры заводзе - хата, якая руйнуецца, і дзве шопы, адна з іх абвалілася.

На **хутары Гураў** (на карце ф. Гураво) - жылая эканамічная хата цагляная (6,5х5) на мураваным падмурку, крытая гонтай, усярэдзіне абтынкованая, у ёй - 2 сенцаў, 4 каморы, 8 дзвярэй, 8 вокнаў, 2 печы цагляныя з комінамі, столь з дошак, падлога з цэглы і гліны. Людская драўляная хата (8,5х4) зусім трухлявая, разбураная; свіран драўляны, 2-павярховы з ганкам (6,5х4), стары; ляднік мураваны (4х2,5), трухлявы; хлеў (24,5х6) на мураваным фундаменце; малатарня. Хата, свіран, адрыны - з дрэва, крытыя саломай. Увосень 1868 г. згарэлі аўчарнік (28,5х6) і хлебная адрына (24х8,5).

На **хутары Божы Дар** людская хата (7х4) старая, з сенцамі, каморамі, 4 пакоямі, 6 дзвярамі, 10 вокнамі, 2 печамі з комінам, падлога з гліны, столі дашчаныя; хлебная адрына (22,5х7,5) трывалая, на мураваным фундаменце; два хлявы (15,5х3,5 і 6х2) адзін з іх трывалы, у другога дах разбураны, зусім трухлявы. Пры адрыне - невялікі хлеў для свінняў. Усе пабудовы драўляныя, крытыя саломай.

На **хутары Ендзы** - хата (6,5х2,5), разбураная, хлебная адрына (8,5х4.5) і хлеў (8х3), зусім трухлявыя.

На пустэчах: каля **в. Дайноў** (на карце Дайнова) - жылая хата (9,5х3), зусім трухлявая, пры хаце пад адным дахам - хлеў; хлебная адрына (7,5 х4,5), разбураная; былая карчма (3х3,5), старая.

У **в. Папашаны** - жылая хата (8х2,5), у ёй - шата, камора і пакой, 3 дзвярэй, печ, 6 вокнаў, падлога з гліны, столь з дошак, старая; з ёй пад адным дахам хлеў; свіран (1,5х1,5) з 2 засекамі, столь драўляная, трухлявая; хлебная адрына ці гумно (7х4,5) трухлявая.

У **в. Мігуны** - 3 жылыя хаты (6х2,3), зусім трухлявая, старая і разбураная, старая з сенцамі, каморамі, пакоем, 3 дзвярамі, 5 вокнамі, падлога з гліны, столь з дошак; 3 гумны, 2 старыя (9х4,5, 6,5х5) і адно зусім разбуранае; 3 хлявы (3х2), зусім трухлявыя; свіран (2х2), зусім трухлявы; пры хатах - 2 невялікія хлявы для свіней і дробнай жывёлы, зусім трухлявыя.

Ва **ўрочышчы Пальме** - вышкі на драўляных калах без даху, разбураныя.

Ва **ўрочышчы Марвіне** (?) - хата, хлеў і хлебная адрына, зусім разбураныя.

Ва **ўрочышчы Солы** - вышкі (5х4,5), трухлявыя.

Ва **ўрочышча Макулінцы** - былая карчма, старая.

Усе пабудовы на пустэчах і ва ўрочышчах драўляныя, без фундаментаў, крытыя саломай (3. л.91-93).

Наяўныя будынкі ў фальварку Тракелі, на хутарах Гураў, Божы Дар і Ендзы, на розных пустэчах і ўрочышчах ацэнены ў 1536 рублёў 55 капеек (1. Л. 93 аб).

Пры вопісе будынкаў і ацэнцы маёмасці маёнтка Дворышча ацэншчыкамі былі сяляне Жырмунскай воласці: Сцяпан Грабліс, Дамінік Улас, Міхась Пакшыс, Сямён Болудзь, Міхась Пашкаўскі, Адам Жамайтук, Юры Карповіч, Восіп Гусць, Якаў Місак, Адам Урбановіч, Андрэй Комінч і Мацвей Комінч. Замест іх непісьменных распісаўся тысяцкі К. Высоцкі. Валасны старшына К. Коўкель. Пячаткі прыклалі: Міхась Вайтукевіч, Марцін Банцэвіч, Вікенцій Івашка, Вікенцій Ендза.

Апісанне і ацэнка 1869 г. паказалі маёнтак Дворышча зусім запушчаным. Бровары не дзейнічалі, корчмы выкарыстоўваліся пад адрыны і жылыя хаты, кузні закінутыя, будынкі трухлявыя і зусім трухлявыя. Толькі 18 пабудоў з 87 прызнаны трывалымі і ацэнены больш за 30 рублёў.

**У Дворышчы:** панскі дом -2000 р., хлебная адрына са свіранам -110 р., свіран - 83 р., вышкі - 50 р., жылая хата для работнікаў - 40р., млын - 50 р. і капліца.

На **хутары Уладзіслававa** - хлебная адрына са свіранам і каморамі - 120 р., аўчарнік - 60 р.

У **Тракелях** - жылая эканамічная хата -50 р., дзве хлебныя адрыны - 200 р. і 80 р., два хлявы - 90 р. і 80 р., валоўня пры бровары - 75 р.

У **Гураве** - жылая эканамічная хата - 35 р. і хлеў - 50 р.

У **ф. Божы Дар** - хлебная адрына - 100 р.

Капліца пабудавана ў 1860 г. А.А. Вольскім, тракельскія пабудовы таксама пры ім збудаваны, астатнія трывалыя будынкі пабудаваны Пуслоўскімі. Ні Пуслоўскія, ні Вольскія, ні тым больш арандатар Петухоў не лічылі патрэбным укладваць сродкі ў нерухомасць, імкнуліся пабольш узяць. Наяўнасць пустэч і разбураныя хаты дазваляюць думаць, што Пуслоўскія перасялялі сялян у іншыя маёнткі, у першую чаргу ў Альберцінаў, дзе патрэбныя былі працоўныя рукі. А.А. Вольскі наогул рассяліў в. Дварышча, Дашкелі і Скворні, магчыма, перасяліў частку сялян у свой другі маёнтак Ліпнішкі.

4 кастрычніка вытворца люстрацыйных работ В. Захараў прадставіў у Люстрацыйную камісію планы, два праекты вопісаў і ацэнак з рознымі да іх дадаткамі і дзвюма табліцамі вылічэння добраў. 13 кастрычніка начальнік Віленскай Люстрацыйнай камісіі прадставіў у Віленскае губернскае кіраванне дзяржаўнымі маёмасцямі праекты вопісаў і ацэнак продажных участкаў Дворышча і Тракелі з тлумачальнымі запіскамі, планамі і іншымі дакументамі па ўтварэнні гэтых участкаў. З маёнтка Дворышча былі ўтвораны два новыя маёнткі Тракелі і Дворышча. 5 студзеня 1870 г. Міністр дзяржаўных маёмасцяў зацвердзіў прапановы Кадастра-Люстрацыйнай камісіі (3. Л. 28).

12 студзеня 1870 г. *"Імператар загадаў ласкава азначаныя ўчасткі, а менавіта 1. Участак Дворышча, прасторай 3087, 59 дзесяцін зямлі з трыма чыншавымі артыкуламі, піваварным броварам, гаспадарчымі пабудовамі і рухомасцю; і 2. Участак Тракелі, прасторай 3168,51 дзесяцін зямлі з гаспадарчымі пабудовамі і рухомасцю, прадаць ва ўласнасць: першы (Дворышча) Генерал-Адъютанту барону Лівену ў суме 33856 руб. 25 кап., а другі (Тракелі) - Начальніку Штаба Віленскай Ваеннай Акругі Генерал-Маёру Нікіціну ў суме 25804 руб. 57 кап., абодвум у выглядзе ўзнагароды за службу, з растэрміноўкай плацяжу ўсяго продажнага кошту на 20 гадоў без адсоткаў, і з перадачаю пакупцам усіх правоў і абавязкаў казны па заключаных ёю з арандатарамі кантрактаў на ўтрыманне земляў і чыншавых артыкулаў тых участкаў"* (3. Л. 46-47).

Генерал ад інфантэрыі **Вільгельм Карлавіч Лівен** быў Рыжскім, Ліфляндскім, Эстляндскім і Курляндскім генерал-губернатарам (1861-64), чальцом Дзяржаўнай Рады (з 1863). У снежні 1864 г. па прашэнні звольнены з пасады губернатара і камандуючага войскамі. У 1871 г пажалаваны ў обер-егермайстры Двара Яго Вялікасці. Род баронаў Лівенаў паходзіў ад латышскага старшыны Каўпо, узведзенага папам Інакенціем III у дваранскую якасць з прозвішчам Ліве ў 1204 г. Жанаты быў з Марыяй Аляксандраўнай Саблуковай (1814-1878). Страціўшы чатырох дзяцей: Кацярыну (01-05.1849), Соф'ю (1844- 1855), Алену (1851-1869) і сына Мікалая (1854-1874), *"яна змірылася перад воляй Божаю і служыла павучальным прыкладам чалавека, які прыняў ярмо Хрыстова"*. В.К. Лівен пахаваны на Ціхвінскіх могілках Аляксандра-Неўскай лаўры.



*Вільгельм Карлавіч Лівен (1800 - 2.02.1880)*



*Аляксандр Паўлавіч Нікіцін (1824 - 1891)*

**Аляксандр Паўлавіч Нікіцін** (1824-1891). З дваран Маскоўскай губерні, скончыў Мікалаеўскую ваенную акадэмію. Генерал-маёр (1862), начальнік штаба Рыжскай (1864-66), з траўня 1866 г. Віленскай вайсковай акругі. У 1868 г. прызначаны чальцом Камісіі па ўладкаванні побыту і догляду адстаўных і бестэрмінова адпускных ніжніх чыноў. Генерал-лейтэнант (1870), генерал ад інфатерыі (1884). Пахаваны ў Санкт-Пецярбургу на могілках Навадзевічага манастыра

**Першакрыніцы:**

1. LVIA. Ф. 525. Оп. 1. Д. 1270. Дело Виленского управления государственными имуществами об образовании продажного участка Дворище Лидского уезда. 8.11.1869 - 20.03.1876 на 164 листах.

2. LVIA. Ф. 394. Оп. 4. Д. 782. Инвентарь имения Дворище Вандалина Пусловского. 1847 г.

3. LVIA. Ф. 525. Оп. 1. Д. 3468. Дело о продаже генералу Ливену земельного участка Дворище 1869-1887 гг. на 178 листах.

4. Полное собраніе законовъ Россійской имперіи. Собраніе второе. Томъ XXXVIII. Отделение первое. 1863. Санктпетербургъ. 1866.

5. Миловидов А.И. Освобождение крестьян Северо-Западного края и поземельное устройство их при графе М.Н. Муравьеве. Вильна, 1901.

***lida.info.***

*Леанід Лаўрэш*

# Прыходы ў Ганчарах і Дакудаве

*У 1784 г. Ганчарская царква мела філіяльную капліцу ў Дакудаве і капліцу ў Гаўі. У 1792 г. капліцу ў Дакудаве ўжо называюць царквой, але яна ўсё яшчэ з'яўлялася філіялам Ганчарскай царквы. Капліца ў Гаўі стала філіялам царквы ў Дакудаве. Такім чынам гэта была адна вялікая парафія.*

**Ганчары і Вашкевічы**

Нашы населеныя пункты часта стаяць у вельмі старых, гістарычных месцах. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе ракі Дзітва, ва ўрочышчы "Ціханавічаў Брод" размешчана стаянка мезаліту, ранняга неаліту і бронзавага веку. Памеры 60х40 м. Даследаваў яе ў 1962 г. М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя вырабы, у тым ліку ланцэтападобныя наканечнікі стрэл яніславіцкай культуры, абломкі ранненеалітычных пасудзін. За 0,5-0,7 км ад перавозу праз раку Нёман, каля дарогі ў вёску ў Ганчарскім лесе маюцца два круглыя курганы.

У сярэдзіне XV ст. вялікі князь надае сялян у Вашкевічах (Васковичох) нейкім Рамашкавічам: *"У Белицкои волости и у Здетеле, у Васковичох Ромашковичомъ: Тарас, Мартинъ, Дмитръ, Супря, Трухон, Мась, Микулица, Олекса, Еско, Новгороб(ец)"* [1]. У чэрвені 1493 г. гаспадарскаму падкамораму і маркаўскаму намесніку Пятру Янавічу (верагодна, Манцігердавіч), было нададзена пацвярджэнне на пакупку ім у пані Юхнавай Рэмязавіча Федзькі зямлі *"въ Белицкомъ повете ... на имя Ромашко ..., вечно, ему и жене и ихъ детемъ, и потомъ будучимъ ихъ счадкомъ"*, гэтую зямлю пан Рэмез у свой час купіў у Андрэя Рамашкі[2]. Дачка Пятра Янавіча была адной з жонак Станіслава Пятровіча Кішкі[3].

Вядома, што маёмасць Вашкевічы з XV ст. была часткай белагрудскай маёмасці Кезгайлаў-Завішаў. У Кнізе № 229 Літоўскай метрыкі надрукаваны цікавыя дакументы, датычныя судовага разбіральніцтва паміж *"пани Андреевое Завишыча, пани Барбары Кгейзъкгяйловны с паном Станиславом а паном Петром Петровичами, ... о бои и грабежы подданых васьковских"* [4] (у старых дакументах Вашкевічы часта называюцца Васькавічамі ці нават Івашкевічамі).

Судовая справа разглядалася камісарскім судом ў Вільні з 19 лістапада 1540 па 24 студзеня 1541 г. Барбара Завіша (з Кезгайлаў, удава Андрэя Завішы[5], верагодна, дачка Яна Кезгайлавіча, у іншым шлюбе жонка Яна Янавіча Забярэзінскага[6]): *"Барбара Кгезъкгайловъна жаловала на панятъ трояких, старостичовъ жомойтьских: на пана Станислава а на пана Петра Петровичовъ Техоновъских, о наслан(ь)е кгвалътовное на йменье свое Васковичы"* [7]. Размова ідзе пра Станіслава Пятровіча (быў жанаты з дачкой Яна Кучука Ганнай[8]) і Пятра Пятровіча Кішак (Кішыцаў), якім належаў маёнтак Ольжава[9]. Далей: *"врадникъ вашъ ольжовъский, на йма Миколай Бартошевичъ зъ слугами, з бояры и людми вашыми: зъ Яномъ Радивиловичомъ и с тивуномъ Иваномъ Микитичомъ, а Максимомъ Микитичомъ, и зъ ынъшыми многими помочъники своими, собравшы ся и наехавшы моцно кгвалтол на домъ боярына ее васковъского и тежъ на одинънадцать домовъ людей ее васковскихъ, самыхъ и жонъ ихъ побили, многие речы, статьки домовые въ ихъ домехъ побрали и шкоды великие почынили"* [10].

Барбара Завіша падрабязна пералічвае, які гвалт учынілі людзі Кішак і што яны забралі з кожнага з 12 дамоў. У 10-м і 11-м доме жылі святары, нападнікі абрабавалі і іх: *"У десятомъ дому, в попа Серъгея Миколинъского васковъского - его самого и сына его збили и у дву клетей замъки поотъбивали, и с клетей побрали: серъмягъ шесть, кожуховъ пять, жывотины - волы оремые, коней двое а третяя свирепа, быковъ четвертаковъ чотыры, овецъ пятънадцать, козъ осмъ, вепровъ пять, гусей десеть, кур дванадцать взяли. У-в одинадцатомъ дому, в попа васковъского Павла - жону его збили, у клетей, у прымъна ку светлицы дверы поотьбивали и знели з нее поес и з ыгольникомъ, а в ыгольнику полькопы грошем, а у светлицы скрынку взяли, а у скрынъце наметъцовъ семънадцат, колънеры два золотые, а третий колънеръ оксамитный, сорочокъ шестънадцат, брамъки*

[1] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 3 (1440-1498): Uzrasymu knyga 3. Vilnius, 1998. P. 55.

[2] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. Т. 27. С.-Петербург, 1910. С. 134-135.

[3] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. Смаленск, 2014. С. 268.

[4] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). 10-oji Teismu bylu knyga (XVI a. pabaigos kopija). Vilnius, 2003. P. 94 - 109.

[5] Андрэй Яновіч Завіша (каля 1490 - каля 1534) падкаморы, з 1519 г. цівун віленскі. У другім шлюбе быў жанаты з Барбарай Кезгайла. У 1528 г. выстаўляў у войска 29 коней.

[6] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. С. 257.

[7] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). P. 95.

[8] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. С. 260.

[9] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). P. 98.

[10] Там жа.

*две золотые, кожуги два, серъмяга, яецъ тры копы, скатерть трои, боты жонъскихъ, ручъников шест(ь), нароги двои, коса - то все взяли. А у тещы поповое в клети дверы отъбили, кубелъ платья, в кубле простич десет, тры поставы полотна, в поставе по семидесятъ локоть, сорочокъ петнадцать, сукню синю колътрышовую, кожух лисий, а другий кожух белинъним хрептовый, сукни тры камъпорские, шлыкъ окъсамитный взяли"* [11].

Як бачым, у Вашкевічаўскай царкве ў 1541 г. служылі два святары: Сяргей Мікалінскі і Павел.

На гэта Пётр Пятровіч Кішка адказаў, што ў Вашкевічах маюцца два маёнткі - Барбары Завішы і Кішак: *"... земли и люди нашы там у Васковичах посполу зъ землями и людми пановъ Завишычов над рекою одною"* [12]. Барбара Завіша паведаміла, што *"... тое имен(ь)е Васковичы зоставилъ пану ее, пану Анъдрею девер ее, панъ Янъ Завишычъ*[13] *в тисячу копахъ грошей"* [14].

Барбара Завіша паказала ў судзе, што *"... поповичы перво панъ мой, а после небощыка пана я держу ..., яко жъ ставила передъ паны, их м(и)л(о)стью, самых тых Сергея, попа, и поповичов, которые ж сознавали, ижь они зъ стародавна, с предковъ своих седять на земли церъковъной пановъ Завишычов и служат(ь) паном Завишычом толоки. И поведила пани Анъдреевая, што жъ и подаванье церкви оное Светого Николы Васковъское естъ пановъ Завишычовъ, - на што жъ она покладаля листъ отъца Иосифовъ, митрополита киевъского, в которомъ пишеть отец митрополитъ до пана Анъдрея Завишыча, прычыняючы ся о церковь оную С(ве)того Николы у Васковичахъ, которая ся была зъстарела, абы отъставена тамъ знову, и вызнаваеть отецъ митрополитъ в томъ листе своем ижъ то церъковъ звечыста естъ пановъ Завишычовъ"* [15].

Вядома, што кіеўскі мітрапаліт Іосіф III узведзены ў сан у 1523 г. Такім чынам, з гэтага найкаштоўнейшага дакумента мы даведваемся пра тое, што царква св. Мікалая ў Вашкевічах, калятарамі якой былі Завішы, у першай палове XVI ст. ужо была старой і таму рамантавалася, з упэўненасцю можна сказаць што яна была пабудавана не пазней за XV ст.

Цікава, што святары адпрацоўвалі талокі, як звычайныя сяляне, кажа "чалавек" Барбары Завішы *"Петръ Митичъ поведил: "Служыл есми пани Анъдреевой от семи летъ на онъ час, кгды замокъ северский Радогощъ* (у 1534 г. - *Л.Л.*) *отъ людей г(о)с(по)д(а)ра нашого спаленъ, и былъ есми отъ нее врадникомъ в ыйменьи ее Васковъскомъ, ино в тотъ час пры мне поповичы тые служыли паней Анъдреевой, тамъ к Васковичомъ послушъни были мене, врадника ее, ходили на толоки, кгдемъ коли их посылалъ з листы, а держала пани их во-в покои". Другий светокъ Матей, кухар, светчылъ: "Кгдымъ еще в молодыхъ летехъ моихъ мешкалъ дома, хожывалъ есми зъ отцомъ своимъ до церкви Светого Николы Васковьское, бо тамъ отчызна моя недалеко, только какъ бы у версте от церкви оное. А такъ, и до сих часовъ, до старости моее, ведал есми и ведаю о томъ добре, ижъ церъковъ оная Васковъская и земля пановъ Завишычовъ, а поповичы их подданые в супокойномъ держаньи пани Анъдреевое" ... Пятый сведокъ Пашъко Терешъковичъ светчылъ: "Предкомъ моимъ покладанье у церъкви тое Светого Николы у Васковичахъ и нашъ прыход тамъ же, а такъ, яко память моя несеть, завъжды то церковь и поповичы пановъ Завишычов, а п(а)ни Анъдреевая дерържыт(ь) их во-в покои и зъ землею, ведаю о томъ добре""* [16].

Як бачым, сведкі з Вашкевічаў падчас суду засведчылі, што царква св. Мікалая стаіць на зямлі Завішаў і іхнія продкі былі пахаваны каля яе з пакон вякоў.

У 1546 г. Барбара Завіша скардзілася Крыштафу Завішу *"о кгвалты, бои и грабежи подданых её Васковскихъ и о иншии многии кривъды и шъкоды"* [17].

Каля 1560 г. Вашкевічы купіў Андрэй Вішнявецкі і праз 20 гадоў прадаў маёнтак Ярашу Мікалаевічу Ваўчку[18]. У Попісе войска ВКЛ ад 1567 г. князь Андрэй Вішнявецкі сярод сваіх шматлікіх маёнткаў, выстаўляе вершнікаў у тым ліку і *"з Белагруда въ повеце Лидскомъ; з Васковічъ въ томъ же повеце"* [19].

У XVII ст. Вашкевічы - уласнасць Сапегаў[20].

Ганна Андрэеўна Сапега, дачка князя Андрэя Вішнявецкага, у 1584 г. сярод іншых шматлікіх маёнткаў атрымала і маёнтак Вашкевічы ў Лідскім павеце. Ганна з Вішнявецкіх была другой жонкай Мікалая Паўлавіча Сапегі (маршалак гаспадарскі ў 1566-1576 гг., ваявода менскі ў 1576-1588 гг., берасцейскі ў 1588 г. і віцебскі,з 1588 г.).

Шлюб з другой жонкай Ганнай Вішнявецкай Мікалай Сапега узяў, верагодна, у 1581 г. Ганна была дачкой валынскага ваяводы Андрэя і разам са сваімі сёстрамі спадчынніцай вялікіх латыфундый. 5 студзеня 1593 г. Мікалай Сапега са швагрaмі - Радзівілам Сіроткам, князем Юрыем Чартарыйскім і віленскім цівуном Янам Пацам правялі падзел спадчыны. Сярод іншых, вялікіх маёнткаў, Мікалай з жонкай узялі сабе двор Вашкевічы (Васькевічы) у Лідскім павеце. Ганна

---

[11] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). P. 99.
[12] Там жа.
[13] Ян Янавіч Завіша (каля 1485-1524), стараста любашанскі, жыжморскі, падстолі літоўскі, памёр без нашчадкаў.
[14] Lietuvos Metrika. Knyga Nr. 229 (1540-1541). P. 99.
[15] Там жа. P. 100.
[16] Там жа. P. 102.
[17] Литовская метрика. Книга № 30. (1480 - 1546). Мінск, 2008. С. 129.
[18] Konrad Pyzel. Kosciol filialny p.w. SS. Joachima i Anny w Waszkiewiczach // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 191.
[19] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. Т. 33. С.-Петербургъ, 1915. С. 469.
[20] Konrad Pyzel. Kosciol filialny p.w. SS. Joachima i Anny w Waszkiewiczach. S. 191.

Сапега з Вішнявецкіх у маладосці была кальвіністкай, а памерла ў 1596 г. каталічкай, яе пахавалі ў касцёле Святога Духа ў Кодані.

Мікалай Сапега памёр 1 лістапада 1599 г. у Кодані і быў пахаваны ў касцёле св. Ганны побач з жонкай, што вельмі цікава, паводле абраду *"рэлігіі маёй грэцкай каталіцкае"*. У 1610 г. сын Мікалая ўсталяваў над магілай бацькоў агульны помнік[21].

Ад Сапегаў маёмасць перайшла да Антонія Пацея (?1690-1749). У падымным рэестры Лідскага павета за 1728 г. у Еленскай парафіі занатавана: *"Вяльможны ЯВп Пацей, ваявода Віцебскі з маёнтка Івашкевічы з вёскай Навасады, дзевяноста пяць дымоў"* [22]. 26.01.1736 г. Пацей здаў Вашкевічы ў застаўную арэнду літоўскаму падскарбію і берасцейскаму ваяводзе Яну Міхалу Салагубу. 22.10.1745 г. Салагуб выкупіў Вашкевічы і стаў гаспадаром гэтай маёмасці.

Пра Яна Міхала Салагуба пісаў мемуарыст XVIII ст. Марцін Матушэвіч: *"Едучы ў Вільню, у Новым Двары я натрапіў на шлюб вялікага літоўскага падскарбія Салагуба з Агінскай, старэйшай дачкой віленскага ваяводы. Раскажу трошкі пра гэтага чалавека.*

*Ад свайго бацькі ў нейкай ступені ён быў жмудскім шляхціцам і чалавекам мужнага сэрца, не надта адукаваным, але з чыста прыродным розумам. У літоўскім войску служыў у драгунскім палку, даслужыўся там да паручніка. Потым, падчас ваенных падзей адбываліся маршы розных войскаў за Карла XII Шведскага. Салагуб тады знаходзіўся ў Гостынскай зямлі* (у Вялікапольскім ваяводстве - *Л.Л.*) *з палком і там быў накіраваны да чыноўніка Гостынскай зямлі Шамоўскага, які меў некалькі дачок. Гэты Шамоўскі яго пачаставаў і ахвотна паіў, нават калі той не мог сесці на каня. Салагуб не хацеў ужо піць і таму сказаў, што калі якая з дачок гаспадара вып'е разам з ім, тады і ён вып'е з ёй. Адна з дачок узяла кубак і, са звычайнай жаночай сціпласцю толькі крыху адпіла, а яму наліла поўны кубак. Салагуб ахвотна выпіў, потым, паставіўшы келіх на галаву каня, стрэліў у яго з пісталета і, саскочыўшы з каня да ног дамы і яе бацькі, папрасіў яе рукі. Добра выпіўшы бацька зразумеў гэта як жарт і пагадзіўся, дама таксама шчыра пагадзілася. Але гэта дамова сталася сапраўднай, бо Салагуб ледзь не ваеннай сілай прымусіў аддаць за яго дачку Шамоўскага, які быў чалавекам багатым і даў за сваю дачку немалы пасаг.*

*За пасаг Салагуб у гэтым палку купіў брыгадны чын і пачаў цэліць у паслы і дэпутаты ад Гостынскай зямлі. Ён адправіўся да Панятоўскага, цяперашняга кракаўскага кашталяна, які быў у фаворы ў караля Аўгуста II і стаў гостынскім падкаморым. Патрыёты гэтай зямлі хацелі не дапусціць яго да прысягі, але ён меў чын брыгадзіра, і таму яму дапамаглі афіцэры і жаўнеры яго палка, якія таксама мелі адважныя сэрцы. Ён настолькі напалохаў сваіх праціўнікаў, што ім давялося памірыцца. А калі яго багацце ўсё больш і больш павялічылася, ён пры дапамозе князёў Чартарыйскіх стаў вялікім літоўскім лоўчым. Потым, калі вялікае кароннае рэгіментарства*[23] *было перададзены Панятоўскаму, які потым стаў вялікім літоўскім падскарбіем, а потым мазавецкім ваяводам, а зараз кракаўскім кашталянам, дык праз некалькі гадоў пасля атрымання рэгіментарства, Панятоўскі прадаў пасаду літоўскага падскарбія Салагубу за сто тысяч польскіх злотых.*

*Першая жонка Салагуба з дому Шамоўскіх памерла, пакінуўшы яму двух сыноў: Юзафа, сучаснага віцебскага ваяводу і Антонія, генерала літоўскай артылерыі.*

*Другой яго жонкай была ўдава Пакаша, надворная літоўская харунжына з дома Крышпіна, троцкага кашталяна. З другой жонкай яму не пашанцавала. Яна была дама з дзіўным гумарам. Яны пайшлі на развод ... але іх памірыў віленскі біскуп Зянкевіч. Прымірэнне працягвалася нядоўга, і яны зноў пайшлі на развод. Віленскі кансістар, як кажуць, выцягнуў з іх грошы і даў развод. ...*

*Потым Салагуб атрымаў прыватны дазвол віленскага біскупа на шлюб з Агінскай, дачкой віленскага ваяводы, якая калісьці была прыгожай дзяўчынай, але з-за дзівацтваў сваёй маці ўвайшла ва ўзрост і выйшла замуж толькі пасля смерці маці. Тады яго другая жонка, аддала сябе пад абарону каралевы і ўнесла апеляцыю. Справа дайшла да Рыма. Салагубу было забаронена жыць з Агінскай да канца справы, а біскупу за дадзены ім дазвол доўгі час было забаронена выкананне духоўных абавязкаў"* [24].

Пасля смерці Яна Міхала Салагуба гаспадаром Вашкевічаў стаў сын Юзаф Антоні Салагуб, жмудскі кашталян і віцебскі ваявода[25].

Пра Юзафа Антонія Салагуба вядома, што ён вучыўся за мяжой, абіраўся паслом у Сойм ад Жамойціі ў 1736, 1738, 1740 гг., у 1737 г. быў дэпутатам Трыбунала ВКЛ. У 1742 г. стаў жмудскім кашталянам, потым, у 1748-1751 гг. віцебскім кашталянам. З'яўляўся кавалерам ордэна Белага Арла (1750 г.), маршалкам Трыбунала ВКЛ. Ад кастрычніка 1751-га да 1781-га г. быў віцебскім ваяводам. У 1764 г. падтрымаў элекцыю Станіслава Панятоўскага, з 1767 г. быў радамскім канфедэратам, з 1776 г. - дарадцам Пастаяннай Рады. У маладосці, у 1734 г.Ю, разам з Ляшчынскім адбіваўся ад рускіх войскаў у Гданьску. У 1758-ым насуперак князям Чартарыйскім галасаваў за абранне Карла Саксонца, сына Аўгуста Прыгожага, герцагам Курляндскім. Маючы ўладанні на Віцебшчыне, пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай ён адмовіўся прысягнуць Кацярыне II, але напрыканцы жыцця стаміўся, адышоў ад палітыкі.

[21] Гісторыя Сапегаў. Жыццяпісы, маёнткі, фундацыі. Укладальнік Яўстах Сапега. Мінск, 2017. С. 145-146.

[22] Vilnius University Library. F. 5. Ap. 8. B. 1915. Podymny rejestr szlachty powiatu Lidzkiego, 1728. Арк. без нумара.

[23] Рэгіментар - часовы намеснік вялікага гетмана.

[24] Pamiatnik Marcina Matuszewicza, kasztelana brzeskiego-litewskiego: 1714-1765. T. 1. Warszawa, 1876. S. 89-90.

[25] Konrad Pyzel. Kosciol filialny p.w. SS. Joachima i Anny w Waszkiewiczach. S. 191.

У 1763 г. Юзаф Антоні Салагуб паставіў у Вашкевічах драўляны палац, пра які я напішу трошкі далей. Па просьбе Юзафа Антонія Салагуба біскуп віленскі Зянкевіч зацвердзіў 23.10.1755 г. фундацыю дваровай драўлянай капліцы пры палацы ў Вашкевічах. Капліца будавалася ў 1763-1769 гг.[26]. У 1774 г. ён жа фундаваў уніяцкую Свята-Пакроўскую царкву ў Ганчарах[27].

У Падымным тарыфе 1775 г. двор Вашкевічы і вёска Ганчары - маёмасць ЯВп Юзафа Салагуба, віцебскага ваяводы, у гэтым жа дакуменце прысутнічае і Ганчарская грэка-каталіцкая плябанія[28].

Жонка Юзафа Антонія Салагуба - Антаніна Тарэса з Агінскіх (1714-1773), дачка Караля Агінскага (1690-1716) і Элеаноры Войны. Сужэнцы не мелі дзяцей, і абодва пахаваныя ў родавым склепе, які знаходзіцца ў Варшаўскім касцёле св. Крыжа. Свае радавыя землі ў Польшчы (Апораўскі ключ) Юзаф Антоні граф Салагуб пакінуў у спадчыну пляменніку Яну Міхалу Салагубу[29].

Ян Салагуб быў першым мужам Мар'яны Кацярыны з Сапегаў (1760 - ?), дачкі Аляксандра Міхала Сапегі і Магдалены з Любамірскіх. Другім мужам Мар'яны стаў дзевянішкаўскі стараста Ігнат Пузыня[30] і праз яе, у 1783 г. Вашкевічы становяцца маёмасцю Пузыні[31].

У 1784 г. у Вашкевічах маецца двор, філіяльны касцёл (капліца) і карчма над Нёманам васпана Пузыні. Ганчары - вёска і карчма таксама належалі васпану Пузыні[32]. Каля 1789 г. двор Вашкевічы купіў любавіцкі стараста Ленскі[33].

У візітацыі 1792 г. падаецца наступнае апісанне Ганчарскай царквы: *"Царква пад тытулам Апекі (пратэкцыі) Найсвяцейшай Панны Марыі знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, фундацыі ЯВпп Салагубаў, потым у дзедзіцтве і каляцыі ЯВпп Ігната і Мар'яны з Сапегаў Пузыняў, старостаў дзевянішкаўскіх, зараз у каляцыі ЯВп Ленскага, старасты любавіцкага. Царква драўляная, з брусоў, добра пабудаваная, на фундаменце, пакрытая гонтай. Адзін купал над фасадам з жалезным крыжам, другі, меншы над вялікім алтаром і таксама з жалезным крыжам. Большая частка могілак агароджана. На могілках званіца на 4-х слупах, крытая гонтай, з купалам і жалезным крыжам, вельмі старая. На званіцы - 3 званы. Адзін звон разбіты"* [34].

Візітацыя 1792 г. адзначае, што парах Ганчарскай царквы Марцін Старынскі меў дарагі і ганаровы стол з шуфлядамі, прычым кожная шуфляда мела па мініяцюрным замку[35]. Тым не менш, па класіфікацыі беларускага гісторыка Дзмітрыя Лісейчыкава, Ганчарскую плябанію можна лічыць беднай[36].

У спісе парафій, складзеным у 1827 г., вёска Вашкевічы ўжо мае назву Агароднікі, але нават у 1833 г. у мітраполіі разглядалася пытанне аб кандыдатуры на пасаду святара пры царкве сяла Вашкевічы[37].

У 1840-ым г. Вашкевічы наведаў мастак Вікенці Дмахоўскі (1807-1862), удзельнік паўстання 1830-1831 гг., які вярнуўся на Радзіму пасля 7-гадовай эміграцыі. Яму прыпісваюць аўтарства карціны з выявай вашкевіцкага сядзібнага дома (палаца Салагубаў). Копія захоўвалася ў сям'і А. С. Лысёнка. Палац у паўтара паверхі з двухпавярховым высунутым наперад цэнтральным памяшканнем, ламанаю лініяй страхі, высокімі вокнамі і пяцццю дымавымі комінамі печаў. Усходняя - правая - прыбудова большая і высунута наперад, што надае асіметрычнасць. Дрэвы падрэзаныя на ўзор французскага парку. На пярэднім плане садоўнік з двума сабакамі, пасярэдзіне ў групе вылучаецца мажная жанчына, магчыма, гэта гаспадыня, Петранэля Ленская, у дзвярах палаца яшчэ некалькі постацяў (сям'я ?). На цэнтральным будынку ўверсе, вельмі падобна, шчыт з гербам[38].

У XIX ст. ад мясцовых жыхароў было запісана паданне, што ў дзвюх вярстах ад сучаснай ганчарскай царквы, пры безназоўным ручаю стаяла старая царква, і ў ёй знаходзіўся цудатворны абраз, нібыта вывезены ў Маскву. Сяляне паказвалі таксама і іншае месца, дзе стаяла царква - недалёка ад урочышча "Царкоўшчына" і сенажаці "Папоўшчына" [39]. Верагодна, у народнай памяці захаваліся месцы, дзе знаходзілася ранейшая царква ў Вашкевічах.

У 1863 г. царква была накрыта жалезным дахам, а ў 1869 г. яе сцены ашаляваны[40]. У 1868 г. пры-

[26] Konrad Pyzel. Kosciol filialny p.w. SS. Joachima i Anny w Waszkiewiczach. S. 191-192.

[27] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[28] Асабісты архіў аўтара. Арк. 159.

[29] Konrad Pyzel. Kosciol filialny p.w. SS. Joachima i Anny w Waszkiewiczach. S. 191-192.

[30] Гісторыя Сапегай. Жыццяпісы, маёнткі, фундацыі. Укладальнік Яўстах Сапега. Мінск, 2017. С. 75.

[31] Дычок Сяргей. Спроба гістарычнай рэканструкцыі // Лідскі летапісец. 2016. №1(73). С. 32-40.

[32] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Беліцкая парафія // Лідскі летапісец. 2012. №2(58). С. 26-29.

[33] Konrad Pyzel. Kosciol filialny p.w. SS. Joachima i Anny w Waszkiewiczach. S. 191.

[34] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 41.

[35] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. Мінск, 2011. С. 88.

[36] Там жа. С. 66.

[37] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 863.

[38] Дычок Сяргей. Спроба гістарычнай рэканструкцыі. С. 32-40.

[39] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 97.

[40] Лідская газета. 2014. № 113 (12521).

хаджане царквы ў памяць аб скасаванні прагону купілі ў царкву звон вагой 5 пудоў і 3 фунты і коштам 110 руб. 62 1/2 кап[41]. У 1869 г. былы старшыня Лідскага міравога суда Астравідаў падараваў царкве срэбную пазалочаную чашу з поўным наборам, парчовую рызу, евангелле і напрастольны медны крыж (усяго на суму 110 руб.)[42]. Пасля капітальнага рамонту (зроблены новы іканастас і прастол, пакладзена новая падлога, зроблены трое дзвярэй з прытвора ў малельную залу, па-новаму ашалявана апсіда) 22 кастрычніка 1878 г. царкву асвяцілі.



***Царква ў Ганчарах, каля 1900 г.***

У 1882 г. дах царквы быў пакрыты гонтай, а купал абабіты бляхай. У 1886 г. побач з храмам пастаўлена двух'ярусная званіца, якая мела два званы: адзін важыў 10 пудоў, другі, куплены вернікамі - 5. Чарговы капітальны рамонт быў зроблены ў 1927 годзе: сцены звонку і знутры пафарбаваны, на званіцы з'явіўся яшчэ адзін чатырохпудовы звон[43].

У 1893 г. Ганчарская царква мела 99 дзесяцін зямлі ў 20 частках. Святар жыў у царкоўным доме, а псаломшчык у сваім. Царквы наведвала 1238 вернікаў-мужчын і 1300 вернікаў-жанчын, якія жылі ў 309 дварах[44].

Сучасны горад Бярозаўка, у той час рабочы пасёлак, быў часткай Ганчарскага прыхода. Не магу не працытаваць ва ўсіх адносінах цікавы кавалак газетнага тэксту: *"За чатыры вярсты ад ст. Нёман знаходзіцца велічэзны завод Столе і Краеўскага. Завод гэты пастаўлены на шырокую нагу, атрымлівае вялікую колькасць заказаў і, дзякуючы акуратнаму і сумленнаму іх выканню, карыстаецца вядомасцю не толькі ў нашым краі, але і далёка за яго межамі. ... Завод мае вялікую колькасць кваліфікаваных рабочых з-за мяжы ці з Прывісленскага краю*[45]*. Недалёка ад гэтага завода маецца яшчэ два шкляныя заводаы тых жа гаспадароў, рабочыя на гэтых заводах - палякі і чэхі. ... Сярод рабочых ёсць некалькі праваслаўных з тутэйшых сялян. ... былы святар Ганчарскай царквы, у прыходзе якога знаходзіцца завод "Нёман" на адлегласці ў 10 вёрст, у 1894 г. адчыніў тут царкоўную школу пісьменнасці. ... Столе і Краеўскі ўзялі яе на сваё ўтрыманне. ... настаўнікам быў чалавек, які закончыў курс духоўнай семінарыі, і кантора завода акуратна выплачвала настаўніку па 35 руб. у месяц, наймала для школы вартаўніка, аплачвала ацяпленне і асвятленне. ... З 1897 г. пачынаецца ўпадак школы, пачынаюцца непаразуменні, ... завод перастае даваць настаўніку каня для паездак у Ганчары і затрымлівае заробак. ... У верасні 1901 г. настаўнік кінуў школу і з'ехаў з завода. Што ж робіць мясцовы святар? Ці сапраўдны ён не мае сродкаў каб падтрымаць школу? Зараз праваслаўнаму духавенству дадзены доступ на фабрыкі, заводы і г. д. ... для рэлігійных гутарак і нагляду за праваслаўнымі, якія там працуюць. Завод Столе і Краеўскага асабліва патрабуе такога нагляду ... тым болей, што тут вельмі адчуваецца ўплыў ксяндзоў"*[46].

12 чэрвеня 1912 г. Ганчарскую царкву наведаў ковенскі епіскап Елеверый, які займаўся рэвізіяй цэркваў Лідчыны[47].

Перад прыходам немцаў, у 1915 г. святар Ганчарскай царквы Пётр Семянтоўскі пакінуў Дакудава і ў эвакуацыі жыў па адрасе: г. Растоў, Яраслаўскай губ., Аўрамеяў манастыр, кв. свят. Чарапіна[48].

У гады Другой сусветнай вайны настаяцелем царквы быў выпускнік лідскай гімназіі імя Караля Хадкевіча, святар Мікалай Усціновіч. Гэты святар, як

[41] ЛЕВ. 1868. № 5. С. 228.

[42] ЛЕВ. 1869. № 22. С. 1316.

[43] Лідская газета. 2014. № 113 (12521).

[44] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 24.

[45] Слова "Польшча" было забаронена, і частка Польшчы ў складзе Расіі ў той час афіцыйна называлася "Прывісленскі край". - *Л. Л.*

[46] Упадок церковной школы на стеклянном заводе Столле и Краевского близ ст. Неман Лидского уезда // ЛЕВ.1901. № 1-2. С. 12-13.

[47] Вестник Виленского православного Свято-Духовского братства. 1912. № 15. С. 250.

[48] Адреса эвакуированного духовенства и учреждений // ЛЕВ. 1916. № 2. С. 7.

мог, бараніў сваіх вернікаў ад акупантаў і карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод сялян. У 1950 г. а. Мікалая арыштавалі, абвінавацiўшы ў антысавецкай дзейнасці і супрацоўніцтве з немцамі, 14 жніўня 1950 г. прысудзілі да 25 гадоў лагераў і адправілі ў Варкуту. На радзіму вярнуўся ён 2 верасня 1956 г. З 6 лістапада 1970 г. працаваў настаяцелем Нараджэння-Багародзічнага храма в. Дакудава[49].





*Царква ў Ганчарах, лета 2020 г.*

Свята-Пакроўская царква ў Ганчарах - самая старажытная грэка-каталіцкая царква на Лідчыне, яна абвешчана помнікам драўлянага дойлідства і дзейнічае да нашага часу. Утрымліваецца ў добрым стане, зроблены касметычны рамонт. Гэтая царква стала архітэктурным правобразам для Свята-Елісееўскай царквы ў вёсцы Мінойты, пабудаванай у 1997 г.

Летам 2020 г. я з вялікай зацікаўленасцю і піетэтам вывучаў Ганчарскую царкву, аглядаў тое, што было апісана яшчэ ў актах візітацый 1784 і 1792 г.

### Грэка-каталіцкія святары Ганчарскай і Дакудаўскай цэркваў

У 1732 г. святар цэркваў у вёсках Вашкевічы і Дакудава **а. Тэадор Валасевіч**[50].

Да 10.07.1778 г. памёр святар цэркваў у вёсках Вашкевічы і Дакудава **а. Ян Валасовіч**.

У Архіве ўніяцкіх мітрапалітаў захаваўся кампрамат на дакудаўскага параха **Георгія Вяржбіцкага**, які на працягу трох дзён 15-17 чэрвеня 1758 г. павянчаў незаконны шлюб - муж і жонка былі паміж сабой у другой ступені сваяцтва, а потым пабіўся з гусеўскім парахам Васілём Лыткоўскім[51].

**А. Ігнат Нарэвіч**, у 1784 г. капелан капліцы ў вёсцы Дакудава[52].

**А. Мацей Валасовіч**, святар царквы ў вёсцы Ганчары, памёр да 1788 г.[53]

**А. Ян Мыслевіч.** У 1791 г. высвечаны пінска-тураўскім біскупам Г. Дашковічам-Гарбацкім, у 1781-1784 гг. вікарый у царкве вёскі Ганчары[54].

**А. Марцін-Мікалай Старынскі**, мірапамазаны 14.08.1782 г. у кафедральнай царкве г. Наваградка, 09.12.1784 г. прэзентаваны дзявянішскаўскім старастам Ігнатам Пузыням і яго жонкай Марыянай Сапегай у вёску Вашкевічы, у 1788 г. інсталяваны мітрапалітам Я. Смагаржэўскім у вёску Радамысль Жытомірскага павета. У 1782-1788 гг. адміністратар, а ў 1788-1792 гг. святар царквы ў вёсцы Ганчары[55].

**А. Тамаш Вашчыловіч,** 1753 г. н., паходзіў з шляхты, вучыўся ў Віленскім Папскім алюмінаце, прэзентаваны саноцкім старастам Янам Салагубам, высвечаны і інсталяваны пінска-тураўскім епіскапам Г. Дашковічам-Гарбацкім у Пінску

[49] Гл: Лідскі Летапісец. 2013. № 3(63). С. 17-21.; Силова С. В. Крестный путь: белорусская православная церковь в период немецкой оккупации 1941-1944 гг. Минск, 2005. С. 38-40.

[50] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. Мінск, 2015. С. 164.

[51] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 193.

[52] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596?1839 гг. С. 395.

[53] Там жа. С. 165.

[54] Там жа. С. 387.

[55] Там жа. С. 488.

19.07.1778 г. Святар цэркваў у Вашкевічах і Дакудаве (1778 г.), святар у Ганчарах (1782 г.). Лідскі дэкан у 1779-1781 гг. У 1783-1887 гг. святар царквы ў мястэчку Вялікая Бераставіца, гарадзенскі дэкан у 1783-1798 гг., потым кіеўскім канонік (1798 г.), асэсар генеральнай мітрапаліцкай кансісторыі (1798 г.), гарадзенскі сурагат (1798 г.) архідыякан Берасцейскага капітула (1818 г.)[56].

**А. Міхал Кастэцкі**, адміністратар царквы ў вёсцы Ганчары ў 1795 г., *"звычаяў незаганных, навук сярэдніх. ... старанны гаспадар"* [57].

**А. Васіль Лапушэўскі**, высвечаны пінскатураўскім епіскапам Г. Дашковічам-Гарбацкім у 1780 г., у 1791 - 1792 гг. адміністратар царквы ў Лідзе, у 1792 - 1795 гг. капелан філіяльнай да Ганчароў царквы ў Дакудаве, *"звычаяў ухвальных, навук сярэдніх"* [58].

**А. Ян Кастэцкі**, 1797 г. н., з 1832 па 25.02.1837 г. святар царквы ў Ганчарах[59].

**А. Антон Гарбацэвіч,** 1795 г. н., у 1832 г. святар у мястэчку Дзятлава (1832 г.), з 25.02.1837 г. вікарый царквы ў вёсцы Ганчары[60].

Да 1837 г. у Дакудаўскай царкве служыў **а. Язафат Александровіч**.

Святар **а. Ян Сцепурынскі (Сцяпура)**, 1791 г.н., у 1837 г. - адміністратар царквы ў в. Дакудава[61]. Пра гэтых двух святароў можна сказаць трошкі больш.

У жніўні 1835 г. Язафат Александровіч адмовіўся прымаць маскоўскія малітоўнікі[62]. Потым святар і вернікі вёскі Дакудава аказалі супраціў зменам у інтэр'еры свайго храма, таму, паводле афіцыйнага паведамлення, *"употребляется деятельное настаивание"* аб усталяванні тут іканастаса. 30 снежня 1835 г. гарадзенскі губернатар Копцеў загадаў прыбраць з уніяцкіх цэркваў падведамнай яму тэрыторыі ўсе рэчы, неўласцівыя праваслаўю: арганы, лаўкі, званочкі[63].

Пасля адмовы прыняць маскоўскі служэбнік Александровіча замянілі Янам Сцяпурам, жонка якога з чатырма дочкамі нарабіла клопату мясцовым уладам тым, што да ліквідацыі уніі паспела перайсці ў рымакаталіцтва і не жадала "вярнуцца" ў праваслаўе - веру, у якой заканадаўствам імперыі прадпісвалася быць спаведнікам знішчанай уніі. Ды і сам Ян Сцяпура лічыўся недабранадзейным, таму і яго ў 1839 г. выклікалі ў Жыровічы[64]. Гэты святар больш за 20 гадоў, аж да паўстання 1863 г., прынцыпова не служыў літургію па маскоўскім служэбніку - нават *"пакута ў манастыры"* (верагодна, у манастырскай турме) не змагла прымусіць яго да гэтага.

Расійскі афіцэр І.В. Любарскі, які праз два дзесяцігоддзі пасля забароны уніі, перад паўстаннем 1863 г., служыў у Лідзе, напісаў у сваіх мемуарах пра сустрэчу з "праваслаўным" святаром вёскі Дакудава: *“З падручніка геаграфіі засталося ў мяне такое ўражанне, што нашы заходнія губерні да самай мяжы царства Польскага - суцэльна рускія ... ... Меў жа я вялікае расчараванне ..., калі ў 1860 г. я апынуўся ў Паўночна-Заходнім краі ... Насельніцтва - і праваслаўнае, і каталіцкае - размаўляе беларускім прыслоўем рускай мовы, але навучаецца польскай грамаце, і ўсякі мужык, як толькі высунуўся з сялянскага становішча, наровіць размаўляць па-польску і апранае канфедэратку ... .*

*Паўсюль багата ўпрыгожаныя велічнай архітэктуры касцёлы, і рэдка-рэдка трапляліся драўляныя, трухлявыя цэрквы з падпоркамі і латамі, падобныя больш на адрыны, чым на храмы пануючай рэлігіі. Праваслаўнае духавенства знаходзілася ў поўным загоне, яно было прыніжана сваёю беднасцю ... Знаёмячыся з мясцовымі святарамі і імкнучыся ўразумець сабе ўмовы іх побыту, я заўважаў агульную ім усім характэрную рысу нейкай вінаватасці ў тым, што яны існуюць у "чужым краі". ...*

*Трапляліся паміж святарамі і такія ..., якія проста дзівілі сваім цынічным стаўленнем да царквы і рэлігіі. Гэта былі дажываўшыя свой век апошнія магікане уніі 1839 г. ... Яны ўплывалі вельмі разбэшчана на сваю паству, прыводзячы яе паступова да поўнай рэлігійнай абыякавасці. З адным такім тыповым уніятам ... пад святарскай маскай я выпадкова сустрэўся ў Лідскім павеце Віленскай губерні. Спатрэбілася мне з'ездзіць у роту нашага палка, нядаўна размешчаную ў вялікай праваслаўнай вёсцы Дакудава з прыходскай царквой. Ротны камандзір і абодва субалтэрны[65] ў гэтай роце былі палякі[66].*

*- Поп тутэйшай парафіі*[67] (так у тэксце, святар размаўляе пераважна па-беларуску - *Л.Л.*), - *адрэкамендаваўся ён ... падаючы мне руку. Гэта быў сухі маленькі чалавек, рухомы і гаманкі, які захаваў нейкую дзіцячую наіўнасць, нягледзячы на свой стары век ..., рускай мовы не ведаў. За тое, што я не мог размаўляць з гэтым дзіўным святаром на яго мове, ён адразу, без цырымоніі, абразіў мяне "завзентым маскалём".*

*- Вось, пане, абрэвізуйце яго роту памацней, -*

---

[56] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. С. 174.

[57] Лісейчыкаў Дзяніс. Святар у беларускім соцыуме: прасапаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839 гг. С. 296.

[58] Там эа. С. 334.

[59] Там жа. С.296.

[60] Там жа. С. 203.

[61] Там жа. С. 498.

[62] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 222-223.

[63] ЛГММ. Ф. 2741. Кніга загадаў Літоўскай духоўнай Кансісторыі лідскаму благачыннаму С. Брэну за 1840 г. Загад ад 14 лютага 1840 г.

[64] Записки Иосифа Митрополита Литовского. Санкт-Петербург, 1883. Т. 3. С. 414.

[65] Субалтерн - малодшы афіцэр.

[66] Для Любарскага - аўтара гэтых мемуараў усе выхадцы з Беларусі, не гледзячы нават на іх веравызнанне - палякі.

[67] Верагодна - Ян Сцяпура.

*сказаў святар, паказваючы на капітана, - ды прайміце яго добра за тое, што напужаў мяне, калі прыйшоў сюды з ротай. Уявіце, у нас па вёсцы пайшла чутка, што ідзе ў Дакудава з ротай архіправаслаўны камандзір. Прыпляліся сюды яны як раз пры канцы тыдня. Я на другі дзень, досвіткам, давай званіць спачатку ў адзін звон, потым ва ўсе, думаю сабе: каб не прынесла яго нялёгкая ў такую рань, а сам сяджу ў алтары ды выглядваю, таму што боязна было. А калі б прыйшоў, я пачаў бы казаць: "Госпадзі памілуй". Мінула гэтак з палову гадзіны, нікога з маскалёў няма. Ну, значыць, спіць пудзіла, задраўшы ногі, і стараннасці маёй не чуе, замкнуў я царкву і пайшоў каву піць. А потым дазнаўся, што ён такой жа "д'ябел", як і я.*

*- Чаго жа вы, ойча, так баяліся?*

*- Як чаго? А калі бы ён і на самай справе аказаўся б "бла-го-на-ме-рен-ный", ды паслаў, куды патрэбна цыдулку, што дакудаўскі поп імшу не спраўляе, то ізноў прыйшлося бы ў манастыр ісці на пакуту.*

*- Дык чаму ж вы не служыце? - спытаў я, вельмі здзіўлены.*

*- Вельмі проста, пане каханы, па-вашаму не ўмею, а па-нашаму нельга. Вось пахрысціць, павянчаць, пахаваць - гэта я з поўным задавальненнем, інакш папу з дочкамі не было б чаго есці. І ў нядзелю царква мая заўсёды адчыненая, прыйдуць, памоляцца, паспяваюць нашы хлопцы, і даволі з іх. Ды, вы не думайце, зрэшты, што я - такі ўжо адшчапенец, у царскі дзень рэдка калі набажэнства не "адкатаю". Вось толькі з кадзілам не магу зладзіць. Сапраўдны поп спрытна так "фуркае" ім наперад і назад, а ў мяне не выходзіць.*

*- Я дзіўлюся, што вам цяжка служыць паправаслаўнаму, - заўважыў я. Наколькі мне вядома, па ўмовам берасцейскай царкоўнай дамовы, ... ўся абраднасць павінна быць тая ж, што і ў праваслаўных.*

*- Калі гэта было! - запярэчыў ён. У той час, калі я стаў уніяцкім святаром, у нас ... былі арганы, ружанцы, гадзінкі, "здровась Марыя", "анёл Панскі", званочкі ... А зараз што: "Госпадзі памілуй, ды падай Госпадзі". Адзін раз, усё ж, паплаціўся я за сваё няўменне. Прыязджае неяк праваслаўны біскуп такі важны, увесь у чорным, на галаве каптур з шлейфам. Адслужы, кажа, а я пагляджу. Я ні жывы, ні мёртвы, пачаў плесці абедню і ўсё пазіраю на страшнага аргуса. Ён, як быццам бы, і нічога, прымасціўся ў кутку алтара, ды ўсё паклоны робіць. Мая старанная праца, можа і сышла бы, калі б не гэтая фатальная экценія. Тут ужо я зусім заблытаўся і пачаў мармытаць імёны, якія толькі прыйшлі ў галаву. Па заканчэнні ўсяго, біскуп праняў мяне да дзясятага поту і, падзякаваўшы, з'ехаў, а потым піша: дакудаўскі "ксёндз ніцма не розуме", пасляць яго ў навуку на два месяца ў кляштар. А якая мне навука? Адлежаўся я тамака, ... а потым такім жа ... прыйшоў у Дакудава, якім і быў.*

*- Чаму б вам, "баценька", не павучыцца служыць, як належыць, - параіў я, - гэта зусім не цяжкая справа. Глядзіце ў трэбнік, і ўсё выйдзе добра.*

*- Позна мне вучыцца, ды і няма сэнсу. Бо палякі выхваляюцца, што адваююць сабе ўсю Літву. Тады мы ўжо не ў унію, а проста ў каталіцтва пойдзем..."*[68].

А. Ян Сцяпура нарадзіўся ў 1790 г. і служыў у Дакудаве ажно да 10 сакавіка 1865 г.[69] Ён быў адным з тых шматлікіх беларускіх святароў, якія не знайшлі свой шлях ў новай царкоўнай арганізацыі.

Рускі чыноўнік у Вільні Уладзіміраў так ацэньваў вынікі ліквідацыі грэка-каталіцкай царквы: *"Яшчэ ... у маскоўскай духоўнай акадэміі, паміж 1848 і 1852 гг., у перыяд вельмі блізкі да "воссоединения" 1839 г., я чуў ад сваіх таварышаў з паўночна-заходняга краю пра гэтыя падзеі апавяданні, зусім не падобныя на тыя, якія выкладаюцца ў гісторыі падзей 1839 г. Калі прыбыў у Вільню, я пачуў амаль літаральны паўтор гэтых жа апавяданняў ад тутэйшых старажылаў. Потым мне стаў вядомы змест "справаздачы" аб даследаванні стану праваслаўных прыходаў у паўночна-заходнім краі, асабліва пераведзеных з уніі ..., зробленай па даручэнні Мураўёва віленскім віцэ-губернатарам А. І. Полазавым і дырэктарам народных вучэльняў А. І. Садокавым. Гэты важны дакумент быў накіраваны Мураўёвым да мітрапаліта Сямашкі і ў цяперашні час павінен быць або ў яго паперах або ў літоўскай кансісторыі. Змест яго карысна ведаць усім ахвочым атрымаць грунтоўныя звесткі пра сапраўднае становішча "воссоединённых" парафій праз дваццаць пяць гадоў пасля "воссоединения". І змест гэтага дакумента такі, што здольны адбіць ахвоту "обращать" ва ўсякага, колькі-небудзь разумнага і сумленнага "обращателя". ... Потым мне сталі вядомыя вынікі так званай праверачнай камісіі, заснаванай у Вільні для адшукання прычын рознасці ў колькасці прыхаджан рымска-каталіцкіх парафій паміж справаздачамі ксяндзоў і справаздачамі цывільнай адміністрацыі: а менавіта, чаму ў першых паказвалася колькасць вернікаў нашмат большай, чым у апошніх? Прычыну гэтага камісія знайшла ў той акалічнасці, што справаздачы цывільнай адміністрацыі паказвалі колькасць вернікаў у рымска-каталіцкіх парафіях ..., якія былі католікамі ці былі запісаны такімі; а ў справаздачах парафіяльных ксяндзоў, акрамя афіцыйных католікаў, значыліся і ... такія, якія былі католікамі па пераканannях і па рэлігійнай практыцы, але запісаны былі праваслаўнымі. Гэтыя апошнія былі з "воссоединенных" уніятаў, і колькасць іх была вельмі вялікай"* [70]. Каментаваць, я думаю, не мае сэнсу.

[68] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. Март, 1895. С. 813-816.

[69] Стренковский С. П. Священно- и церковнослужители православных приходов Лидского и Ошмянского уездов в XIX - начале XX века. Минск, 2019. С. 190.

[70] Владимиров А. История плана располячения католицизма в Западной России // Русская старина. 1885. № 10. С. 103.

**Дакудава**

Вёска Дакудава знаходзіцца ва ўнікальнай частцы Лідчыны - на беразе вялікай ракі Нёман, у атачэнні магутных лясоў і ўрадлівых палёў. Не дзіва, што гэта месца заўсёды вабіла да сябе чалавека. Вядома, што на адлегласці 2,5-3 км на паўднёвы ўсход ад моста цераз раку Нарву ў вёсцы Дакудава, пасярод шырокай правабярэжнай поймы ракі Нёман, знаходзіцца помнік эпохі неаліту і бронзавага веку Дакудава-5, ён займае дзюну памерамі каля 60-100 м, вышынёй да 2,6 м[71].

Яшчэ раней каля вёскі Дакудава вядомы былі два паселішчы. Адно з іх побач з вёскай цягнецца ўздоўж Нёмана прыкладна на 1,5 км, захопліваючы паласу шырынёй да 200 м. Тут знойдзена кругавая кераміка часоў Полацкай дзяржавы. Таўшчыня культурнага пласта да 0,5 м. Другое паселішча ніжэй па цячэнні ракі за 1 км ад першага. Тут сустракаецца грубая ляпная кераміка другой паловы I тыс. н. э. і абломкі кругавых сасудаў[72].

Князь Карыбут, якому яшчэ да Востраўскага пагаднення 1392 г. Ягайла перадаў Ліду, у 1392 г. адмовіўся прызнаць Вітаўта вялікім князем ВКЛ. З "Летапісу вялікіх князёў Літоўскіх", даведваемся: *"Князь Карыбут Альгердавіч пачаў дакараць [вялікага князя Вітаўта], выяўляць сваё непаслушэнства, пачаў збіраць супраць яго сваё войска і выступіў супраць яго. Князь жа вялікі Вітаўт паслаў сваё войска [пад кіраўніцтвам] Васіля Барэйкавіча і Гінвіла супраць яго [Карыбута]. І сышліся войскі каля Дакудава, і былі разбіты воі князя Карыбута, і кінуліся наўцёкі, і шмат іх было пабіта. Сам жа князь Карыбут уцёк у Ноўгарадок. Там жа былі яго княгіня і дзеці. Князь жа вялікі Вітаўт сабраў сваё войска, і сам пайшоў да Ноўгарадка, і аблажыў горад, і ўзяў Ноўгарадок, а князя Карыбута, і княгіню, і дзяцей паланіў"* [73]. Здаецца, гэта першае пісьмовае згадванне Дакудава.

Дакудава з XV ст. належала Кучукам. Родапачынальнікам роду Кучукоў быў каморнік Ягайлы, які ў 1382 г. удзельнічаў у забойстве Кейстута. Яго сын Конрад (? - пасля 1437 г.) ужо валодаў Жырмунамі, Дакудавым, Шчучынам і Востравам. 01.07.1436 г. Конрад Кучук зрабіў наданне віленскім францішканам і прыклаў да дакумента сваю пячатку з гербам Сякера.

Сын Конрада - Ян Кучук (каля 1410 - каля 1478), упершыню згадваецца сярод каралеўскіх дваран, якія ўдзельнічалі ў Хоцімскай бітве. У 1463 г. з пасольствам ездзіў да палякаў, а ў 1468 г. да крымскіх татараў, у 1473 г. удзельнічаў у вызначэнні мяжы з Лівоніяй, ёсць згадкі пра яго пасольства ў Чэхію. Маршалак гаспадарскі у 1469-1478 гг. і намеснік лідскі ў 1473 г.[74]

Ян Кучук меў сына Юрыя (каля 1435 - пасля 1482), які быў гаспадарскім маршалкам ў 1482 г., і сына Войцеха (каля 1440 - пач. 1506). Войцех у 1492-1505 гг. таксама займаў пасаду гаспадарчага маршалка[75]. На пачатку XVI ст. Дакудава разам з Востравам[76] і Шчучынам - *"отчизное имение пана Войтеха Кучуковича"*[77]. Міхал Шымялевіч піша, што ў 1506 г. Дакудава перайшло да пана Пятра Аляхновіча Давойнавіча[78].

У недатаваным дакуменце (каля 1509 г.), у якім разглядаецца спрэчка кухмістра пана Пятра з панам Юрыем (Радзівілам), вояводзічам Віленскім, ідзе размова пра трэцюю частку маёнткаў *"Докудово, Щетино* (Шчучын - *Л.Л.*) *а Остров"*, якія раней прыналежалі пану Войцеху Кучуковічу[79].

Рашэнне па гэтай справе не было прынята, і 20 жніўня 1512 г. у Кракаве робіцца другая спроба вырашыць спрэчку. Кухмістр Пётр Аляхновіч даводзіў: *"Будучи де ешчо за славное памети милости Александра, пан Вотехъ Кучуковичъ, маршалокъ его милости, именья свои отчизные, третюю часть, ... Докудово а Щетино а Остров, по своем животе мне записал; и пан Вотехъ посылалъ о том чолом бити королю его милости и король его милость Александр тот тастамент и рукой своей подписал и потвердилъ; и по смерти пана Вотехово, к тым именьям приповедовался, по близкости дочки свое, староста Городенски пан Станиславъ Петровичъ, которого жъ дочка его на онъ часъ была змовена за пана Юрья, и его милость в тыи именья далъ ему увязанье..."*. Аднак *"пан Юре, воевода Киевски, к тому мовил, тотъ тастаментъ пана Воетховъ Кучуковича .... не слушны... и тые именья далъ его милость въ моцъ тестю моему пану Станиславу* (старасту Гарадзенскаму - *Л.Л.*); *моя жена, будучи какъ то дедичка и отчичка тому, отходячи того света, мне, мужу своему, то дала и въ тастаменъте своемъ записала ..."* [80].

Вялікі князь Жыгімонт прапанаваў зрабіць перапынак і зноў вярнуцца да справы пасля свайго вяртання ў ВКЛ. З тома метрыкі, якім я карыстаўся не бачна, чым скончылася справа,

Вядома, што каля 1513 г. паводле тастамента Барбары Кішчанкі маёнтак Дакудава атрымаў яе муж, гарадзенскі староста Юрый Радзівіл "Геркулес". І ў

[71] Лакіза Вадзім, Сідаровіч Віталь. Кераміка эпохі неаліту і бронзавага веку з паселішча Дакудава 5 (раскопкі 1998, 1999 і 2004 гадоў) // Acta archaeologica Albaruthenica. Vol. I / уклад. М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч. Мінск, 2007. С. 17-35.

[72] Штыхов Георгий. Археологическая карта Беларуси. Вып. 2. Мн., 1971. С. 142.

[73] Беларускія летапісы і хронікі. Мінск, 1997. С. 58

[74] Пятраўскас Рымвідас. Літоўская знаць у канцы XIV-XV ст.: Склад - структура - улада. С. 259-261.

[75] ВКЛ. Энцыклапедыя. Т. 2. Мінск. 2007. С. 174.

[76] Той самы Востраў, у якім было заключана вядомае Востраўскае пагадненне. Гл: Лаўрэш Леанід. Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Гістарычны альманах. 2007. Т. 13. С. 109-118.

[77] Русская историческая библиотека, издаваемая Археографической комиссией. С.-Петербург, 1903. Том 20. С. 627.

[78] Шымялевіч Міхал. Збор твораў / укл. Л. Лаўрэш. Гродна, 2019. С. 25.

[79] Русская историческая библиотека. Т. 20. С.-Петербург, 1903. С. 627.

[80] Русская историческая библиотека. Т. 20. С.-Петербург, 1903,. с. 790-791.

1537 г., пасля смерці кіеўскага ваяводы і лідскага старасты Юрыя Мікалаевіча Радзівіла (1480-1541) кароль Жыгімонт "на вечнасць" зацвердзіў за другой жонкай нябожчыка, Барбарай Станіславаўнай, сярод іншых маёнткаў таксама і "*Жырмуны, Шчучин, Остров, ... Докудов"* [81].

Юрый Радзівіл "Геркулес" (каля 1480-1541) - дзяржаўны і ваенны дзеяч ВКЛ. Займаў шэраг дзяржаўных пасад, у тым ліку з 1528 г. - лідскага і беліцкага намеснікаў, польнага, а потым вялікага гетмана ВКЛ. Праславіўся сваім удзелам у войнах, перамогамі ў 30 бітвах. У 1508 удзельнічаў у вайне з Маскоўскай дзяржавай. Быў адным з найбагацейшых магнатаў ВКЛ. На Лідчыне валодаў маёнткамі Жырмуны, Дакудава, Сялец і Збляны.

Каля 1533 г. у Дакудаве збудавалі касцёл. Міхал Шымялевіч пісаў, што ў другой палове XVI ст. *"атрымалі самае шырокае распаўсюджанне кальвінізм і лютаранства. Агульны рух да перамены рэлігіі крануў г. Ліду і яго наваколлі. Вучэнне Кальвіна ў гэтай мясцовасці карысталася падтрымкай князёў Радзівілаў і Абрамовічаў ... якія былі лідскімі старастамі. У Лідзе, Мацкішках, Дакудаве, Сяльцы, Беліцы, Ляцку і інш. былі збудаваны зборы кальвіністаў, а лідскі касцёл па недахопу вернікаў быў нават зачынены і некаторы час знаходзіўся ў непасрэдным кіраванні віленскай капітулы"* [82].

Дакудаўскі пратэстанцкі збор заснаваны ў 1600 г.[83], Саламон Рысінскі[84] пісаў: *"Гэты (збор) добра ўладкаваны ўсім праз с.п. Ягамосці пана брата майго. ... Трэба мець пры тым зборы школу, якую разам з памяшканнем для вучняў трэба пабудаваць каля збора. ... Алюмнаў павінна быць два, утрымліваць іх трэба, як і пры іншых зборах. Трэба пабудаваць шпіталь каля збора і ўтрымліваць там шэсць убогіх"* [85].

Як вядома, Дакудава ўваходзіла ў так званае Беліцкае графства Радзівілаў. 29 лістапада 1659 г. Марыя Радзівіл (жонка вялікага гетмана ВКЛ і Віленскага ваяводы Януша Радзівіла) у Любчы падпісала тастамант, у якім сярод іншых распараджэнняў загадала сваю маёмасць, а менавіта 600 000 зл., запісаных ёй Янушам Радзівілам на маёмасці Заблудава і Беліца, падзяліць наступным чынам: 200 000 - Св. Духаўскаму манастыру - у рукі вялебнаму архімандрыту Ляшчынскага манастыра Восіпу Нялюбовічу-Тукальскаму, 150000 зл. - Заблудаўскаму манастыру і школам пры ім, 100 000 - Слуцкаму манастыру і школам пры ім, астатнія 150 000 зл. размеркаваць паміж вялікімі манастырамі і цэрквамі і асобамі. Сярод атрымальнікаў і гарантаў тастаманце некалькі разоў згадваецца і Фердынанд Рор з Беліцы[86] - славуты камандзір лідскіх шышоў (партызан) падчас вайны 1654-1667 гг.[87] і Генрык Эстка (слуга князя Багуслава Радзівіла, канюшага ВКЛ), продкі якога да канца XIX ст. жылі на Лідчыне і валодалі тут маёмасцю. На старых гарадскіх лідскіх могідках, захаваўся помнік харунжага Лідскага павета з Дакудава, евангеліка Ксаверыя Эсткі (1787-1855), ён пахаваны недалёка ад уваходу на могілкі[88]. Таксама разам з іншымі быў узнагароджаны Марыяй Радзівіл і Фердынанд Рор: *"Таму што пры жыцці не дайшло да прызнання застаўнога запісу, надаю [яму] ў заставу маёнтак Беліца на суму пяцьдзесят тысяч злотых"* [89], чатыры тысячы злотых у тастаманце былі запісана за фальваркам Смолач (частка маёнтка Беліца), якія застаўным правам атрымаў Ежы Быкоўскі.

У 1690 г. ваўкавыскі падстараста Генрык Дамаслаўскі трымаў маёнтак Дакудава ў заставе (арэндзе) ад Людвікі Караліны Радзівілоўны. У тым жа годзе ў Дакудаве і Беліцы маюцца плябаніі кальвінісцкіх збораў, кальвінісцкім святаром тут служыць Самуэль Лютамірскі[90].

З-за таго, што папярэднія фундушы загінулі *"падчас войнаў са шведамі і Масквой"*, Брандэнбургская маркграфіня Людвіка Караліна (княжна Радзівіл) у 1715 г. пацвердзіла прывілеі евангелічным зборам, якія знаходзіліся на яе землях: Слуцкаму, Капыльскаму, Койданаўскаму, Любчанскаму, Беліцкаму, Сялецкаму і Дакудаўскаму: *"... фундую з наданнем ім розных сум на ўтрыманне прамоўцаў, гаспадароў (praeceptor) і катэхетаў, алюмнаў, удоў, сірот, шпітальных убогіх з запісам гэтых сум на свае розныя маёнткі ... гэтым сваім лістом добраахвотна аднаўляю канфірмацыйныя запісы тых самых паноў-патронаў і сеньёраў гэтых збораў ... і самых збораў з пляцамі, вёскамі, памяшканнямі для прамоўцаў разам з прыдадзенымі да гэтых збораў фальваркамі і вёскамі ... а таксама з вольным доступам у лясы для рамонту збораў і іншых будынкаў ... . А выплаты гэтым зборам ... [складуць] тры тысячы чатырыста восемдзесят польскіх злотых ..."* [91].

Трошкі распавяду пра пратэстанскага святара

[81] Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском архиве Министерстве юстиции. Кн. 21., Москва, 1915. С. 418.

[82] Шымялевіч Міхал. Збор твораў. С. 28.

[83] Krasinski Walerjan. Zarys dziejow Powstania i upadku reformacji w Polsce. T. 2. Cz. 2. S. 209.

[84] Саламон Рысінскі (лац.: Solomonis Risinius; каля 1560 - 13 лістапада 1625) - паэт-лацініст, філолаг, фалькларыст і пратэстанцкі дзеяч. Першы вядомы нам чалавек, які сам сябе назваў беларусам, а свой край Беларуссю.

[85] Akta synodow prowincjalnych Jednoty Litewskie. S. XXII.

[86] АВАК. Т. 12. Вильно, 1883. С. 585-592.

[87] Гл: Лаўрэш Леанід. "Невядомая вайна" XVII ст. на Лідчыне і вакол яе // Лідскі Летапісец. 2019. № 1(85). С. 24-37.

[88] Гл: Лаўрэш Леанід. Лідскія могілкі // Лідскі Летапісец. 2016. №2(74). С. 38-60.

[89] АВАК. Т. 12. Вильно, 1883. С. 590.

[90] Metryka Litewska. Rejestry Wielkiego Ksestwa litewskiego. Wojewodztwo wilenskie 1690 r. Warszawa, 1989. S. 200-235.

[91] АВАК. Т. 12. Вильно, 1883. С. 520-524.

Самуэля Лютамірскага.

Самуэль Лютамірскі быў вядомым педагогам і суперінтэндантам[92] кальвініcцкіх збораў у Наваградскай акрузе. Яго бацька, кальвініcцкі святар Юры Лютамірскі, таксама займаў пасаду суперінтэнданта кальвініcцкіх збораў Наваградскай акругі, а. Самуэль - малодшы сын у сям'і. Старэйшы брат - таксама Юры, жмудскі сеньёр.

Самуэль Лютамірскі з 1672 па 1677 гг. вучыўся ў Слуцкай гімназіі, потым ва ўніверсітэце Караляўца (Кёнігсберга). Потым атрымліваў адукацыю ў шатландскім Эдынбургскім універсітэце. Вядома, што яшчэ правінцыяльны сінод у Вільні (19.06 - 22.06.1678 г.) прызначыў стыпендыю ў 120 зл. штогод для навучання ў Эдынбургскім універсітэце, а сінод 1681 г. прызначыў Самуэлю Лютамірскаму стыпендыю ў 300 злотых штогод і 100 злотых на адваротны шлях з Шатландыі.

Пасля вяртання з універсітэта, Самуэль Лютамірскі ў 1683 г. пастановай правінцыяльнага сходу ў Жупранах быў накіраваны лектарам (святаром) у Слуцкі збор і катэхізатарам у мясцовую гімназію. Яму прызначаны заробак у 105 злотых штогод. У наступным годзе ўжо працаваў лектарам у Кейданскім зборы.

У 1689 г. атрымаў пасаду міністра і прапаведніка збора ў Кейданах, а таксама быў рэктарам мясцовай гімназіі. У тым жа годзе вядомы кальвініст Даніэль Калай далучыў яго да групы асоб, якія павінны былі перакладаць асобныя часткі Бібліі. У 1692 г. Лютамірскаму даверылі пераклад пятай кнігі Маісея. У 1694 г. быў прызначаны міністрам збора ў Беліцы і яшчэ раней служыў у Дакудаве (гл. вышэй). Правінцыйны сінод даручыў Лютамірскаму знайсці добрага настаўніка ў беліцкую пратэстанцкую школу, але, паколькі новы настаўнік не прыехаў, Лютамірскі ў 1695 г. сам вучыў дзяцей. У 1696 г. правінцыяльны сінод у Кейданах выбраў яго наваградскім кансеньёрам[93]. У гэтым званні ў 1697 г. ён сустракаецца ў дакументах сінода ў Орлі. У гэтым жа годзе Лютамірскі разам з пасламі ад Віленскага ваяводства падпісаў элекцыю караля Аўгуста II.

Беліцкі сінод 1698 г. выбраў яго сваім дэлегатам у правінцыйны сінод, а правінцыйны сход у Жупранах на пачатку чэрвеня таго ж года даверыў яму пасаду пісара сінода. У 1700 г. Лютамірскі быў дэлегатам да пфальцграфа Нойбурга і курфюрста Пфальца Філіпа Карла, ён павінен быў вырашыць пытанне продажу радзівілаўскай так званай нойбургскай маёмасці (гл. раздзел пра прыход у Зблянах). Пасля смерці наваградскага суперінтэнданта Адама Воўка правінцыяльны сход у Кейдах у 1708 г. абраў яго на пасаду наваградскага суперінтэнданта. На гэтай пасадзе Лютамірскі распачаў шырокую палітычную кампанію для паляпшэння стану прадстаўнікоў розных рэлігійных плыняў. Для паляпшэння фінансавых спраў кальвініcцкіх збораў у 1710 г. быў устаноўлены адмысловы фундуш, куратарам якога стаў Лютамірскі. Самуэль Лютамірскі быў жанаты з Марыяй з Фігулясаў і меў дачку Альжбету. Памёр 29.08.1711 г.[94]

У падымным рэестры Лідскага павета за 1728 г. у Еленскай парафіі занатаваны пратэстанцкія храмы: *"Збор беліцкі і дакудаўскі, два дымы"* [95].

Дакумент "Апісанне фундушу Дакудаўскай царквы" напісаны ў 1793 г., пачынаецца словамі: *"Каля 300 гадоў, ажно да 1774 г. не было ў Дакудаўскай царкве мясцовага святара. Бачачы адлегласць да самай блізкай царквы, якая для адных складала 3,5 а для другіх 3, 2 і 1.5 мілі, у 1774 г. ЯВп Салагуб пабудаваў царкву ў Дакудава і фундаваў для святара жытло ў мястэчку, даў жыўнасць і дастатковы заробак ад Дакудаўскага двара ... каб людзі мелі для сябе зручнасць у духоўных патрэбах. Датычыла гэта і пана Хамінкага ... пан Хамінскі таксама ўтрымліваў святара ..."*[96]. Як бачым, ніякіх дакладных дакументаў аб існаванні царквы ў Дакудава да 1774 г. не было і таму ў дакуменце падаецца прыблізная інфармацыя пра яе існаванні 300 гадоў таму - у 1477 г. Калі б царква і насамрэч існавала, яна магла б знікнуць недзе ў сярэдзіне XVI ст., у часы рэфармацыі, г. з. не 300 а 200 гадоў таму, калі лічыць ад XVIII ст.

У Падымным тарыфе 1775 г. двор Дакудава з мястэчкам - маёмасць ЯВп Юзафа Салагуба, віцебскага ваяводы, у гэтым жа дакуменце прысутнічае дакудаўская грэка-каталіцкая плябанія і "*фальварак, які належыць кальвінскаму збору"* [97].

У 1774 г. замест ранейшай, была пабудавана з дрэва новая прыходская царква Нараджэння Багародзіцы[98]. Як бачым, у 1774 г. гэта была, як мінімум, ужо другая царква ў Дакудаве. У візітацыі 1784 г. яна апісваецца наступным чынам: *"У маёмасці князя Радзівіла*[99]*, віленскага ваяводы,* [капліца] *знаходзіцца ва ўтрыманні ЯВп Хамінскага, мсціслаўскага старасты, ... афілявана да Ганчарскай царквы. Драўляная, дасканалая, у належным парадку. Мае экстрат генеральнай візітацыі лідскага дэкана Пятровіча ад 3 лістапада 1774 г. Да яе запісана палова валокі зямлі і сенажаць на 4 вазы. Неабходна дабудаваць плябанію. Парафія мае 239 дымоў. Святар Ігнат Нарэвіч зараз*

[92] Суперінтэндант - кіраўнік духоўнай акругі ў пратэстантаў.

[93] Кансеньёр - высокі чын пратэстанцкага святара, кансеньёр з'яўляецца намеснікам сеньёра - старэйшага начальніка ў сеньёраце, які таксама называецца акругай (дыстрыктам).

[94] Polski Slownik Biograficzny. Wroclaw - Warszawa - Krakow, 1973. T. XVIII. S. 143.

[95] Vilnius University Library. F. 5. Ap. 8. B. 1915. Podymny rejestr szlachty powiatu Lidzkiego, 1728. Арк. без нумара.

[96] AGAD. AR. Dz. VIII. Sygn. 63. K. 5.

[97] Асабісты архіў аўтара. Арк. 147 адв - 148.

[98] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[99] Караль Станіслаў Радзівіл Пане Каханку (1734-1790), ваявода віленскі. Гл: Niesiecki K. Herbarz Polski, T. 8. S. 137.

*з'яўляецца дзейным капланам"* [100].

Капліцу ў Гаўі тая ж візітацыя апісвае наступным чынам: *"У маёмасці ЯВп Хамінскага, мсціслаўскага старасты. Дасканалая, драўляная, на падмурку, крытая гонтай. Мае досыць неабходнага начыння. Падчас генеральнай візітацыі афілявана да Ганчарскай царквы. Ніякай датацыі не мае"* [101].

У 1784 г. Дакудава - двор, касцёл філіяльны і ўніяцкая царква (капліца) (ritus graci uniti), карчма і вёска, якая завецца Вялікае Сяло, Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, ваяводы Віленскага[102].

Візітацыя 1792 г. наступным чынам апісвае царкву: *"Дакудаўская царква пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, філія парафіяльнай ганчарскай царквы, фундацыі Найяснейшых князёў Радзівілаў, зараз у пажыццёвай арэндзе і каляцыі ў ЯВпп Хамінскіх, мсціслаўскіх ваяводаў.*

*Драўляная, з брусоў, ужо не новая, на фундаменце, крытая гонтай. Над фасадам пафарбаваная вежа з пафарбаваным жалезным крыжам. Другая, меншая вежа з жалезным крыжам, над вялікіх алтаром. Могілкі агароджаныя, на могілках звон вагой 30 фунтаў на двух слупах, брама (на царкоўны двор і могілкі - Л. Л.) з падвойнымі дзвярамі на жалезных завесах.*

*На ўваходзе ў царкву філёнчатыя падвойныя дзверы на жалезных завесах, з антабамі, з драўлянай засаўкай. Агароджа хораў з балясінамі. Столь з габляваных дошак, падлога з цэглы. 9 вокнаў, зацягнутых валовым пухіром. Канфесіянал сталярнай работы.*

*Дзве сакрыстыі. У адной - двое дзвярэй на жалезных завесах, з унутраным замком, прастол з шуфлядамі. У другой - адны дзверы на жалезных завесах з зашчапкай, адно вялікае акно"* [103].

Пра капліцу ў Гаўі з той жа візітацыі даведваемся наступнае: *"Філія ганчарскай царквы, пад тытулам Унебаўзяцца Найсвяцейшай Панны Марыі, у фундацыі і дзедзічнай каляцыі ЯВпп Хамінскіх, ваяводаў мсціслаўскіх. Драўляная, з брусоў, крытая гонтай, на фундаменце. З купалам, на якім жалезны крыж. У купале звон на 10 фунтаў. Могілкі неагароджаныя. Уваход у царкву праз падвойныя дзверы на жалезных завесах з засаўкай. Другія дзверы збоку, яны на жалезных завесах з зашчапкай, прабоямі і навясным замком. Столь і падлога з габляваных дошак. Лаўкі сталярнай работы. Поручні з балясінамі ў два пруты перад вялікім алтаром"* [104].

Цікава, што ў 1829 г. у вёсцы Альхоўка Дакудаўскай парафіі жыў 100-гадовы Ян Жыдок[105]. Жыў ён разам з дзвюма сваімі дочкамі: Мар'янай (узрост 54 г.) і Барбарай (узрост 48 г.), двума зяцямі і вялікай колькасцю ўнукаў і ўнучак.

Да 1865 г. драўлянай царква састарэла, паўночны бок зруба крыху пакасіўся, з заходняга боку ветрам вырвала акно, і яно было забіта дошкамі[106].

У 1865 г., непадалёку ад старой, драўлянай грэка-каталіцкай, пачалося будаўніцтва новай мураванай царквы. Яна была пастаўлена ў 1866 г. з бутавага каменю і ў 1867 г. асвечана, прэса паведамляла, *"... што пры асвячэнні абедзвух цэркваў* (у Дакудаве і Орлі - Л.Л.), *на левым кліросе, да вялікага усцешання бацькоў і знаёмых, спяваў хор сялянскіх хлопчыкаў, арганізаваны ў Лідзе і добра навучаны спеву шаноўным міравым пасярэднікам князем Трубяцкім, гэты хор зладжана спявае царкоўную службу ў лідскай царкве, яго яснавяльможнасць рэгент лічыць за… гонар, каб гэты хор спяваў… пры асвячэнні дакудаўскай, і арлянскай цэркваў"* [107].

У 1913 г. "Вестник Виленского Св.- Духовского Братства" друкуе спіс цэркваў, пабудаваных праз генерал-губернатара Літвы Мураўёва-вешальніка, у спісе ёсць і Дакудаўскай царква: *"Уладкавана і асвечана царква ў Дакудаве на 459 чалавек на суму 5 863 р. 95 к."* [108].



***Дакудаўская царква***

---

[100] ДГАЛ. Ф.634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 127.
[101] Там жа.
[102] Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Лідская парафія // Лідскі летапісец. 2013. №1(61). С. 31.
[103] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 43.
[104] Там жа. Арк. 44.
[105] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 10. Спіс парафіян Лідскага дэканату 1829 г. Парафія ў Дакудава. Арк. 168.
[106] Лідская газета. 2018. № 5 (12866).
[107] Вестник Западной России. Кн. 9., Т. III. Вильна, 1867. С. 252.
[108] Вестник Виленского Св.-Духовского Братства. 1913. № 5. С. 103.

У 1893 г. царква мела 38 дзесяцін зямлі (23 раллі і 8 сенажаці) у 16 кавалках за 8 вёрст ад царквы. Меліся старыя прычтавыя пабудовы. Царкву наведвала 1259 вернікаў-мужчын і 1209 верніц-жанчын, якія жылі ў 314 дварах[109].

Яшчэ пры святары Яне Сцяпуры з рыма-каталіцтва ў праваслаўе былі пераведзены 37 вернікаў[110]. Лідскі вікарый у 1898-1899 гг. ксёндз Юзаф Бародзіч пісаў, што нават у самым канцы XIX ст. з Дакудава *"'ўпартыя" вернікі ездзілі ў Ліду за 30 км [у касцёл]. Каб пазбегнуць адказнасці, людзі хавалі сваіх памёршых нават без ксяндза. Бывала, што паліцыя і наўпрост забараняла ксяндзу ехаць на пахаванне"*. І яшчэ: *"Хаваць нябожчыкаў дапамагалі папы. Так, менавіта папы! Нічога дзіўнага. Бо за кожнага, навернутага ў праваслаўе, урад плаціў ім па 50 рублёў! Таму яны прыкладалі ўсе намаганні, каб як мага больш перахапіць сабе, хоць бы і нябожчыкаў. Паліцыя ім у гэтай справе дапамагала. Бывала і так, што ксёндз адпраўляў на могілкі цела католіка, а поп, апрануты ў "царкоўныя рызы", з паліцыяй перахопліваў хаўтуры па дарозе і хаваў нябожчыка, як ужо праваслаўнага. Што не зробіш, каб атрымаць 50 рублёў*[111]*. Ксёндз саступаў, бо за супраціў паліцыі яму пагражала выгнанне ці кляштар. Пераважна гэтак адбывалася ў вёсцы Дакудава ..."* [112].

У 1915 г. перад тым, як прыйшлі немцы, святар дакудаўскай царквы М. Трушынскі эвакуяваўся, і падчас вайны жыў па адрасе: паштовае аддзяленне Початава, Цвярской губ., вёска Слабодка[113].

* * *

Вывучаючы спісы грэка-католікаў у 1829 г. - прамых продках усіх сучасных праваслаўных жыхароў Лідчыны, немагчыма не заўважыць, як у кароткі тэрмін памяняліся імёны людзей. Зразумела, гэта не выпадковасць, пра што, разам з іншымі крыніцамі, кажа і артыкул святара з Дзярэчына Іпаліта Канцэвіча, які быў надрукаваны ў 1865 г. у Літоўскіх Епархіяльных Ведамасцях. Гэты тэкст лепш цытаваць, чым пераказваць: *"Часта прыезджы вялікарос задумваецца над імёнамі, якімі нашы прасталюдзіны называюць адзін аднаго. І насамрэч, нашы сяляне гэтак псуюць хрысціянскія імёны, што цяжка зразумець першакрыніцу ... . Напрыклад, імёны, якія ўжываюць сяляне: Янка, Яська ... а таксама Мар'яна ... Агата і Гапуся. Шмат імён не сустракаюцца ў нашых* (праваслаўных - *Л. Л.*) *святцах, напрыклад: Франц, Казімір, Караль, Дамінік і іншыя. І таму рускаму, ... які не сустракаў нічога падобнага, усё гэта здаецца дзіўным. І хто з нас, вясковых святароў, не чуў наіўныя просьбы сялян, памяняць імёны ў толькі што ахрышчаных немаўлят бо святар даў занадта незразумелае імя ..., і яны жадаюць, каб "Фома, Иларион, Егор, Василий, Мария" былі зменены на іхні капыл: Тамаш, Гілясь, Юрась, Базыль і г. д. ... Хто з велікарусаў можа здагадацца, што Янка гэта хрысціянскае імя? ... а Яська, Гілясь і інш. ён зразумее, як мянушку жывёлы. ... У гэтай справе знешняе аб'яднанне тутэйшага народа з народам велікарускім, якое даўно разарванае, павінна стаць не апошняй мэтай для тых, хто прызваны служыць народу. ... Трэба звярнуць увагу ... каб нашы сяляне ... былі хрысціянамі і хрысціянамі праваслаўнымі, але таксама і рускім народам. ... Пры хрышчэнні неабходна настойлівасць, бо на пачатку яны адмовяцца, але потым схіляцца перад неабходнасцю. ...*

*Заўважана, што сяляне часцей за ўсё просяць назваць сваіх дзяцей імем Антоній, але я не лічу патрэбным задавальняць гэтую просьбу, бо яны ведаюць толькі Антонія Падуанскага і шануюць яго памяць. Таму, пакуль не будзе забыты гэты* (каталіцкі - *Л. Л.*) *святы, імя Антон павінна стаць рэдкім сярод нашых людзей"* [114].

Як бачым - мэта адна, каб было, як у Расіі, а тысячагадовую культурную традыцыю беларускага народа трэба зламаць і выкінуць на смецце. І, зразумела, гэта не толькі пазіцыя асобнага святара, бо ў наш час мы бачым вынікі рэалізацыі гэтай і іншых падобных ідэй. Дадам, што родны брат Іпаліта Канцэвіча - Іаан Канцэвіч у 1865 г. закончыў Літоўскую семінарыю па другім разрадзе (г. зн. не вельмі добра) і да 1876 г. служыў у Дакудаўскай царкве[115].

Змагаліся не толькі з беларускімі імёнамі, але і з асобнымі беларускімі словамі, якія маглі выпадкова патрапіць у афіцыйны тэкст, напрыклад у Літоўскіх Епархіяльных ведамасцях можна прачытаць наступнае: *"... часта пішацца (... напрыклад, у Лідзе ...) ... слова* ***капліца*** *якое трэба было б зусім знішчыць, замяніўшы яго словам* ***царква*** *ці* ***часоўня"*** [116].

Не толькі шараговыя святары, але і найвышэйшыя іерархі ў XIX ст. выступалі супраць першых парасткаў беларускага кнігадрукавання: *"Калі ў 1861 г., падпарадкоўваючыся сучасным уплывам, было выдадзена некалькі кніг для школьнага чытання на*

---

[109] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 25.

[110] Стренковский С. П. Священно- и церковнослужители православных приходов Лидского и Ошмянского уездов в XIX - начале XX века. С. 190.

[111] Не магу не заўважыць, што гэта нагадвае "Мёртвыя душы" па-беларуску. - *Л Л.*

[112] Лаўрэш Леанід. Ксёндз Юзаф Бародзіч і яго успаміны, датычныя Ліды // Лідскій Летапісец, 2020. 1(89). С. 76-80.

[113] Адреса эвакуированного духовенства и учреждений // ЛЕВ. 1916. № 2. С. 8.

[114] Концевич Ип. По поводу искажения имён // ЛЕВ. 1865. № 1. С. 28-32.

[115] Стренковский С. П. Священно- и церковнослужители православных приходов Лидского и Ошмянского уездов в XIX - начале XX века. С. 95-96.

[116] О неисправностях и упущениях, усмотренных в клировых ведомостях по Литоской епархии за 1869 год // ЛЕВ. 1870. № 7. С. 228.

*беларускай гаворцы*[117]*, дык ... на пытанне аб карыснасці падобных выданняў у выхадцаў з Паўночна-Заходняга краю, мясцовых архірэяў, яны наўпрост выказаліся супраць выдання кніг для народа на беларускай гаворцы. Вось што пісаў архіепіскап Менскі Міхал Галубовіч: "Беларуская мова не апрацаваная, на ёй немагчыма выказаць абстрактныя думкі, гучыць яна вельмі непрыемна, нашто ўздымаць яе да літаратурнай мовы, калі мэтай урада з'яўляецца ўзмацненне чыстай рускай мовы ...""* [118]. Заўважу, што адзін з галоўных ліквідатараў сваёй, уніяцкая царквы, архіепіскап Галубовіч - беларус, ён нарадзіўся каля Берасця.

Які ж эфект давалі падобныя дзеянні? Уважлівы назіральнік пісаў: *"Вяртанне ўніятаў ... не мела ніякага ўплыву на абрусенне краю. ... Калі праз 20 гадоў* [пасля скасавання уніі - *Л. Л.*] *было выдадзена распараджэнне не вянчаць маладых, покуль яны не скажуць "Ойча наш" ... па-стараславянску, дык яны адкупляліся ад гэтага ці як небудзь завучвалі сваю ролю, але забывалі словы адразу пасля шлюбу і вярталіся да сваіх ... малітваў, ружанцаў і курункаў"* [119].

Дадам, што ў сваіх тэкстах па гісторыі рэлігіі я выкарыстоўваю акты візітацый (ці візітаў) цэркваў Лідскага дэканата з Менскага і Віленскага архіваў. Гэтыя надзвычай цікавыя дакументы даюць нам уяўленне пра стан тагачасных цэркваў, святароў і іх прыходаў. У свой час на Замойскім саборы 1720 г. было вырашана рэгулярна праводзіць генеральныя і звычайныя візітацыі цэркваў. Генеральныя візітацыі павінны былі праводзіць епіскапы раз у два гады ці прызначаныя імі члены капітулы, а звычайныя візітацыі лічыліся штогадовымі абавязкамі дэканаў. Візітатарам трэба было так планаваць сваю працу, каб не абцяжарваць святароў сваёй прысутнасцю, не патрабаваць ад святароў грошай і рабіць рэвізію хутка. Яны павінны тлумачыць святарам, як правільна арганізаваць працу, і мелі права караць вінаватых, калі знайшлі нейкія сур'ёзныя парушэнні[120].

Пасля візітацый для разгляду царкоўных спраў склікаліся саборы святароў. Святара, які без важкай прычыны не прыехаў на сабор, штрафавалі. На навагрудскім саборы 27 кастрычніка 1689 г. ад Лідскага дэканата прысутнічалі 9 святароў, адзін не змог прыехаць. Як бачым, у той час у Лідскім дэканаце было як мінімум 10 грэка-каталіцкіх святароў. З Слонімскага дэканата прыехаў 41 святар, з Гарадзенскага - 32 святары, Ваўкавыскага - 29 святароў, што зразумела, Лідскі павет быў у значнай ступені рыма-каталіцкім (для параўнання, з Віленскага дэканата прысутнічала, наогул, толькі 4 святары)[121].

**Фундуш Дакудаўскай царкве, запісаны ў 1696 г. у актавыя кнігі Берасцейскага земскага суда**[122]

У земскія акты Берасцейскага ваяводства фундуш асабіста запісаў вялебны ў Богу ЯМ святар Мікалай Харлампові́ч, парах Дакудаўскай царквы, фундуш выдадзены гэтай царкве Найяснейшым князем ягамосцем Каралем Станіславам Радзівілам, падканцлерам ВКЛ. ... у кнізе запісаны наступныя словы: *Караль Станіслаў Радзівіл, князь на Алыцы, Нясвіжы, Слуцку, Копысі і Клецку, граф на Мышы, Шыдлаўцы, Крожах і Белай, падканцлер ВКЛ, ... стараста, ... нашым фундушом зацвярджаем, бо даведаліся з суплікі* (скаргі - *Л. Л.*) *празбітара нашай Дакудаўскай царквы Яна Вярбіцкага, што права і фундушы ад с. п. князёў іхмосцяў ... у агні ці праз недагляд плябанаў загінулі і з-за гэтага ... у гэтым месцы можа спыніцца праслаўленне Бога. Таму мы вырашылі новым фундушом пацвердзіць землі, якія здаўна царкве належалі. Гэтым прывілеем пацвярджаем паўтары валокі поля і з прымеркамі* (дадаткамі - *Л. Л.*), *якое ляжыць паміж землямі нашых дакудаўскіх месцічаў, а таксама шэсць пляцаў у мястэчку, на якіх здаўна стаіць царква і плябанія. На вечныя часы, з немагчымасцю адабраць, надаем і даруем гэтай царкве. ... Аднак ... тутэйшы празбітар in unione santae Romnae Ecclesiae павінен заўсёды заставацца* (заставацца ў уніі з Рымскай царквой - *Л. Л.*), *кожны празбітар, які атрымаў ад нас прэзенту павінен клапаціцца аб уратаванні людскіх душ. Гэты фундуш сваёй рукой падпісаў і нашу пячатку загадаў прыціснуць. Дадзена ў замку Белым. Дня сёмага ліпеня тысяча шасцьдзесят дзевяноста шостага года. У гэтым фундушы на чырвонай масе выціснута гербавая пячатка і стаіць подпіс рукой Найяснейшы Ям князя: Караль Станіслаў князь Радзівіл, падканцлер ВКЛ. ... на другой старонцы гэтага*

[117] На пачатку царавання Аляксандра І пачалася лібералізацыя рэжыму і з'явілася вялікая зацікаўленасць мясцовай інтэлігенцыі да беларускай мовы, што прымусіла віленскага генерал-губернатара Назімава падаць прапанову, якая абмяркоўвалася ў Радзе Міністраў у верасні 1862 г. Ён прапанаваў выдаць маніфест, які б дазволіў кожнай народнасці даць *"сродкі вольна і беспрашкодна развівацца ва ўласцівых ёй формах, характары і межах"*, атрымліваць адукацыю на сваёй мове ў мясцовасцях, дзе яна складае большасць насельніцтва. Назімаў спасылаўся на добры прыклад *"аўстрыйскай Галіцыі"*. Увесну 1863 г. па ініцыятыве апекуна Віленскай навучальнай акругі былі выдадзены "Аповеды на беларускім прыслоўі" - кніжка кароткіх павучанняў, закліканых даказаць, што беларусы - не палякі, а рускія. Гэта быў адзіны досвед праўрадавай прапаганды на нашай мове. Таксама пад эгідай Назімава была зроблена спроба заснаваць часопіс для народа на "мясцовым русінскім прыслоўі" (г. зн. на беларускай мове). Менавіта супраць гэтага і выступілі "мясцовыя архірэі". А кнігі на летувіскай мове кірыліцай з таго часу стала друкавалі дзяржаўныя друкарні. Гл: Западные окраины Российской империи. Сборник. Научные редакторы: М. Долбилов, А. Миллер. Москва, 2006. С. 168-170.

[118] Вестник Виленского православного Свято-Духовского братства. 1912. № 8. С. 131.

[119] ЛЕВ. 1871. № 2. С. 62.

[120] ЛЕВ. 1874. № 35. С. 278.

[121] ЛЕВ. 1874. № 36. С. 284-285.

[122] АВАК. Т. 2. Вільна, 1867. С. 83-87.

*прывілея ці фундуша ёсць надпіс … Ям святар Мікалай Піроцкі, парах Дакудаўскай царквы … дваццаць сёмага ліпеня тысяча семсот восемдзесят дзявятага года.*

**Акт генеральнай візітацыі Ганчарскай царквы 1792 г.**[123]

**Вёска Ганчары**

Царква пад тытулам Апекі (пратэкцыі) Найсвяцейшай Панны Марыі, знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, фундацыі ЯВпп Салагубаў, потым ў дзедзіцтве і каляцыі ЯВпп Ігната і Мар'яны з Сапегаў Пузыняў, старостаў дзевянішкаўскіх, зараз у каляцыі ЯВп Ленскага, старасты любавіцскага. Царква драўляная, з брусоў, добра пабудаваная, на падмурку, крытая гонтай. Адзін купал над фасадам з жалезным крыжам, другі, меншы над вялікім алтаром і таксама з жалезным крыжам. Большая частка могілак агароджана. На могілках званіца на 4-х слупах крытая гонтай, з купалам і жалезным крыжам, вельмі старая. На званіцы - 3 званы. Адзін звон разбіты.

Уваход у царкву праз дзверы на падвойных завесах з клямкай і жалезнымі прабоямі. Дзверы з бабінца не замыкаюцца. Для прыгажосці перад хорамі чацвярная перагародка. Сама царква знутры на 4-х калонах, якія пафарбаваны ў розныя колеры. Столь з габляваных дошак, падлога з цэглы. 16 вокнаў зацягнутых валовым пухірам. Сходы на хоры двухузроўневыя, з балясінамі. Лаўкі і канфесіянал сталярнай работы. Поручні перад вялікім алтаром пафарбаваныя, амбон



***З візітацыі Ганчарскай царквы: "… крытая гонтай". Старая, уніяцкая гонта, від з хораў***

каля сакрыстыі пафарбаваны. Сакрыстыі - дзве. Адна з правага боку з двумя дзвярмі на жалезных завесах, адны з гэтых дзвярэй маюць унутраны замок, з жалезнымі прабоямі і зашчапкай, акно адно. Другая сакрыстыя з левага боку, мае дзверы на жалезных завесах з унутраным замком, зашчапкай і прабоямі, адно акно. У сакрыстыі - прастол з шуфлядай для рэчаў.

**Вялікі алтар.** Добрай сталярнай работы. Прастол разам з заслонай драўляныя, пафарбаваныя. Дараносіца пафарбаваная ў розныя колеры, дзверцы дара-



***З візітацыі Ганчарскай царквы: "перад хорам чацвярная перагародка … столь з габляваных дошак"***

захавальніцы срэбныя, знутры пазалочаныя. … Укрыжаванне драўлянае, вялікае, з пасійкай. Драўляных падсвечнікаў - 4 пары. 2 ручнікі. Абрус-пакрывала з тканіны. Антымінс ЯВ мітрапаліта Валадковіча. Падушачка пад мшал. Перад алтаром драўляныя прыступкі.

**Бакавы алтар, з правага боку**. Пафарбаваны, з абразом св. Антонія. Прастол разам з заслонай з пафарбаванага дрэва. Драўляных падсвечнікаў - 1 пара. Укрыжаванне драўлянае з корпусам. 2 ручнікі і абрус,



***З візітацыі Ганчарскай царквы: " ... адны з гэтых дзвярэй маюць унутраны замок, з жалезнымі прабоямі і зашчапкай"***

[123] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 41-45.



*З візітацыі Ганчарскай царквы: " ... дзверы ... з клямкай"*

прыступкі перад алтаром драўляныя.

**Алтар з таго ж боку, каля сцяны**. Сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом Пана Збавіцеля. Прастол разам з заслонай драўляныя. Драўляных падсвечнікаў - 1 пара. 1 абрус. Прыступкі перад алтаром.

**Алтар 3-ці, бакавы, з левага боку, пафарбаваны.** На першым узроўні алтара стаіць абраз св. Тадэвуша, на другім св. Барбары. Прастол разам з заслонай з пафарбаванага дрэва. 1 пара драўляных падсвечнікаў, 2 ручніка і абрус. Перад алтаром прыступкі.

**Алтар 4-ты, малы**, з таго ж боку, што і 3-ці, каля сцяны. Сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом Найсвяцейшай Панны Скаплернай, на якім 2 кароны з бісеру. 1 пара драўляных падсвечнікаў. 1 ручнік і абрус. Перад алтаром прыступкі.

**Царкоўнае начынне.** Срэбны пацір пазалочаны ўнутры, адрамантаваны, добры. Дыскас стары, лыжачка, срэбная даразахавальніца, … алавяная даразахавальніца з верхам, 1 пара перарobленых ампулак, 2-я пара новая. Алтарных званкоў - 2, трэці пры бурсе, чацвёрты вісіць у сакрыстыі, пяты прыбіты. Вялікае кадзіла, трымальнік для паходні.

**Літургічнае ўбранне.** Белы атласны арнат у паскі з ружовым каўняром рыжага аксаміту, бантаеравым галуном, упрыгожаным золатам, з усім неабходным. Другі штафовы .. у розныя кветкі, з добрым каўняром, белым галуном, з усім неабходным. Трэці штафовы, такі ж, як і другі. 4-ты адамашкавы, зялёны, у кветкі, з каўняром, з усім неабходным. 5-ты таксама адамашкавы, у кветкі, вельмі стары, мае быць прыбраны. Альбаў грэцкіх .. з гумераламі ў паскі - 2. Комжаў грэцкіх - чатыры. Бурса для хворых, добрая - адна штафовая. Працэсіяльны крыж - адзін. Дзве гарусныя харугвы з абразамі. Трэцюю харугву ўжываць нельга. Балдахін цыратавы. На сценах 12 вельмі старых абразоў.

**Кнігі.** Службоўнік ін-фоліо віленскага друку, малы службоўнік, стары актоіх, стары псалтыр, трэбнік, Трыёдзь Посная - вельмі старая, польская евангелічка, святочныя і нядзельныя прамовы кс. Нароўскага, метрыкі хрышчэнняў, шлюбаў і смярцей. Рэестр парафіі разам са спісам вернікаў.

**Дакументы.** Фундушоў няма …, толькі 2 паданні. Адно ад святара Пятровіча святару Валовічу. Другое ад святара Білевіча святару Старжынскаму. Даравальны дакумент Мар'яны з Сапегаў Пузыні, старасціны дзевянішкаўскай, выдадзены на селяніна Міхала Бахмана Ганчарскай плябаніі ад 1791 г. Генеральная візіта цырынскага дэкана Васіля-Нупрэя Марцінеўскага ад 1784 г.

**Зямля плябаніі.** 3 валокі … у тры змены. Першая змена сядзібная, пачынаецца ад царквы, а заканчваецца каля Супраўшчыны. Другая змена ва ўрочышчы Ляхаўшчына, пачынаецца ад дворнай вашкоўскай зямлі …, а канцом упіраецца ў Супраўскую зямлю. … Трэцяя змена ва ўрочышчы Дуброва і там пачынаецца ад зямлі вёскі Бенявічы і мяжуе з зямлёй вёскі Сялец.

**Сенажаці.** Адна ва ўрочышчы Цімохаўшчына, на 2 вазы. Другая ва ўрочышчы Маргі на 3 вазы. Трэцяя каля зямлі плябаніі Грамыкаўшчына на 2 вазы. …

**Падданыя**. Тамаш Шчэрбач пасля смерці жонкі … пакінуў сына Міхала, 14 гадоў …

**Другі падданы** … Міхал Бахман, жанаты … мае валоў - 1 пару, кароў - 1 і 2 падцёлкі, авечак - 4, свіней - 4, абрабляе палову валокі зямлі.

Павіннасці гэтых мужчын і жанчын - 2 дні ў тыдзень. … сенажаці маюць на 7 касцоў. Даюць у плябанію дзякла: жыта чвэрць бочкі і столькі ж аўсу. Плацяць чыншу 2 злотыя і 15 гр. …

**Пабудовы плябаніі.** Белая хата з каморай, дзверы ў хату на жалезных завесах з унутраным замком і жалезнымі антабамі, дзверы ў камору на жалезных завесах. 3 акны. Старая кафляная печ з комінам. Столь і падлога з габляваных дошак. Стол сталярнай работы з шуфлядай і ўнутраным замком. Каля стала - лаўкі. Старая шафа сталярнай работы, мае дзверцы ўнізе і ўгары на жалезных завесах, з жалезнымі зашчапкамі. У каморы - 2 акны, дзверы на жалезных завесах з клямкай і жалезнай зашчапкай. Праз сені ўваход у пякарню … простая печ, 4 акны. … Каля сеняў быў паламаны ганак, зараз адрамантаваны. Увесь дом крыты часткова дранкай а часткова сенам.

Маюцца 2 старыя свіраны, крытыя саломай, адзін з іх на два паверхі. … Стары бровар, перароблены ў хлеў, добрая студня … пад дашкам, крытым саломай, добрае гумно, крытае саломай на 3-х сохах. Каля гумна добрая адрына, крытая саломай.

Уся плябанія часткова агароджана парканам, а часткова будынкамі.

**Спіс вернікаў разам з рэестрам Лябецкай парафіі абодвух палоў, якія здольны і не здольны да споведзі**

| | Хаты | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | здольны | не здольны | здольны | не здольны |
| Вёска Ганчары | 19 | 33 | 26 | 10 | 11 |
| Вёска Агароднікі | 17 | 27 | 30 | 18 | 17 |
| Вёска Ганцавічы | 22 | 48 | 38 | 11 | 18 |
| Вёска Бенявічы | 28 | 69 | 55 | 27 | 25 |
| Вёска Супраўшчына | 15 | 35 | 31 | 14 | 13 |
| Вёска Масявічы | 22 | 47 | 40 | 27 | 28 |
| Вёска Навасады | 10 | 19 | 15 | 6 | 4 |
| Вёска Драздоў (Дроздава) | 26 | 51 | 52 | 32 | 21 |
| Вёска Заенчыцы | 3 | 5 | 4 | 5 | 4 |
| Вёска Капланаўшчына | 2 | 6 | 3 | 2 | - |
| Вёска Дзякавічы | 20 | 41 | 26 | 18 | 7 |
| Вёска Баравічы | 10 | 17 | 12 | 4 | 7 |
| Вёска Саламянка | 3 | 2 | 3 | - | 1 |
| Вёска Сялец | 22 | 46 | 52 | 18 | 8 |
| Вёска Жамойці (Жэмайты) | 14 | 29 | 16 | 10 | 8 |
| Вёска Дзітрыкі | 16 | 38 | 27 | 8 | 14 |
| Вёска Вялікія Канюшаны | 34 | 68 | 35 | 49 | 22 |
| Вёска Малыя Канюшаны | 7 | 12 | 9 | 4 | 1 |
| Вёска Жучкі | 10 | 9 | 13 | 5 | 4 |
| Разам, дымоў - 300, вернікаў - 1470 | | | | | |
| | 300 | 602 | 407 | 268 | 213 |

На могілках стары шпіталь, ніякага фундушу не мае.

Пры гэтай царкве парах - святар Марцін Старынскі. Высвечаны біскупам пінскім і тураўскім Гедэонам Гарбацкім. … Прэзентаваны дзевянішкаўскімі старастамі Ігнатам і Марыяй з Сапегаў Пызынямі ў в. Вашкевічы 9 снежня 1784 г. …

**Вёска Дакудава**

Дакудаўская царква пад тытулам Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, філія парафіяльнай ганчарскай царквы, фундацыі Найяснейшых князёў Радзівілаў, зараз у пажыццёвай арэндзе і каляцыі ў ЯВпп Хамінскіх, мсціслаўскіх ваяводаў.

Драўляная, з брусоў, ужо не новая, на фундаменце, крытая гонтай. Над фасадам пафарбаваная вежа з пафарбаваным жалезным крыжам. Другая, меншая вежа з жалезным крыжам, над вялікіх алтаром. Могілкі агароджаныя, на могілках звон вагой 30 фунтаў на двух слупах, брама (на царкоўны двор і могілкі - *Л.Л.*) з падвойнымі дзвярамі на жалезных завесах.

На ўваходзе ў царкву філёнчатыя падвой-ныя дзверы на жалезных завесах, з антабамі, з драў-лянай засаўкай. Агароджа хораў з балясінамі. Столь з габляваных дошак, падлога з цэглы. 9 вокнаў, зацягнутых валовым пухіром. Канфесіянал сталярнай работы.

Дзве сакрыстыі. У адной - двое дзвярэй на жалезных завесах, з унутраным замком, прастол з шуфлядамі. У другой - 1 дзверы на жалезных завесах з зашчапкай, 1 вялікае акно.

**Вялікі алтар.** Пафарбаваны, з абразом Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. На прастоле дараносіца сталярнай работы, пафарбаваная, у ёй захоўваюцца Святыя Дары ў срэбнай, знутры пазалочанай даразахавальніцы з верхам, важыць 1 грыўну і 16 лотаў. 1 пара настольных алавяных падсвечнікаў. 3 пары драўляных падсвечнікаў. Драўлянае ўкрыжаванне з вялікім корпусам. Ручнікоў - 3. Заслона прастола драўляная, пафарбаваная. Антымінс ЯВ мітрапаліта Валадкевіча. Падушка пад службоўнік, пакрывала з тканіны.

**Бакавы алтар.** Пафарбаваны, з абразом Пана Ісуса, вялікі абраз св. Разаліі. Драўляных падсвечнікаў - 2 пары. Ручнік - 1. Заслона прастола пафарбаваная.

**Другі бакавы алтар.** Пафарбаваны. З абразом св. Юрыя, вышэй за яго абраз св. Антонія. На прастоле - 2 ручнікі. 1 пара драўляных падсвечнікаў. Драўлянае ўкрыжаванне. Заслона прастола пафарбаваная.

**Малы працэсіяльны алтар.** З абразом Найсвяцейшай Панны Марыі, з другога боку - абраз св. Казіміра, на ім штафавыя шаты, шнуркоў з бісерам - 4. Рекліквіяр за шклом.

**Заўвага!** У вялікім алтары фіранкі з кітайкі каля абраза Найсвяцейшай Панны ў дрэнным стане.

**Царкоўнае начынне.** Срэбны пацір з двума дыскасамі, 2 срэбныя лыжачкі, алавяныя даразахавальніца і пацір з дыскасам. Мерніца алавяная. 4 алтарныя званкі. Крыж працэсіяльны. 3 гарусныя харугвы. Стрыжняў жалезных на сценах - 12. Трымальнік для паходні жалезны на шчыце адзін.

**Літургічнае ўбранне.** Арнаты. З зялёнай кітайкі з бантаеравым галуном, адзін. Другі з блакітнай кітайкі з залатым бантаеравым галуном. 2 альбы грэцкія з гумераламі. 2 паскі. 2 грэцкія комжы. 2 ручнікі. Чырвоны арнат у срэбныя кветкі, стары. Ампулак алавяных - 1 пара. 1 пара старых алавяных падсвечнікаў.

**Кнігі.** Службоўнік ін-фоліо пачаеўскага друку. Трэбнік. Польская евангелічка. Метрыкі хрышчэння, шлюбаў і пахаванняў. Нядзельныя прамовы кс. Нароўскага і рэестр парафіі разам са спісам вернікаў.

**Зямля плябаніі.** У тры змены. Першая, на паўвалокі ва ўрочышчы Грабаўшчына, адным бокам ад зямлі Забалаці, а другім канцом да мяжы зямлі Сяльца. Другая змена мае назву Сядміца, адным канцом

**Спіс вернікаў разам з рэестрам Лябецкай парафіі абодвух палоў, якія здольны і не здольны да споведзі**

| | Хаты | Мужчын | | Жанчыны | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | здольны | не здольны | здольны | не здольны |
| Вёска Дакудава | 11 | 13 | 7 | 24 | 10 |
| Вёска Вялікае Дакудава | 65 | 94 | 56 | 136 | 54 |
| Вёска Крывічы | 5 | 10 | 5 | 10 | 5 |
| Вёска Мікулічы | 15 | 26 | 12 | 15 | 14 |
| Вёска Альхоўка | 14 | 23 | 14 | 23 | 21 |
| Вёска Васілевічы | 12 | 24 | 10 | 18 | 16 |
| Вёска Пудзіна | 18 | 33 | 16 | 37 | 17 |
| Вёска Анацкі | 8 | 11 | 15 | 6 | 4 |
| Вёска Чараўкі | 5 | 7 | 7 | 6 | 7 |
| Вёска Хвасты | 5 | 13 | 15 | 9 | 1 |
| Вёска Каляды | 6 | 8 | 7 | 4 | 3 |
| Вёска Бурдзюкі | 7 | 12 | 3 | 12 | 8 |
| Вёска Каўкелі | 3 | 4 | 7 | 3 | 2 |
| Вёска Навасёлкі | 5 | 6 | 8 | 6 | 4 |
| Вёска Залейкі | 8 | 19 | 11 | 7 | 3 |

Разам, 187 дымоў і 1091 вернікі.

ад Нёмана, а другім да зямлі двара … . Трэцяя змена мае назву Мелігава, адным канцом ад дакудаўскай плябаніі, а другім да сялянскай зямлі.

…

**Капліца ў Гаўі**

Філія ганчарскай царквы пад тытулам Унебаўзяцца Найсвяцейшай Панны Марыі, у фундацыі і дзедзічнай каляцыі ЯВпп Хамінскіх, ваяводаў мсціслаўскіх. Драўляная, з брусоў, крытая гонтай, на падмурку. З купалам, на якім жалезны крыж. У купале звон на 10 фунтаў. Могілкі неагароджаныя. Уваход у царкву праз падвойныя дзверы на жалезных завесах з засаўкай. Другія дзверы збоку, яны на жалезных завесах з зашчапкай, прабоямі і навясным замком. Столь і падлога з габляваных дошак. Лаўкі сталярнай работы. Поручні з балясінамі ў два пруты перад вялікім алтаром.

**Вялікі алтар пафарбаваны, з абразом Пана Ісуса**. На прастоле дараносіца сталярнай работы, з замыканымі дзверцамі, у ёй захоўваюцца Святыя Дары ў срэбнай, знутры пазалочанай даразахавальніцы, з верхам. Укрыжаванне драўлянае, з алавяным корпусам. Алавяных падсвечнікаў - 1 пара, драўляных - 2 пары. Ручнікоў - 2, абрус. Партатэл лацінскі, на заслоне прастола надпіс, вышыты белым.

**Другі алтар.** З абразом св. Язэпа. На прастоле драўлянае ўкрыжаванне з алавяным корпусам. Алавяных падсвечнікаў - 1 пара. Ручнікоў - 3. Абрус. На заслоне прастола надпіс вышыты белым.

**Трэці алтар**. З аб-разом Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. На прастоле драўлянае ўкрыжаванне з алавяным корпусам. Драўляных падсвечнікаў - 1 пара. Ручнікоў - 2. Абрус. На заслоне прастола надпіс, вышыты белым.

**Царкоўнае начынне.** Срэбны пацір з двума дыскасамі, унутры пазалочаны Алавяныя ампулы - 1 пара з падносам. Кадзіла бронзавае, бляшаная лямпа.

**Літургічнае ўбранне**. Адно каламейкавае, зялёнае, у кветкі, з усім неабходным. Другое лацінскае … тканіны, белае, з усім неабходным. 2 альбы з гумераламі грэцкія. 2 паскі. 2 кампаралы. Пурыфікатараў - 2.

Новы службоўнік супрасльскага друку, службоўнік вялікі, лацінскі.

Пры гэтай царкве ёсць вікарый, святар Базыль Лапушэўскі. Высвечаны ў святары ЯВ біскупам Гедэонам Гарбачэўскім у 1780 г. Адміністрацыю мае на 6 месяцаў …

Паколькі зялёны адамашкавы арнат вельмі стары, хай мясцовая адміністрацыя прыме рашэнне пра яго далейшае выкарыстанне.

Лаўкі і прыступкі перад алтаром павінны быць адрамантаваны. Дазваляем перарабіць алавяныя даразахавальніцы ў алтарны крыж …

…

Метрыкі трэба весці без памылак і згодна з узорам Замойскага сабору …

**Парафіяне Ганчарскай і Дакудаўскіх цэркваў[124]**

**Дакудаўская царква**

**Дзедзічная вёска Ганчары** ЯВп Ленскай, старасціны.

1. Дзмітрый Данэйка, 36 г.; яго брат Казімір, 26.; Жонка Дзмітрыя Ефрасіння, 36.; дачка яго Мар'яна, 10 г.; 2-я дачка Кацярына, 9 г.; жонка Казіміра Магдалена, 26 г.; яго дачка Пракседа, 9 г.; 2-я дачка Ганна, 6 г.

2. Юзаф Дзевяты, 66 г.; сын Марціна Тэадор, 36 г.; сын Тэадора Андрэй, 6 г.; 2-гі сын Мацей, 7 г.; жонка Тэадора Магдалена, 36 г.; яго дачка Разалія, 10 г.

3. Лаўрук Данэйка, 46 г.; яго сын Антон, 9 г.; брат Стэфан, 16 г.; сын Лаўрука Ян, 1 г.; жонка Юзафа Мар'яна, 46 г.; дачка Лаўрука Алена, 15 г.; жонка Лаўрука, лацінскага абраду.

4. Якуб Данэйка, 56 .; яго брат Юзаф, 46 г.; жонка Якуба Кацярына, 46 г.; жонка Юзафа Крысціна, 46 г.; яе дачка Мар'яна, 21 г.; 2-я Алена, 18 г.; 3-я Агата, 12 г.; 4-я Юззэфа,

[124] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 10. Спіс парафіян Лідскага дэканату 1829 г. Парафія ў Ганчарах. Арк. 148-163.

10 г.; 5-я Разалія, 8 г.; Ева …, 8 г.

5. Адам Шуціла, 30 г.; маці Адама Ефрасіння, 56 г.; дачка Мар'яна, 28 г.; 2-я дачка Францішка, 17 г.

6. Андрэй Сарока, 56 г.; яго сын Мацей, 26 г.; жонка Андрэя Кацярына, лацінскага абраду.

7. Ян Дзявяты, 56 г.; яго сын Эльяш, 25 г.; 2-гі сын Юзаф, 11 г.; жонка Яна Ганна, 46 г.; дачка Настасся, 26 г.; 2-я Кацярына, 15 г.

8. Леан Мянікевіч, лацінскі; яго жонка Алена, 21 г.; дачка Юзэфа, 2 г.

9. Антось Гук, 66 г.; яго сын Тэадор, 26 г.; 2-гі Андрэй, 21 г.; жонка Антося Фрузына, 66 г.; жонка Тэадора Хвядора, 31 г.; яе дачка Барбара, 11 г.; 2-я Агата, 6 г.

10. Андрэй Дзявяты, 66 г.; яго сын Антон, 29 г.; 2-гі сын Ігнат, 18 г.; 3-ці сын Ян, 13 г.; жонка Андрэя Францішка, 56 г.; дачка Алена, 23 г.

11. Тамаш Кучынскі, лацінскі; яго жонка Кунагунда, 29 г.; дачка Кацярына, 19 г.

12. Францішак Дзяковіч, 46 г.; сын Флар'ян, 16 г.; 2-гі Стэфан, 28 г.; жонка Кацярына, 36 г.; дачка Антаніна, 12 г.

13. Юзаф Дзяковіч, 61 г.; яго сын Андрэй, 12 г.; 2-гі Сымон, 6 г.; жонка Юзафа Разалія, лацінскі.

14. Лаўрык Гармановіч, 56 г.; яго сын Ян, 10 г.; жонка Францішка, 46 г.; дачка Кацярына, 3 г.

15. Філіп Гармановіч, 45 г.; яго сын Якуб, 22 г.; 2-гі Ігнат, 19 г.; Стэфан, 15 г.; Мікалай, 13 г.; Мацей, 10 г.; жонка Ганна, 46 г.; Мар'яна Дзявятава, 66 г.

16. Рыгор Буяк, 66 г.; яго сын Міхал, 21 г.; 2-гі Юзаф, 8 г.; 3-ці Барталамей, 9 г.; жонка Мар'яна, лацінскі.

17. Ян Ратман, 36 г.; яго сын Адам, 11 г.; 2-гі Вінцэнт, 8 г.; яго жонка Разалія, лацінскі; дачка Францішка, лацінскі, яго маці Зоф'я, 66 г.

18. Ігнат Гаркевіч, лацінскі, яго жонка Кацярына, 32 г.; яго дачка Ганна, 2 г.

**Вёска Бенявічы**

1. Антось Жамойцін, 66 г.; яго сын Антон, 26 г.; 2-гі Мацей, 32 г.; сын Мацея Мікалай, 5 г.; жонка Антося Кацярына, 46 г.; яго дачка Мар'яна, 21 г.; жонка Мацея Магдалена, 36 г

2. Тэадор Чэрап, 46 г.; сын Юзаф, 18 г.; 2-гі Францішак, 16 г.; брат Барталамей, 32 г.; жонка Тэадора Мар'яна, 56 г.; дачка Тарэза, 21 г.; 2-я Пракседа, 14 г.; 3-я Мар'яна, 10 г.; жонка Барталамея Тэкля, 32 г.; дачка Разалія, 10 г.; маці Тэадора …, 66 г.

3. Міхал Жамойцін, 56 г.; яго сын Андрэй, 26 г.; жонка Міхала Пракседа, 26 г.; дачка Ева, 18 г.; 2-я Мар'яна, 21 г.; дачка Ева, 16 г.; сястра Міхала Еўдакія, 36 г.

4. Эльяш Скарупскі, 46 г.; яго брат Юзаф, 36 г.; сын Стэфан, 7 г.; жонка Юзафа Ганна, 32 г.; дачка Альжбета, 9 г.; сястра Мар'яна, 36 г.; дачка Зоф'я, 16 г.; дачка Юстына, 8 г.; жонка Якуба Сабіна, 32 г.; дачка Мар'яна, 8 г.

5. Мікалай Чэрап, 46 г.; сын Дамінік, 26 г.; 2-гі Юзаф, 16 г.; 3-ці Астап, г.; жонка Мікалая Кацярына, 36 г.; жонка Даменіка … 32 г.; маці Парася, 74 г.

6. Якуб Жамойцін, 32 г.; жонка Магдалена, 26 г.; маці Якуба Разалія, 56 г.; сястра Якуба, 21 г.

7. Раман Гук, 26 г.; брат Ян, 16 г.; 2-гі Андрэй, 14 г.; Ян Буяк, 54 г.; яго сын Ігнат, 11 г.; жонка Яна Мар'яна, 42 г.; дачка Альжбета, 11 г.; 2-я Магдалена, 9 г.; жонка Рамана Магдалена, 29 г.; дачка Рамана Агата, 7 г.

8. Філіп Радзевіч, 26 г.; сын Ян, 16 г.; 2-гі Андрэй, 14 г.; жонка Яна Мар'яна, 36 г.

9. Якуб Чэп… 46 г.; сын Якуба Ігнат, 14 г.; 2-гі сын Ян, 16 г.; жонка Якуба Барбара, 42 г.; дачка Тарэса, 15 г.; 2-я Альжбета, 13 г.; 3-я Разалія, 8 г.; 4-я Пракседа, 11 г.

10. Мацей Гук, 52 г.; сын Ян, 15 г.; 2-гі Канстанцін, 36 г.; жонка Юстына, 36 г.; дачка Мар'яна, 19 г.; жонка Канстанціна Магдалена, 32 г.; дачка Пракседа, 8 г.; дачка Крысціна, 3 г.

11. Стэфан Казёл, 32 г.; яго брат Якуб, 26 г.; 2-гі брат Ігнат, 16 г.; жонка Стэфана Аксіння, 26 г.; дачка Ганна, 15 г.

12. Якуб Казёл, 23 г.; яго брат Стэфан, 34 г.; 2-гі Вінцэнт, 21 г.; 3-ці Францішак, 16 г.; яго сын Юзаф, 1 г.; жонка Стэфана, лацінскі; дачка Юзафа Разалія, 15 г.

13. Мікалай Казёл, 46 г.; яго сын Баніфацый, 12 г.; брат Ян, 36 г.; жонка Мікалая, лацінскі.

14. Ян Жамойцін, 56 г.; яго сын Юры, 6 г.; пляменнік Антон, 16 г.; брат Яна Павел, 36 г.; яго сын Юзаф, 3 г.; сын Паўла Мікалай, 5 г.; жонка Паўла Ганна, 30 г.; дачка Барбара, 6 г.; 2-я Мар'яна, 4 г.; дачка Яна Францішка, 5 г.

15. Андрэй Сымановіч, 66 г.; сын Дзяніс, 46 г.; жонка Тэадора, 56 г.; яе дачка Юстына, 21 г.; жонка Дзяніса Юстына, 32 г.; яе дачка Юзэфа, 6 г.; 2-я Францішка, 2 г.; 3-я дачка Кацярына, 1 г.

16. Ежы … лацінскі; жонка Караліна, 36 г.; дачка Ганна, 16 г.; 2-я Людвіка, 7 г.

17. Сымон Буяк, 46 г.; яго брат Юзаф, 16 г.; 2-гі брат Ян, 11 г.; жонка Сымона Еўфрасіння, 36 г.

18. Адам Супрун, 52 г.; яго сын Мацей, 12 г.; дачка Адама Тэкля, 7 г.; сястра Магдалена, 26 г.

19. Ян Кот, лацінскі; яго зяць Стэфан Казёл, 30 г.; жонка Яна Агата, 46 г.; дачка Кацярына, 8 г.; жонка Стэфана Агнеша, 26 г.

20. Стэфан Зайка, 32 г.; сын Пётр, 16 г.; 2-гі Ігнат, 12 г.; яго брат Тамаш, 46 г.; сын Тамаша …, 7 г.; жонка Стэфана Хвядора, 36 г.; яе дачка Агата, 9 г.

21. Леан Буйко, 66 г.; сын Антон, 21 г.; 2-гі сын Юзаф, 12 г.; 3-ці сын Караль, 7 г.; жонка Леана Анастасія, 56 г.; дачка Ганна, 13 г.

22. Мікалай Зайка, 74 г.; яго брат Даніла, 46 г.; яго сын Ян, 8 г.; жонка Мікалая, Фядора, 46 г.

23. Юзаф Зайка, 52 г.; яго сын Даніла, 9 г.; айчым Міхал, 86 г.; сын Юзафа Міхал, 9 г.; жонка Юзафа Барбара, 46 г.; дачка Ганна, 21 г.; 2-я Багаміла, 10 г.; жонка Міхала Крысціна, 60 г.

24. Тамаш Рэвяшка, 46 г.; яго сын Ігнат, 26 г.; 2-гі сын Аўгусцін, 9 г.; жонка Мар'яна, 36 г.; дачка Кацярына, 14 г.; 2-я дачка Ізабеля, 10 г.; 3-я дачка Тарэза , 9 г.; нявестка Петранеля, 32 г.

**Дзедзічная вёска Агароднікі** ЯВп Ленскай

1. Ян Карсак, лацінскі; яго жонка Агата, 31 г.; дачка Багаміла, 12 г.

2. Лебячэўскі, лацінскі; яго жонка Магдалена, 66 г.; дачка Агата, 26 г.; 2-я Караліна, 24 г.; 3-я Францішка, 21 г.; нявестка Вікторыя, 32 г.; дачка Петранеля, 7 г.; 2-я Ева, 9 г.

3. Лукаш Курыла, 36 г.; швагер Ігнат, 32 г.; яго сын Андрэй, 12 г.; сын Лукаша Юзаф, 11 г.; жонка Лукаша Мар'яна, 32 г.; яе дачка Зоф'я, 10 г.; жонка Ігната Кацярына, 32 г.; маці Мар'яна, 66 г.; сястра Мар'яна, 46 г.

4. Казімір Шулейка, 42 г.; яго сын Казімір, 12 г.; жонка Казіміра Тацціяна, 26 г.; яе дачка Магдалена, 7 г.

5. Ігнат Шулейка, 46 г.; яго брат Дамінік, 36 г.; сын Дамініка Стэфан, 9 г.; жонка Ігната Еўфрасіння, 27 г.; дачка Еўфрасіння, 7 г.; 2-я дачка Кацярына, 16 г.; братавая Крысціна, 26 г.; яе дачка Тарэза, 8 г.; маці Канстанцыя, 66 г.

6. Лаўрук Шэўчык, 32 г.; яго брат Габрыэль, 28 г.; жонка Лаўрука Петранеля, 36 г.; маці Альжбета, 66 г.; жонка Габрыэля Альжбета, 26 г.

7. Васіль Салавей, 31 г.; Лукаш Зайка, 66 г.; яго сын Францішак, 9 г.; 2-гі Сымон, 7 г.; жонка Васіля Мар'яна, 26

г.; дачка Уляна, 14 г.; 2-я Кацярына, 12 г.; 3-я Тэкля, 10 г.; жонка Лукаша Хвядора, 46 г.; маці Мар'яна, 66 г.; дачка Лукаша Антося, 7 г.

8. Ян Казёл, 36 г.; яго сын Казімір, 7 г.; 2-гі Андрэй, 7 г.; жонка Яна Хвядора, 32 г.; дачка Крысціна, 8 г.; братавая Мар'яна, 26 г.; яе дачка Кацярына, 9 г.; маці Мар'яна, 55 г.

9. Мікалай Зянкевіч, 66 г.; яго сын Казімір, 16 г.; жонка Ганна, 46 г.; дачка Петранеля, 20 г.; 2-я дачка Ізабеля, 9 г.; 3-я Антаніна, 7 г.; баба Агата Шэўчык, 66 г.

10. Ян Шэўчык, 76 г.; яго сын Мацей, 36 г.; 2-гі сын Стэфан, 32 г.; сын Мацея Пётр, 12 г.; 2-гі сын Дамінік, 10 г.; 3-ці сын Францішак, 6 г.; сын Стэфана Філіп, 7 г.; сын Мацея Адам, 7 г.; жонка Мацея Фядора, 29 г.; жонка Стэфана Кацярына, 36 г.; яе дачка Дарота, 7 г.; дачка Мацея Мар'яна, 7 г.; дачка Кацярына, 7 г.

11. Ян Бондар, лацінскі; яго жонка Разалія, 36 г.; яе дачка Ганна, 21 г.; сястра Парася, 31 г.

12. Даніла Кудла, 56 г.; яго сын Ігнат, 26 г.; жонка Мар'яна, 46 г.; дачка Магдалена, 21 г.

13. Якуб Каравайка, 46 г.; сын Ігнат, 15 г.; 2-гі сын Гжэгаж, 16 г.; 3-ці сын Вінцэнт, 8 г.; Сымон Каравайка, 34 г.; яго сын Антон, 6 г.; жонка Мар'яна, 36 г.; дачка Кацярына, 7 г.; жонка Сымона Мар'яна, 32 г.; яе дачка Магдалена, 7 г.

14. Юльян Губе…ш, 66 г.; жонка Пракседа, 46 г.;

**Дзедзічная вёска** ЯВп Ленскай **Ганцавічы**

1. Гжэгаш Шулейка, 51 г.; яго сын Ян, 32 г.; 2-гі Стэфан, 14 г.; жонка Яна Анеля, 26 г.

2. Сымон Каламыцкі, 76 г.; яго сын Мікалай, 32 г.; унук Лаўрук, 3 г.; жонка Сымона Ганна, 66 г.; жонка сына Агата, 30 г.; дачка Кацярына, 4 г.

3. Мацей Пагір, 46 г.; жонка Мар'яна, 36 г.; дачка Разалія, 21 г.

4. Мацей Салавей, 52 г.; пляменнік Ян, 22 г.; жонка Магдалена, 39 г.; дачка Агата, 10 г.

5. Станіслаў Пагір, 56 г.; яго сын Тэадор, 28 г.; жонка Зоф'я, 51 г.; дачка Кацярына, 24 г.; дачка брата Крысціна, 21 г.

6. Мацей Каламыцкі, 66 г.; яго сын Ян, 10 г.; яго брат Антон, 26 г.; жонка Мар'яна, 46 г.; маці Настасся, 66 г.; жонка Антона Пракседа, лацінскі.

7. Сымон Шулейка, 66 г.; сын Тамаш, 30 г.; сын Тамаша Фелікс, 1 г.; жонка Сымона Аліцыя, 66 г.; жонка сына Францішка, 26 г.; дачка Мар'яна, 1 г.

8. Якуб Кумпяк, 26 г.; жонка Мацея Разалія, 36 г.; дачка Кацярына, 21 г.; 2-я Барбара, 18 г.

9. Базыль Ратман, 21 г.; брат Караль, 28 г.; 2-гі Ігнат, 16 г.; 3-ці Габрыэль, 9 г.; 4-ы Юзаф, 18 г.; маці Зоф'я, 56 г.; дачка Ганна, 21 г.; 2-я Мар'яна, 16 г.; 3-я Альжбета, 9 г.

10. Андрэй Каламыцкі, 68 г.; брат Ян, 32 г.; 2-гі Павел, 18 г.; сын Андрэя Міхал, 9 г.; жонка Андрэя Тэкля, лацінскі; маці Андрэя Агнія, 54 г.

11. Міхал Каламыцкі, 42 г.; жонка Пракседа, 34 г.; маці Кацярына, 66 г.

12. Мікалай Казак, 66 г.; сын Макар, 26 г.; 2-гі Стэфан, 21 г.; жонка Ганна, 26 г.

13. Стэфан Шут, 26 г.; брат Вінцэнт, 18 г.; 2-гі Павел, 16 г.; дзед Вінцэнт, 66 г.; маці Кацярына, 46 г.; баба Ева, 67 г.

14. Якім Казак, 54 г.; сын Ян, 26 г.; 2-гі сын Міхал, 24 г.; жонка Ганна, 26 г.; дачка Агата, 1 г.

15. Марцін Каламыцкі, лацінскі; зяць Ян Каламыцкі, 26 г.; жонка Мар'яна, 46 г.; дачка Ганна, 21 г.; 2-я Алена, 16 г.; жонка Яна Агата, 28 г.

16. Андрэй Казак, 32 г.; пляменнік Ян, 12 г.; сын Леан, 26 г.; яго жонка Кацярына, 26 г.; яго дачка Караліна, 8 г.; пляменніца Мар'яна, 10 г.; сястра Мар'яна, 46 г.; жонка Леана Парася, 22 г.

17. Юзаф Зайка, 36 г.; пляменнік Павел, 11 г.; сын Юзаф, 8 г.; жонка Караліна, 32 г.; дачка Агата, 21 г.; Тэадора, …, 31 г.; дачка Барбара, 7 г.

18. Антон Шулейка, 66 г.; яго сын Ян, 32 г.; 2-гі Юзаф, 12 г.; 3-ці Казімір, 7 г.; жонка Антона Ганна, 36 г.; жонка Яна Ганна, 32 г.

19. Стэфан Каламыцкі, лацінскі; маці Разалія, 46 г.

**Дзедзічная вёска** Явп Ленскай **Жучкі**

1. Міхал Гудзь, 36 г.; Тамаш дзядзька, 42 г.; яго сын Лукаш, 12 г.; жонка Міхала, лацінскі; дачка Агнешка, 10 г.; 2-я Ганна, 9 г.; жонка Тамаша Агата, 36 г.; яе дачка Мар'яна, 12 г.

2. Гжэгаж Зайка, 46 г.; дачка Гжэгажа Кацярына, 11 г.; 2-я Ганна, 8 г.; жонка Мацея Крысціна, 26 г.; дачка Малгажата, 8 г.; 2-я Тэкля, 7 г.

3. Стэфан Урбан, 46 г.; брат жонкі Міхал, 21 г.; сын Філіп, 7 г.; 2-гі сын Ян, 6 г.

4. Барталамей Клышка, 86 г.; яго сын Барталамей, 28 г.; Сымон Клышэйка, 12 г.; жонка Агата, 25 г.

5. Змітрук Урбановіч, 46 г.; сын Мацей, 21 г.; жонка Агата, 32 г.; … Ева Урбановіч, 46 г.; яе дачка Мар'яна, 12 г.; дачка Змітрука Агата, 7 г.

6. Гжэгаш Барыс, 46 г.; брат Марцін, 41 г.; Міхал Клыйда, 26 г.; жонка Мар'яна, лацінскі; жонка Марціна Тэадора, 36 г.; дачка Мар'яны Кацярына, 14 г.; 2-я Алена, 12 г.; 3-я Людвіка, 10 г.; жонка Міхала, лацінскага абраду.

7. Раман Клыйда, 31 г.; сын Рамана Андрэй, 8 г.; 2-гі Вінцэнт, 7 г.; брат Рамана Барталамей, 20 г.; Вінцэнт Клыйда, 31 г.; жонка Антона, лацінскі.

8. Казімір Барыс, 36 г.; яго сын Цыпрыян, 14 г.; 2-гі Станіслаў, 11 г.; жонка Казіміра Мар'яна, 31 г.

9. Ян Выкнашэвіч, 76 г.; сын Пётр, 34 г.; 2-гі Вінцэнт, 21 г.; 3-ці Адам, 18 г.; жонка Тарэза, 26 г.;

10. Антон Урбан, 36 г.; яго сын Вінцэнт, 7 г.; жонка Антона Францішка, 31 г.; маці Мар'яна, 66 г.

11. Юры Клыйда, 86 г.; сын Ян, 26 г.; брат .., 66 г.; жонка Юрыя, 66 г.

12. Мацей Гукіншэвіч (?), 46 г.; сын Францішак, 14 г.; 2-гі Мацей, 8 г.; 3-ці Барталамей, 6 г.; 4-ты сын Ян, 26 г.; 5-ты Мікалай, сын Яна, 6 г.; жонка Антаніна, 31 г.; дачка Ганна, 9 г.

13. Казімір Урбан, 56 г.; сын Пётр, 10 г.; яго брат Францішак, 46 г.; сын Францішка Юзаф, 12 г.; 2-гі сын Ян, 10 г.; жонка Казіміра Ганна, лацінскі; яго дачка Тарэза, 21 г.; жонка Францішка Мар'яна, 26 г.; яго дачка Кацярына, 8 г.; 2-я Агата, 7 г.

14. Базыль Урбановіч, 56 г.; яго сын Андрэй, 11 г.; 2-гі Павел, 9 г.; яго брат Ян, 46 г.; Адам Антонік, лацінскі; сын Базыля Пётр, 7 г.; жонка Базыля, лацінскі; жонка Яна, лацінскі.

15. Тамаш Мулінскі, 24 г.; яго брат Базыль, 23 г.; жонка Андрэя …, 56 г.; яе дачка Мар'яна, 26 г.; 2-я Ганна, 29 г.; 3-я Караліна, 19 г.

16. Юзаф Урбан, 36 г.; яго сын Сымон, 12 г.; брат Юзафа Мацей, 56 г.; 2-гі сын Адам, 9 г.; жонка Юзафа, лацінскі.

17. Мацей Урбан, 22 г.; брат Мацея Ежы, 56 г.; жонка Мацея, лацінскі.

18. Габрыэль Якута, 86 г.; яго сын Тамаш, 36 г.; жонка Тамаша Ганна, лацінскі; дачка Габрыэля Мар'яна, 21 г.

19. Дамінік Дук, 36 г.; жонка Тарэза, 36 г.; дачка Агата, 13 г.

**Дзедзічная вёска** Найяснейшых князёў Радзівілаў **Жомайдзі**

1. Юзаф Мурын, 66 г.; яго сын Павел, 26 г.; 2-гі Ян, 24 г.; 3-ці Антон, 18 г.; 4-ты Стэфан, 16 г.; унук Мікалай, 8 г.; жонка Паўла Мар'яна, 32 г.; жонка Яна Мар'яна, 26 г.

2. Ян Шумскі, 36 г.; жонка Кацярына, 26 г.

3. Гжэгаж Клыйда, 46 г.; яго сын Гжэгаш, 13 г.; 2-гі Дамінік, 9 г.; зяць Якуб Кудаш, 31 г.; жонка Гжэгажа Магдалена, 46 г.; дачка Мар'яна, 16 г.; 2-я Ганна, 7 г.; жонка Якуба Кацярына, 26 г.

4. Мацей Чайка, 46 г.; сын Базыль, 16 г.; жонка Агата, 26 г.; дачка Мар'яна, 9 г.;, 2-я Хэлена, 6 г.

5. Ян Мурын, 52 г.; яго сын Базыль, 14 г.; 2-гі Вінцэнт, 12 г.; яго брат Алекс, 46 г.; Яго сын Ян, 11 г.; сын Юры, 7 г.; жонка Яна Хелена, 36 г.; сястра Анастасія, 26 г.

6. Сымон Сава, 71 г.; яго сын Андрэй, 46 г.; 2-гі сын Ян, 32 г.; жонка Андрэя Кацярына, 31 г.; жонка Яна Агнешка, 26 г.; дачка Яна Мар'яна, 7 г.

7. Якуб Мурын, 66 г.; сын Антон, 36 г.; 2-гі Якуб, 26 г.; унук Лукаш, 10 г.; жонка Якуба Ева, 26 г.; дачка Антона Мар'яна, 8 г.

8. Ян Марук, 46 г.; сын Мікалай, 14 г.; 2-гі Юзаф, 12 г.; 3-ці Ігнат, 8 г.; жонка Зоф'я, 36 г.; дачка Тарэза, 1 г.

9. Ян Мурын, 46 г.; сын Вінцэнт, 18 г.; 2-гі Сымон, 8 г.; 3-ці Якуб, 1 г.; жонка Яна Мар'яна, 36 г.; дачка Мар'яна, 8 г.

10. Сымон Кудаш, 52 г.; яго сын Дамінік, 29 г.; 2-гі Гжэгаш, 25 г.; пляменнік Ян, 29 г.; жонка Сымона Магдалена, 36 г.; жонка Яна Ева, 26 г.

11. Раман Банька, 46 г.; сын Мацей, 16 г.; 2-гі Якуб, 9 г.; жонка Агата, 36 г.; дачка Ева, 10 г.; 2-я Ганна, 1 г.

12. Сын Яна, 46 г.; сын Юзаф, 21 г.; 2-гі Андрэй, 18 г.; 3-ці Вінцэнт, 14 г.

13. Ігнат Мурын, 36 г.; сын Юзаф, 8 г.; брат Андрэй, 26 г.; жонка Ігната, лацінскі.

14. Ян Санюк, 16 г.; яго брат Юзаф, 8 г.; маці Яна Мар'яна, 36 г.

**Дзедзічная вёска** Найяснейшых князёў Радзівілаў **Дзітрыкі**

1. Ц… Буйніцкі, лацінскі; яго жонка Антаніна, 26 г.

2. Францішак Буйніцкі, 46 г.; яго сын Ян, 12 г.; 2-гі сын Францішак, 9 г.; жонка Багаміла, 36 г.; дачка Ганна, 11 г.; 2-гая Мар'яна, 1 г.

3. Геранім Сініцкі, 42 г.; сын Юзаф, 16 г.; жонка Барбара, 36 г.; дачка Мар'яна, 9 г.; 2-я Агнеша, 1 г.

4. Базыль Буйніцкі, 76 г.; яго сын Базыль, 36 г.; унук Базыль, 18 г.; 2-гі внук Францішак, 11 г.; жонка Базыля Агнешка, 56 г.; жонка сына Агата, 32 г.; дачка Францішка, 3 г.

5. Тэадор Сініцкі, 36 г.; сын Юзаф, 1 г.; жонка Тэадора, 26 г.; дачка Караліна, 1 г.

6. Стэфан Буйніцкі, 36 г.; сын Францішак, 1 г.; жонка, лацінскі,

7. Міхал Лукашэвіч, 52 г.; яго сын Вінцэнт, 14 г.; 2-гі сын …, 12 г.; 3-ці сын Юзаф, 2 г.; 4-ты Казімір, 1 г.; жонка Пракседа, 36 г.; дачка Ганна, 3 г.; маці Алена, 66 г.

8. Адам Свірскі, 36 г.; Ігнат Свірскі, жонка, лацінскі, дачка, лацінскі.

9. Францішак Сініцкі, 56 г.; сын Якуб.

10. Ян Сініцкі, 66 г.; сын Станіслаў, 32 г.; жонка, лацінскі; дачка, лацінскі.

11. Мацей Сініцкі, 56 г.; яго сын Мікалай, 36 г.

12. Юзаф Мулінскі, 56 г.; яго сын Мікалай, 36 г.; жонка Агнеша, 52 г.; жонка сына Францішка, 24 г.; дачка Караліна, 1 г.

13. Сымон Сініцкі, 46 г.; сын Антон, 21 г.; 2-гі Ян, 16 г.; 3-ці Пётр, 11 г.; жанчыны лацінскія.

14. Ігнат Лукашэвіч, 56 г.; сын Ян, 21 г.; 2-гі Адам, 16 г.; 3-ці Міхал, 12 г.; жонка, лацінскі.

**Дзедзічная вёска** ЯВп Ленскай **Супраўшчына**

1. … Шуціла, 56 г.; яго сын Мікалай, 36 г.; другі сын Якуб, 6 г.; жонка Разалія, лацінскі.

2. Мацей Дак, зяць Лаўрук Казак, 26 г.; жонка Кацярына, 56 г.; жонка Лаўрука Тарэза, 26 г.; дачка Уляна, 1 г.

3. Ігнат Дзічок, 56 г.; яго сын Мікалай, 26 г.; 2-гі сын Казімір, 12 г.; жонка Ганна, 46 г.; дачка Тэкля, 9 г.; 2-я Караліна, 14 г.; 3-я Мар'яна, 3 г.

4. Ян Пагробы, 56 г.; брат Ігнат, 36 г.; сын Яна Андрэй, 19 г.; жонка Мар'яна, 46 г.; дачка Тарэза, 18 г.; 2-я Агата, 11 г.; 3-я Альжбета, 4 г.; жонка Ігната Караліна, 26 г.

5. Ян Пагробы, 54 г.; яго сын Ігнат, 16 г.; жонка Ганна, 54 г.; дачка Антаніна, 21 г.; 2-я Кацярына, 26 г.

6. Мікалай Дак, 16 г.; швагер Ігнат Каравайка, 31 г.; сын Міхал, 2 г.; сын Андрэя Юазф, 2 г.; маці Мар'яна, 54 г.; дачка Тарэза, 18 г.; жонка Ігната Разалія, 31 г.; дачка Ігната Альжбета, 1 г.

7. Базыль Шулейка, 66 г.; яго сын Мацей, 46 г.; 2-гі сын Барталамей, 21 г.; сын Мацея, Аляксандр, 1 г.; жонка Базыля Магдалена, лацінскі; жонка Мацея Агата, 31 г.; дачка Агатка, 10 г.; 2-я Уляна, 1 г.; дачка … Мар'яна, 1 г.; 2-я Альжбета, 1 г.

8. Ян Курыла, 21 г.; Юзаф Драб; маці Ева, 66 г.; яе дачка Мар'яна, 19 г.; жонка Драба Разалія, 46 г.; яе дачка Пракседа, 10 г.

9. Леан Шут, 56 г.; яго сын Пётр, 21 г.; 2-гі Юры, 10 г.; 3-ці Мікалай, 9 г.; 4-ты Фёдар, 8 г.; сын Пятра Андрэй, 1 г.; жонка Альжбета, 46 г.; дачка Кацярына, 22 г.; 2-я Мар'яна, 15 г.; 2-я Тарэза, 13 г.; 4-я Барбара, 11 г.; жонка Пятра Ганна, 26 г.; дачка Крысціна, 1 г.

10. Тамаш Дычок, 66 г.; сын Ігнат, 19 г.; 2-гі Бенядыкт, 10 г.; жонка Мар'яна, 46 г.; дачка Ганна, 13 г.

11. Лукаш Шут, лацінскі; жонка Мар'яна, 36 г.; дачка Фрузына, 19 г.; 2-я Агата, 13 г.; 3-я Альжбета, 6 г.; 4-я Караліна, 4 г.

**Дзедзічны засценак** Найяснейшых князёў Радзівілаў **Дзякавічы**

1. Юзаф Грышэль, 48 г.; яго брат Лаўрук, лацінскі; сын Юзафа Андрэй, 21 г.; жонка Юзафа Уляна, 46 г.; дачка Пракседа, 19 г.; братавая Зоф'я, 26 г.

2. Тэадор Кухарскі, 66 г.; сын Тэадор, 29 г.; зяць Андрэй, лацінскі; жонка Тэадора Мар'яна, 56 г.; дачка Настасся, 29 г.; 2-я Тарэза, 19 г.; жонка Андрэя Разалія, 31 г.; яго дачка Кацярына, 2 г.

3. Сільвестр Кухарскі, 26 г.; жонка Пракседа, 36 г.; дачка Пракседа, 10 г.; 2-я Антаніна, 8 г.

4. Ян Дзяковіч, 56 г.; жонка Ганна, 46 г.

5. Габрыэль Грос, 31 г.; брат Міхал, 28 г.; 2-гі брат Юзаф, 24 г.; 3-ці Ян, 21 г.; 4-ты Казімір, 22 г.; жонка Габрыэля, лацінскі.

6. Юзаф Марцінкевіч, 41 г.; сын Юзаф, 11 г.; 2-гі Міхал, 9 г.; жонка, лацінскі; маці Кацярына, 76 г.

7. Габрыэль Гвядрыкевіч, 66 г.; сын Якуб, 20 г.; жонка, лацінскі.

8. Андрэй Хвядрыкевіч, 21 г.; сын Тамаша Тамаш, 11 г.; 2-гі Стэфан, 8 г.; жонка Юзафа Магдалена, 46 г.; дачка Кацярына, 18 г.

**Дзедзічная вёска** Найяснейшых князёў Радзівілаў **Баравічы**

1. Геранім Сава, 34 г.; яго сын Аляксандр, 16 г.; 2-гі

Цікаўнасць да біялогіі засталася на ўсё жыццё але ён выбраў сабе іншую і, верагодна, больш перспектыўную прафесію, бо пасля гімназіі малады Іваноўскі працягнуў вучобу ў Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце.

Пасля заканчэння вучобы, з дыпломам інжынера-тэхнолага, ён паехаў Сібір, якая прыцягвала сваімі бясконцымі магчымасцямі, тым больш, што там меліся сваякі. Адным з іх быў Юзаф Козел-Паклеўскі, ссыльны ўдзельнік паўстання, які потым стаў у Сібіры багатым чалавекам, ён меў вялікі маёнтак, капальні золата, заводы і шмат лесу. Каля самай мяжы з Кітаем, у Маймачыне, стаяла яго дыстылярня спірту. Хімік Леанард Іваноўскі атрымаў тут сваю першую пасаду, але доўга на ёй не затрымаўся, а дэталёва разабраўшыся з тэхналогіяй дыстылярні, выехаў у Францыю і працягнуў там адукацыю. У Францыі працаваў і вывучаў новыя прамысловыя тэхналогіі вырабу спірту і пераканаўся пры гэтым, што ў Расіі справа вырабу спірту знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні. Потым, праз укараненне еўрапейскіх тэхналогій, малады інжынер змог значна знізіць сабекошт вырабу спірту ў Расіі і зрабіць сабе на гэтым кар'еру.

Пасля вяртання дахаты, Іваноўскі прымяніў веды на вялікім спіртзаводзе ў Варонежскай губерні. Вынікі былі выдатнымі, яму далі вялікі заробак і запрасілі ў склад кіраўніцтва завода. Аднак і тут Леанард Іваноўскі доўга не працаваў, бо яго інжынерныя здольнасці ўжо атрымалі агульнае прызнанне і яму прапанавалі дзяржаўную пасаду - на пачатку ў Варшаве, а потым і ў Пецярбургу. Працуючы ў Варшаве, па просьбе Міністэрства фінансаў, Іваноўскі напісаў працу па спецыяльнасці ("Устройство винокуренных заводов"). Быў вялікім і паважаным аўтарытэтам у сваёй сферы.

Неўзабаве Іваноўскі быў пераведзены ў Міністэрства фінансаў у Пецярбург. Здаецца, інжынер быў задаволены сваёй пасадай, бо, дзякуючы ёй, не быў прывязаны да аднаго месца. Шмат часу праводзіў у розных дэлегацыях, часам у самых аддаленых кутках Расіі: у Сібіры ці на Урале, дзе кіраваў будаўніцтвам вялікіх хімічных прадпрыемстваў. Быў чалавекам шырокай кваліфікацыі, і неяк яму нават даручылі рэарганізаваць біццё манет у Пецярбургу, працу выканаў добра і быў узнагароджаны[6].

У 1874 г. Леанард Іваноўскі і яго сябар Вацлаў Карафа-Корбут (яны пасябравалі падчас перабудовы вінакурні ў Рокішаках) пабраліся з сёстрамі, баранэсамі Ядвігай і Хеленай Райхель з ваколіц Пятркова. Сёстры былі выхаванкамі курсаў прафесара Баранэцкага ў Кракаве і, як на тыя часы, мелі добрую адукацыю. Леанард атрымаў за жонку у пасаг частку маёнтка Райхеляў над ракой Вальборкай каля Вальбромя. Але чужая старонка яго не вабіла. Прадаў гэтую зямлю і за вырučаныя грошы павялічыў гаспадарку ў Лябёдцы[7]. Унук Леанарда Іваноўскага Казімір пісаў: *"Дзед Леанард жадаючы выхаваць маладую жонку, цалкам ізаляваў яе ад сваякоў, перасяліўшы на 600 км у Лябёдку, дзе яна мела толькі яго аднаго"* [8].

З роду Райхеляў нам вядомы цесць Леанарда Іваноўскага (дзед Алены і Вацлава Іваноўскіх) - барон Амон фон Райхель. Ён паходзіў з Эльзаса і служыў у прускім войску ротмістрам гусарскага палка. Гэты полк стаяў каля Гданьска, Райхель нейкім чынам пакінуў вайсковую службу і, ажаніўшыся з паннай Хжаноўскай, асеў у Польскім каралеўстве.

Ядвіга Іваноўская з Райхеляў мела сястру Хелену і двух братоў - Уладзя і Браніслава. Уладзь меў слабасць да кабет і моцных напояў, і яшчэ яму заўсёды не шанцавала ў карты. Канец свайго ён жыцця дажываў каля сястры ў Лябёдцы. Брат Ядвігі Браніслаў меў сына Мечыслава, які ў ваколіцы Лябёдкі пазнаёміўся з багатай паннай Марыяй (усе звалі яе Мануля) Кандраценка. Пасля паўстання 1863 г. рыма-каталікам нельга было набываць маёнткі, і канфіскаваны маёнтак Шайбакполе (раней належаў паўстанцам Александровічам і Плятэрам) за заслугі быў прададзены казацкаму генералу Кандраценку (памёр у 1880 г.). Калі пляменнік Ядвігі Іваноўскай Мечыслаў ажаніўся з Марыяй (дачкой Кандраценкі), гэты стары маёнтак перайшоў у рукі Райхеляў[9].

Леанард Іваноўскі вельмі любіў падарожжы, ён часта атрымліваў даручэнні за мяжой - прымаў удзел у міжнародных выставах і стаў спецыялістам у гэтай справе. Праца на выставах вымагала шмат часу праводзіць у Парыжы, Турыне, Вене ці Берліне. Паўсюдна ён меў знаёмых і нідзе не пачуваўся чужым. З падарожжаў Іваноўскі заўсёды вяртаўся задаволены і поўны энергіі зноў прыступіць да сваёй звычайнай, штодзённай працы. Жыў у Пецярбургу і, здаецца, любіў гэты горад бо прывязаўся да яго з часоў свайго студэнцтва. Жыў сціпла, але бываў на прыёмах і наведваў абавязковыя, афіцыйныя банкеты. Меў некалькі старых знаёмых, з якімі сябраваў яшчэ з часоў віленскай гімназіі і Тэхналагічнага інстытута. Яго старымі сябрамі былі Ялавецкі, Златніцкі, Навіцкі і іншыя. Сыны Леанарда пад час свайго студэнцтва жылі разам з бацькам у Пецярбургу.

Падчас жыцця ў Пецярбургу Леанард Іваноўскі супрацоўнічаў з хімікам Дзмітрыем Мендзялеевым і перакладаў на ангельскую мову яго лекцыі ў Лонданскім каралеўскім таварыстве аматараў прыроды. З 1898-1905 гг. займаў пасаду прэзідэнта Варшаўскага садоўніцкага таварыства і прымаў актыўны ўдзел у яго працы. Як адзін з заснавальнікаў і фундатараў лідскай гімназіі быў удастоены звання ганаровага грамадзяніна Ліды.

Па ўспамінах, Леанард быў чалавекам працавітым, любіў парадак і акрэслены рытм жыцця - уставаў рана, заўсёды ў адзін час. Напачатку трошкі працаваў

[6] Ivanauskas Tadas. Az apsisprendziu. Vilnius, 1994. P. 86-87.

[7] Туронак Ю. Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі. С. 22.

[8] Iwanowski Kazimir. Wspomnienia z kresowej mlodosci. Bydgoszcz, 1995. S. 50.

[9] Там жа. S.49.

у сваім кабінеце, а потым, хоць Міністэрства фінансаў у Пецярбурзе было досыць далёка, заўсёды пешшу ішоў на працу. Вяртаўся з працы таксама пешшу. Жыў далёка ад Бацькаўшчыны, але сэрцам быў заўсёды з ёй. Трасы ўсіх ягоных паездак праходзіла праз Лябёдку. Відочна, калі вяртаўся з Заходняй Еўропы, адведаць Лябёдку было проста. Але калі нават ён ехаў з усходу, заўсёды выкройваў дзень ці два, якія абавязкова праводзіў дома. Пры гэтым аглядваў сваю гаспадарку і кантраляваў працы, асабліва ў садзе. Калі яго дзеці жылі ў Лябёдцы, яны павінны былі аглядаць гаспадарку разам з ім і слухаць яго заўвагі.

Восенню, звычайна ў верасні, Іваноўскі меў месяц адпачынку. Свядома выбіраў сабе гэты час, каб у маёнтку асабіста займацца ўборкай ураджаю і асабліва ў яго любімым садзе. Сад быў галоўным захапленнем інжынера. Кожную восень часткова выконваўся план Леанарда Іваноўскага - садзіўся новы кавалак саду, новая алея, новая школка маладых дрэўцаў. У апошнія часы перад Першай сусветнай вайной, сад займаў ужо каля 20 гектараў. Падчас адпачынку гаспадар рана ўставаў і сам кантраляваў працу. Бываў паўсюдна, усё бачыў і не дзіва, што мучыў сваіх рабочых, служак і ўсю сям'ю. Калі ён з’язджаў, усе, нават жонка, уздыхалі свабадней.

Парафіяльным касцёлам Іваноўскіх быў касцёл пад вызнаннем св. Пятра і Паўла ў Старых Васілішках, якія ляжалі за 2 км ад мястэчка Васілішкі ў бок рэчкі Лябёдкі. Гэты неагатычны касцёл быў пабудаваны амаль што ў адзін час з лябёдскім домам, г. зн. каля 1904 г. Леанард Іваноўскі з'яўляўся адным з яго фундатараў, і таму па правы бок ад алтара стаяла лава калятараў Іваноўскіх (перад ёй мелася меншая лава сям'і Райхеляў). А вітраж з гербамі Райхеляў і Іваноўскіх на адным з вокнаў касцёла быў фундаваны Ядвігай Іваноўскай. Гэты вітраж зрабілі ў кракаўскай майстэрні. Касцёл меў багаты роспіс на сценах і столі, па легендзе мастак, які гэта намаляваў, не меў рук і працаваў нагамі. Потым адукаваныя парафіяне казалі, што калі ацэньваць мастацкі ўзровень роспісаў, дык у гэта можна і паверыць[10].

Дзеці шанавалі бацьку за яго справядлівасць, працавітасць і мудрасць. Ім нават не прыходзіла ў галаву казаць пра яго дрэнна, бо быў для іх вялікім аўтарытэтам. Аднак сын Тадас заўважыў, што яго бацька меў і недахоп: ён быў кепскім псіхолагам і не бачыў таго, што робіцца ў душы не толькі жонкі, але і дзяцей. Яго адносіны да дзяцей былі суровыя і бескампрамісныя, з-за гэтага даходзіла да балючых канфліктаў, у якія, баронячы дзяцей, заўсёды ўступала маці. Дзеці, вельмі баяліся гэтай рысы характару бацькі, і пакрысе паміж імі з'явілася мяжа праз якую ўжо немагчыма было пераступіць. На жаль, гэтая мяжа не дазваляла мець больш блізкія, сардэчныя адносіны. Толькі для адной сваёй дачкі Алены Іваноўскі быў іншым, больш лагодным і разважлівым, а яна, дзякуючы сваёй жаночай інтуіцыі, гэта рана зразумела і старалася залагодзіць жорсткасць бацькі.

Здаецца, Леанард Іваноўскі значна больш вольным быў з чужымі людзьмі, чым са сваімі дзецьмі. Калі прыязджаў у Лябёдку, да яго па справах прыходзілі самыя розныя людзі: суседняя шляхта, сяляне ці яўрэі з бліжніх мястэчак. І яму прасцей было знайсці агульную мову з сялянамі, асабліва калі размова вялася пра сельскую гаспадарку. Дзеці памяталі свайго бацьку, які падчас размовы з групай сялян у доўгіх авечых кажухах быў апрануты у кароткі гаспадаркі кажушок. Вось яны разам аглядаюць палі, сельскагаспадарчыя машыны ці быдла, і інжынер вельмі доўга не развітваецца з сялянамі. Уладальнік маёнтка часта дарыў сялянам ці ёркшырскіх парасят, ці новыя гатункі бульбы, ці маладыя прывітыя дрэўцы. Каб прыахвоціць вяскоўцаў да паляпшэння гаспадаркі, Іваноўскі прыдумаў праводзіць выставы прадукцыі. У Міністэрстве сельскай гаспадарцы ён дабіўся падтрымкі і невялікай субсідыі, афіцыйных пахвальных лістоў і г. д. Выставы адбываліся ў вялікай лябёдскай стадоле, мелі гучны поспех і добра ўплывалі на мясцовых гаспадароў. Леанард Іваноўскі вельмі радаваўся, бо бачыў, з якім шацункам удзельнікі выставы атрымоўвалі грашовыя ўзнагароды ці пахвальныя лісты[11].

У вялікім артыкуле "Уражанні ад выставы ў Лябёдцы" віленская газета "Кур'ер Літоўскі" ўвосень 1910 г. пісала пра адну з гэтакіх сельскагаспадарчых выстаў у Лябёдцы Іваноўскага. *"На ўсе бакі ад прыгожага, вельмі рацыянальна і па-сучаснаму пабудаванага двара ў Лябёдцы цягнуцца ўзорныя сады, гароды, купкі пладовых і дэкаратыўных дрэваў. Далей пачынаюцца добра апрацаваныя палі бульбы і збожжа... Гаспадарчыя пабудовы лёгкія і танныя ... . У адной з такіх, высокай і добра пабудаванай шопе, усталяваны простыя, але спрытныя машыны для вырабу дахоўкі, цэглы і пустых знутры вялікіх блокаў ... . У стайнях, аборах, хлявах, курніках шмат жывёлы розных сартоў, падабраных для нашых умоў. Агароды і купкі пладовых дрэў дэманструюць шматгадовую працу былога прэзідэнта Таварыства Садаводаў. Сады з-за вялікай колькасці гатункаў дагледжаных тут дрэваў маюць музейную вартасць. ... Колькі смачнай і карыснай гародніны стала вядома, дзякуючы толькі таму, што сп. Леанард Іваноўскі купляў яе паўсюдна, а потым папулярызаваў сярод мясцовых гаспадароў. Сп. Іваноўскі ёсць найвялікшы знаўца сваёй справы ў Літве ... . ... На выставе дэманстраваліся цікавыя вырабы з садавіны і гародніны, выробленыя пад кіраўніцтвам гаспадыні, сп. Ядвігі Іваноўскай. Адборныя віны, кансерваваныя ягады і грыбы ў шкляных і бляшаных банках розных відаў ... гародніна па-кіеўску, гародніна сушаная ў адмысловых сушарнях, старасвецкія канфіцюры і сокі - усё надта смачнае і дасканала выробленае. Бляшаныя банкі, распрацаваныя Вацлавам Іваноўскім, - простыя, танныя і адначасова дасканалыя і герметычныя, абавязкова будуць выкарыстоўвацца ў прамысловасці. ... Выстава ў*

[10] Iwanowski Kazimir. Wspomnienia z kresowej mlodosci ... S. 8-11.
[11] Ivanauskas Tadas. Az apsisprendziu. P. 87-89.

*Лябёдцы была арганізавана для суседніх гмін, і ў ёй прымалі ўдзел вырабы суседніх маёнткаў. ... Але вырабы з Лябёдкі былі па-за канкурэнцыяй. ... Лябёдка 400 гадоў знаходзіцца ў руках Іваноўскіх[12] ..."* [13]. А ў верасні 1913 г. Леанард Іваноўскі ў сваім маёнтку Лябёдка правёў выставу жывёлы[14].

У Беларусі таго часу не хапала добрых рамеснікаў, і інжынер здаўна хацеў арганізаваць у Лябёдцы школу садаводства і таму здабыў у адпаведным міністэрстве дазвол на яе адкрыццё. Школа пачала працаваць перад Першай сусветнай вайной, і разам з садаводствам ў Лябёдцы неафіцыйна выкладалася і польская мова. Гэтым займаліся жонка Леанарда Ядвіга і яе сястра Хелена. З таго часу ў сям'і памяталі амаль што анекдот, як падчас вывучэння назваў раслін, беларускія дзеці на слых успрынялі фразу: *"Дуб ёсць дрэва, а ляшчына куст"* як *"Дуб ёсць дрэва, але сцыць на куст"* [15]. Маладых сялян прымалі ў маёнтку для практыкі ў галіне садоўніцтва, пчалярства, жывёла- і раслінаводства. У 1913 г. меркавалася адкрыць курсы малочнай вытворчасці. Для будучай школы выбралі месца ў блізкім суседстве з Лябёдкай, у вёсцы Банюкі. Будаўнічы матэрыял даў дзяржаўны лес, але ў 1914 г. пачалася Сусветная вайна, і будынак школы не быў пабудаваны.

Як раз у апошнія гады перад Сусветнай вайной Лябёдка перажывала свой "залаты век". У гаспадарцы ўсталяваўся добры парадак, палепшылася агратэхніка, з'явіўся дрэнаж, усталявалі сучасныя машыны, купілі статкі пародзістага быдла, вырас добры сад. Гэта быў момант найвышэйшага ўздыму маёнтка. Але выбухнула вайна, край агарнула гарачка мабілізацыі. Як і звычайна ўвосень 1914 г. Іваноўскі меў чарговы адпачынак. Пасля заканчэння водпуску ён вярнуўся ў Пецярбург і адразу пайшоў у адстаўку. Пра адстаўку марыў даўно і бачыў сваё жыццё на пенсіі ў рамантычным свеце: будзе жыць у Лябёдцы, займацца гаспадаркай, меліярацыяй ці іншымі добрымі рэчамі. Думаў, што яго высокі ранг сапраўднага дзяржаўнага дарадцы гарантуе аўтарытэт і павагу, акрамя таго перад пенсіяй спадзяваўся атрымаць ранг тайнага дарадцы. Усё змянілася - знікла старая ўлада, яго чыны страцілі значэнне, знік капітал, які захоўваўся ў пецярбургскіх банках. А ў 1915 г. раскватараваныя ў маёнтку рускія войскі знішчылі сады і школку маладых дрэў. Але чын тайнага дарадцы ён атрымаў, невядома толькі, ці даведаўся пра гэта, бо чын быў нададзены 4 лютага 1916 г., калі наша тэрыторыя была ўжо акупавана немцамі.

Хутка прыйшлі немцы. Начальнікам павета (Kreis-у) быў прызначаны нейкі Фікель, і ў Лябёдцы пасялілася група гвардзейскіх афіцэраў. Адстаўны інжынер перастаў панаваць у сваім доме, і яго нават на нейкі час пасадзілі пад варту ва ўласнай піўніцы за спробу аказваць супраціў. Некаторыя суседзі, якія раней не прапускалі ніводнага дня нараджэння ці імянін сапраўднага дзяржаўнага дарадцы, каб не выказаць сваю павагу, цалкам перасталі звяртаць на яго ўвагу.

Пад канец Першай сусветнай вайны здароўе Іваноўскага пахіснулася. Новыя акалічнасці жыцця паламалі яго, і гэта быў ужо не той генерал (як любілі яго называць суседзі), а звычайны ўладальнік спустошанага маёнтка. Памёр Леанард Іваноўскі ў 1919 г.

Яго жонка, Ядвіга Іваноўская расказвала дзецям, як у яго апошнія дні яна выклікала для споведзі з Васілішак ксяндза Сакалоўскага, але бацька катэгарычна адмовіўся ад яго паслуг. Тады маці пачала прасіць Іваноўскага хоць проста паразмаўляць з госцем - спадзявалася, што размова натуральным чынам перарасце ў споведзь. Размова першапачаткова ішла ціха



†
Leonard Iwanowski
wychowaniec Wileńskiego Instytutu Szlacheckiego,
oficer francuskiej legji honorowej,
inżenier technolog, radca tajny, b. prezes Warszawskiego Towarzystwa Ogrodniczego, Kurator szkoły rolniczej w Sobieszynie,
obywatel honorowy miasta Lidy,
zmarł dnia 15 października 1919 r. w majątku rodzinnym Lebiodce.
Pochowany tamże na cmentarzu rodzinnym.

***Некралог па Леанарду Іваноўскаму***

[12] Трэба заўважыць, што і насамрэч 400 гадоў, але па кудзелі.
[13] Kuryer Litewski № 221, 30 wrzesnia (13 pazdziernika) 1910.
[14] Наша Ніва № 37, 12 верасня 1913.
[15] Iwanowski Kazimir. Wspomnienia z kresowej mlodosci ... S. 34.

але хутка інжынер пачаў нешта гучна казаць. Жонка зразумела, што ён востра распякае ксяндза, і паспяшалася закончыць візіт.

Леанард Іваноўскі быў пахаваны ў Лябёдцы. Яшчэ за некалькі гадоў да смерці ён атрымаў дазвол на адкрыццё могілак для сваёй сям'і ў межах свайго маёнтка. Месца было выбрана за кіламетр ад дома і мела назву Буянаўшчына - сухі пагорак у сасновым лесе, абсаджаны дубамі. Да могілак правялі дарогу[16].

Унук Леанарда Казімір Іваноўскі ўспамінаў: *"Бабулю Ядвігу памятаю па Лябёдцы і па Вільні, куды яна прыязджала штогод пагасцяваць у наш дом. Памятаю, як яна прыходзіла ў наш пакой, каб пажадаць добрай ночы і прачытаць апавяданне Джэка Лондана. Памерла восенню 1933 г. ва ўзросце 80 гадоў. Калі яна ўжо цяжка хварэла, з Варшавы ў Вільню прыехаў Стэфан Іваноўскі* (сын Вацлава Іваноўскага - *Л. Л.*) *і прывёз у Лябёдку доктара Умястоўскага. Гэты чалавек быў старым сябрам сям'і і пажыццёвым доктарам бабулі. ...*

*Добра памятаю пахаванне бабулі. Сабралася ўся сям'я і ваколічны народ. Жалобную імшу правёў пробашч касцёла. ... Памятаю кароткую жалобную прадмову сябра сям'і Абрама Гардона, яўрэя з Васілішак. Сваю прамову Абрам закончыў гэтак:*

*- Ці пані Іваноўская заслужыла неба?*

*- Так, - выдыхнулі ўсе людзі.*

*- Голос народа - голас Бога, - закончыў Абрам. Быў ён ужо добра падпіты, бо пасля гэтага народнага рэферэндуму па прызначэнню неба для нашай бабулі дадаў:*

*- Хай жыве пані Іваноўская! ... у сэнсе ... у нашай памяці.*

*Якой вялікай павагай карысталася бабуля сярод суседзяў, гэта бачна з таго, што было вырашана ўзяць труну з катафалка і ўсю дарогу да могілак, даўжынёй больш за кіламетр, несці на руках. Была пахавана ў вялікім сямейным склепе, разам з дзедам Леанардам. Калі ў 1939 г. прыйшла Савецкая ўлада, удзячны народ павыцягваў труны, павыкідваў парэшткі і гуляў чарапамі, як мячамі. Калі прыйшлі немцы, мы пазбіралі косткі і там жа ў склепе проста закапалі іх глыбока ў зямлю"* [17].

Я б мог яшчэ шмат расказаць пра Леанарда Іваноўскага і яго маёнтак Лябёдка, але ўсё гэта будзе ў дакументальнай аповесці, якая ўжо ў часопісным варыянце надрукавана ў літаратурным альманаху "Новы Замак" №№ 8, 9 і, спадзяюся, цалкам выйдзе асобнай кнігай.

**Фармулярны спіс Леанарда Іваноўскага**[18]

Пра службу члена Савета па справах скарбовага продажу напояў, загадчыка будаўнічай часткі Аддзела скарбовага продажу напояў Галоўнай Управы неабкладных збораў (па-руску "Главное управление неокладных сборов" - *Л. Л.*) і скарбовага продажу напояў, члена Тэхнічнага камітэта гэтай жа ўправы, дзейснага (перакрэслена і папраўлена: *тайнага - Л.Л.*) стацкага (перакрэслена - *Л.Л.*) дарадцы Леанарда Станіслававіча ІВАНОЎСКАГА

Складзены: красавік, 1915 г.

Дзейсны (перакрэслена - *Л.Л.*) тайны дарадца Леанард Станіслававіч Іваноўскі. Член Савета па справах скарбовага продажу напояў, загадчык будаўнічай часткі Аддзела скарбовага продажу напояў Галоўнай Управы неабкладных збораў і скарбовага продажу напояў і член Тэхнічнага камітэта Галоўнай ўправы.

Нарадзіўся 2 лістапада 1845 г. Рыма-католік.

Мае ордэны: св. Ганны 1 ст, св. Станіслава 1 ст., св. Уладзіміра 3 і 4 ст., св. Станіслава 2 ст, св. Ганны 3 ст., св. Станіслава 3 ст.

Мае медалі: срэбны ў памяць царавання Гасудара Імператара Аляксандра III і светла-бронзавую ў памяць 300-годдзя царавання дынастыі Дома Раманавых.

Афіцэрскі крыж Французскага ганаровага легіёна, аўстрыйскі афіцэрскі ордэн Франца-Іосіфа камандорскага крыжа з зоркай, вялікі крыж Італьянскага ордэна св. Маўрыкія і Лазара.

Жонка мае маёнтак у Петракоўскай губерні. Жанаты з Ядвігай з Райхалеў.

Мае дзяцей: Юрыя, нарад. 29 студзеня 1876 г.; Вацлава, нарад. 25 траўня 1889 г.; Тадэвуша, 16 снежня 1882 г.; Станіслава, нарад. 27 лістапада 1886 г.; дачку Алену, нарад. 3 траўня 1885 г.

Жонка і дзеці рыма-каталіцкага веравызнання і знаходзяцца пры ім.

Атрымлівае ў год утрымання:
Жалаванне: 3600 руб.
Сталовыя: 1200 руб.
Кватэрныя: 1200 руб.
Разам: 6000 руб.

Атрымаў выхаванне ў С.-Пецярбургскім Практычным Тэхналагічным інстытуце па хімічным аддзяленні, выпушчаны ў 1868 г. са званнем тэхнолага 1-га разраду.

Грунтуючыся на § 31 палажэння аб Інстытуце, Высачайша зацверджанага 30 студзеня 1867 г., з зацвярджэння г. міністрам фінансаў уганараваны вучэбным камітэтам Інстытута ступенню інжынера-тэхнолага з 27 траўня 1871 г.

... Гасударыня Імператрыца 7 красавіка 1882 г. ... прызначыла яго членам Савета рамеснай вучэльні пры Ніжагародскім першым дзіцячым прытулку.

За працу на Усерасійскай прамыслова-мастац-

[16] Ivanauskas Tadas. Az apsisprendziu. P. 89-91.
[17] Iwanowski Kazimir. Wspomnienia z kresowej mдodoьсi ... S. 51.
[18] RGIA у Пецярбурзе. Сігнатура: 575-9-22. Пераznятыя старонкі ўзяты з сайту: http://www.rogala-iwanowski.pl/page18.php

кай выставе 1882 г. у г. Масква, ... 15 траўня 1883 г. узнагароджаны ордэнам св. Станіслава.

З дазволу сп. міністра фінансаў, згодна з прашэннем, прызначаны старшым тэхнікам упраўлення акцызнымі зборамі Варшаўскай і Сядлецкай губерняй, з 1 верасня 1885 г.

... Гасударыня Імператрыца дазволіла звальненне з ... членаў Савета раменай вучэльні пры Ніжагародскім першым дзіцячым прытулку, з 12 студзеня 1886 г.

... Гасудар Імператар ... загадаў ... улічваць ў дзейсную службу чыноўніка час, калі ... з'яўляўся членам Савета раменай вучэльні пры Ніжагародскім першым дзіцячым прытулку, усяго 3 гады 7 месяцаў і 19 дзён, але без права за гэты час на пенсію са скарбу.

Указам Кіруючага Сената ад 7 снежня 1891 г. за № 125/7295 за выслугу гадоў прысвоены чын тытулярнага дарадцы з старшынством з 12 студзеня 1885 г.

Указам Кіруючага Сената ад 27 студзеня 1892 г. за № 817 за выслугу гадоў прысвоены чын калежскі асэсар з старшынством з 12 студзеня 1888 г.

...за выдатную службу ... 28 сакавіка 1893 г. узнагароджаны ордэнам св. Ганны 3 ступені.

... узнагароджаны ордэнам св. Станіслава 2 ст., 2 красавіка 1895 г.

... загадам № 13, 27 лютага 1896 г. прызначаны членам Дэпартамента неабкладных збораў тэхнічнага камітэта, адначасова пакінуты на папярэдняй пасадзе, 15 лютага 1896 г.

Атрымаў срэбны медаль на Аляксандраўскай стужцы ў памяць царавання Гасудара Імператара Аляксандра III, 26 лютага 1896 г.

... загадам № 44, 15 ліпеня 1896 г. прызначаны членам Тэхнічнага камітэта Галоўнага ўпраўлення неабкладных збораў і скарбовага продажу алкагольных напояў, адначасова пакінуты на папярэдняй пасадзе, 1 чэрвеня 1896 г.

... загадам № 38 ... ад 10 траўня 1897 г. прысвоены чын калежскага дарадцы са старшынством у чыне з 12 студзеня 1896 г.

... узнагароджаны ордэнам св. Уладзіміра 4 ст., 5 красавіка 1898 г.

... загадам па цывільным ведамстве ад 2 траўня 1898 г. № 37 прызначаны загадчыкам будаўнічай часткі аддзела скарбовага продажу алкагольных напояў, адначасова пакінуты на пасадзе члена тэхнічнага камітэта Галоўнай управы неабкладных збораў.

Загадам ад 28 лютага 1900 г. № 15 за выслугу гадоў прысвоены чын стацкага дарадцы са старшынством з 12 студзеня 1900 г.

Па загадзе міністра фінансаў прымаў удзел у якасці дэлегата на кангрэсе гандлю спіртовымі напоямі падчас Усясветнай выставы ў Парыжы, 1900 г.

Сп. міністрам фінансаў 3 чэрвеня 1900 г. прызначаны старшынём камісіі па будаўніцтве жылога мураванага дома Гербавага скарбу для кватэр ніжнім чынам гэтага скарбу, 3 чэрвеня 1900 г.

... загадам па цывільным ведамстве ад 6 лютага 1901 г. № 6 прызначаны членам рады па справах скарбовага продажу напояў, адначасова пакінуты на ранейшай пасадзе, 26 студзеня 1901 г.

Гасударом імператарам, па ... дакладзе міністра замежных спраў, 30 сакавіка 1901 г. ... дазволена яму прыняць і насіць ... афіцэрскі крыж французскага ордэна Ганаровага легіёна.

**У 1902 г. быў камандзіраваны:** 1. У Рыгу для агляду за заводзе Вольфшмідта бесперапынна дзейнага апарата Гільёма і работ на казённым вінным складзе па замене сапсаваных грыбком драўляных канструкцый; 2. У Цвер для агляду нагрэву паравых катлоў па сістэме Строганава і выканання работы па вызначэнні карысці ад гэтых прыладаў; 3. У Маскву для агляду Маскоўскага скарбовага віннага склада; 4. У Варшаву для ўдакладнення прапанаваных зменаў у абсталяванні Варшаўскага скарбовага склада і рамонту будынкаў гэтага склада; 5. У Палтаўскую губерню для агляду жылых памяшканняў Прылукскага скарбовага віннага склада; 6. У Люблінскую, Радамскую і Кялецкую губерні для агляду ўсіх складоў і вырашэння на месцы пытання аб неабходным рамонце складскіх памяшканняў; 7. У Ліфляндскую і Эстляндскую губерні для азнаямлення са станам вінакурэння.

Сп. міністрам фінансаў ускладзена выкананне абавязкаў старшыні Тэхнічна-будаўнічай інспекцыі Галоўнай управы, 11 студзеня 1902 г.

... загадам па цывільным ведамстве ад 1 лютага 1902 г. за № 9 нададзена старшынства ў чыне стацкага дарадцы ...., з 12 студзеня 1899 г.

… 6 красавіка 1903 г. пажалаваны чынам дзейснага стацкага дарадцы.

Па даручэнні таварыша міністра (намесніка міністра па сучаснаму - *Л. Л.*) фінансаў князя Абаленскага, быў прадстаўніком ад Галоўнай управы неабкладных збораў і скарбовых продажаў алкагольных напояў на з'ездзе Імператарскага рускага тэхнічнага таварыства ў С.-Пецярбургу для выпрацоўкі мерапрыемстваў па як мага шырэйшым распаўсюдзе жалеза ў Расіі ва ўсіх галінах.

Па высачайшым загадзе быў два разы камандзіраваны за мяжу для высвятлення пытанняў па ўдзеле Галоўнай управы неабкладных збораў ... у Венскай выставе 1904 г. брадзільнай вытворчасці і выкарыстання спірту ў прамысловасці.

**У 1903 г. быў камандзіраваны:** 1. У г. Бугульму для выбару ўчастка для пабудовы скарбовага віннага склада; 2.У г. Варшаву для перамоваў з фірмамі аб рамонце прыбораў, якія былі на Парыжскай выставе і аб мантажы ўсёй выставы ў Вене ў 1904 г.

Прымаў удзел у надзвычайнай камісіі для распрацоўкі пытання аб забеспячэнні цвердзяў на заходняй мяжы запасам спірту на выпадак ваеннага часу.

**У 1904 г. быў камандзіраваны:** 1. У г. Кіеў для ўдзелу ў з'ездзе кіраўнікоў акцызнымі зборамі для абмеркавання пытанняў па рэарганізацыі скарбовых вінных складоў у паўднёвых, паўднёва-заходніх і паўночна-заходніх губернях; 2. У Вільню на гэтакі ж з'езд; 3. У Екацерынаслаўскую губерню для агляду работ, якія рабіліся ў губерні; 4. У Берасце і Варшаву для

агляду работ па пабудове Берасцейскага казённага склада і вырашэння пытанняў па вывазе абсталявання з Венскай выставы.

**У 1905 г. быў камандзіраваны:** 1. У Кіеў і Варшаву для папярэдніх перамоваў з заводамі "Грэйзер", "Крыванэк", "Борман", "Шведэ і Камп" па вырабе апаратаў і прыбораў для планаванага вырабу кетонавага алею (кетоны - арганічныя рэчывы, у малекулах якіх карбанільная група звязана з двума вуглевадароднымі радыкаламі, самы вядомы нам кетон, гэта ацэтон - *Л.Л.*) на 2-гім Кіеўскім скарбовым вінным складзе; 2. У Цвярскую губерню для ўдзелу ў нарадзе па даследаванні стану вінакурнага аддзела пры Мікуліна-Гарадзішчанскай школе; 3. У Віленскую, Ковенскую і Гарадзенскую губерні для агляду … скарбовых вінных складаў, і ў Магілёўскую губерню для агляду фабрык паперы.

Узнагароджаны аўстрыйскім ордэнам Франца-Іосіфа камандорскага крыжа з зоркай, 1905 г.

**... 2 красавіка 1906 г.** узнагароджаны ордэнам Св. Уладзіміра 3 ст.

Па загадзе міністра фінансаў разам з чыноўнікам для асаблівых даручэнняў Міністэрства фінансаў стацкім дарадцам Тарасавым праводзіў агляд будынкаў і машын Экспедыцыі па нарыхтоўцы дзяржаўных папер, а таксама прымаў удзел у нарадзе па абмеркаванні мерапрыемстваў, якія датычаць далейшых накірункаў дзейнасці экспедыцыі ...

**У 1906 г. быў камандзіраваны:** 1. У Самару для расследавання прычын пажару Самарскага № 1 віннага склада і для сумеснага з Кіраўніком акцызнымі зборамі Самарскай губерні абмеркавання пытанняў аб найхутчэйшым узнаўленні гэтага склада; 2. У Гарадзенскую губерню для агляду стану работ на вінных складах якія перабудоўваюцца з-за іх рэарганізацыі і для ўдакладнення памераў сумы грошай на 1907 г. для гэтых работ.

Сп. міністрам фінансаў прызначаны старшынём Асобай Тэхнічнай камісіі для расследавання прычын абвалу тынкоўкі ў памяшканні каморы касы Дзяржаўнай камісіі пагашэння пазык, а таксама агульнага вывучэння стану ўсіх памяшканняў Камісіі, 17 кастрычніка 1907 г.

Па прапанове сп. начальніка Галоўнага кіравання неабкладных збораў і скарбовага продажу алкагольных напояў разам з неадменным членам Тэхнічнага камітэта дзейсным стацкім дарадцам Бутлерам, прымаў удзел: 1. У распарадчым Камітэце выставы, уладкаванай Імператарскім тэхнічным таварыствам у 1907 г. у С.-Пецярбурзе з мэтай вывучэння сучаснага стану вытворчасці прыбораў асвятлення і абагрэву, вызначэння іх параўнальных пераваг, а таксама распаўсюджвання інфармацыі пра гэтыя прыборы; 2. У размеркаванні прызначаных Міністрам фінансаў узнагарод па аддзелах ..., якія маглі мець найвялікшае значэнне для Галоўнай управы неабкладных збораў ..., 1907 г.

Па загадзе міністра фінансаў разам з тэхнікам Тэхнічна-будаўнічай інспекцыі Галоўнай управы неабкладных збораў ... стацкім дарадцам Цэйдлерам выканаў агляд будынкаў і машын Экспедыцыі па нарыхтоўцы дзяржаўных папер, 20 снежня 1907 г.

**У 1907 г. быў камандзіраваны**: 1. У Пензенскую губерню разам з чыноўнікамі Дзяржаўнага кантролю і Гаспадарчага камітэта акцызнай управы гэтай губерні ... для разгляду пытання пабудовы скарбовых вінных складоў ... 2. У Самару і Пермь для агляду работ ... па пабудове і абсталяванні рэкцыфікацыйнага завода ў Самары, а таксама для азнаямлення са станам рэкцыфікацыйных апаратаў у Пярмі, 1907 г.

Па загадзе міністра фінансаў прымаў удзел у працы камісіі, створанай для высвятлення пытання аб увядзенні на Манетным двары электратэхнічнага спосабу сепарацыі каштоўных металаў і абсталявання для гэтай мэты неабходнага памяшкання, 1908 г.

**У 1908 г. быў камандзіраваны:** 1. У Кіеў для высвятлення пытання, ці можа ў эканамічным сэнсе паспяхова працаваць доследны завод для вырабу кетонавага алею, які ўсталяваны на скарбовым вінным складзе і што яшчэ неабходна зрабіць для павышэння яго эфектыўнасці; 2. У Ражск Разанскай губерні для агляду толькі што пабудаванага рэкцыфікацыйнага апарата і вызначэння яго прадукцыйнасці, а таксама кошту вытворчасці на гэтым апараце; 3. У Тулу для агляду столі ў Тульскім скарбовым вінным складзе, якая пашкоджана грыбком, а таксама для ўказання часовых мер і складання прапановаў па пераўладкаванні гэтай столі; 4. У Маскву для высвятлення магчымасці ўжыць на адным з кубовых рэкцыфікацыйных апаратаў Маскоўскага № 1 скарбовага віннага склада ўдасканаленага спосабу гонкі спірту, які прапанаваў сп. Нарбут, 1908 г.

**... 29 сакавіка 1909 г.** узнагароджаны ордэнам св. Станіслава 1 ст.

Старшынстваваў у асобнай камісіі, створанай для разгляду пытанняў, якія з'явіліся пры ўладкаванні Міжнароднай, імя Яго імператарскай вялікасці Нашчадка Цэсарэвіча і Вялікага князя Аляксея Мікалаевіча, выставе найноўшых вынаходніцтваў аддзела Галоўнай управы неабкладных збораў і скарбовага продажу алкагольных напояў, потым прымаў удзел у стварэнні самога аддзела, 1909 г.

Па загадзе таварыша міністра фінансаў, сенатара І. І. Навіцкага, прыняў на сабе прадстаўніцтва Галоўнай управы неабкладных збораў ... у экспертнай камісіі пры Міжнароднай выставе броварства, 24 ліпеня 1909 г.

**У 1909 г. быў камандзіраваны:** 1. У Гарадзенскую губерню для высвятлення на месцы недаробак у скарбовых вінных складах гэтай губерні, якія праектаваліся ў 1903 г. і сучаснай патрэбы ў іх, а таксама магчымасці іх эксплуатацыі згодна з хадатайніцтвам кіраўніка акцызнымі зборамі, які прапанаваў спыніць работы на гэтых складах, якія раней ўжо былі дазволены для эксплуатацыі; 2. У Варшаву і Чанстахова для агляду дахаў скарбовых вінных складаў і для высвятлення пытанняў пра будаўнічыя і рамонтныя работы на гэтых складах; 3. У Пермь для высвятлення пытанняў аб пераўладкаванні зношанага рэкцыфікацыйнага аддзела Пермскага скарбовага віннага склада, 1909 г.

Па загадзе міністра фінансаў, разам з тэхнікам Тэхніка-будаўнічай інспекцыі Галоўнага упраўлення неабкладных збораў ..., стацкім дарадцам Галоўнага кіравання і скарбовага продажу алкагольных напояў пры Міністэрстве гандлю і прамысловасці, прыняў удзел у арганізацыі рускага аддзела на Міжнароднай выставе 1911 г. у Турыне, 25 кастрычніка 1910 г.

**У 1910 г. быў камандзіраваны:** 1. У Маскву для высвятлення пытання аб рамонце і пераўладкаванні рэкцыфікацыйнага аддзела Маскоўскага № 1 скарбовага віннага склада; 2. У губерні: Яраслаўскую, Кастрамскую і Вяцкую для асвятлення: а) прычын псавання столі і замены яе на бетонную на жалезных бэльках у Рыбінскім, Яраслаўскім і Вяцкім скарбвых складах, б) пытання аб магчымай пабудове каналізацыі для адпрацаванай вады ў Кастрамскім скарбовым вінным складзе і для даследавання стану рэкцыфікацыйных апаратаў у Рыбінскім і Галіцкім складах, агляду будынкаў і ходу работ на ўсіх вышэйпералічаных складах.

Па загадзе міністра фінансаў, разам з тэхнікам Тэхніка-будаўнічай інспекцыі Галоўнага ўпраўлення неабкладных збораў ..., стацкім дарадцам Цэйдлерам, рабіў агляд будынкаў і машын Экспедыцыі па нарыхтоўцы дзяржаўных папер, 1911 г.

Па найвысачайшым дазволе ад 18 лютага 1911 г., у якасці прадстаўніка Галоўнай управы неабкладных збораў ..., быў камандзіраваны на 2 месяцы на Міжнародную прамысловую выставу ў Турын для ўладкавання і абсталявання памяшканняў, прызначаных для Галоўнай управы.

Па найвысачайшым дазволе ад 21 ліпеня 1911 г. другі раз быў камандзіраваны ў Турын на Міжнародную прамысловую выставу для ўдзелу ў працах па экспертызе выстаўленых Галоўнай управай прадметаў і для тлумачэння экспартным камісіям.

У 1911 г. быў камандзіраваны ў Наўгародскую губерню для агляду вытворчасці пустацелых бетонных блокаў і пабудоваў з іх. Блокі былі самастойны выраблены на складах Наўгародска-Аланецкай акцызнай управы.

Па загадзе таварыша міністра фінансаў прымаў удзел у Тэхнічнай камісіі, створанай па указанні Міністра фінансаў, для складання агульнага плана работ на манетным двары, якія могуць быць неабходны ў залежнасці ад стану будынка ... высвятлення неабходных для гэтага сродкаў, 15 снежня 1911 г.

**25 сакавіка 1912 г.** аб'яўлена найвысачайшая падзяка за плённую дзейнасць па уладкаванні Рускага аддзела на Міжнароднай прамысловай выставе ў Турыне.

Па загадзе міністра фінансаў, разам з тэхнікам Тэхнічна-будаўнічай інспекцыі Галоўнай управы неабкладных збораў ... стацкім дарадцам Цэйдлерам, рабіў агляд будынкаў і машын Экспедыцыі па нарыхтоўцы дзяржаўных папер, 1912 г.

У 1912 г. быў камандзіраваны: 1. У Херсонскую губерню для кіраўніцтва распрацоўкай плана па дэталёвай рэарганізацыі існых складаў; 2. У Падольскую губерню для старшынства ў Камісіі па ацэнцы куплянага скарбам Чачэльніцкага віннага склада; 3. У Маскву для агляду зробленай перабудовы рэкцыфікацыйнага аддзела Маскоўскага № 1 скарбовага віннага склада, даследавання ўсталяванага там новага рэкцыфікацыйнага апарата і азнаямлення з прапанаванымі зменамі ў водазабеспячэнні і каналізацыі гэтага склада; 4. У Вільню для агляду Віленскага скарбовага віннага склада і ўдакладнення мэтазгоднасці перабудовы мыечнага і разліўнога аддзела.

Па загадзе міністра фінансаў, разам з тэхнікам Тэхнічна-будаўнічай інспекцыі Галоўнай управы неабкладных збораў ... стацкім дарадцам Цэйдлерам, рабіў агляд будынкаў і машын Экспедыцыі па нарыхтоўцы дзяржаўных папер, 1913 г.

Па загадзе таварыша міністра фінансаў, сенатара І. І. Навіцкага, у якасці прадстаўніка міністэрства фінансаў, прымаў удзел у працы 43-га Міжнароднага кангрэса таварыства нагляду за паравымі катламі ў Маскве, 22 чэрвеня 1913 г.

**У 1913 г. быў камандзіраваны:** 1. У Чарапавец і Усцюжну, для агляду скарбовых вінных складаў і ўсебаковага абмеркавання пытання аб іх пашырэнні ці пабудове новых скарбовых вінных складаў; 2. У Варшаву для выбару месца на складскім участку для пабудовы дэнатурацыйнага аддзела і вырашэння пытанняў, якія з'явіліся на гэтай будоўлі, а таксама для агульнага агляду Варшаўскага віннага склада.

Дазволена насіць светла-бронзавы медаль у памяць 300-годдзя царавання дома Раманавых, **21 лютага 1913 г.**

**... 14 красавіка 1913 г.** уганараваны званнем кавалера ардэна св. Ганны 1 ст.

Гасударом імператарам па ... дакладзе міністра замежных спраў ад 2 ліпеня 1913 г. ... дазволена прыняць і насіць вялікі крыж Італьянскга ордэна св. Маўрыкія і Лазара.

Гасудар імператар па ... дакладзе міністра замежных спраў ад **14 студзеня 1914 г.** дазволіў насіць ... камандорскі крыж з зоркай Аўстрыйскага ардэна Франца-Іосіфа.

Па загадзе часовага выканаўца абавязкаў таварыша міністра фінансаў, сенатара І. І. Навіцкага, загадана старшынстваваць у Асобай камісіі для распрацоўкі прапаноў аб удзеле Галоўнай управы неабкладных збораў ... на планаванай у 1914 г. Міжнароднай выставе па гарадскім ўпарадкаванні ў г. Ліёне, 20 сакавіка 1914 г.

(Наступныя запісы ў асабістым фармуляры Іваноўскага зроблены чорным атрамантам - *Л. Л.*)

Па найвысачайша зацверджанай 19 снежня 1915 г. пастанове Рады міністраў, прызначана ўзмоцненая пенсія ў памеры 3000 руб. у год.

Найвысачайшым загадам па цывільным ведамстве ад 19 ліпеня 1915 г. за № 30, звольнены ад службы па выслузе, згодна з асабістым прашэннем з правам нашэння мундзіра адпаведнага яго званню.

Найвысачайшым загадам па цывільным ведамстве ад 4 лютага 1916 г. № 4 прысвоена званне тайнага дарадцы, згодна з устаноўленым арт. 792 ... ад 1896 г. парадкам праходжання службы.

**_Віктар Кудла,_**
**_выпускнік Ганчарскай сярэдняй школы 1959 года_**

# Сачыненне на тэму: "ЗВЕСТКІ ПРА СЯЛЯНСКАЕ ЖЫЦЦЁ, НАВУЧАННЕ, ВУЧНЯЎ І ІХНІ ЛЁС У ГАНЧАРСКАЙ АКРУЗЕ"

**_У сачыненні выкарыстаны вершы Аркадззя Курыша, Пятра Ліпая, Вацлава Харука_**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*



Я, Віктар Кудла, нарадзіўся ў Дроздаве ў 1941 годзе (17.10) у вясковай хаце з сялянскім побытам сям'і.

*Паміж шашой, чыгункай, сенажаццю*
*гады дзіцячыя прайшлі.*
*З маленства зведаў я сялянску працу:*
*касіць,грабсці, пасці кароў,*
*Дапамагаў бацькам па гаспадарцы.*
*Гуляў у пікара, лапту…*
*Хадзіў па веды ў школу,*
*затым асіліў інстытут.*
*І вось заатэхнікам калгасным*
*вярнуўся зноў у родны кут…*



Што было ўчора, пазаўчора - не усё ўспомню, а вось тое - былое, з дзяцінства, пра школу - памятаю да дробязей.

Шмат цікавых і дарагіх сэрцу ўспамінаў захавала памяць.

*Ручнік успомніў вышываны,*
*што на іконе ў нас вісеў.*
*Ён увесь бялюткі, саматканы,*
*арнамент сціплы чырванеў.*
*Дзяцінства годы маладыя*
*ў душы з пяшчотай берагу.*
*Падзеі сэрцу дарагія*
*забыць ніколі не змагу.*

У часы ваеннага ліхалецця з маім нараджэннем звязана рызыкоўная гісторыя: можна сказаць: я - удзельнік і ахвяра вайны.

**Бацька Ваня**, 1908 г.н., расказваў: *"Нягледзячы на руплівыя сялянскія клопаты па вясеннім пасеве, у красавіку 1941 года ваенкамат прызваў на вайсковыя зборы ў Гародню. Размясціліся спачатку ў казармах унізе каля Нёмана, перад самым чыгуначным мостам. Потым перагналі на левы бераг у палаткі. Лагер быў у садочку каля вёскі Лобна, пры дарозе на Сапоцкін. Цвічэнне было, капалі акопы,стралялі па мішэнях. Я быў нам. камандзіра звяза, і вінтоўка на рамні была толькі ў мяне. Ужо пахла вайной".*



**Фота з ваеннага білета**

**Мама Вера**, 1920 г.н., (на фота) была цяжарная мною, і яшчэ адна вясковая жанчына, Белавус Надзя, вырашылі наведаць сваіх мужоў на вайсковых зборах пад Гародняй, завезці хатніх гасцінцаў. У суботу 21

чэрвеня з цяжкасцю дабраліся да самога палатачнага гарадка часткі. Сустрэліся…

Першыя словы бацькі былі: "Што ж вы прыехалі?! Вайна будзе! Афіцэры свае сем'і вывезлі… Уцякайце хутчэй дамоў". І жанчыны кінуліся. Начавалі ў Гародні, дзе а чацвёртай гадзіне раніцы нахлынула вайна: бомбы ўзрывалі дамы, вакол пажары, людзі бегалі, хаваліся, паўсюдна енк і крык…. Яны выбеглі ў кірунку Ліды.Уся шаша забіта тэхнікай, людзьмі… З неба паласавалі самалёты, паўсюдна - выбухі, пажары... Як толькі ляцеў самалёт, усе - урасыпную, хаваліся ў канаву або хмызнякі. Калі ўсё сціхала, гукалі адна адну: "Верка, ты жывая?" - "Жывая". І беглі далей. Затрымаўся грузавік з раненымі дзесьці за Скідзелем. Маму як цяжарную пасадзілі ў кузаў. Некалькі разоў выскаквалі і хаваліся ад самалётаў. Даехалі да Ліды, а там пешшу да Дроздава.

Бацька расказваў: *"Раніцай вакол выбухі... Усе салдаты выскачылі з палатак. Паніка… Камандлзір звяза адразу ў мяне забраў вінтоўку, і, сабраўшы салдат, даў каманду адразу перабірацца на правы бераг Нёмана, дзе былі нашы казармы. Перад самым чыгуначным мостам, унізе каля Нёмана, перабраліся. Гародня была ў пажары, дым, выбухі, казарма разбіта. З кучкай салдат мы рушылі за горад у бок Ліды. Усе адступалі: машыны, фурманкі, людзі. Над шашой пікіравалі самалёты,страчылі пулямёты.*

*Я ўспомніў, што з правага боку з кіламетр быў Кацярынінскі тракт. З некалькімі чырвонаармейцамі перабеглі туды. Дарога - абапал прысады, большменш ціха. Бачылі, як варожыя самалёты паласавалі тую шашу. Гэта нас і зберагло. Так праз пару дзён дабраліся ў Істакі да Гросаў. Па дарозе ўжо з ляскатам шыбавалі нямецкія танкі, а потым матацыклы. Давялося скінуць салдацкую форму. Швагер Валодзя даў свае порткі, рубашку і кашулю. Праз пару дзён ноччу дабраўся ў Дроздава. Вакол ужо гаспадарылі акупанты".*



**Каханоўская Ядвіга** (наша суседка): *"Калі пачалася вайна мне было пяць з паловай гадоў. На світанні 22 чэрвеня прачнуліся мы ад выбухаў і невядомага гулу. У вокнах дрыжалі шыбы. Хуценька адзеліся і выбеглі на вуліцу. На вуліцы збіраліся людзі - ніхто не мог зразумець, што здарылася. І хтосьці раптам сказаў: "Вайна!". Нам, дзецям, было незразумела, што гэта такое. Але тое, што гэта штосьці страшнае, зразумелі ўсе. Вяскоўцамі было вырашана жывёлу, коней загнаць у Ліпіцы, дзе і застануцца дарослыя. Нас, дзяцей, адправілі на хутары.*

*Праз некалькі дзён з'явіліся немцы і размясціліся на пастой на гумнішчах у нас - Каханоўскіх, і ў Ванюшкавых (Кудлы Івана). Там паставілі самаходы і палаткі. Помніцца, былі яны паўраздзетыя,і вясёлыя, гаманлівыя, ігралі на губным гармоніку.*

*Іх паходныя кухні дыміліся,вакол мітусіліся. Здаецца, шмат елі. Мне запомніўся іх наварысты гарохавы суп. У нас выцягнулі з хлява парсюка. Аблілі кіпнем, разабралі і варылі, смажылі ў нашай печы".*



Праз чатыры месяцы пасля тых падзей на чацвёрты дзень па Пакровах нарадзіўся я. Дарэчы, і тут таксама цікава склалася: маці наведвала на хутары Праважа каля Забалаці бабулю Еўку (на фота) і, спяшаючыся, падводай вярталіся дахаты. Нарадзіла мама мяне на возе, у паўкашку. Лічы, на самым нашым падворку... Часта яна мне потым казала: "Радзіла я цябе ў дарозе, вось і ты ўсё жыццё кудысьці едзеш і едзеш"…

Так і ёсць: у сталым узросце я наведаў і аб'ехаў шмат краін.

У халодныя студзеньскія дні бацькі рызыкнулі мяне ахрысціць. Закалолі вяпрука, выгналі самагонкі, прыгатавалі многа разнастайнай закускі. Сваякоў сабралася шмат. І вось давялося выбраць хрышчоных: бацькам адразу - Цыпрука Павядайку, меў пад 40 год, а вось маці хрышчоную - трынаццацігодку Тамару Грос. На санках прывезлі ў ганчарскую царкву, і знакаміты бацюшка Мікалай Усціновіч ахрысціў. Па рассказах бацькоў усе дні завіруха замяла гурбамі вуліцу і дарогі. Госці некалькі дзён з задавальненнем

частаваліся і вясяліліся… Бацька прыгожым голасам за сталом спяваў старынныя расейскія і беларускія песні.



*Першае маё фота: я на руках у мамы Веры, побач - старэйшы брат Ігар, ззаду - папа Ваня. А адарваны ву-гал (зразумела чаму?) - мамін дваюрадны брат- Мікола Грэбень, член СБМ (Саюз Беларускай моладзі), быў у форме, служыў у ахове чыгункі на ганчарскім паўстанку, тайна трымаў сувязь з дроздаўскімі партызанамі… Мажліва і гэта ўберагала нашу сям'ю.*

У "Лідскім летапісцы" № 81-83 быў багаты матэрыял Янкі Жамойціна "З перажытага", у якім аўтар многа апавядае пра свайго маладога сябра Міколу Грэбеня, з якім у Варшаве вучыўся на святара.

*Маё дзяцінства працякала*
*ў ваенныя гады.*
*Было ў ім радасці замала,*
*хапала ж гора і бяды.*
*Ды многа памятаю злога,*
*мо падсвядомасць мне дае*
*У думках выцягнуць з былога*
*тугу і крыўды ўсе мае.*

Памятаю: у хату зайшлі дзядзя Мікола і немец, пачаставлі нас кругленькімі, што шашачкі, ледзянцамі. Было мне каля годзіка, і быў я ў адной кашульцы. Немец узяў мяне на рукі і высока падкінуў угору, аж пад сталяванне, ды так што я пырскнуў яму ў твар. Ён рэзка кінуў на падлогу, вымацюгаўся: "Швайне хунэ". Чым мог закончыцца "мой напад" на акупанта, невядома, але маці хуценька падабрала і закрыла мяне ў каморы, а "гасцям" накрыла стол.

Неяк летнім днём мы былі на гумнішчы. Прыбегла бабуля Алеся: "Ванечка хавайся - па вёсцы шастаюць белапалякі!" Бацька хуценька нырнуў у гумно - меў там сховань паміж тарпякамі снапоў. Я ж-паўтарагадовы, неяк дачыкілдаў да сцяны і ў дзірачку: "Папа, ты - тут, ты - тут! Вазьмі і мяне". Бацька ціхенька: "Віценька, цябе не можна, бяжы дахаты - за гумном ваўкі". На шчасце, акаўцы запыталі ў мамы, дзе муж і не шукалі, а пайшлі далей па вуліцы.

А вось ваўкамі мы, малышня, дарэчы былі напалоханы. Неяк ноччу прачнуліся ад брэху, а затым енку сабакі. Раніцай знайшлі яго разарваным, а з хлява ваўкі выцягнулі з-пад падваліны барана, і за шашой валяліся шкура ды косці.

Нярэдка дзень пачынаўся са страшных звестак. Нехта прыносіў навіны аб пажарах у суседніх вёсках, аб забітых і замучаных вяскоўцах. У нашу вёску заязджалі і "белыя", часта - ноччу. Стук у вокны, дзверы і лямант: "Одэмкні!" - прыводзілі ў жудасны страх усю чалавечую сутнасць.

Пасля такіх візітаў нам, малышням, рабілася дрэнна, ікалася, ноччу не маглі заснуць, амаль не елі. Мама вадзіла нас на край вёскі да Альжбеты Кудлы - маці двух партызанаў, каб выбраць пярэпалахі.

Добра памятаю, як сухенькая бабулька качала яйкі па спіне, а на грудзях губамі высмоктвала і выплёўвала па некалькі раз. Потым мы рукі лажылі на бляху з попелам і яна ножычкам каля кожнага пальца раз за разам выскрэбвала попел і шаптала нейкую малітву. І гэта дапамагала.…

Ужо падросшым памятаю, неяк ноччу наведаліся, на гэты раз у вакно грукат, у дзверы. Зайшлі двое ўзброеных: як кажуць "шукаць коней у куфры". Забралі бялізну, посцілкі, з вешалкі знялі бацькаву марынарку і суконную бурку. У сенцах тупаў мясцовы "наводчык". Зноў зайшлі і патрабавалі шлюбныя пярсцёнкі, а з шафы забралі бацькаў вясельны касцюм.

Дзесці ў пачатку пяцідзесятых на хутары ў Жамойцінаў было вяселле. Бацька быў у кампаніі і пазнаў свой касцюм на быўшым партызане Кіслым і паказаў нам. Мы сабралі хлапцоў-падлеткаў і на падворку падпільноўвалі рабаўніка, каб раздзець. Тым часам бацька ўцяміў, што зрабіў памылку і даў адбой : "Не чапайце - хай яму будзе на пахаванне".



***Пасля малебня ў царкве на муражку: прысеўшы: - папа Ваня, цёця Вольга, бабуля Алеся, прылёгшы: Грэбень Мікола і нехта са службоўцаў***

**Грос Тамара Уладзіміраўна**, 1929 г.н., з вёскі Істакі, жыла амаль пастаянна ў Дроздаве ў бабулі Аляксандры Вікенцьеўны Кудлы. Тут яна сябравала з вясковы-

мі дзяўчатамі: Рэняй і Лёдзяй Каханоўскімі, Шут Тамарай (Сцёпавай), Аляй Дзявятай (Каласковай), Лідзечкай Данейка.




Расказвае ( запісана на касеце): *"Хата Шута Сцяпана была каля дзядзі Вані - у садку. Жонка Вера граматная, дапамага рашаць задачы. Усе культурныя. Вольга потым стала настаўніцай. Тамара замужам за афіцэрам. Гена быў старэйшы, закончыў 7 класаў польскай школы, але асвоіў і нямецкую мову, сябраваў з Веркай Казловай ".*

(У 1940 годзе Шут Генадзь арганізаваў з аднавяскоўцах першую ў Лідскім раёне камсамольскую арганізацыю. У пачатку вайны ўступіў ў партызанскі атрад "Іскра", удзельнічаў у нападах на нямецкія гарнізоны, спускалі пад адхон варожыя цягнікі … Меў урадавыя ўзнагароды. Пасля вызвалення Лідчыны быў абраны сакратаром Лідскага райкама камсамолу. Трагічна загінуў ад трафейнай гранаты 12 ліпеня 1944 года. - *В.К.*)

*"Дзядзя Ваня меў сувязь з партызанамі, сустракаўся з Генам. Дапамагаў харчамі і патронамі, нават пісталет перадаў.*

*Я толькі знаю, калі вазіў прадукты партызанам за Нёман, прывозіў адтуль многа-многа газет. Хаваў. Немцы заступалі на мосце цераз Нёман, шукалі ў возе,ператрэслі ўсё, не знайшлі. А ён хаваў у хамуце.*

*Чыталі, потым хавалі пад падлогу. Збожжа таксама сам вазіў падводаю. Тры дні не вяртаўся - я надта плакала.*

*Калі дзядзю Ваню забралі на зборы ў армію, і пачалася вайна, я плакала-плакала, малілася, і ён праз тыдзень вярнуўся. Вымыліся ў лазні".*

*"Белапалякі забілі 11 дроздаўцаў. Матку Лідзечкі Данейка, а бацька схаваўся пад свірнам. Уратаваўся, застаўся жыць. Данейка любіў радыё слухаць, палітыкай цікавіўся, абмяркоўваў. Радыё з навушкінамі было і ў дзядзі Вані.*

*Я сябравала з Лідзечкай, і маці была харошая. У Беліцу завезлі. Там забілі ўсіх, і - у яму. За што? Нехта наводзіў".*

**Грос Ваня** запісаў: *"У тую цёплую чэрвеньскую раніцу 1944 года вёска Дроздава не далічылася многіх сваіх жыхароў. Белапалякамі былі арыштаваны Сымон Шут, яго жонка і нявестка - за тое, што ўнук Генадзь пайшоў да чырвоных партызан. Усіх траіх расстралялі. У абоз па дастаўцы арыштаваных быў мабілізаваны разам з іншымі вяскоўцамі і мой дзядзька Іван Кудла з падводай. Акаўцы зрабілі чамусьці прывал каля хутара Саламянка ў багатага каталіка Качаноўскага. Тут беляки і рашылі адпачыць. Фурманам загадалі стаяць ля сваіх вазоў, арыштаваных адвялі ўбок, пасадзілі на зямлю пад аховай. Як апавядае мой дзядзька: "Хутка да іх лагера пад'ехалі двое верхавых. Адзін з іх паўглядаўся і затым паказвае на мяне: "Злапалі і гэтага бандыта, то чаму ён не разам з арыштантамі?" Мяне ён хацеў тут жа далучыць да іх, але заступіўся Качаноўскі. Ён сказаў, што гэта добры чалавек, яго ўсе ведаюць, ён нікому не зрабіў зла... Акавец пасля гэтага адступіўся ад мяне, але са злосцю буркнуў: усе яны праваслаўныя бандыты…"*



*Мой дзядзька пазнаў акаўца, ён быў з недалёкай вёскі. Яшчэ да вайны яны неяк паспрачаліся каля млына, нахабнік хацеў без чаргі змалоць збожжа, яму, аднак, не далі. Той даўнейшы, нязначны выпадак, але дзядзька ледзь не расквітаўся з жыццём. Зласлівы вырадак хацеў адпомсціць за нанесеную яму "крыўду". Такія вось "парадкі" ўстанаўлівалі акаўцы ў нашай мясцовасці".*

**Каханоўская Ядвіга:** *"У час вайны немцы ў вёску заходзілі нячаста. У асноўным яны былі з Даржаўскога гарнізона, які ахоўваў чыгуначны і шашэйны масты цераз раку Дзітву. Прыходзілі яны па прадукты. Патрабавалі масла, эйер, шпэк (яйкі, сала). Вялі сябе яны грубавата, па-хамску: самі заходзілі ў камору, лазілі на гару.*

*З Ганчароў калі-некалі прыязджалі паліцаі. Каб трымаць у полі зроку маладых людзей, немцы распачалі торфараспрацоўку на забалочаных сенакосах, якія знаходзіліся за чыгункай. Усю моладзь зганялі на гэта балота. Яны пад кантролем і аховай капалі торф і складывалі яго брускамі ў пірамiды.*

*Пасля выгнання немцаў, 8 ці 9 ліпеня, да нас у дом зайшлі партызаны, у асноўным моладзь, на чале з маім братам Браніславам.*

*Сярод іх былі: Гена Шут, Фёдар Курыла, Лёня Данэйка, Пазняк Мікалай і нехта яшчэ. Пілі, закусвалі, галдзелі. Нешта абмяркоўвалі. Радасці і шчасцю не было канца.*

*Моладзь пачала ажываць. Збіраліся на "вячоркі": пралі, вязалі, разматвалі ніткі і г.д. На жаль, колькасць "вячэрнікаў" была невялікай. Многа хлопцаў прызвалі на фронт..."*

Бацька працаваў на сваёй гаспадарцы. Меў дзесяць гектараў ворыва, некалькі сенакосу і пашы. На падворку была студня, хлеў для жывёлы, свіней, авечак. На шырокім гумнішчы вялікае на восем тарпякоў гумно. Для захоўвання зерня драўляны на высокім фундаменце свіран, накрыты кулявой саломай. Усе: і папа, і мама, і бабуля працавалі ад світання да пацёмкаў. Араць коньмі прыязджалі маміны пляменнікі Куляшы Ваня і Валодзік са сваёй кабылай.

Добра памятаю, як мама, бабуля,Тамара Грос сярпамі жалі жыта, вязалі ў снапы і складвалі ў дзесяткі, дзе мы, малыя, хаваліся ад спякоты. Потым звозілі возам у гумно. Па некалькі разоў наведваў гаспадарку фінагент, уручаў заданне па здачы дзяржаве сельгаспрадукцыі: зерня, бульбы, малака, масла, яек. Ды столькі, што ў хаце мала што заставалася. Эканомілі, галадалі, усяроўна не ўдавалася выканаць план. Уводзілі грашовую нядоімку. І вось восенню 46-га года папу, мажліва, як не здзейсненага "кулака", арыштавалі і вывезлі ў Карэла-Фінскую АССР на лесанарыхтоўкі каля горада Кемь. У пісьмах распавядаў пра цяжкую працу ў лесе ў суровыя дні. Праз год вярнуўся. Прывёз нам падаруначкі, цукру і крыху грошай. Потым у вёсцы стварылі калгас "Перамога". Старшынём прыслалі Зюзіна. Папу прызначылі бухгалтарам.

**Дашкольная падрыхтоўка.** Першае знаёмства са школьнай прыладай: хімічны аловак мачыў у губах і на картонцы выводзіў: "КУДА", што значыць "Кудла". Ад бацькі навучыўся маляваць дрэвы, кветкі, сонца, воблака… Па вечарах, распакаваўшыся на цёплай печы, бацька і бабуля расказвалі нам байкі, казкі. Старэйшы брат пры лучыне рыхтаваў урокі, чытаў вершы, апавяданні. На ўсё жыццё запомніўся саладкаваты пах смалы і дыму ад лучыны, якой асвятлялася хата зімовымі вечарамі.

Потым больш здатнымі для асвятлення ў хаце былі керасінавыя лямпы. Праўда з газай не заўсёды быў дастатак. Прыходзілася хадзіць па хатах, каб пазычыць той газы хоць на вышыню пачка ад запалак у бутэльцы.



***На фота захаваныя дамашнія рарытэты***

Пра кіно першымі дазнаваліся дзеці і вестку разносілі па хатах. "Заўтра прыедзе перасоўка". Вяскоўцы прывозілі канём кінамеханіка і апаратуру ў возе. Тады першы раз у жыцці ўбачыў электрычную лямпачку, калі прабраўся на фільм "Два байцы". На падворку лапатаў рухавік, у хаце на сцяне - белы экран. У хаціну Белавуса Косці, мажліва, самую прасторную ў вёсцы, набілася паўнюсенька. Прыходзілі са сваімі лаўкамі, зэдлікамі. На лаўках расселіся сталыя мужчыны і пару кабет, маладзейшыя натоўпам стаялі ўздоўж сцен і ў сенях. Мы ж, малышня, скучкаваліся на падлозе за метр ад экрана. Гасне лямпачка, стракоча праектар, на экране папаўзлі салдаты, страляніна. І раптам на нас рухаецца танк, вось ён тракамі зваліцца на нас. Енк, крык, плач, нехта ўцёк пад лаўку да маці. Квіток на ўваход каштаваў 10 капеек. Некалькі хлопцаў не мелі грошай і таўкліся пад вокнамі, а потым рызыкнулі памачыцца на рухавік, каб заглушыць, а атрымалі электраўдар-шок.



**Зборы ў школу.** Ад старэйшага і падрослага брата Ігара перайшлі кашулька, кароткія порткі з адной шлейкаю цераз плячо, чаравікі. Маці пашыла з белага саматканага палатна торбачку - і ўсё!

Жучкоўская пачатковая школа размяшчалася пры дарозе на Беліцу ў хаце Ненартовіча Франка і Ірэны, якія з сям'ёй пасля вайны выехалі ў Польшчу. У 1944 годзе будынак быў пераабсталяваны пад школу.



***Жучкоўская пачатковая школа (здымак 1950-ых гадоў)***

Два пакоі з двух канцоў - пад класы, паміж імі сенцы і ганачак. А пасярэдзіне - маленькая настаўніцкая, і з тылу - уваход у кватэру загадчыка. Дах з нацягнутай толі абабітай дошкамі. Падлога з непамаляваных дошак. Невялікія, па чатыры на клас, вокны, дзе ніжнія шыбы былі замалёваны фарбай, каб вучні не зыркалі на двор. У класах стаялі цагляныя печкі, у халодныя дні да пачатку заняткаў тэхнічка іх прапальвала дровамі, так што яшчэ доўга пахла дымам.

Школьнае абсталяванне: у два рады самаробныя з дошак сталы і лаўкі на перакладзінах. Лаўкі часта падалі. На сталах выдзеўблены ямкі для чарнільніц з розных бутэлечак. Потым з'явіліся сапраўдныя чарніліцы-невылівайкі, а для чарніла раствaралі нейкія таблеткі ў вадзе. Ручку для пісьма майстравалі з тонкай палачкі, да якой ніткаю прывязвалі жалезнае пяро - "зорачку". Мачалі ў чарнільніцу і выводзілі літары на паперы. Не аднойчы кропля падала і … клякса на сшытку і адзенні…



***Вось яны школьныя прылады тых пасляваенных часоў : чарнільніцы-невылівайкі, ручкі з пяром-"зорачкай", алоўкі, фанерны ранец, афіцэрская сумка***

На пярэдняй сцяне класа - дошка з фанеры, пафарбаваная ў чорны колер. Пісалі кавалачкамі крэйды. Балазе яе хапала, недалёка, за Масявічамі, насельніцтва здабывала з ямы вапну для гаспадарчых патрэб.

Няблізкая дарога ў Жучкі была поўная прыгод, а часам і небяспечных - па лясах яшчэ хаваліся "белыя". То там, то тут разносіліся весткі пра закатаваных. Недзе за Баравічамі ў полі, пад дзічкаю замучылі 24.10.1947 г., абвязаўшы калючым дротам, Гроса Уладзіміра (на фатакартцы) - мужа маёй цёці Вольгі.



Абапал шашы раслі вялікія таўшчэзныя таполі. Дрэвы хавалі дзяцей у спякоту і ад дажджу. Бывала, старэйшыя дзеці хаваліся за тоўстыя дрэвы і палохалі малодшых. Па мурагу паміж дрэвамі ішла мяккая сцяжынка. А на вярхавінах дрэў - чорныя гнёзды гракоў. Увесну адтуль раздаваўся нясціхны лямант, неаднойчы на галавы падала галлё, птушаняты і нешта мяккае, вадкае…

Да самых маразоў у школу хадзілі "басіком". Мы не баяліся холаду ў ногі, бо дзеці былі загартаваныя - ад снегу да снегу бегалі басанож…

Разкалашмачаная шаша са жвіру - каменчыкі ўпіваліся ў падэшву.

Чаравікі абувалі перад уваходам у клас. Хлопцы з Масявіч хадзілі ў так названных абіяках -"трэпах" - ніз абутку - бярозавая падэшва, (на фота) верх - са старых чаравікаў.



У школу прыходзілі дзеці з навакольных вёсак: Астравухаў, Масявіч, Баравіч, Жучкоў, Дроздава. Колькасць вучняў па дадзенных 1949 года - недзе каля шасцідзесяці. І ўсе змяшчаліся ў невялікім збудаванні! І атрымлівалі першапачатковую адукацыю.



У мяне першым настаўнікам быў Грос Аляксандр з Жомайдзі (адзінае фота, якае ўдалося знайсці). Высокі мужчына ў сіняй гімнасцёрцы, падпяразанай шырокай папругай з бліскучай бляшкай, у галіфэ і ботах. Быў строгі: калі зрабіў кляксу - мог пацянуць за вуха, якое потым гарэла ўвесь дзень.

З-за Гроса некаторыя дзеці зведалі "партызаншчыну". За нешта і мне перапала ад настаўніка. Ідучы ў школу, збочваў на "ямы", якія сяляне выкапалі для захоўвання бульбы. Прасядзеўшы цэлы дзень з іншымі "партызанамі" і дачакаўшыся вяртання дзяцей са школы, падладжваўся ў натоп і прыходзіў дахаты. Так доўжылася некалькі дзён, пакуль не даведаліся бацькі і не закрылі "партызан-

шчыну".

Не стала ў школе і Гроса.



*Козел Марыя Міхайлаўна*

Прыслалі настаўніцаць Козел Марыю Міхайлаўну (Міхалюкова) з хутара Дроздава.. Вяла першы і трэці класы, і трэба было за 45 хвілін даць веды абодвум класам: калі першаклашкам тлумачыла новую тэму, трацьцякі самастойна выконвалі раней дадзенае заданне. Пісалі на абы-якой гаспадарчай паперы. Потым у настаўніцы бацькі куплялі сшыткі ў "касую лінейку" і “клетачку”. Як яны пахлі! На тыльнай старонцы вокладкі ў апошніх - табліца множання.

Запомніліся ўрокі чыстапісання: настаўніца кожнаму вучню ў сшытку чырвоным чарнілам выводзіла ўзорныя некалькі літар і складоў. Затым вучні прадаўжалі выводзіць літары, так фарміраваўся асабісты почырк. Калі нешта не атрымлівалася, некаторыя вучні плакалі. Па адзіным у настаўніцы буквары чыталі па складах, потым вучылі вершыкі.

Далей настаўнікам быў Кожураў Васіль Іванавіч - казалі, што па спецыяльнасці - аграном. Задаўшы якую-небудзь задачку, сам надоўга знікаў у вёску да Кудзяў, дзеці, як дзеці: вялі сябе вальготна, скакалі па партах, дурачыліся. Пазней, ужо з’явіліся падручнікі - пачалі вывучаць беларускую мову і літаратуру, пазней - геаграфію і арыфметыку.

У старэйшых класах настаўнікам некаторы час быў Даніловіч Іван Аляксандравіч, потым перавялі парторгам у саўгас "Тарнова".

Пачатак урокаў і заканчэнне абвяшчаў званок з меднай гільзы ў руках тэхнічкі - крыху глухаватай Трапіла Галіны. На перапынку дзеці разляталіся па школьным падворку. За хлявом быў дашчаты туалет на два канцы, дзе старэйшыя перарасткі праз дзірачку заглядвалі ў дзявочае адзяленне… Тайком смалілі самакруткі з махоркі, і ў класе распаўсюджваўся тытунёвы пах.



***Жучкоўская пачатковая школа . Вясна 1951 г. 4 клас***
***Настаўніца - Рэгіна Адамаўна Сакалоўская***
*Першы рад злева направа: 1 - Савонь ?, 2 - Ненартовіч ?, 3 - Быстрыцкая Валя, 4 - Быстрыцкі Дзёма, 5 - Чэх Міша. Другі рад: 1 - Кудла Ігар, 2 - Говар Віця, 3 - Шут Ніна, 5 - ? ?,6 - Кудзі Лёня,7 - Карабач Жэня. Задні рад: 1 - Раік Толя, 2 - Дзякевіч Валодзя, 3 - Быстрыцкі Андрэй, 4 - Лукашэвіч Ваня, 5 - Кудла Іван, 6 - Кудла Міша ,7 - Ненартовіч ?, 8 - Кудла Валодзя*



***Жучкоўская пачатковая школа. 1951 год. 2-гі клас***
*Першы рад: 1 - ? 2 - Кудла Зоя, 3 - ?, 4 - Шалтыс, 5 - ?, 6 - Дзявятая Фаня,7 - Ярашэвіч ?. Другі рад: 1 - Кудла Віця,2 - Говар Рэгіна, 4 - настаўнік Кожураў Васіль Іванавіч, 5 - ?, 6 - Кудла ?. Трэці рад: 1- ?, 2 - Карабач Жэня, 3 - Астравух Стась, 4 - Кумпяк Жора, 5 - Ненартовіч Янак, 6 - Жучкевіч Стась,7 - Валажынскі Вацлаў*

У чацвёртым класе настаўнічала Рэгіна Адамаўна - сімпатычная, ветлівая жанчына. Кватаравала ў Ненартовіча Янка і яго маці. Янак меў ад яе добрыя адзнакі, ставіўся ў прыклад. Яна часта звярталася да вучняў: "Хто дрэнна вучыцца, будзе пастухом і хавацца пад мосцікам, калі Янак будзе ехаць на самаходзе". Спраўдзілася, але наадварот.

Аб заканчэнні пачатковай школы выдалі пасведчанне. Большасць масявіцкіх перарасткаў на гэтым закончыла навуку.

За непасляховасць некалькі вучняў "пакінулі на другі год."

**Фізкультурная падрыхтоўка.** На мяжы з суседам Ашмяном расла аголеная знізу высокая ліпа з сукамі. На верхавіне - буслінае гняздо. Хлапчукі папераменна, што альпіністы, узбіраліся ўверх пад пагрозлівае клякатанне буслоў, а ўнізе лямант заўважыўшых матуль. Назад жа спускацца - страшней,

а яшчэ каму-небудзь перападала па задніцы. Па брукаванай вуліцы з рэхвай і дроцікам - ганялі навыперадкі: усё лета пальцы на нагах былі збітыя.

У нядзелю і на святы было весела ў вёсцы. Ужо пасля абеду дарослыя і дзеці збіраліся на гумнішчы ў Дзякевічаў. Там расло некалькі дзічак. Мужчыны пачкаваліся па 4-6 гульцоў і дулі "ў пагоны", асабліва ў так званай "элітнай пулцы": Дзявяты Васіль, Быстрыцкі Віктар, Дзявяты Косця.


***Ігар і Віця, падстрыжаны на гола "пад Катоўскага" ў школьнай форме на шэсць гузікаў, пашытай мамай з картовага палатна (можна параўнаць з сучаснай школьнай формай). Старэйшы ў новых камашах, а боты перайшлі малодшаму***

Вакол натоўп балельшчыкаў і навучэнцаў. У другой, а пад час і трэцяй групе - гульцы рангам ніжэй. Калі вешалі "тузы", на ўсю ваколіцу разносіўся вокліч, і пераможцы ішлі замачыць пагоны…

Дзяцюкі і падлеткі выбіралі вольнае месца на гумнішчы і гулялі ў лапту. Увесь дзень быў напал жарсцей. Адна каманда "ў горадзе" біла па гумовым мячыку кіем, другая ў полі старалася злавіць мячык і выбіць перабягаўшых "гараджан". Мячык з нейкай гумы, кій рыхтавалі адказна. Адзін падкідаў мячык, другі стараўся пацэліць у мячык і паслаць як надалей. Былі ў гэтай справе асаблівa лоўкія, як правіла, "капітаны" каманды. Калі ўдавалася злавіць мячык, гарадская каманда пераходзіла "ў поле".

Дзяўчаты ў асноўным "балелі", шумна падтрымлівалі сваіх. Жанчыны садзіліся на пасцілкі, дзяружкі пад грушай і вялі свой жаночы аповед аб сваім.

Запомніўся цікавы эпізод. Неяк раніцай бацька не застаў у загарадцы на аселіцы сваю кабылу "Жучку". Шукаў па хутарах, у суседніх вёсках, заявіў у міліцыю… Прайшло некалькі тыдняў.

Як заўсёды, у нядзелю, на гэты раз у нас на гумнішчы аднавяскоўцы (на фота) у некалькі кучак гуляюць у "пагоны" на высадку, малодшыя заўзята гуляюць у лапту.

З Ліды рухаюцца цыганскія кібіткі, і вось адна… заязджае на гумнішча. Дык гэта ж наша Жучка прывезла цыганскую сям'ю ў госці! Мужчыны адразу кінуліся, распраглі каня, акружылі, сцягнулі цыгана з воза і пачалі лупцаваць. Цыганка з дзеткамі ўплач і енк. Прыбеглі бацька і бабуля і спынілі гвалт. Даведаліся, што каня цыган купіў у іншага цыгана і, нічога не падазраючы, паехаў у сваю дарогу.

Узімку ўся вясковая дзетвара коўзалася па лёдзе на аселіцы. Канькі майстравалі з трохвугольнага паленца, нацягнуўшы па канце дрот. Прасвідраваўшы дзюрачкі, аборкаю прывязвалі да чаравікаў… Потым удасканалілі: збіўшы два канькі дошачкай станавіліся на катамаран і палкаю з цвіком паміж ног адштурхоўваліся навыперадкі … А ў нядзелю ці ў якое свята старэйшыя дзецюкі рабілі крутню: у лёдзе прабівалі лунку, умаражвалі моцны слупок, надзявалі кола ад воза з палкамі, прывязвалі доўгую жэрдку і да яе саначкі. Налягаючы на калы, здаровыя хлопцы так раскручвалі саначкі, што той, хто на іх сядзеў, не ўтрымаўшыся, далёка адлятаў у снег…

Лыжы фабрычныя мала ў каго былі. А катацца хацелася ўсім. Бацька, прыгледзеўшы каля чыгункі снегазатрымныя шчыты, выбрў дзесятак больш -менш здатных дошчачак. Абрэзаў, пагабляваў, уздоўж выстругаў канаўку. Каб выгнуць насы, распарваў дошчачкі ў зваранай бульбе і замацоўваў выгін.

Усе хлопцы дружна на лыжах, а дзяўчаты пехатою цягнулі саначкі, шашою рынуліся "ў горы"- любімае зімовае месца вясковай дзетвары. Тут на перакрыжаванні дарог з Ліды на Дзятлава ўзвышаўся жвіровы пагорак, і калі тут пры будаўніцтве шашы выбралі жвір, утварыўся глыбокі і даволі шырокі катлаван з крутымі спускамі. Хлапчукі-экстрэмалы пад воклічамі дзяўчатак сігалі на лыжах крута ўніз, падскоквалі на буграх, часта падалі ў гурбы снегу.

Малодшая дзятвара каталася на саначках па палогім пагорку. Вясёлыя, расчырванелыя і прагаладаўшыяся з бярэмем наломаных лыжаў з цяжкасцю "паўзлі" паўтара кіламетры "дахаты".



**Ваенная падрыхтоўка.** На скрыжаванні дарог "у гарах" ад вайны яшчэ доўга стаяў подбіты танк і яшчэ рэшткі нейкай вайсковай тэхнікі. Там мы, дзетвара, з азартам асвойвалі гульню ў "вайну". Тут знаходзілі патроны, гільзы ад снарадаў, порах і кавалачкі толу, што давала магчымасць рабіць выбухі, страляніну…

Рабілі і пісталеты: з дошкі выразалі рукаятку, мацавалі медную трубачку заплясканую з аднаго канца. Туды крышылі серку ад запалак, устаўлялі цвічок, нацягвалі гумку… Узводзілі, спускалі курок, і - стрэл…

Потым узраслі веды: зрабілі прыклад вінтоўкі, на ёй умацавалі доўгую трубку, прарэзалі

шчылінку для запалак, у кацец забілі гільзу ад патрона. У трубку засыпалі пораху, шроцінкі, утрамбавалі газетай. На сцяне гумна паставілі мішэнь, Дзёма ўладкаваўся за метраў дзесяць на траве. Чыркнуў запалкамі па шчылінцы - і … выстрал. Мы пабеглі да мішэні глядзець вынік, а стралок енчыў і куляўся па траве. Аказалася, выбухам назад вырвала гільзу і расопляскала палец. Добра, што не пашкодзіла твар і вочы.

Перайшлі на гарматную справу. Гільзу ад артылерыйскага снарада ўстанавілі на шчыток, змайстравалі калёсікі быццам у "кулямёта Максіма".

У гільзу залілі вады забілі драўляным коркам-снарадам. Пад гільзай-ствалом гарматы на блясе разлажылі касцёр. Доўга, але ўсё ж-такі пара выкінула дзеравяшку на некалькі метраў. УРА!

Аднойчы неяк па шашы салдаты праводзілі цвічэнне: перабягалі ад дрэва да дрэва, стралялі, нешта ўзрывалі з дымам. Недзе там у канаве я знайшаў зялёную ўскрытую бляшанку, быццам бы ад кансервы, прынёс дамоў і кінуў пад ложак. Ноччу ўсе прачнуліся з плачам - свярбелі вочы, слёзы цяклі ручаём. У хаце нечым пахла, расчынілі вокны і дзверы. І тут я ўцяміў - неўзаметку выцягнуў банку і выкінуў пад плот. Гэта была дымавая шашка.

**"Рыбалоўля"**. З дарослымі дзяцюкамі абходзілі ўсе навакольныя раўчукі і ямы ад аселіцы да Дзітвы. Яны ў ніжніх кальсонах залазілі ў ваду, ставілі аднудзве "таптухі", а мы гойсалі па зеллі, муцілі, падымаючы донны іл. Часта ў ногі ўпіваліся п'яўкі, ды так, што з цяжкасцю адрывалі. У сетку трапляліся шустрыя шчупачкі, залацістыя карасікі і піскілівыя ўюны. За цалюткі дзень торба напаўнялася жаданай рыбай. Хлопцы забіралі буйную, нам - рэшткі.

Выраблялі і вудзілішчы з тонкіх арэшынаў. Жылкі тады не было, плялі з валасоў конскага хваста, а кручок майстравалі з тоненькага дроціка. Нацягнуўшы кавалачак чарвячка, закідвалі на дно з жоўтым пясочкам, дзе мітусілася чародка пескароў. Палічыўшы, выцягвалі да апошняга…

**"Садаводства"**. Пасля марозных 40-х гадоў мала ў каго з вёскі засталіся грушы і яблыні. У нас на гумнішчы яшчэ доўга тырчалі пянькі ад вымерзшых грушаў, але побач на дзялцы ўжо падрастаў малады садок, і меліся свае яблыкі. А вось па суседстве ў Ашмяноў дрэвы раслі і пладаносілі раннімі і салодкімі яблыкамі, што заўсёды прываблівала хлапчукоў. Гаспадар і яго маці заўсёды пільна вартавалі садок, і дзетвары рэдка ўдавалася "ўвабрацца ў яблыкі". Крыху старэйшыя за мяне распрацавалі план набегу. Высветліўшы, што гаспадара дома няма, на аселіцы спусцілі іхнюю сівую кабылу. Мне, як суседскаму хлопцу, абавязалі паведаміць гаспадыні цётцы Мані і разыграць сцэнар. З ёй пайшлі на пашу, злавілі і навязалі кабылу. Каб аддзякаваць, завяла ў камору і насыпала місачку падальніцы. Разлажыўшы ў кішэні пабег на "партызанскую стаянку". Там арава хлопцаў вытрасала з-пад кашуль здабыты захоп, выдзелілі і мне, а падаліцу выкінулі.

*Я помню ў садзе нас злавілі*
*(ну, толькі там каштэль расла),*
*То нас не білі, не сварылі,*
*а цётка яблык так дала.*
*Яшчэ сказала: ўсё, гуляйце,*
*праз плот не трэба лазіць вам.*
*Заходзьце ў браму і спытайце,*
*дык я вам яблык болей дам.*
*Урок высокае маралі*
*мы атрымалі назаўжды*
*І болей яблыкі не кралі*
*ва ўсе наступныя гады.*

**Рынак. Камерцыя.** Каб мець хоць нейкія грошы, ужо ранняй вясною, толькі сыдзе снег "брыгада" хлапчукоў асядлала заросли лазы і крушыны, здзіраючы кару. Потым сушылі пад страхою і здавалі нарыхтоўшчыкам. Летам у рэчцы знаходзілі бадзягу, ад яе рукі апякаліся і доўга свярбелі.Таксама сушылі - атрымліваўся зялёны парашок. Найбольш даходным быў "хрэнавы" промысел. Па агародах і пустырах шукалі толькі што вылезшыя з зямлі разеткі хрэну. Стараліся чым глыбей дакапацца да кораня. Чысцілі нарыхтоўкі, мылі і навязвалі ў пучкі, пакавалі ў торбу. Гэты сезон нарыхтовак быў якраз перад Вялікаднем, і папыт быў значны: адзін пучок - рубель. Прыехаць у Ліду на рынак "папуткай" - адзін рубель. Выручаныя за камерцыю грошы аддавалі маці для патрэб купіць нам, школьнікам, камашы, картовага матэрыялу на адзенне, бо заробкі ў калгасе былі мізэрныя. Крыху заставалася і на "кішэнныя расходы" - марожанае ў вафельных пушках каштавала таксама адзін рубель. Вафелька хрумсцела на зубах - марожанае раставала ў роце… Якая смаката! Дахаты прыносілі цукерачкі-падушачкі ці гарошак.

Раз за тыдзень маці збірала смятану, і нам быў абавязак збіць масла. Працэдура з братам на пераменку не лёгкая і не скорая, затое неўпрыкмет пальчыкам падчышчаў шток маслабойкі ад смятаны.

Летам за Дзітвою ў лесе размяшчаўся лагер для сямей вайскоўцаў. Гэта былі дашчаныя домікі ў радок, утваралі нашклант вуліцы. Сюды мы і прыносілі хатнія прысмакі: малако, масла, яйкі, садавіну, гародніну. У якасці разліку прасілі перш за ўсё хлеба і грошай.

З хлебам у тыя часы было неўмагату. Самым цяжкім было заданне змалоць жыта на жорнах. Сваіх не было, хадзілі да Дзякевічаў. Каб намалоць



***Бабуля Алеся з унукам Жорам пад ліпаю***

на жорнах з вядро мукі, даводзілая некалькі гадзін удваіх круціць каменныя жорны. Бабулька з жытняй мукі расчыняла ў дзежцы, а потым выпякала ў печы на бляхах, падклаўшы кляновыя лісты, хлеб. Бабуля Алеся расчыняла ў высокай дзежцы саладуху, памешвала лапаткай. У пост гэта быў пастаянны і даволі смачны напой. Елі з бульбай у лупінах.

*Тады я помню, як пахне паветра ў садочку вясной,*
*Або як цеста ў дзежцы пухне і хлеб з яго.*
*О, Божа мой!*
*Які ён смачны і духмяны... Хлеб менавіта быў такім*
*Бабулі нашае Алесі з сваёй жытнёвае мукі.*
*Я шмат чаго ў жыцці адведаў, паеў сялёдкі, балыка,*
*Ды ніц смачнейшага не зведаў,*
*чым хлеб той з кубкам малака.*

Кожнаму калгасніку адмяралі "казінай ножкай" асобны ўчастак збожжавых, лёну, буракоў. Праполка - уручную: рвалі зелле - сурэпіцу, выносілі ношуйкамі на плячах, сушылі на гумнішчах. Так нарыхтоўвалі зімовы корм для жывёлы.

У калгасах на працадні выдавалі маласць зерня. Пачалі эканоміць пакінутыя запасы збожжа, мукі, крупаў. Праз некаторы час не было з чаго пячы хлеб. Гэта быў цяжкі перыяд у жыцці многіх сем'яў.

Мне даводзілася пасля ўрокаў роварам круціць у Бярозаўку па хлеб. Запамятаў той ларок з маленькім акенцам на вуліцу на значнай вышыні. І каб дабрацца да яго, каля сцяны былі 5-6 ступенькаў уверх і ўніз. Загадзя збіралася чарга, у асноўным з мясцовых пажылых жанчын. Усё заварушылася, калі ўбачылі хлебную кібітку, якую цягнуў каняга, а ззаду ішоў дзесятак мужчын. Яны станавіліся ззаду калейкі і, дружна налягаючы, пад енк жанчын спіхвалі, а самі - у акенца. Неаднойчы зведаўшы ціснаніну так, што балела ў грудзях і жываце, у калейку не станавіўся, а маштыколіўся паміж мужчынамі, і так на спіне даносілі да жаданага акенца. Прадавалі па адной буханцы-цаглінцы, іншы раз яшчэ чацвярцінку. Як хацелася адкусіць пахучы акрайчык, але дамоў дастаўляў усё ў цэласці.

**Сельгаспраца:** З малых годоў мы з братам Ігарам мелі абавязак палоць гарод і бульбянішча, набраць зелля для свіней, адпасвіць калейку кароў і авечак.

Узімку, раніцай паспець у канюшні набраць "грыбоў" - конскага калу для свіней.

Надоенае малако бляханчыкам раненька трэба было аднесці ў млячарню. Там налівалі ў мернік і загадчык Ястрэмскі запісваў у разліковую кніжку, у канцы месяца атрымлівалі невялікія, але так неабходныя "пенёндзы"

Летам асабліва вольнага часу не было: бацькі ў калгасе, дзеці каля хаты на гаспадарцы: каровы днём зачыніць, а то і падаіць, выгнаць на пашу. У вёсцы былі дзве калейкі. З нашага канца кароў 25-30, і авечкі і цялушкі.

Нашых было 2 каровы і 8-10 авечак, г.зн. пасвіць даводзілася 3 дні запар.

З вечара маці ўжо нагнятала: "Кладзіцеся раней спаць - рана ўставаць".

На світанку будзіць, а спаць хочацца, адазваўся, устаю, і зноў праваліўся ў сон. Крык, лямант! Каровы ўсе выгналі з хлявоў і стаяць па вуліцы і пабрылі на аселіцу. А там сенакос - патрава. Запынілі і пагналі за пераезд, у Цімашкаўню. Холадна, сонейка толькі ўзыходзіць. Як толькі карова выкіне свой "блін", прэцэнька туды босымі нагамі. Потым - у другую кашыцу…

Каровы пад'еўшы на першай расе, прыляглі і спакойна жуюць жавайку. Пастушка таксама змарыла дрымота… Ускакваеш ад яе, як ад току: глядзь, а статка няма. Як заяц, туды-сюды бегаеш. Знаходзіш дзесьці ў калгасных пасевах. Патрава, пахне штрафам бацькам, а пастушку - дзяжкай па задніцы. А выгнаць кароў з пасеваў не так проста: адна адну падганяюць далей у пасевы.

Калі выпадала калейка і на Сёмуху - гэта шанец. Пасвілі ўдвух, адзін хадзіў у бярэзнік, наразаў галля потым скручвалі ў вянкі, і патрэбна было спрыту, каб надзець "вянкі" на два рагі кожнай чужой карове. У абед, гонячы па вуліцы, гаспадыні сустракалі сваіх кароў і за вянкі частавалі: хто булкай, хто выпечкай, а хто рублём.

Аселіца. Балотца. Кусты алешыны. Бацька ў шапцы прыносіў качыныя яйкі.

Некалькі летніх канікулаў бацька ўладкоўваў мяне штатным пастухом. Выводзіў сваю жывёлу (карову, цялушку і авечкі) з вясковага статка і дабіраў яшчэ пяць-шэсць суседскіх кароў (за галаву- пуд збожжа), каб малым статкам больш манеўранна выпасваць прыдарожныя паласы і канавы. Даводзілася ўставаць да ўсходу сонца і класціся пасля заходу. Маці шкадавала, але бацька сваё рашэнне змяніць не мог. Нікчэмны бізнес. Гэтыя заробленыя пуды ні ў якім разе не кампенсавалі загубленыя летнія дні дзяцінства…



Улетку за падлеткамі былі замацованы калгасныя коні і вупраж. Імі мы баранавалі засеянную раллю, плужкавалі бульбу, а запрогшы ў калёсы вазілі сена. Працадні нам не налічалі - за гэта "прэдказа" Грос Пётр Іванавіч дазваляў на конях паскакаць у абед на Дзітву, навыперадкі. Пакупацца і памыць коней.

Быў выпадак: у перадавога скакуна з-пад задніцы марынарка ўпала. Усе коні з пуду - у бакі. І хтосьці з хлапцоў кульнуўся на зямлю, а другі вёз бацьку на

пераезд яду. І ўсё - на зямлі: і сам, і малако, і аладкі.

У сенакосную пару на вазах ездзілі за Нёман на калгасныя сенажаці, пад "гарбатае поле". Касцоў вышыхтоўвалася не менш за 20. Уперадзе самыя заліхвацкія: дзяцька Юзюк Пазняк, Вася Хведараў, Косця Салаткаў і так далей па ранжыры касцовай здольнасці… Мы ж, падлеткі, замыкалі ланцужок. Перадавікі закончыўшы пракос, адразу станавіліся за намі і… жых-жых наступалі на пяты. Сілы касіць ужо не было і даводзілася збівацца на вузенькі пракос. У палудзень касцы рассядаліся на пагорку пад кустамі ў цяньку, даставалі свае торбы з небагатым сялянскім прыпасам: салам, хлебам, варанымі яйкамі і запівалі малаком з бутэлькі закаркованай коркам з газеты. Горача, дапякалі сляпні і авадні. Мы ж, дачакаўшыся палудня, ляжалі покатам, распластаўшыся на траве, з надзеяй на хуткае заканчэнне працоўнага дня.

Копку бульбы пачыналі з пачатку верасня. І ў залежнасці ад надвор'я капалі доўга, каля месяца. Былі соткі на полі, там з раніцы канём і плугам наворвалі барозны, а затым паўзком, на каленях выбіралі бульбу рукамі, разграбаючы зямлю, а сям-там і матыкай.



Каля хаты ў садочку капалі капачамі, поўзаючы на каленях, а больш - седзячы на ягадзіцах.

Самымі прыемнымі і радаснымі для нас, дзятвары, былі дні, калі з бульбянішча палілі вогнішчы, а ў пяску пад вуглямі пяклі бульбу. Выграбалі печаныя бульбіны з жару, абіралі. Шумна і весела елі такое смакоцце-ласунак.

**Харчаванне.** Ежа была натуральнай, здабытай сялянскай працай.

Сілкаваліся, можна сказаць, па сезоне.

Увесну, як толькі з'яўляўся шчаўе, крапіва, рыхтавалі на першае боршч на салёным мясных касцях. Супы з фасолі, ячменных крупаў і бульбы, засмажаныя салам. Рыхтавалі бульбяную бабку ў гліняным гаршчочку, падскваранную кубікамі сала і змешчаную ў гарачую печ для з'яўлення румянай скарыначкі.

Калі надойвалася малако, рыхтавалі малочныя супы: панцак, крупнік, зацірка мучная, ячменныя крупы з фасоляй або гарохам.

Калі пачыналася лета, усе малочныя супы елі халоднымі, пасля гатавання іх выносілі ў камору для астуджэння. Халаднік рабілі з кіслага малака, у яго клалі рэзаны агурок, зялёны ўкроп.

Яшчэ была калбатушка - страва з тлустага малака, грэцкай мукі.

На сале пяклі з курыных яек, малака, мукі яечню.

Ва ўсе поры года на сняданак маці пякла аладкі У зімовы час аладкі мазалі, у асноўным, здорам (унутраны свіны тлушч), у нас былі авечкі - то лоем (авечы тлушч), ці шмальцам (гусіны тлушч).

У малочны перыяд елі аладкі з маслам, смятанай або памачушкай. Летам елі шмат агуркоў "жыўцом", зялёных шчыпярэй, морквы. Бліжэй да восені - бручку, рэпу. Пасля збівання масла любілі піць маслёнку.

Узімку з мяню знікалі малочныя прадукты. Іх замяняла квашаная капуста, бурачкі, ежа з бульбы, фасолі, гароху. Рыхтавалася ўсё гэта на рэштках мяса, сала да пачатку посту.

18 ліпеня 1950 года, летнім днём нарадзіўся брацік Женя. Тут у сваёй хаце. На падтрымку родаў прыйшла вясковая "акушэрка-павітуха" Агата Козел.



І усё прайшло здавальняльна. На хрэсбіны прыехалі ўсе сваякі як па мамінай радні, так і па папінай. Безумоўна, гаспадары грунтоўна рыхтаваліся да гэтага дня.

Хрышчонымі бацькамі выбралі дзве пары і неяк вечарком ахрысцілі ў Ганчарскай царкве.

Госці размяшчаліся шчыльненька за сталом. Была грунтоўная ежа: маленькага парсючка зварылі і на стале займала галоўнае мейсца гатовае да ўжывання мяса, яечня ў гліняных місках, сыр у алеі. Самагонка была, але пілі яе мала, застолле заключалася ў асноўным у вясялосці: спявалі песні, жартавалі,



***На пдворку ў Быстрыцкіх каля свірна***

танчылі. Гасцілі, можа, дзён тры. Напаследак на воз, запрэжаны канём, уселіся больш пажылыя жанчыны, а вакол маладзейшыя і рушылі на выган. Там працягвалася святкаванне - пеўня на кастрышчы асмалілі і абсмажылі.

Не менш за год мама карміла малалетку сваім малаком. У гаршчочку варыла манную кашу і лыжачкай у роцік. Ляжаў у калысцы-качалцы. Падросшага брацiка ўжо я з Ігарам выхоўвалі і даглядалі. Бацькі былі задзейнічаны на пастаянных калгасных работах.

Рэлігійныя святы дзеці чакалі з нецярпеннем. Многа працавалі па прыборцы ў хаце: вапнай бялілі сцены з накаткай арнаменту валікам з анучкі ў зялёнцы. Вытрасалі саломенную патруху з сяннікоў і набівалі свежай саломай ці аерам. Прыбіралі на падворку, на вуліцы падмяталі брук, вычышчалі



рышток - гэта наша хлапцоўская вотчына.

На хрысціянскія святы добра рыхтаваліся. Бацькі заўсёды на святы спраўлялі нам некаторыя абноўкі: чаравікі, кашулькі. Мама шыла порткі, футболкі з нейкага "воўчага коца". За зіму шавец так званы "Жых Культурны" (ніхто не ведаў яго прозвішча, хто ён і адкуль?) на мамінай швейнай машыне "Зінгер" (на фотакартцы яна) абшываў усю сям’ю з даматканага сукна. Калі не зап’е, хутка і выдатна, а яшчэ цудоўна маляваў коней, людзей...

Кажухі шыў аднаногі з кашты-лём Ваня Сідар з Праважы.

Асабліва доўгачаканным быў Вялікдзень. У тыя часы, негледзячы на забарону, многія школьнікі ішлі тайком у царкву на " ўсяночную" - "прарывалі блакаду" дзяжурыўшых настаўнікаў. Усіх прыхаджан не ўмяшчала царква. Людзей многа, мы шыліся паміж дарослымі, забіраліся на галёрку і былі недаступныя настаўнікам. Калі ўпоўнач выходзілі з "хрэсным ходам", дзеці шыліся паміж дарослымі, разбягаліся ў цемнату. Усё ж такі настаўнікі некага вылаўлівалі, і ў панядзелак ў настаўніцкай была "прачыстка" - па паводзінах ставілі двойкі.

Па навучанні бацькоў, мы падлеткі-дроздаўцы, вывучылі валачобныя песні. На падвячорак адважыліся і пайшлі на іспыты па хутарах. Стукалі ў акно, віншавалі: адзін зачытваў уступ "На гарэ". Потым усім кагалам спявалі царкоўную песню: "Велік святы нам дзень настаў, Хрыстос із гроба вассіяў". (Дарэчы ўжо пазней запісаў на магнітафон). Асмялеўшы, прайшліся і па вясковых хатах. Гаспадары дзякавалі, давалі з сабой гасцінцы: пірагі, каўбаскі, адварное мяса, чырвовыя яйкі, а хтосьці і бутэлечку…

*Ой, вёска мая, з нараджэння карміліца.*
*Гляжу на цябе з-пад дрыжачай рукі,*
*З крывіцкіх часоў прырастала ты хатамі,*
*Хоць зведала царскі ды польскі прыгнёт.*

*Ты хутка ўдавою няўцешнай засталася,*
*Спазнаўшы" хапун", а за ім дзве вайны.*
*Што год немаўлят усё менш нараджаецца,*
*Шмат у вайну паляглі твае дочкі, сыны.*

*А потым ты стала калгасніцай,*
*Калі пустадумкі да ўлады прыйшлі,*
*Рупліўцаў тваіх са спраўнейшай уласнасцю*
*"Скулачылі" ўсіх, пазжывалі з зямлі.*

*Мiналі гады цяжкай працы без продыху,*
*За хлеб ды надоі ты бітвы вяла,*
*Ды толькі не ведала плёну тых поспехаў,*
*Бо ўсё да граша забіралі з сяла.*



***Мая родная вёска Дроздава. Брукаваная вуліца. Старая бацькоўская хата***

*У вёсцы цяпер не пяецца - галосіцца,*
*Пакліч талаку, каб табе памаглі*
*Жыццё збудаваць сапраўды чалавечае,*
*Самой гаспадарыць на роднай зямлі!*

*(Працяг у наступным нумары.)*

***Альжбета Табенская***

# З долі і няволі

## *Успаміны выгнанкі**

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

### III

Пасля двухгадовага майго побыту ў пансіянаце пані Главацкай, падчас якога я мела пры сабе наймалодшую сястрычку Антаніну (цяперашнюю ўдаву Лазоўскую), выехала я з Вільні на вёску для папраўкі здароўя па парадзе доктара. Паўгода была ў паноў Ніласлаўскіх у Ёчвах на Белай Русі, у Віцебскай губерні. Праз 6 месяцаў паны Ніласлаўскія выехалі на жыхарства ў Вільню, а я з Антосяй, якая цяпер была пры мне, паехала да паноў маршалкоўства Марачэўскіх, дзе затрымалася на паўгода, бо пастаянна сумавала па бацьках. Я вырашыла пасяліцца на вёсцы пры іх і заняцца выхаваннем абывацельскіх дачок. Я распавяла пані Марачэўскай мае паняцці пра выхаванне польскіх дзяцей. пра неабходнасць прыбраць ад іх усё, што ў навуцы і маральным удасканаленні можа перашкаджаць, і атачыць усім, што гэтаму спрыяе. Таму, лічачы, што ўплыў ураду скоўвае свабоду думкі і чыну, а ўплыў свету перашкаджае ў набыцці грамадзянскіх цнотаў, у замілаванні да ўсяго, што ўзнёслае і светлае, задумала пасяліцца ў вясковым зацішку пад апекай маіх бацькоў, дзе знайду ўсё, што спрыяе ў дасягненні мэты маіх імкненняў, у спаўненні таго, што кажа Дух Божы, пані Марачэўская пахваліла гэтую маю задуму, сардэчна абняла мяне, жадаючы Божага дабраславення ў маіх намерах і абяцаючы падтрымку гэтага прадпрыемства праз заахвочванне знаёмых і суседак да аддання да мяне іхніх дачок. Вось так я выехала ад паноў Марачэўскіх з Уніхоўшчыны да маіх бацькоў у Рудаў у 1856 годзе.

Верачы ў Божую міласэрнасць, апеку Маці Найсвяцейшай і дапамогу маіх шаноўных бацькоў я была пяць гадоў самай шчалівай і паспяховай. Усё спрыяла маім памкненням - звярталася па дапамогу да настаўніц, але тыя хацелі практыкавацца бясплатна; першай такой настаўніцай была Юзэфа Араноўская, сястра згаданых Ганны і Зофіі Араноўскіх з Шумкаўшчыны, маладзенькая асоба, якая якраз у гэтым годзе скончыла навучанне, вельмі здольная ў спевах і музыцы; потым яе малодшая сястра Міхаліна, наступнай, не памятаю ўжо, як тое сталася, прыбыла да мяне француженка Графцяўкс, просячы, каб прыняла яе 15-гадовую вучаніцу Юлію Патэ і навучыла б яе прадметам, якія ў мяне выкладаліся, а за гэта мае вучаніцы карысталіся б з французкай мовы Юліі. Я згадзілася на гэта, а паненка тая, выхаваная сваёй пабожнай цёткай, была для таварышак сваіх узорам усіх цнотаў, усяго добрага і заставалася пры мне аж да канца.

Па прыкладзе сясцёр міласэрнасці ў Шчучыне я брала вельмі малую аплату за дзяцей і то ў большай частцы правізіяй, каб было можна пражыць. Харчаванне ў пансіянаце было смачнае і здаровае, не хацела б нічога іншага і ў канцы жыцця. Мы ўсе працавалі не для матэрыяльнай карысці, але для ідэі, і Божае дабраславенства было нашай узнагародай.

Цётка Яноўская падаравала мне старое пасажнае сваё фартэпіяна, а я за грошы, пазычаныя ад цётчынага брата E. N. зафундавала сваім вучням яшчэ новае піяніна. Высакародны прафесар Аляксандр Здановіч даваў мне дабрачынныя парады ў навучанні дзяцей паводле задумы Божай, указваў творы найпатрэбнейшыя для чытання; ксёндз Ануфры Сырвід, васілішскі пробашч, разам з вікарыем прыязджалі да мяне на перадвакацыйны экзамен, дабраслаўлялі і заахвочвалі да вытрымкі і працы. І так спакойна праходзілі мне тыя гады, прысвечаныя працы на славу Бога: пераследу і непрыяцеляў не мела, страху і непрыязні не знала, была аточана павагай і шанаваннем, была шчаслівая. Першымі кадэткамі маімі былі: выхаванка пані Марачэўскай, 15-гадовая сірата, з якой пазнаёмілася і якую палюбіла ва Уніхоўшчыне, пляменніца кс. Чачота, пробашча ў Асаве ў Лідскім павеце, прыгожая і добрая паненка, другая была Юлія Жукоўская, дачка заможных мяшчан з Ражанкі, а потым іншыя; ад самага пачатку мела адразу некалькі вучаніц са свайго павета, пазней прыбывалі і са Слонімскага, больш за дзесяць аднак не прымала. Зофія Лукашэвіч са Слонімскага павета

* Пераклад з польскай мовы Станіслава Судніка. Паводле “З долі і няволі. Успаміны выгнанкі”. Кракаў, 1897.

прыбыла да мяне, маючы ўжо 17-ты год; здольная і пільная вучаніца пасля паўтарагадовай падрыхтоўкі ў мяне паехала ў Вільню ў пансіянат, паступіла ў IV клас, а праз год здала там экзамен на настаўніцу. Сястра мая Антося вучылася чатыры гады ў Рудаве, паехала потым у Вільню здаць экзамен і вярнулася да мяне, каб быць найпрацавіцейшай, найлепшай, найвысакароднейшай, дзеючай па адной думцы са мой памочніцай.

Усё ішло ў нас удачна, калі, нажаль, навесну 1860 года бедная маці мая пачала хварэць і нарэшце памерла. Разам з яе жыццём скончылася мая ўдача, і распачалася нядоля. І нічога ў тым дзіўнага, калі рука маці кіруе дзіцем, ніколі яна яго на кепскі шлях не завядзе, калі яе апека распасціраецца над ім, нічога ніколі бракаваць яму не будзе, бо сэрца маці гэта ёсць такая бездань любові, падтрымкі, ахвярнасці, такая моц сілы і вытрымкі, на якія толькі маці можа быць здольнай.

Маёй маці, гэтаму анёлу-ахоўніку майго жыцця, хачу ў гэтай працы прысвяціць пару слоў.

Дзед наш, Ян Навіцкі, жанаты з Юзэфай Губарэвіч, жыў у вёсцы Валейшы, ад якой быў дэпутатам. Поўны высакароднасці характару і прытым разумны быў любімы і шанаваны ў сваім павеце, бабка наша памерла ў маладым веку, пакінуўшы двое сірот: сынка Тадэвуша (дзядзьку нашага) і дачушку Тэклю (маю дарагую маці). Змаркочаны дзед пасля страты каханай жонкі, не могучы пакінуць любімай пасады і сваіх сіротак, пастараўся знайсці для іх апякунку, жаніўся з паннай Катажынай Турскай, роднай сястрой Ксаверыя Турскага, шаноўнага грамадзяніна ў нашым павеце. Мачыха не любіла малых сірот. Выдзяляла ад сваіх дзяцей, крыўдзіла ва ўсім, таму бедныя сіроты ўнікалі яе вачэй, хаваючыся летам у двары. а зімой у якім-небудзь куточку паміж слугамі. Дзеці мачыхі былі заўсёды добра апрануты, своечасова пачалі вучыцца. ездзілі ўсюды з маці, у нядзелю брычкаю да касцёла, у той час як наша маці і дзядзька, кепска апранутыя, падчас мусілі ісці за імі пеша. Выязджаючы на некалькі дзён да сваякоў. мачыха забірала сваіх дзяцей з сабой, пакідаючы сіротак пад апекай слуг, даючы ім хлеб і малако, якім аблівалі зелле, пасыпанае мукой і падрыхтаванае для кармлення індыкаў. Слугі, хоць самі мелі невялікі штомесячны заробак, дзяліліся з сіротамі тым, што мелі. Прыпамінаю сабе, як маці казала нам заўсёды маліцца за душу Стэфана, быў гэта шаноўны фурман, які, выязджаючы куды-небудзь з панствам у госці, пакідаў дзецям нябожчыцы пані кавалак свайго хлеба, а вяртаючыся прывозіў ім заўсёды гасцінец. Сіроткі, што праўда, сядаліся з усёй сям’ёй за стол, але заліваліся слязамі, слухаючы, як мачыха несправядліва абгаворвае іх перад бацькам, які заміраў і маўчаў, не хочучы выклікаць прыкрых сцэн, а ў канцы зусім стаў абыякавым да дзяцей. Бедныя сіроткі не мелі ані настаўніка, ані ў школу не хадзілі. Толькі прыязджаўшыя кузінкі навучылі маці маю чытаць, пісаць, лічыць, розным добрым работам, а маці, сама добра не ўмеючы, дзялілася сваімі ведамі з братам. Дзядзька меў у той час гадоў дзесяць. Не раз сядалася гэтая сямейка ў якім куточку і радзілася, як бы гэта ім беднае іхняе жыццё палепшыць. Спыніліся нарэшце на тым, што Тадэвушык вырушыць у свет. Пры дапамозе Стэфана, узяўшы кавалак хлеба ў торбачку і чула развітаўшыся з сястрычкай, падаўся Тадзік з фурманкамі, што везлі на продаж жбожжа, у Вільню. Прыбыўшы туды, бедны хлапчына сеў на вуліцы і прасіў праходзіўшых паноў, каб хто ўзяў яго на службу; адны на яго просьбу нічога не адказвалі, іншыя пыталіся з літасцю: “А што ж бы ты рабіў. мой хлопчык, такі яшчэ малы?” “Чысціў бы пану боты”, - адказваў бедны са слязамі. Не знайшоў аднак у нікога ў Вільні спачування. Але не спасціжныя выракі Божыя. Усё гэта сталася яму на дабро. Тым часам разышлася вестка па ўсёй Забалацкай парафіі, што згінуў Тадэвушык Навіцкі, шукалі, але без выніку. Нарэшце нехта даў знаць дзеду Губарэвічу, што ў яго вёсцы Касьляны ёсць нейкі малы хлопчык, ціхі і добры, які вучыць вясковых дзяцей. Дзядзька загадаў прывесці яго ў двор, і аказалася, што быў гэта шуканы Тадэвушык Навіцкі. Пастанавілі тады крыўды сірот і іх ратаванне прызнаць за абавязак грамадзянскі; дзядзька з трыма суседзямі падаліся з Тадэвушкам у Валэйшы і вымаглі ад пана дэпутата, каб як найхутчэй аддаў сына свайго ў навуку да ксяндзоў піяраў у Шчучыне. Дзякуючы ўдзелу тых шаноўных грамадзян заблішчала ад гэтага часу шчасце для Тадэвушка. Маці наша пастаянна знаходзілася ў Валэйшах, час ад часу выязджаючы ў Нікадэмава да кузінаў Нарбутаў. Там пазнаёмілася з нашым бацькам. Калі яна напісала да дзеда Навіцкага, свайго бацькі, пра пасаг, бо ёй застаўся даволі вялікі пасаг па нябожчыцы маці, бацька ёй так адпісаў: “Маеш тры паркалёвыя сукенкі і тры кашулі, гэтага павінна табе выстарчыць: я ў тваім веку смачней спаў без падушкі і на цвёрдай пасцелі, чым сёння на пухавіках, таму не павінна маці вымагаць больш за тое, што мае”. Уплыў мачахі быў тут аж занадта відавочны, але што ж было рабіць? Маці выйшла за Міхала Табенскага, не дапамінаючыся нічога ў сваіх бацькоў. Дзядзьку пашанцавала ў свеце, калі памёр дзед Навіцкі, запісаўшы жонцы сваёй пажыццёва Валэйшы, дзядзька Тадэвуш нахіліў мачаху да таго, што зраклася таго пажыццёвага, а ўзамен атрымала фальварак Перахобы, дзе дзядзька абавязаўся пабудаваць дом, прывесці ў парадак усе гаспадарчыя

пабудовы і забяспечыць інвентаром. У той час ажаніўся дзядзька з паннай Крыстынай Сяклюцкай, дачкой абываценяў, меўшых вялікае значэнне і значныя маёнткі ў Лідскім павеце. Як сваяк, грамадзянін, сусед і чалавек разумны, практычны, не падлеглы ніякім уплывам, дзядзька быў так любімы і шанаваны, што не здарылася мне напаткаць, падобнага на яго чалавека. Да маці нашай захаваў глыбокую прывязанасць; таму таксама надзвычай балесным было непаразуменне бацькі з дзядзькам, якое вынікла з наступнай нагоды: дзед Навіцкі, будучы натуральна пад уплывам сваёй жонкі, пакрыўдзіў нашу маці, запісаўшы ёй 10 000 зал. р., але на векселях, так, што, хочучы нешта ўзяць, з кожным даўжніком трэба было судзіцца, уводзіла гэта ў пэўныя страты, бо некаторыя крэдыторы, хоць бы і хацелі аддаць, не былі ў стане. Паслухаўшы парады дзядзькі, маці скончыла справу кампрамісам, і хоць у тастаманце было сказана, што калі каторы з крэдытораў усяго не заплаціць, то дзядзька змушаны будзе даплаціць, паколькі ж справа скончылася кампрамісам, то ўжо з дзядзькі маці не магла зысквацъ, бо дзядзька не прызнаваў абавязковым даплачваць сястры, што бракавала. Нягледзячы на гэта, на кожнае яе патрабаванне спяшаўся з дапамогай. Бацьку гэта вельмі не падабалася, і ён меў да дзядзькі пастаянныя прэтэнзіі. Нягледзячы на тыя, не вельмі прыязныя стасункі з бацькам, дзядзька аказваў нам аднолькавую зычлівасць, а, апавешчаны пра смерць маці, прыехаў адразу, дамогся ад бацькі, каб той дазволіў яму самому заняцца пахаваннем і прыняць усе выдаткі на сябе. Выпытваў у мяне пра кожнае яе перадсмертнае слова, ці пра яго маці не гаварыла, ці сказаць чаго не даручала. Бо маці наша таксама была кабетай вялікіх цнотаў і непараўнальных заслугаў. Без вялікай адукацыі, бо ледзве чытаць, пісаць і лічыць умела, але мудрая розумам Божым, рэлігійная і цнатлівая ў малітве чэрпала веды жыцця. Свяціла мне прыкладам жыцця свайго на зямлі, апякуецца мной з высокага неба, а памяць і ўдзячнасць да той маці-полькі ў магілу са мной пойдзе.

Пасля смерці маці я працавала яшчэ год пры любімым бацьку, але надышлі падзеі, якія змусілі мяне выехаць у Ліду. Пажар стайні і вазоўні пазбавіў нас вупражы і брычкі. Хваробы вучаніц: круп у адной і тыф у другой, значная адлегласць да доктара і аптэкі, усё гэта зрабіла немагчымым далейшае знаходжанне ў Рудаве. Выкліканая і падахвочаная маршалкам Стэфанам Буткевічам, я выбралася ў Ліду. Прыбыў у той час з-за граніцы брат мой Канстанцін, капітан у адстаўцы, і заняўся чынна і зычліва маім пераездам. Я не мела ні найменшых сродкаў пры выездзе з Рудава: Канстанцін усё залатвіў уласным коштам, наняў памяшканне ў Лідзе, з Вільні даставіў мэблю, а сам, маючы сціплыя сродкі, для змяншэння выдаткаў і хочучы, каб пад яго наглядам у цэласці дайшла да Ліды, ішоў пехатой пры нанятых фурманках. Цэлы год жыў у Лідзе, дапамагаючы мне ў вядзенні гаспадаркі і ў кіраўніцтве навучальным працэсам. Вёў рахункі, старанна і ўмела, выкладаў арыфметыку і польскую гісторыю ад Касцюшкі да найноўшых часоў, падмацоўваючыся ў тым скарочаным перакладам з нямецкай, які сам зрабіў. Ксёндз К. вучыў рэлігіі, настаўнікі школы для хлопцаў Штаск і Голуб - іншым прадметам, былі яшчэ мая сястра Антаніна, Юлія Патэ і абедзве Араноўскія, чатыры нястомныя працаўніцы. Таму вучоба ішла ўдала, і колькасць вучаніц што раз узрастала. Пасля заканчэння школьнага года і разлікаў са мной Канстанцін выехаў у Вільню і з запалам аддаўся нацыянальнай справе.

Браты мае, Цыпрыян і Мечыслаў, не ведалі пра смерць маці, едучы на вакацыі дадому. Цыпрыян ехаў на Пецярбург, каб пабачыцца з братам Мечыславам і, відаць, для паразумення са студэнтамі пецярбургскага ўніверсітэта. Сам ён у гэтым годзе скончыў універсітэт у Маскве на факультэце прыродазнаўчых навук са ступенню кандыдата. Ксёндз Мечыслаў пасля заканчэння семінарыі ў Вільні ў тым жа годзе перад вакацыямі быў высвечаны на ксендза і запрасіўшы аднаго ксендза-прафесара і адзінаццаць калег-клерыкаў, ехаўшых у Вільню, на сваю прыміцыю ў Васілішкі, прыбываў у Рудаў. Цыпрыян даручыў паведаміць пра гэта бацькам. Было гэта на другі дзень пасля пахавання маці. Мы паехалі з сястрой у Васілішкі і, як звыкла, маліліся перад вялікім алтаром. Цыпрыян. прыехаўшы ў Васілішкі, бачачы касцёл адчыненым, увайшоў, думаючы, што знойдзе маці на сваім звычайным месцы, заўважыў нас, але, не хочучы перапыняць нам малітвы, чакаў, пакуль мы яе не скончым. Калі мы падняліся з калень, і Цыпрыян з-пад доўгай вопраткі ўбачыў жалобу, здагадаўся, што маці ўжо няма і пайшоў шукаць свежую магілу. Тут мы яго плакаўшага і засталі... Пасля сумнага прывітання паехаў брат адразу па важнай справе да некага з суседзяў, забыўшы паведаміць нам пра прыезд кс. Мечыслава. Мы з сястрой паехалі да нашай сваячкі п. Юліі П., аж тут прыбывае ганец ад нашага бацькі, што паслязаўтра будзе прыміцыя кс. Мечыслава ў Васілішках, пасля чаго ён са сваімі гасцямі будзе ў Рудаве на абедзе. Мая мэбля і кухоннае начынне былі ўжо ў Лідзе. Што рабіць? Добрая пані Юлія супакоіла нас, гаворачы, што ўсім зоймецца, таму мы вярнуліся дадому, адкуль выслалі лісты да сваякоў, запрашаючы на той дзень на імшу ў Васілішкі і на абед у Рудаў. Пані Юлія прыслала ўсё: мэблю, прадукты на абед, кухара, лакея, самавары, словам: усё і ўсіх. На другі дзень

мы паехалі ў Васілішкі, дзе сабраліся ўсе сваякі. Што за ўрачысты, а таксама і балесны быў гэты дзень для нас! Бедны кс. Мечыслаў! Якія пачуцці напаўнялі сэрца яго, як яму не хапала маці ў гэты ўрачысты дзень...

Некалькі тыдняў правёў ксёндз у Рудаве; мы ездзілі разам на св. імшу ў Забалаць, там малады апостал праўды і дабра першы раз засядаў у канфесіянале, былі ў Дубічах, дзе пазней паляжа ў бітве Нарбут з таварышамі па зброі. Пасля вакацый кс. Мечыслаў быў прызначаны ў Беласток. Цыпрыян выехаў у Кобрынскі павет, я - у Ліду з сястрой Антанінай. У Лідзе я працавала, як ужо згадвала, з задавальненнем. Пачаліся дэманстрацыі, провады Баляслава Колышкі, наладжаныя падчас вакацый у маім доме, выклікалі праслед; мне загадалі з Ліды выехаць.

Нарбут якраз прыняў галоўнае камандаванне над грамадкай паўстанцаў. Мужнасць і запал ад правадыра пераходзілі на ўсіх жаўнераў; змагаліся, верачы ў сваю добрую справу, жадючы памерці або перамагчы. Але ж чаму ж трэба на гэтым свеце, каб столькі справаў і ўчынкаў узнёслых, ледзве распачатых, гінула і да буйнага росквіту дайсці не магло! Чаму ж і паміж тых абаронцаў святой нацыянальнай справы знайшоўся здраднік, які столькі сваіх братоў аддаў на смерць ворагам? А аднак жа так было. Адзін са стральцоў Гарадзенскай пушчы Базыль паказаў месца знаходжання Нарбута і яго таварышаў. Ужо цэлы тыдзень палкоўнік Цімафееў са сваім войскам праследаваў Нарбута, які, не маючы адпаведных сіл, каб даць бітву, умела і лоўка адступаў да добра знаёмай мясцовасці ў ваколіцах Дубічаў. Калі нарэшце палкоўнік адвёў змучанае свае войска да Ліды і на сем вёрст ужо адышоў, дагнаў яго стралец Базыль і сказаў, што правядзе войска туды, дзе знайходзіцца шуканы Нарбут. Цімафееў даў яму рубля за здраду і хоць, як казалі, неахвотна пайшоў за здраднікам да вёскі Кавалькі, размешчанай паблізу Дубічаў. Нарбут пасля адходу расійскага войска лічыў сябе ў поўнай бяспецы і змучаны да найвышэйшай ступені затрымаў партыю і ўсеўся над берагам возера з мэтай адпачынку. Малады ад'ютант яго, Адольф Краінскі, сказаў: "Начальнік, пойдзем далей, маю кепскае прадчуванне". "Не магу, - адказаў, - змучаны, не маю сілаў". Праз хвілю Краінскі паўтарыў сваю просьбу. Нарбут, які валіўся з ног ад стомы, рушыць з мейсца не хацеў. Тады бачаць нашы двух чалавек, якія плылі з другога берага. "Трэба адкрываць агонь, начальнік". - закрычаў Краінскі. "Гэта нашыя стральцы", - адказаў Нарбут. Быў гэта нягоднік Базыль, які паказваў дарогу палкоўніку Цімафееву. У тую ж хвілю раздаліся выстралы, і некалькі куль выцялі ў грудзі Нарбута. Чатыры паўстанцы: Юзаф Пакампіновіч, студэнт з Кракаўскага ўніверсітэта, Адольф Краінскі, абывацель Лідскага павета (асіраціў маладую жонку і дзяцей), Аляксандр Бржазоўскі, абывацель таго ж павета і маладзенькі Стэфан Губарэвіч, сын Станіслава, абывацеля Лідскага павета, схапілі любімага правадыра, каб аднесці яго ў больш бяспечнае месца, але нагнаныя кулямі ўпалі з дарагой ношай. Чатыры іншыя занялі іхняе месца: Францішак Бржазоўскі, брат Аляксандра, Уладзімір Паплаўскі, сын абывацеля з Лідскага павета, маладзенькі вучань гімназіі, сын абывацеля Уладзіслаў Жукоўскі і яшчэ адзін з маладых абаронцаў, прозвішча якога не памятаю. Ім ужо паміраўшы Нарбут сказаў: "Пакіньце мяне, ужо паміраю - ратуйцеся ўцёкамі". Не паспелі адказаць правадыру, кулі ў іх трапілі; чацвёра іншых Нарбута панеслі, і гэтыя неўзабаве леглі смерцю храбрых, пацвярджаўшай іхнюю прывязанасць да Айчыны і правадыра. З гадзіну, як кажуць, трывала бітва. Страляніну было чуваць на пяць міль наўкола; перапалох і кепскія прадчуванні агарнулі ўсіх, але не хацелася верыць, што Нарбут забіты. Ніхто не мог адважыцца падацца на месца бітвы і пра яе вынікі даведацца. Калі ані ўпрасіць, ані наняць нікога нельга было, сястра мая, 19-ці гадовая Антаніна, якая пару месяцаў знаходзілася ў Шаўрах, маёнтку Тодара Нарбута, бацькі палеглага правадыра, конна сама падалася ў Дубічы. Прыбыўшы на месца і сустрэўшы рускія пікеты, сказала, што хоча бачыцца з палкоўнікам Цімафеевым. Калі яе прапусцілі, ідучы да яго ўбачыла са страхам кучу целаў, залітых крывёю на адным месцы, а наводдаль цела Людвіка Нарбута пад аховай чатырох узброеных салдатаў. Наблізіўшыся да палкоўніка, прасіла яго дазволіць пахаваць тыя целы паводле абрадаў, якія касцёл наш пры пахаванні загінулых ужывае. "Ці пані мае брата паміж палеглымі?" - спытаў Цімафееў. "Яны - усе мае браты, бо я полька!" - адказала. Атрымаўшы дазвол, разаслала пасланцаў ва ўсе бакі, просячы дапамогі ў доглядзе параненых і пахавані забітых. Што за боль праймаў сэрцы на выгляд той моладзі, палеглай ў росквіце маладосці, бо найстарэйшы з іх Нарбут меў ледзве 31 год; некалькі дзён назад такой поўнай запалу, так рваўшайся да дзейнасці, а цяпер халоднай, без пачуццяў, мёртвай!... Паводле дазволу Цімафеева, усе целы былі ўнесены на ноч у прысценак касцёла, які на Літве завецца бабінцам; кроў з іх так лілася, што сляды ў яе струменях заставаліся. Назаўтра ранютка прыбыло некалькі пань, паненак і сялянак. Прывезлі бялізну і вопратку для 12 мёртвых, бялізну, корпію, бінты, лекі і прадукты для 15 параненых. Адным з іх быў Уладзіслаў Нікалаі, афіцэр дзейнай службы, які пасля выздараўлення быў у Вільні расстраляны. Доктар Цыпрыян Пясецкі, як усе іншыя, сасланы ў Сібір, пахаваны ў Табольску,

Пётр Янкоўскі прыгавораны да катаргі, а іншых прозвішчаў не памятаю. З пань, якія адразу прыбылі з чыннай дапамогай для пара-неных, вядомая мне толькі пані Тараевіч з Салта-нішак, сапраўдная патрыётка і панна Юзэфа Віс-мант, настаўніца. Іншыя пані, панны і вясковыя дзяўчаты пад іх кіраўніцтвам абмылі, так скажу, слязамі сваімі, і найстаранней перавязалі раны пакалечаных і накармілі іх. Касцельныя бабкі і іншыя бабулькі з суседняй вёскі, жаласна лямантуючы, як бы ўласных сыноў аплакваючы, абмылі і апранулі целы забітых. Цела яшчэ аднаго паўстанца, знойдзенае пасля бітвы ў лесе, было разам пахавана. Дванаццаць немаляваных трунаў, а трынаццатая абабітая чорным паўаксамітам, былі без катафалкаў у касцёле пастаўлены: пад нізам - шэсць трунаў, на іх - чатыры, далей - дзве, а на версе адна труна Нарбута завяршала тую піраміду. На трэці дзень ад самага рання з’ехаліся на пахаванне палеглых бацькі, браты, сёстры, крэўныя, прыяцелі, хто толькі мог. Было з дзвесці чалавек, ксяндзоў - 14. Які боль сэрцы напаўняў, які там быў плач і енк, таго апісаць немагчыма. Не было мужчыны, які б не плакаў. Пані Бржазоўская з Гурнофеля, гледзячы са слязамі на труны сваіх двух сыноў, выгукнула: “Шкадую сваіх дзяцей, але яшчэ больш Нарбута! Уся няшчаснвя Літва з ім надзею на свабоду ў магілу кладзе!” Пасля набажэнства ўсе труны былі памешчаны ў адной магіле, у рад, адна пры адной пастаўленыя, і ўсю тую вялізную магілу засыпалі кветкамі. Усе дзякавалі маёй сястры за арганізацыю пахавання, вечную ўдзячнасць ёй абяцаючы, бо такое ўрачыстае пахаванне любімага правадыра і яго таварышаў усім асірацелым вялікую палёгку ў болі прынесла.

. . .

Пасля пахавання палкоўнік забраў 15 параненых, якія шкадавалі, што засталіся жывымі, што разам з правадыром і таварышамі не палеглі, і пайшоў з войскам у Вільню. Наступнікам Нарбута стаў Аляксандр Парадоўскі, якога звалі Астрогай; сястра мая неўзабаве пасля пахавання Нарбута, едучы да партыі паўстанцаў пад камандаваннем Астрогі, што знаходзілася ў Гарадзенскай пушчы, праз здраду заміж вернага нашай справе стральца была заведзена на месца, дзе стаяў аддзел расейскага войска; там яе арыштавалі і праз два дні знаходжання ў вёсцы Кракшлі адвезлі ў Вільню. Самыя розныя, жудасныя весткі, для застрашвання іншых, непрыяцелямі паўстання лжыва распаўсюджваныя, былі прычынай найвялікшага для бацькі і для мяне смутку. Я вырашыла даведацца на месцы арышту, што з Антосяй сталася. Бедны, шаноўны мой бацька не хацеў мне гэтага дазволіць, гаворачы: “Не маю ўжо двух сыноў і Антосі; ты пры мне застанься, я тваю будучыню забяспечу, дом асобны для цябе выбудую, не адпушчу цябе ад сябе, будзе нам усяго досыць”.

Не паслухала майго найлепшага бацькі. Пастаянным моцным наляганнем дамаглася ад бацькі, які ніколі не меў сілы мне ў чым-небудзь адмовіць, што даў мне коней, і я паехала да Маргевічаў. Была гэта шаноўная шляхецкая сям’я, якая складалася з трох братоў, добрых патрыётаў. Старшы Ігнацы быў жанаты з Квінтоўнай; Пётр нежанаты і ўсёй душой адданы справе паўстання, абодва былі на выгнанні ў Табольскай губерні, малодшы Людвік. найсумленнейшы хлопец, але пад пагрозай павешання па загадзе ўладаў выдаў маю сястру, аддаў яе ў рукі маскалёў. Фальварак Маргевічаў Ганелькі ляжаў на дарозе да Кракшляў, таму я найперш падалася да іх. Тут я знайшла каня майго бацькі і калымажку, на якой Антося з сумленным селянінам нашым Юзафам Ляпешам даехала да непрыяцельскага войска. Каня таго і калымажку падарылі Людвіку Маргевічу, таму ён мне іх аддаў. Не падазравала Людвіка ў здзейсненай адносна маёй сястры віне, здзівіла мяне аднак няпэўнасць яго, неахвотныя, як бы пад прымусам адказы на шматлікія пра маю сястру пытанні, так што неўзабаве праўда адкрылася. Расказалі мне там пра смутнае становішча паўстанцаў пад кіраўніцтвам Астрогі; прасіў ён дапамагчы з прадуктамі, якіх ужо тры дні яго аддзел не меў, паказалі мне падрыхтаваны транспарт правізіі, гаворачы, што ўсё марнуецца, бо да аддзела ніхто даехаць не можа таму, што моцна яго пільнавалі. Я доўга не раздумвала, сказала, што я давязу. Адправіла чалавека з коньмі дадому, сама ж забраўшы прадукты ў калымажку, запрэжаную нашым канём і, развітаўшыся з Маргевічамі, пусцілася ў тое небяспечнае падарожжа, не зважаючы на іх перасцярогі, што ў пушчы кружаць аддзелы казакаў, а тыя, спаткаўшы мяне з запасам прадуктаў, дадумаюцца, куды еду, і нагайкамі могуць мяне забіць.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*

**У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга М.П. Гайбы “Сем  вежаў Навагрудка”, 128 ст.**







**У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшаў альбом “Мір. Замак””,  304 ст.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў зборнік навуковых артыкулаў  “Крэва”, 462 ст. Наклад 300 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Алеся Карлюкевіча “Ігуменскі павет”. 200 ст. Наклад 700 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” выйшаў даведнік “Сядзібы Віцебшчыны”, 256 ст. Наклад 600 асобнікаў.**




**У Гародні ў выдавецтве “ЮрСаПрынт” выйшла кніга  Беніяміна Ерузаліма “Боль памяти”, 288 ст., наклад 30 ас.**

